# ЗМЕСТ



**Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ**

# СЛОВАЎ ГАРАЧАЯ ПОВЯЗЬ

* * *

Ад таго, што прайшло праз гады,
Адракацца ніколі не трэба,
Як ад вечнага хлеба і неба.
Як ад мрояў сваіх маладых.
Колькі здрадаў і колькі хвілін,
Што дарылі цяпло і спагаду,
Колькі кветак з чароўнага саду,
Колькі яркіх прыгожых карцін
Праняслося, прабегла, прайшло!..
Што было, то было — не шкадую.
Помню маму маю маладую
І вачэй дарагое цяпло.
Помню водсвет каханняў былых,
Помню словаў гарачую повязь.
І памылак уласную споведзь,
І сяброў адышоўшых сваіх.
Дык нашто адракацца тады.

---

***Гальпяровіч Навум Якаўлевіч** нарадзіўся 14 студзеня 1948 года ў горадзе Полацку. Пасля заканчэння сярэдняй школы працаваў грузчыкам на заводзе шкловалакна, карэктарам, літсупрацоўнікам полацкай газеты «Сцяг камунізму», рэдактарам радыёвяшчання наваполацкага вытворчага аб'яднання «Палімір». Скончыў Віцебскі педагагічны інстытут імя С. М. Кірава (1979). Працаваў уласным карэспандэнтам Беларускага радыё ў Віцебскай вобласці, намеснікам галоўнага рэдактара часопіса «Вожык», намеснікам старшыні Саюза беларускіх пісьменнікаў, галоўным рэдактарам каардынацыйнай дырэкцыі Беларускага радыё. Цяпер — галоўны рэдактар замежнага вяшчання Беларускага радыё.*

*Аўтар паэтычных кніг «Сцяжына» (1983), «Брама» (1990), «Востраў душы» (1995), «Струна» (1997), «Шляхі і вяртанні» (2000), «Святло ў акне» (2002), «Голас і рэха» (2004), «Гэта ўсё для цябе» (2006), «Насцеж» (2008), «На трапяткім агні» (2012), «Сюжэт для вечнасці» (2013) і інш.*

Гэта ж скарб, які сёння я маю
І ратункам адзіным трымаю
Ад самоты, нуды і бяды.

* * *

У бессмяротным слоўніку зямлі
Ёсць словы ціхай беларускай песні.
Яны нібыта з мрояў уваскрэслі,
Яны нібы ад вечнасці прыйшлі.…
Яны ўпляліся ў велічны сувой.
Я іх з таемнай радасцю шукаю
І з ціхім сумам у душы спяваю
Святыя словы ад зямлі маёй.

* * *

Паэты — як білеты
У кожны новы век.
Як подых свежы ветру,
Як сцежачка ў траве.
Яны нібыта зоры,
Што свецяць уначы.
Яны тады гавораць,
Як цэлы свет маўчыць.

* * *

Асенні ліст я падбяру з зямлі.
Ён толькі што зляцеў з галінкі тонкай.
І голас журавоў пад небам звонкім
Абудзіць адзінокія палі.
Прыходзіць восень. Я яе чакаў.
Я нават рыхтаваўся адмыслова,
Бо гэта час адказнасці за слова,
За безліч думак і за безліч спраў.
Прыходзіць восень. І яе дары
З удзячнасцю прымаць, напэўна, трэба
І спавядацца зноў зямлі і небу.
І толькі праўду свету гаварыць.

* * *

Я на вяку пабачыў многа,
Але ізноў праз часу шум
Святло сланечнікаў Ван Гога
Рванецца раптам у душу.

З іх дыхае самотна вечнасць,
Жадае з намі гаварыць.
І я згадаў пра той сланечнік,
Што ззяў у бацькавым двары.
Надарацца ж вось так хвіліны,
Калі, як сполах між трывог,
Зірне сланечнік з той карціны,
Што свету падарыў Ван Гог.

* * *

Я вершы нібыта пакінуць хацеў,
Казаў мне мой розум цвярозы:
«Нарэшце самотны пакінь гэты спеў,
Гады твае цягнуць да прозы.
Жыццё рыфмаваць табе ўжо не з рукі».
І быццам я з гэтым згадзіўся.
Ды раптам пастукалі ў сэрца радкі
Пра маці, каханне, Радзіму.
Я выйшаў у парк, дзе каштаны цвілі,
Я ўслухваўся ў вецер вясновы
І зноў зразумеў, што няма на зямлі
Мацней, што так просіцца ў слова.
Вакол зіхацела, мільгала, цвіло,
Душа ў светлы мкнулася вырай
І ведала сэрца, што гэта было
Сапраўднай паэзіяй шчырай.

* * *

Мне птушкі напявалі на зары
Пра дзіўныя прыгожыя краіны.
Мне сніліся прывабныя жанчыны
І мужныя героі-ваяры.
Ды дзень дарыў мітрэнгі, мітусню.
Бясконцы клопат, страты і трывогі.
І новыя сустрэчы і дарогі.
І ўдзячны я за ўсё за гэта дню.
Здавалася б, звычайнае вакол,
А колькі ў гэтым існасці высокай,
Што падымае сэрца да аблокаў
І бласлаўляе мудраю рукой.



Алесь МАРЦІНОВІЧ

# БЫЛОЕ, АЛЕ НЕ ДУМЫ*

*Сёе-тое з пражытага і перажытага*

## Каханне прыўкрасна ў… трэцім класе

Не магу не расказаць і пра сваё першае каханне. Зусім-зусім юнае яшчэ. Не магу не расказаць, бо нядаўна паведаў пра яго, мякка кажучы, у вельмі дзіўных абставінах. Калі б хто-небудзь загадзя сказаў, што падобнае магчыма, ні ў якім разе не паверыў бы. Аднак прамовіўшы «а», трэба гаварыць і «б».

Адбылося гэта падчас маёй сустрэчы з чытачамі Мінскай цэнтральнай гарадской дзіцячай бібліятэкі. Спачатку, калі ўбачыў аўдыторыю, перад якой давядзецца выступаць, вельмі разгубіўся. Я і так не вялікі прамоўца, а тут сабраліся ці не друга-трэцякласнікі. Праўда, крыху пазней падышлі яшчэ і вучні крыху старэйшыя — з пятага і шостага класаў. І вось я сілюся знайсці з імі кантакт. Нарэшце выйсце знаходжу ў тым, каб аб'явіць свайго роду конкурс: той, хто задасць лепшае пытанне, атрымае з аўтографам маю кнігу «Залатавуст з Турава, альбо Якая яна, старажытная Тураўшчына?».

Такая прапанова дзяцей зацікавіла, яны адразу ажывіліся. Пытанні не проста загучалі, яны пасыпаліся. Асабліва стараўся адзін хлопчык, як сядзеў наперадзе. Я ўжо не сумняваўся, што падпішу кнігу менавіта яму. І раптам на сыходзе сустрэчы, а яна доўжылася ўжо больш за гадзіну, узняла руку маленькая дзяўчынка. Пігаліца — пра такіх звычайна кажуць. І гэтая пігаліца запыталася:

— А скажыце, калі ласка, якое ваша першае каханне і які яго лёс?

Пытанне прагучала, як гром з яснага неба. Зразумела, нічога ў ім асаблівага не было, але ўзрост юнай чытачкі? Каханнем цікавілася другакласніца. А мы наіўна думаем, што дзяцей нашых з самага ранняга ўзросту прывабліваюць толькі камп'ютары. Аказваецца, ім нішто чалавечае не чужое. Ці не з пялюшак хочацца кахаць.

Паколькі я зусім з іншага пакалення, то каханне да мяне прыйшло ўпершыню толькі ў трэцім класе. Зразумела, не ўсвядомленае яшчэ. Мне проста прыемна было глядзець на адну са сваіх аднакласніц. Хацелася пастаянна адчуваць яе прысутнасць. Толькі бяда: яна сядзела за іншай партай. Аднойчы я не ўтрымаўся і ў роспачы напісаў у сваім сшытку: «Хачу сядзець з Люсяй». На маю бяду, настаўніца аказалася кепскім педагогам. Яна зачытала напісанае мною перад усім класам. Столькі смеху было, што я ад сораму не ведаў, куды падзецца. Аднак не заплакаў. Мужна вытрымаў гэтую экзекуцыю. Як і трэба сапраўднаму закаханаму мужчыну.

---

* Часопісны варыянт. Заканчэнне. Пачатак у № 1, 2016 г.

Пра гэтую запіску ў класе хутка ўсе забыліся. Толькі маё стаўленне да Люсі ніколькі не змянілася. Безумоўна, яна не ведала, што падабаецца мне. Дый, паўтараю, дзеці майго пакалення да ўсяго гэтага іначай ставіліся, чым цяпер. Усё пераносілі ў сабе. Таму і не ведала Люся, што тварылася ў мяне на душы, калі пры пераходзе ў пяты клас з нашага аднаго чацвёртага стварылі два пятыя класы. Усё нічога б, ды яна аказалася ў 5 «А», а я ў 5 «Б». Адразу увесь белы свет стаў для мяне нямілым. Што тварылася ў мяне на душы, словамі перадаць немагчыма. Дый я не збіраўся нікому пра гэта гаварыць. Нават маме, якую вельмі любіў.

Так працягвалася яшчэ з нейкі год, а потым… Неяк непрыкметна сталася так, што Люся перастала ўжо прываблівацъ мяне. Не, я не закахаўся ў іншую дзяўчынку. Калі быць ужо да канца шчырым, то ў школе я ўвогуле з ніводнай з іх не сустракаўся. У стаўленні ж да свайго першага захаплення, мабыць, проста як бы перарос сябе. Закончыўшы школу, толькі зрэдку бачыў яе, калі яна, як і я, прыязджала да сваіх бацькоў у вёску. Нават у думках не было, каб прыгадаць, як некалі не знаходзіў сабе месца пры адной думцы аб ёй.

Не прыгадваў пра гэта і калі вучыўся ва ўніверсітэце. Па праўдзе кажучы, асаблівага жадання пагаварыць не з’яўлялася. А сустрэцца ж было так проста: будучы на чацвёртым курсе, я жыў на кватэры ў свайго дваюраднага брата, а ў суседнім доме яна, Люся. Аднак, калі сустракаліся, то мімаходзь. Многае праходзіць, забываецца, тым больш тое, што напаткала цябе ў зусім юным узросце. Няма аніякага жадання ўбачыцца з ёю сёння. Дарэчы, яна так і не выйшла замуж. Цікавы яшчэ адзін момант: абодва мы нарадзіліся не толькі ў адным і тым жа годзе, а і ў адным месяцы. Больш за тое ў адзін дзень: 18 жніўня 1946 года.

Пра ўсё гэта я расказаў той дзяўчынцы, якая падчас сустрэчы задала мне, як на маю думку, самае лепшае пытанне. І, канешне ж, як і абяцаў, падарыў кнігу. Падарыў бы гэтую кнігу і таму дапытліваму хлапчуку, які шмат пра што ў мяне пытаўся. Ды яшчэ аднаго асобніка «Залатавуста з Турава» ў мяне з сабой не было.

Не магу пахваліцца сваімі любоўнымі прыгодамі. Усё, што было, знаходзілася толькі на мяжы звычайнай закаханасці. Мог бы і яшчэ сёе-тое прыгадаць, ды ў ім, бадай, нічога цікавага. Усё ж трэба глядзець праўдзе ў вочы: каму што дадзена. Так і ў каханні. Для адных знайсці чарговую каханку, што шклянку віна выпіць. Хоць у іх таксама свае праблемы. Ва ўсякім разе ўзнікаюць яны пасля таго, як праходзіць маладосць, за спінай застаецца сталасць і наступае старасць. Тады сёй-той з нядаўніх лавеласаў і ператвараецца ў героя адной з навел Ю. Бондарава «Зачем я так рано родился!»:

«Однажды, когда уже на пенсии был, зашел он летним вечерком на танцы в клуб наш посмотреть по-стариковски на современную молодежь. Сел в угол с секретарем сельсовета, дружком своим, закурил, кряхтит, смотрит, седой ус покручивает. А девчата-то у нас видели какие — походка как у королев, сами статные, юбочки коротенькие, глаза у всех как вода озерная, с ума, конечно, поневоле сойти можно...

Смотрел он, смотрел, да вдруг как заплачет навзрыд. Секретарь сельсовета очень удивился, даже рот приоткрыл и — к нему: «Ты что, Степаныч? Причина какая?» А тот прямо-таки рыдает, даже слезы по щекам бегут, ровно горе какое неожиданно случилось. «Зачем я так рано родился? — говорит. — Девки-то какие! Яблоки, яблоки! Все бы эти яблоки на вкус перепробовал, да поздно. Зачем так рано я родился!»

После войны мужчин здесь не было, он хозяйство подымал, энергии мужик был необыкновенной и при всем этом ни одну мимо себя одинокую без

внимания не пропускал, если обстоятельства позволяли. Ох, орел был, да и женщины его любили, очень любили!..»

Так што я ў куды больш выгадным становішчы: няма падстаў плакаць. Хоць часам усё ж і з'яўляецца думка, а можа, таксама рана нарадзіўся. Столькі ж дзяўчат прыгожых наўкола. Дарэчы, яшчэ раз пра прыгожых дзяўчат. Не сказаць, каб я быў у вялікім захапленні ад розных конкурсаў хараства, дзе якіх толькі міс не выбіраюць. Не таму, што не прымаю іх, а па іншай прычыне. На здымак якой пераможцы ні пагляджу, нічога асаблівага не бачу. Затое, калі ў аўтобус ці тралейбус зойдзеш, асабліва ў метро, адчуванне такое, што нечакана апынуўся ў райскім садзе райскіх кветак. Дый на рабоце вочы разбягаюцца. І тая прыгожая, і гэтая.

Запомнілася мне даўняе-даўняе інтэрв'ю з адным вядомым на той час палітыкам, а цяпер грамадскім дзеячам, змешчанае ў газеце «Чырвоная змена» яшчэ на самай зары так званай перабудовы. У юныя гады яго выхоўвала бабуля. Дык ён прызнаваўся, што яна часам гаварыла яму прыкладна так: «Не ўсё, Алежка, што табе прыходзіць у галаву, трэба гаварыць». Бабулі ж — людзі разумныя, то чаму б нават да меркавання чужых бабуль не прыслухацца.

## Бочка з індыком у калодзежы

Няма, бадай, ніводнага чалавека, у жыцці якога б не здаралася чаго-небудзь недарэчнага. Зразумела, і бацька мой — не выключэнне. Столькі з ім усялякіх гісторый здаралася, хоць садзіся і кнігу пішы. І ці не кожная адбывалася па ягонай дабраце, а то і па наіўнасці. Такі ўжо чалавек быў. Куды не крутанецца, абавязкова атрымаецца не так, як ў іншых. Скажам, трэба было прыдбаць вялікую бочку для засолкі гуркоў ці капусты. Ён загадзя дамовіўся ў магазіне, каб, калі акажацца свабодная, абавязкова паведамілі яму.

Што б зрабіў іншы на ягоным месцы, калі б даведаўся б, што патрэбная бочка ёсць? Правільна, папрасіў бы у каго-небудзь каня. Балазе, з гэтым праблемы ў вёсцы не было. Але бацька мой разважыў інакш: браць каня, значыць, трэба некаму за такую паслугу ставіць пляшку. Дый пакуль той конь яшчэ знойдзецца, за гэты час бочку можа купіць і хтосьці іншы.

Адклад не ідзе ў лад, як любіў казаць мой бацька. Таму і пасяшаўся ў магазін. Нават веласіпед з сабой не ўзяў. Маўляў, навошта — і так данясу. А ад магазіна да хаты метраў дзвесце. Магчыма, і меней, але ні ў якім разе не дзясятак, другі.

У магазіне, даведаўшыся, што бочку ён збіраецца несці на сваіх дваіх, засумняваліся:

— Рыгоравіч, няхай пастаіць у нас, ніхто яе не забярэ. А вы каня возьмеце…

— Не трэба мне конь, — адказаў Рыгоравіч.

— То мо хоць па веласіпед сходзіце?

— Абыдуся і без веласіпеда, — рашуча заявіў мой бацька. — Толькі дапамажыце мне яе на плечы ўзяць, — папрасіў ён мужчын, якія былі ў магазіне.

Выкацілі бочку на вуліцу, паддалі яе, і бацька мой, узяўшыся адной рукой за верхні край яе, а другой прытрымліваючы знізу, з гэтай дарагой для яго ношай накіраваўся дамоў. Спачатку яму ішлося лёгка, бо цяжар асабліва не адчуваўся, але чым далей адыходзіў ад магазіна, тым больш упэўніваўся, што ўсё не так проста, як падавалася спачатку. Але ж не вяртацца назад. Дый няма нікога, хто б мог дапамагчы.

Выйсце знайшоў у тым, каб ісці як мага хутчэй, ні пра што не думаючы. У такім разе пра ўсё забываеш. Так непрыкметна дайшоў і да варот, што вялі ў двор. Лагічней было б спыніцца, паставіўшы бочку дном на іх, а крыху адпачыўшы, прадоўжыць шлях. Толькі дзе там. Бацьку майго ўжо ўзяў азарт, як таго спартсмена, які знаходзіцца ля самага фінішу. Таму ён, не спыняючыся, пайшоў углыб двара. Аднак тут нечакана зразумеў, што далей бочку не ўтрымае. Дый сіл асцярожна паставіць яе на зямлю не ставала. Калі ж упадзе, дык хутчэй за ўсё разаб’ецца.

Уважліва агледзеўся па баках і ягоны позірк спыніўся на калодзежы. Як не здагадаўся! Бочку можна паставіць на край яго, а потым, перадыхнуўшы, занесці ў хлеў. Бацька асцярожна пачаў апускаць яе, але стомленыя пальцы амаль не слухаліся яго. Бочка выслізнула з ягоных рук і паляцела ўніз, дзе віднелася вада.

Гэта адбылося так нечакана, што бацька мой, спалоханы тым, што здарылася, кінуўся ў хату. Ён уляцеў у яе, ледзь не збіўшы з ног сваю цешчу, а маю бабулю.

— Мама! — закрычаў мой бацька немым голасам.

— Што такое, Андруша?! — спалохалася яна.

Спалохацца было чаго: выгляд, як у вар’ята, ды яшчэ «мамай» назваў, што рэдка за ім заўважалася.

— Бочку ўтапіў! — адчувалася, што ён ніяк не можа прыйсці ў сябе.

— Як утапіў? — бабуля мая, зразумела, ведала, што ён пайшоў у магазін купляць бочку, але прычым тут «утапіў».

— У калодзеж упала! — пачулася ў адказ, але гэта для бабулі ніякай пэўнасці не ўнесла.

— Андруша, прычым тут калодзеж? — бабуля, не чакаючы далейшага тлумачэння, пасяшалася да калодзежа. За ёй з выглядам вінаватага накіраваўся бацька.

Бабуля зірнула ў калодзеж і жахнулася. У ім сапраўды знаходзілася бочка, але паколькі яна была пустой, то плавала на паверхні. Толькі з аднаго боку ў яе трапіла крыху вады.

— Як жа гэта цябе ўнаравіла, — крыху прыйшоўшы ў сябе, запыталася яна.

Давялося ўсё расказаць.

Бочку ж дасталі без асаблівай цяжкасці, бо калодзеж у нас неглыбокі. З калодзежам, між іншым, звязана яшчэ адна гісторыя. Праўда, не з нашым, але таксама з удзелам майго бацькі...

— Гэта ж трэба, — пайшла па вёсцы пагалоска, — у Міхайлавіча індык у калодзеж уваліўся.

Міхайлавіч — адзін з настаўнікаў. У ягоным жыцці таксама прыгод ставала. Самая вядомая, што ўскалыхнула ўсю вёску, звязаная з набыццём ім самай сучаснай на той час мэблі. Здаецца, германскай вытворчасці. Ні сам Міхайлавіч, ні іншыя не дакумекалі загадзя высветліць, як унясуць гэтую мэблю ў дом. А дарэмна, бо калі прывезлі яе, высветлілася, што яна не праходзіць праз дзвярны праём. На той жа час мэбля была не зборнай, а гатовай канструкцыі. Таму давялося… пашыраць дзверы. Дакладней, адпілоўваць вушакі. І вось гэты выпадак з індыком.

Іншы на месцы Міхайлавіча сам бы пастараўся як-небудзь выцягнуць няўважлівую птушку, але Міхайлавіч быў з тых, хто ўмее на пустым месцы зрабіць праблему. Калі ж адбываецца штосьці незвычайнае, — такі лямант стаіць, быццам усё жыццё рушыцца.

Гэты лямант дайшоў і да майго бацькі. Таму ён і паспяшаўся да Міхайлавіча паглядзець, ці сапраўды ўсё так сур'ёзна з гэтым самым індыком. На двары ў Міхайлавіча было ўжо некалькі мужчын, якія разам з ім разважалі, як выцягнуць індыка з калодзежа.

— Знайшлі праблему, — рашуча заявіў мой бацька. — Хто-небудзь садзіцца ў вядро, яго апускаюць у калодзеж…

Мужчыны задумаліся. Лагічней за ўсё было апускаць у калодзеж самога гаспадара, але Міхайлавіч быў такой вагі, што ніводзін ланцуг не вытрымае. Тады хтосьці і сказаў:

— Чаго доўга думаць-гадаць? Сам, Рыгоравіч, і спускайся.

Бацька задумаўся. Тут хтосьці пакпіў з яго:

— Падказваць кожны ўмее, а зрабіць…

Мой бацька павярнуў калаўрот так, што вядро апынулася ўпоравень з верхам калодзежа.

— Трымайце мацней калаўрот, — загадаў ён мужчынам, — сам асцярожна палез у вядро. Узяўшыся за ланцуг, папрасіў: — Паволі апускайце.

— Трымаю яго, — нарэшце пачулася з глыбіні. — Падымайце.

Прайшло не так і шмат часу, як паказалася вядро з маім бацькам, які трымаў у руцэ спалоханага індыка.

— Дзякуй, Рыгоравіч, — абрадаваўся Міхайлавіч.

— Не, — сказаў хтосьці з мужчыны, — так не пойдзе. За гэткую працу пляшка патрабуецца.

Міхайлавіч паспяшаўся ў хату. Але мой бацька не стаў чакаць падарунка, а накіраваўся дамоў. І добра зрабіў, бо ўжо насустрач яму спяшалася мама.

— Здурнеў, ці што? — абурылася яна. — Гэта ж ужо кажуць, што Марціновіч за бутэльку гарэлкі палез у калодзеж даставаць індыка.

— Патрэбна мне тая бутэлька, — адказаў бацька з пачуццём гонару. — Раскрычаліся, індыка з калодзежа дастаць не могуць.

## Так і не стаў аўтарам «Комсы»

Адбылося гэта падчас адной з камандзіровак, калі мы з тагачасным галоўным рэдактарам «Беларускай думкі» Уладзімірам Вялічкам адправіліся ў чарговую паездку. Ці то на Магілёўшчыну, а можа, і на Гомельшчыну. Хіба запомніш кожную з іх: выязджалі ж рэгулярна штомесяц, а зрэдку і два разы на месяц. Важна ў дадзеным выпадку не тое, куды ехалі. Істотна тое, што ў гэтым накірунку спачатку даводзіцца ехаць не адзін дзясятак кіламетраў, пакуль не з'явіцца ўказальнік, які ўказвае, дзе трэба звярнуць у бок Магілёва, а як ехаць, каб патрапіць у Гомель. Па гэтай дарозе мы ездзілі не аднойчы, таму вадзіцель без праблем у неабходным месцы выбіраў неабходны кірунак. Гэтым жа разам ён нечакана захварэў. Камандзіроўку ж адкладваць не хацелася. Таму нам з саўмінаўскага гаража выдзелілі іншага шафёра.

Ехаць жа з новым вадзіцелем адно задавальнне, бо абавязкова знойдзецца, пра што пагаварыць. Тым больш, што гэты аказаўся чалавекам бывалым. Ужо немаладога ўзросту, ён шмат дзе папрацаваў. Пэўны час абслугоўваў нават афіцыйныя дэлегацыі. У тым ліку і тады, калі прыязджалі ў Рэспубліку Беларусь прэзідэнты братніх краін: Расіі — Барыс Ельцын і Украіны — Леанід Кучма. Шкадую, па свежай памяці не запісаў, пра што ён расказваў нам, бо, на жаль, падобнай звычкі не маю. Хоць у дадзеным выпадку, можа, і добра, што не рабіў гэтага. Усё ж давялося нямала пачуць і такога, што, як кажуць, не для друку.

Тым не менш адзін вельмі цікавы факт запомніўся. З Ельцыным звязаны. Аказваецца, Барыс Мікалаевіч звычайна, калі даходзіў да «кандыцыі», пачынаў спяваць «Запрагайте, хлопцы, коні». Пра гэта паведаміў вадзіцелям асабіст з аховы расійскага прэзідэнта. Таму, калі пачулася знаёмая песня, ён загадаў, што праз некалькі хвілін трэба выязджаць і каб, барані божа, не адставалі ад картэжа, бо Ельцын вельмі любіць не проста хуткую, а максімальна хутку язду.

Едзем, размаўляем. Раптам хтосьці з нас спахапіўся:

— Ці не прагледзелі мы неабходны паварот?

Вадзіцель уважліва прыгледзеўся да дарогі і сумна ўздыхнуў:

— Прагледзелі.

Заставалася вяртацца назад. І тут я ўспомніў, што павінен зрабіць адзін тэрміновы званок.

— Пачакайце, — кажу, а сам вылез з машыны і пачаў набіраць неабходны нумар. Але, паколькі машыны па шашы праносіліся ці не адна за адной, зразумеў, што трэба крыху адысці ад шашы, бо з-за шуму будзе дрэнна чуваць. Што і зрабіў. Пагаварыўшы літаральна нейкую мінуту — шмат па тэлефоне ўвогуле гаварыць не люблю, а тут толькі трэба было даць сваю згоду наконт аднаго пытання, я азірнуўся... Рэдакцыйнай машыны не было.

Гэтаму я вельмі здзівіўся, а потым падумаў, што вадзіцель, каб марна не траціць час, вырашыў праехаць наперад і ў не забароненым для гэтага месцы развярнуцца. Таму хуценька перабег на другі бок дарогі. Гляджу: паказалася легкавушка, якая імчалася ў бок Мінска. Няйначай наша. Аднак дарэмна радаваўся: гэта быў не наш аўтамабіль. Пачаў чакаць. Наступны — таксама не наш. Яшчэ адзін — зноў чужы. А ўжо прайшло пяць мінут, потым дзесяць. Захваляваўся, пачаў набіраць нумар мабільніка Вялічкі.

Не зрабіў гэтага раней, бо ведаў, што звычайна Уладзімір Паўлавіч яго з сабой у камандзіроўку не бярэ. Але, магчыма, гэтым разам усё ж узяў. Спадзяванні аказаліся марнымі. Ягоная жонка адказала, што муж у камандзіроўцы. А то я і не ведаў...

Чамусьці вярнуўся на ранейшае месца, з якога тэлефанаваў у Мінск, калі наша машына спынілася. Тым часам ужо не на жарт захваляўся: прайшло дваццаць мінут. Мабыць, нешта здарылася. Пра Вялічку з шафёрам занепакоіўся, але не толькі ад гэтага трывожна стала на сэрцы. Што б я рабіў, калі б гэта здарылася зімой? Адзін, як кажуць, у чыстым полі. Цяпер жа лета, сонца пачынае прыпякаць, дзень будзе гарачы, а зімой... Паблізу ніводнага населенага пункта.

Трэба было нешта рабіць. Патэлефанаваў Васілю Шырко, з якім працаваў разам. Запытаўся, можа ведае ён нумар тэлефона нашага пастаяннага шафёра.

— Навошта ён табе, — здзівіўся Васіль, — вы ж з Андрэем у камандзіроўцы.

Давялося ўсё расказаць.

— Пачакай, пашукаю, — абнадзеіў ён, — а потым перазваню. — Хоць навошта табе ягоны нумар?

— Як навошта? Ды ў яго, бадай, павінен быць нумар шафёра, з якім мы выехалі з Мінска.

— Рэзонна, — згадзіўся Шырко.

Праз хвіліну-другую тэлефануе:

— На жаль, не знайшоў, — і роздумна-скрушна дадае: — Што б гэта магло здарыцца?

Сапраўды — што? Ад няма чаго рабіць прайшоў метраў сто наперад, убачыў указальнік у бок адной вёскі. Не ведаю дзеля чаго, але назву яе пазначыў у блакноце. Хоць дзеля чаго, я-то і ведаў. Смейцеся не смейцеся, а чамусьці да мяне прыйшла, як на здаровы сэнс, неверагодная думка: «А калі машыну... укралі іншапланецяне? То трэба хоць ведаць, дзе гэта адбылося».

Не падумайце, што тым самым пачалося ў мяне нейкае трызненне. На шчасце, з галавой усё ў парадку. Калі на тое пайшло, то да гэтай паездкі некалькі дзён ні кроплі ў рот не браў. Мабыць, сказалася тое, што рэгулярна чытаю «Комсу», якая афіцыйна называецца «Комсольская правда». Я называю яе яшчэ і інакш: «Сексуальна-заклапочаная газета».

Пачнеш чытаць, то адчуванне такое, што чалавецтва, калі што і робіць, дык толькі сексам займаецца. Праўда, у інтэрпрэтацыі «Комсы» з гэтым пастаянныя праблемы. Як быццам і ўсе супрацоўнікі маладыя, ды, мабыць, іхні ўласны вопыт вельмі не аптымістычны. Але «Комса» любіць пісаць яшчэ і пра розныя лятаючыя талеркі, пра іншапланецян. Атрымліваецца, што ў іх і я пачаў верыць. Таму і занатаваў назву вёскі. Каб пасля ўсё расказаць. Хоць бы гэтай «Сексуальна-заклапочанай газеце». Як-ніяк, а чытацкая аўдыторыя ў яе шырокая. То чаму б і не засвяціцца на старонках.

Ды калі тое будзе! Пакуль жа не заставалася нічога іншага, як пераходзіць на другі бок дарогі і галасаваць машынам, каб дабрацца дамоў. Толькі я так падумаў, як убачыў, што з боку Мінска імкліва нясецца легкавушка. Наблізіўшыся да мяне, яна рэзка затармазіла. Гэта была рэдакцыйная машына.

— Сядай хутчэй, — прыадкрыўшы дзверцы, — як ні ў чым не бывала сказаў Вялічка, — а то і так столькі часу змарнавалі.

Як высветлілася, вадзіцель, калі зразумелі, што не па той дарозе едзем, вырашыў адразу развярнуцца, хоць у гэтым месцы і не дазвалялася рабіць такі манеўр.

— Дык я ж выйшаў з машыны? — роспачана вырвалася ў мяне.

— Але ж вы казалі, што падымаецеся звычайна ў пяць гадзін, — сказаў вадзіцель у сваё апраўданне. — То я падумаў, што вы прыляглі да заднім сядзенні адпачыць.

Апомніліся яны з Вялічкам толькі тады, калі, вярнуўшыся да патрэбнай развароткі, праехалі ўжо колькі кіламетраў у неабходным накірунку. Першым занепакоіўся Уладзімір Паўлавіч, які спачатку драмаў, а потым, пагледзеўшы ў пярэдняе люстэрка, запытаўся:

— Алеся нешта не відаць?

— Ды прылёг, — упэўнена адказаў вадзіцель.

— Алесь, — паклікаў Вялічка.

У адказ, зразумела, маўчанне. Пасля гэтага ім і давялося тэрмінова вяртацца назад.

— А я ўжо думаў, што вас укралі іншапланецяне, — я ўсё звёў на жарт, і патлумачыў, што і да чаго.

Так і не стаў я аўтарам «Комсы». Праўда, аб гэтым ніколькі не шкадую. Добра яшчэ, што ўсё так добра скончылася.

## «Матлос» ніколі не памыляецца

Сядзім неяк у «ЛіМе» з крытыкам А. і паэтам С. і галаву ламаем. Калі ўжо на тое пайшло, то гэта праблема найперш паэта С., які загадвае аддзелам літаратуры. Толькі так хочацца яму дапамагчы, знайсці для публікацыі патрэбны ўрывак з рамана, які напісаў паэт Алесь Ставер. Дарэчы, стрыечны брат

нашага С. Ён нечакана ў празаікі падаўся. Раман называецца «Пад канвоем». Твор аб'ёмны, а для публікацыі ў штотыднёвіку неабходна ўсяго нейкіх восем старонак машынапісу.

Спачатку сам загадчык аддзела літаратуры, потым мы з А. некалькі разоў рукапіс перагарнулі, але ні на чым спыніцца так і не змаглі. Пачытаеш уважліва — і гэта не падыходзіць, і тое не характэрнае для рамана ў цэлым. Ужо і не ведаем, як быць.

Калі ўжо зусім адчаіліся, заходзіць у кабінет галоўны рэдактар Хведар Жычка.

— Над чым, блатва («р» ён не выгаворваў. — **А. М.**) галаву ламаем? — пытаецца ў нас.

— Ніяк урывак неабходны знайсці не можам, — адказвае паэт С. і паказвае на папку з раманам «Пад канвоем».

— А што клытык не можа дапамагчы? — звяртаецца галоўны да А.

— Спрабаваў, нічога не атрымліваецца, — апраўдваецца загадчык аддзела крытыкі і бібліяграфіі.

— А ты, малады? — Хведар Дзмітрыевіч глядзіць у мой бок. — Што, слабавата, — кажа ён і незласліва дадае: — Гэта табе не ў лаёнцы плацаваць.

— Кажуць, што яны самі, без маёй дапамогі справяцца, — апраўдваюся я, маючы на ўвазе А. і С.

— Самі... — галоўны рэдактар іранічна ўсміхаецца: — Ні на што вы не здатныя. Толькі і ўмееце цалніла піць. Давайце лукапіс, — рашуча заяўляе ён. — Навучу вас, як плацаваць тлэба.

Узяўшы папку з рукапісам рамана, ён рашуча адкрывае яе і, паглядзеўшы на нас з пачуццём уласнай годнасці, пачынае:

— Глядзіце, салагі, як гэта лобіцца...

Жычка слюнявіць палец, імкліва перагортвае старонкі, прамаўляючы ўголас: — Адна, дзве, тлы, чатылы, пяць... — Спыніўшыся недзе на дваццатай, радасна смяецца: — Адсюль і пачнём.

— Як пачнём? — нічога не разумее паэт С.

— Адлічым восем сталонак, — тлумачыць яму Хведар Дзмітрыевіч як маламу.

Зноў гучыць «адна, дзве, тлы, чатылы, пяць»... Перагарнуўшы восьмую старонку, задаволены звяртаецца да нас:

— Усё ў паладку, а вы нюні ласпусцілі...

Мы здзіўлена глядзім на галоўнага, не ведаючы, як да ўсяго паставіцца. Нарэшце крытык А. асмельваецца выказаць сумненне:

— А калі ўрывак атрымаўся не закончаны?

— Ты што? — галоўны стараецца зрабіць строгі выраз твару. — Думаеш, бывалы матлос памыляецца?

Жычка ў юнацтве служыў на Балтыйскім Ваенна-Марскім флоце, чым вельмі ганарыўся. Загадчык жа аддзела крытыкі і літаратуразнаўства, перш чым стаць журналістам, працаваў вадзіцелем тралейбуса. Цяпер Хведар Дзмітрыевіч не прамінае ўпікнуць яго:

— Гэта табе не баланку клуціць.

Ніяк не зрэагаваўшы на гэта, А. хуценька прабягае старонкі рамана, узятыя ў якасці ўрыўка. Па меры чытання ягоны твар пачынае расплывацца ва ўсмешцы.

— Здорава! — нарэшце гучыць з ягоных вуснаў.

— Вы, салагі, шмат яшчэ чаго не ведаеце, — павучальна кажа галоўны. — Нічога, пад маім мудлым кілаўніцтвам навучыцеся, — смеючыся дадае ён, і пакідае наш кабінет.

— Адзначым? — пытаецца крытык А. і глядзіць на мяне. Ведаючы, што я з тых, хто не надта адмаўляецца, але не вельмі ахвотна ходзіць у краму, дадае: — Сам збегаю.

Паэт С. смяецца, падрабляючыся пад галоўнага:

— Цалніла будзем піць.

Праходзіць чарговая рэдакцыйная планёрка. Абмяркоўваецца план чарговага развароту-ўкладыша, прысвечанага нейкай сельскагаспадарчай кампаніі. Здаецца, жніву. Што такія «ўкладкі» павінны рэгулярна з'яўляцца ў «ЛіМе», вырашылі ў Міністэрстве культуры, а яно — адно з заснавальнікаў штотыднёвіка. Таму такое распараджэнне трэба ўспрымаць загадам. Адпаведна да яго і паставіўся Жычка. Усе разумеем, што ў такіх укладышах няма ніякай неабходнасці, але маўчым. Трэба — дык трэба. Загады, няхай і не прамыя, не абмяркоўваюцца. Больш за тое, хтосьці выказвае думку, што такія матэрыялы — добрая падмога ў рабоце палітінфарматараў і агітатараў. Не абавязкова чакаць адпачынку, камбайнер працуе сабе, а ў гэты час агітатар падае яму карысную інфармацыю. Тут я і не вытрымаў:

— Але ж па тэхніцы бяспекі забаронена староннему чалавеку знаходзіцца на капітанскім мосціку.

У той час на камбайнах яшчэ амаль не было кабін. Як і амаль не было самаходных камбайнаў. Звычайна іх прычаплялі да трактара.

Выказаўся я і здзівіўся, што ніхто пасля гэтага нічога не сказаў. Адно заўважыў, што галоўны неяк нядобра пaглядзеў на мяне, але таксама нічога не сказаў. На планёрцы, а пасля планёркі…

— Выклікае цябе, — сказала сакратарка, зайшоўшы ў наш кабінет.

Сумнення не заставалася, што гэты тэрміновы выклік на «ковер» звязаны з маім выступленнем. Але што я такое сказаў, ніяк не магу ўцяміць. Галоўны патлумачыў, прытым не сароменючыся ў выразах.

— Што ты лобіш, — пачаў ён. — Я цябе без плапіскі на плацу ўзяў, а ты пачынаеш. Хіба я сам не ведаю, што ўсё гэта лухта? Але калі тлэба, то тлэба. Злазумеў?

Як было не зразумець, калі ўсё было сказана проста, даходліва і пераканаўча.

## Ніягарскі вадаспад у рабочы час

Памятаю і такі эпізод. Ён звязаны з Алесем Пісьмянковым — цудоўным паэтам, надзейным сябрам. Дый проста з чалавекам, з якім ніколі не было сумна і на якога можна было заўсёды спадзявацца.

Заходзіць ён неяк да мяне ў кабінет і прапаноўвае:

— Давай у лазню сходзім?

— Ты нічога больш не прыдумаў? — гляджу на яго са здзіўленнем.

— А што тут такога? — Алесь сама непасрэднасць.

— Здаецца, у рабочы час яшчэ ніхто не мыўся.

— А мы сходзім, — настойвае на сваім Пісьмянкоў і тлумачыць, адкуль у яго з'явілася такое жаданне: — Душ не працуе (тады ён жыў у студэнцкім інтэрнаце. — **А. М.**), а ў лазню схадзіць часу нестае.

— Гэта ў цябе часу нестае? — засмяяўся я. — Нешта не відаць, каб ты быў надта загружаны.

— Загружаны не загружаны, — ухіліўся ён ад адказу, — а давай сходзім.

Задумаўся я: а чаму б і не схадзіць. Лазня ж не так і далёка ад рэдакцыі.

Адсутнасць нашу ніхто і не заўважыць. Паколькі ж лета, то і не давядзецца пасля наведвання яе доўга чакаць, пакуль абсохнем.

— Пайшлі, — кажу. — Толькі, — папярэджваю загадзя, — ніякіх парылак, — бо ведаю, што Алесь да гэтага надта ахвочы, а я звычайна карыстаўся аднамесным душам.

— Хай будзе па-твойму, — згадзіўся Пісьмянкоў. — Дый я пайду ў душ.

Чаргі, зразумела, у лазні не было: хто асабліва ходзіць у яе ў рабочы час, таму праз некалькі хвілін кожны з нас быў у сваім нумары. Не памятаю ўжо: на мыццё адводзіцца ці то сорак пяць мінут, а можа, нават і гадзіна. Як бы там ні было, а часу ўдосталь. Дый, паколькі ачышчэнне ад друзу паўсядзённасці мы ўсё ж праходзілі, пайшоўшы з работы, я вырашыў доўга не затрымлівацца і праз нейкія хвілін дваццаць памыўся.

Выйшаў, сяджу, Алеся чакаю. Паспрабаваў пастукаць у дзверы, каб ён паспяшаўся. Дзе там: нічога не чуе, бо за дзвярыма вада шуміць, нібыта Ніягарскі вадаспад. Яшчэ крыху пасядзеў я і сумнавата мне стала. Захацелася над Пісьмянковым пажартаваць. Падняўся з лаўкі, на якой сядзеў, падышоў да электрычнага выключальніка...

Шум вады ў нумары адразу сціх. Хутка Алесь голас падасць, тады я, як нічога і не было ўключу святло. Толькі маўчыць ён, быццам і няма яго там.

Цікаўнасць мяне ўзяла, а што далей будзе... Праходзіць колькі часу, знутры дзвярэй раздаецца шчаўчок і на парозе з'яўляецца Пісьмянкоў. Ягоная галава ўзлахмачаная, сям-там на валасах відаць астаткі мыльнай пены.

— Абнаглелі, — кажа ён, — гэта ж дадумацца святло адключыць!

— Якое святло? — раблю выгляд, што не здагадваюся, пра што ідзе гаворка.

— Якое? — Алесь не хавае свайго раздражнення. — У нумары нечакана пагасла святло, то мне давялося ў цемры дамывацца і апранацца.

Я ад смеху ажно за жывот схапіўся:

— Дык гэта ж я яго выключыў! Думаў, што ты падасі голас, тады зноў уключу, але ты маўчаў, то мне захацелася даведацца, што будзе далей.

— Ну і жарцікі ў цябе, — адказаў Пісьмянкоў, але не пакрыўдзіўся, а прапанаваў: — Давай пасядзім, абсохнем.

— Навошта? — запярэчыў я. — На вуліцы ж горача, пакуль дойдзем...

— Сапраўды, — згадзіўся Алесь, — чаго тут сядзець?

Ідзём сабе, размаўляем. Нібы і не з лазні вяртаемся, а з якой-небудзь прагулкі. Так разгаварыліся, што забыліся ўпэўніцца, ці валасы ў нас высахлі. Заходзім у рэдакцыю, а тут насустрач хтосьці з нашых калег. Зірнуў на нас і, нічога не разумеючы, запытаўся:

— Адкуль вы, хлопцы?

Разумеем, што адпірацца няма сэнсу, таму ў адзін голас і адказваем:

— З лазні.

— З якой яшчэ лазні?

— З той, дзе мыюцца, — смяёмся.

## Ты адкуль, сабачка, адкажы

А гэта ўжо адбылося пасля заўчаснай смерці Алеся. І, як на першы погляд, прамой сувязі з ім не назіраецца. Тым не менш...

Неўзабаве пасля таго, як Алесь пайшоў у вечнасць, вяртаўся я з Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі. Тады яна размяшчалася яшчэ ў сваім старым

будынку па вуліцы Чырвонаармейскай, а гэта, як вядома, у самым цэнтры Мінска. Карыстацца яе паслугамі было вельмі зручна. Таму я нярэдка парушаў сваю традыцыйную завядзёнку, паводле якой наведваюся ў бібліятэку, за рэдкім выключэннем, толькі ў выхадныя дні — у суботу ці нядзелю. Дый тое, к яе адкрыццю. Калі-нікалі заходзіў у стары будынак пасля рабочага дня. Найперш, калі трэба было забраць папярэдне заказаныя кнігі ў аддзеле абанемента.

Паклаўшы іх у сумку, я накіраваўся да станцыі метро Купалаўская. Толькі спусціўся ўніз, як ля самых уваходных дзвярэй, якія вядуць у вестыбюль, заўважыў маленькага сабачку — беленькага, крыху кучаравага з маленькімі чорненькімі, быццам гузічкі, вочкамі. Уразіў мяне нават не столькі ягоны знешні выгляд, колькі менавіта гэтыя маленькія чорненькія вочкі. У іх заўважалася і нейкая спалоханасць, і пэўная цікаўнасць, і насцярожанасць, а яшчэ...

Чамусьці ў маёй памяці адразу ўсплылі словы адной з песняў Уладзіміра Высоцкага, у якой гаворыцца пра тое, што «хорошую религию придумали индусы». Паводле ж гэтай рэлігіі чалавек у новым сваім жыцці паўстае ў іншым вобліку. І не абавязкова чалавекам. Пры чарговай сустрэчы з Пісьмянковым я звычайна жартаваў, згадваючы з гэтай песні такія:

А этот милый человек
Был раньше добрым псом.

Алесь нічколькі не крыўдаваў за гэтае цытаванне Высоцкага, а толькі нязменна ўсміхаўся ў свае рыжаватыя вусы.

Сабачка тым часам падышоў да мяне, завіляў хвастом, прыўзняў галоўку і так паглядзеў на мяне, што мне нават не па сабе стала. Уражанне было такое, што ён убачыў ува мне свайго даўняга і добрага знаёмага, але не можа ў гэтым прызнацца, бо не ўмее гаварыць.

Не паспеў я прыадчыніць дзверы, як сабачка хуценька ўскочыў у іхні праём і, азірнуўшыся, вінавата паглядзеў на мяне.

— Пайшлі, — ненарокам вырвалася ў мяне. — Пайшлі, — паўтарыў я.

Сабачка абрадаваўся і хуценька пабег да праходу, што знаходзіцца поруч з дзяжурнай — па ім звычайна праходзілі тыя, хто меў пасведчанні, якія гарантуюць ільготу на праезд, ці тыя, у каго папяровыя праязныя білеты. Дзяжурная са здзіўленнем зірнула на яго, але нічога не сказала. Яна падумала, што ён ідзе са мной, таму толькі прыязна ўсміхнулася. Падобную яе рэакцыю зразумець лёгка: сабачка ж маленькі, ніякай небяспекі не ўяўляе.

Ужо без майго запрашэння сабачка, ніколькі не баючыся, скокнуў на прыступкі эскалатара і спакойна паехаў уніз, нават не азіраючыся, каб пераканацца, ці еду следам за ім. Упэўнена адчуваў ён сябе і на платформе. Чакаючы цягніка, бегаў узад-уперад. Прыпыняўся, азіраючыся на мяне. Калі ж падышоў цягнік, пачакаў, калі адчыняцца дзверы вагона, і ўвайшоў у яго. Пасажыраў было няшмат. Калі я сеў на свабодную лаўку, ён лёг поруч са мной.

Насупраць мяне, абняўшыся, сядзелі юнак з дзяўчынай. Як перад гэтым дзяжурная па станцыі, яны, зірнуўшы на сабачку, усміхнуліся. Я ж тым часам пачаў ужо думаць, што рабіць з ім. Канешне, можна было б забраць з сабой, але, сумняваўся, што мае сямейнікі такому набыццю надта ўзрадуюцца. У лепшым выпадку скажуць: «Выгульваць будзеш сам». У гэтым жа і была галоўная закавыка. Звычайна я выходжу з дому вельмі рана — даўно стала для мяне завядзёнкай папрацаваць да пачатку рабочага дня. Калі ж выводзіць сабачаня на вуліцу, звыклы графік парушыцца.

Тым часам цягнік падышоў да станцыі Маладзёжная. Хлопец з дзяўчынай сабраліся выходзіць. Узнімаючыся з лаўкі, яны з замілаваннем паглядзелі на сабачаня.

— Бярыце, — вырвалася ў мяне.

— Вы так лёгка можа аддаць яго? — здзівілася дзяўчына.

— Ды не мой ён, — патлумачыў я, — проста разам са мною зайшоў на станцыю.

— Нам не трэба, — за дзяўчыну і за сябе адказаў хлопец.

Наступнай была Пушкінская. На Пушкінскай мне выходзіць. Сабачка, нібы прачытаўшы мае думкі, зірнуў на мяне і завіляў хвосцікам. Што, несумненна, адзначала: «Згодзен выходзіць з табой». Не сказаць, каб ад такой згоды я асабліва ўзрадаваўся. Выйсце знайшоў у тым, каб, як толькі цягнік падыдзе да Пушкінскай, адразу выскачыць з вагона і растварыцца ў натоўпе — на гэтай станцыі заўсёды выходзіць шмат пасажыраў. Але сабачка адразу разгадаў мой намер. Як толькі я ўзняўся з лаўкі, ён саскочыў на падлогу, забег наперад і азірнуўшыся на мяне... Хочаце верце, хочаце сумнявайцеся, але ягоны позірк азначаў: «І не брыдка табе ўцякаць? Мы ж з табой сябры, а хіба сяброў кідаюць?»

З вагона мы выйшлі разам. Ён бег паперадзе, я крочыў следам. У вірлівым людскім натоўпе мой нечаканы сябра адчуваў сябе так упэўнена, быццам яму неаднойчы даводзілася карыстацца метро, дый на гэтай станцыі ён далёка не першы раз. Бліжэй да выхаду з метро, дзе было ўжо не так людна, сабачка абярнуўся. Позірк ягоны быў такі, нібыта ён напамінаў, што развітваецца і... Не паспеў я разабрацца, што і да чаго, як сабачка быццам растварыўся сярод людзей. Быў і няма. Калі я да гэтага задумваўся, што рабіць мне з нечаканым спадарожнікам, то цяпер мне раптоўна стала яго шкада. Кінуўся ўлева, кінуўся ўправа, але ён як бы праваліўся скрозь зямлю. Містыка нейкая, няйначай.

## Была магіла і няма

Гэтая містыка, ці як хочаш называй тое, пра што раскажу яшчэ ў дачыненні да Пісьмянкова, дала аб сабе знаць яшчэ некалькі разоў. Прынамсі, я змог у гэтым упэўніцца.

Той, хто праводзіў Алеся ў апошні шлях, памятае, як шмат людзей прыйшлі развітацца з ім. Як не можа не памятаць і таго (даруй, Алесь, што гэта прыгадваю), сёй-той спрабаваў нават у такі трагічны момант выявіць свае палітычныя амбіцыі. Маю на ўвазе перш за ўсё тое, што з'явіліся пры развітанні зусім не дзяржаўныя сцягі, хоць, магу паклясціся, што Алесь, з'яўляючыся шчырым, больш за тое, у нечым нават апантаным прыхільнікам нацыянальнага адраджэння, калі можна так сказаць, на колерах надта ўвагу не засяроджваў.

Не ведаю, як каму, а мне ад пабачанага станавілася неяк не па сабе. Не той момант, каб гуляць у палітыку. Гэтыя ж «сцяганосцы» і іхнія прыхільнікі былі ў першых шэрагах і тады, калі труну, у якой вечным сном заснуў выдатнейшы паэт, сабраліся везці на Кальварыйскія могілкі. Прытым жадаючых праводзіць яго аказалася шмат, а месц у транспарце недастаткова, то я палічыў за лепшае паехаць дамоў, каб аднаму выпіць абавязковыя ў такіх выпадках тры кілішкі.

Крыху пазней вырашыў наведацца на могілкі. Балазе на іх быў пахаваны і мой бацька (цяпер на Кальварыі вечным сном спіць і мая мама). Папрасіў Віктара Шніпа, каб хоць прыкладна паведаміў, дзе знаходзіцца Алесева магіла.

Але, прыйшоўшы на могілкі, як ні стараўся, так і не знайшоў яе. Бадай, таму, што свежых пахаванняў ва ўказаным месцы было шмат, а на магіле Пісьмянкова помнік яшчэ не стаяў.

Упершыню я пабываў на ёй толькі ў лютым наступнага года ў дзень народзін Пісьмянкова разам з тымі, хто таксама з ім сябраваў. Надмагільнага помніка, зразумела, яшчэ не было, бо з дня Алесевай смерці не мінулася года. Таму, калі праз колькі месяцаў быў на Кальварыі ў чарговую гадавіну смерці свайго бацькі, то не прамінуў зайсці і да Пісьмянкова.

Правільней, хацеў пабываць на яго магіле, але яе не знайшоў. Падумалася, што гэта вынік маёй нядольнасці з першага-другога разу штосьці запамінаць. Не ў сэнсе якога-небудзь тэксту, падзей, фактаў, а не магу, напрыклад, напаткаўшы чалавека, з якім слаба знаёмы, пазнаць яго ў твар. Значыць, тое самае атрымалася і з месцам знаходжання Алесевай магілы. Што ж, другім разам пастараюся быць больш уважлівым. Таму, калі з іншымі завітаў на магілу Пісьмянкова ў дзень ягонай смерці, пачаў шукаць які-небудзь арыенцір, каб, калі прыйду адзін, лепш знайсці яе. Дый надмагільны помнік на той час ужо быў пастаўлены.

Толькі ўсё аказалася не так проста, як думалася мне. Восенню, у кастрычніку зноў завітаў на Кальварыю, каб пастаяць ля магілы свайго бацькі — акурат спаўнялася чарговая гадавіна з дня ягонага нараджэння. Памянуць яго добрым словам. І не толькі, бо тады ў такім месцы гэтага ніхто не забараняў. Гэта цяпер, калі ёсць адпаведны указ аб распіванні спіртных напіткаў у грамадскіх месцах, а такім месцам, як быццам, з'яўляюцца і могілкі, хтосьці на дрэве, амаль поруч з магіламі маіх бацькоў павесціў таблічку з вытрымкамі з гэтага афіцыйнага дакумента. Усё б нічога, але разумнік, які гэта рабіў, прывёў і тую частку тэксту, дзе гаворыцца аб пакаранні за самагонаварэнне. Але гэта між іншым.

Памянуў я свайго бацьку і накіраваўся да Алесевай магілы. А дзень не проста восеньскі, а нейкі змрочны. Неба завалаклі хмары, імжыць халодны дождж. Не па сабе стала, а калі пачаў шукаць, то нават страх апанаваў. Як быццам і каардынаты выбраў правільныя, але да якой магілы не падыду, адно расчараванне. Так і хаджу паміж імі. Навакол жа ні душы. Няйначай, нейкая нячыстая сіла водзіць мяне.

Сабраўся ўжо ісці назад, як глянуў крыху наперад, дзе дакладна ведаў, што Алесевай магілы не можа быць. І тут на мяне быццам найшло нейкае азарэнне. Ці не штабялямі ляжалі парэзаныя на кавалкі дрэвы. Шмат дрэў, якія паваліў нядаўні ўраган. Гэтыя ж дрэвы, зразумела, не паваленыя, а стаячыя і былі адным з маіх арыенціраў. Атрымлівалася, што я ўжо арыентаваўся на іншыя. З палёгкай уздыхнуўшы, вярнуўся назад і паклаў на Алесеву магілу кветкі. Зразумела, і памянуў яго.

Калі каму-небудзь расказваю пра гэтыя выпадкі, то абавязкова знойдзецца той, хто засмяецца. Маўляў, якая містыка, проста праяўлялася твая неназіральнасць. Як быццам і запярэчыць няма чым, хоць... Звычайна неабходны тэкст я адразу набіраю на камп'ютары, пішу па сутнасці з галавы. Дык вось... Набраўшы палову тэксту, дзе згадваю пра тое, як доўгі час не мог знайсці магілу Пісьмянкова, я з-за няўважлівасці націснуў не на тую клавішу. Адразу на экране манітора з'явіўся запіс-запытанне, ці захаваць змены ў дакуменце. Мне падалося, што пад зменамі маецца на ўвазе толькі што напісанае, таму, пасля некаторага роздуму, я ўсё ж навёў курсіў на тое месца, дзе стаяла «да». Файл, вядома, адразу закрыўся. Калі ж адкрыў яго, то, на маё здзіўленне, перад гэтым напісаная частка матэрыялу адсутнічала. Давялося страчанае ўзнаўляць па памяці.

## Вер не вер, ды гэта так

З праяўленнем нейкай містычнасці, ці нечага іншага, сутнасць чаго не магу ўсвядоміць на сённяшні дзень, я сутыкнуўся яшчэ і да гэтага, калі ў 2008 годзе паехаў у камандзіроўку на Піншчыну, каб пабываць у родных мясцінах найвыдатнейшай нашай паэтэсы Яўгеніі Янішчыц. Акурат набліжалася 60-годдзе з дня яе нараджэння, і часопіс «Нёман», дзе я на той час працаваў намеснікам галоўнага рэдактара, вырашыў надрукаваць да гэтага юбілею некалькі матэрыялаў, у тым ліку і той, што я збіраўся напісаць пасля гэтай паездкі. Хацелася падрабязней расказаць пра Жэніну малую радзіму, згадаць пра вытокі яе творчасці. Ведаў, што ў школе, у якой яна некалі вучылася і якая цяпер носіць яе імя, ёсць музей, а ў музеі гэтым, няхай і невялікім, усяго ў адным пакоі, цікавая экспазіцыя, што падрабязна расказвае пра жыццё і творчасць знакамітай зямлячкі.

Уражанняў сапраўды было багата. Дый фактаў, якія дапамагалі глыбей спасцігнуць свет творчасці Янішчыц, у пэўнай ступені прыадкрыць яе феномен, сабралася шмат, таму ў Мінск вяртаўся ў добрым настроі. Не сумняваўся, што неабходны матэрыял напішу без асаблівай цяжкасці. Тым больш, што загадзя ўважліва перачытаў прыжыццёвыя кнігі паэтэсы, пазнаёміўся з аднатомнікам яе выбранага, пазначыў тыя вершы, што сваім зместам у той ці іншай ступені былі звязаны з роднымі мясцінамі Жэні, а таксама тыя, у якіх ажывалі непаўторныя палескія краявіды, воблікі людзей, якіх яна добра ведала і якія ведалі яе. Па прыездзе дамоў заставалася толькі так пабудаваць матэрыял, каб урыўкі з гэтых твораў арганічна клаліся ў ягоную сюжэтную канву.

Аднак калі сеў за камп’ютар, аказалася, што ўсё не так і проста, як падавалася мне. Здавалася б, усё ўжо абдумана, ёсць кампазіцыйны план, які, між іншым, загадзя распрацоўваю рэдка, звычайна пішу так, як пішацца. На адным дыханні. Лёгка, нязмушана. Але цяпер не толькі гэтай лёгкасці не было, на маё здзіўленне ўвогуле ніяк не пісалася. І гэта пры тым, што, канечне ж, ведаў, пра што і як пісаць. У сувязі з тым, што са мною адбывалася, дазволю нават прывесці грубаватае параўнанне: «Разумны, як сабака, а слова сказаць не можа». У дадзеным выпадку напісаць.

Паколькі камп’ютар, прабачце, гвалціць я не збіраўся, то вырашыў пакінуць яго ў спакоі. На жаль, і наступны дзень не прынёс нічога пэўнага. Безвыніковым аказаўся і трэці... Між тым тэрміны здачы матэрыялу падціскалі, а я, як ні стараўся, ніяк саўладаць з сабой не мог. Сёе-тое, праўда, пісалася, але, калі перачытваў, яно мяне не задавальняла. Даводзілася зноў пачынаць з чыстага аркуша, дакладней з чыстага экрана манітора. Так я пакутаваў ці не цэлы тыдзень. І толькі ў суботу адчуў, што нарэшце ўсё зрушылася з месца. Пісалася лёгка, нават, калі крыху адпачываў, лавіў сябе на думцы, што, бадай, ніколі не было ў мяне такога творчага натхнення. Таму пад вечар асноўная частка матэрыялу была гатова. Я не сумняваўся, што заўтра абавязкова завяршу яго. Таму з чыстым сумленнем лёг спаць.

Толькі калі раніцой сеў за камп’ютар, аптымізм мой адразу знік. Больш за тое, я западозрыў штосьці няладнае. Калі ўключыў камп’ютар, на экране манітора праз некаторы час з’явіліся нейкія надпісы, якіх да гэтага я ніколі не бачыў. Зразумела, яны былі ні на рускай, тым больш ні на беларускай мове. Англійскую я не ведаю. Становішча ўскладніла тое, што я ўжо не адзін тыдзень быў адзін: сыны з жонкай паехалі адпачываць. Павінны былі вярнуцца толькі ў панядзелак. Тады малодшы, які ведае камп’ютар, як свае пяць пальцаў, і высветліць, што і да чаго. Але панядзелка я не мог чакаць, таму ў адчаі пачаў

націскаць на розныя клавішы наўгад. На маё здзіўленне, праз пэўны час на экране зноў з'яўляўся той надпіс, які хацеў паведаміць мне штосьці важнае.

«А што, калі тое, што я набраў, сцерлася?» — ад гэтай думкі мне стала не па сабе. Яшчэ праз колькі хвілін трывога ўзмацнілася, паступова дасягнуўшы крытычнай мяжы. Я не знаходзіў сабе месца: «Маглі ж знікнуць і ўсе іншыя файлы?!» Я кінуўся шукаць флэшку, на якой, для падстрахоўкі, знаходзіліся некаторыя з іх. Але флэшкі не было. Ад бязвыхаднасці становішча, у якое трапіў, я ў адчаі выцер з ілба пот. Усё, усё кату пад хвост! Не заставалася нічога іншага, як чакаць панядзелка. Менавіта ў панядзелку было маё ўратаванне, ці...

Панядзелак прынёс мне крах. Сын, калі ўзяўся высвятляць, што здарылася, спачатку, праўда, паспрабаваў мяне абнадзеіць:

— Можа, удасца яшчэ ўсё паправіць.

— Ты ўпэўнены? — мне ніяк не хацелася верыць, што адбылося непапраўнае, таму ўхапіўся за сказанае сынам, як за выратавальную саломку.

Ягор, аднак, ухіліўся ад прамога адказу.

— Пастараюся, — прамовіў ён няпэўна.

Я з нецярпеннем чакаў, калі ж гэтае старанне дасць нарэшце вынікі. Зразумела, такія, якія стануць для мяне жаданымі. Але сын мусіў мяне расчараваць:

— Згарэў вінчэстар...

Што такое вінчэстар, я не ведаў. Дый для мяне гэта было не істотным. Куды болей гаварыла іншае слова — згарэў.

Значыць...

— Усе файлы прапалі, — уздыхнуў сын.

— Няўжо нельга паправіць?

— Часам гэта ўдаецца, — у голасе Ягора ўсё ж гучала пэўная надзея. — Ёсць такія спецыялісты, пагляджу ў інтэрнэце аб'явы.

Спецыяліст, які ўзяўся дапамагчы, рады не даў. Хоць трохі мой настрой узняло тое, што калі я звальняўся з «Беларускай думкі», файлы, якія былі ў рэдакцыйным кам'ютары, сын перапісаў на сваю флэшку, а потым скінуў іх у свой камп'ютар. Калі паставілі новы вінчэстар, то з сынавага камп'ютара іх і перакінулі ў мой. Пасля гэтага заставалася спадзяванне, што ўсё ж знойдзецца мая флэшка. А знайшлася толькі праз нейкі тыдзень. І дзе б вы думалі яна «хавалася»? Ды неяк патрапіла ў шчыліну ў крэсле паміж сценкай і сядзеннем. І гэта прытым, што на гэтым крэсле я, калі працую за камп'ютарам, ніколі не сяджу. Тым больш флэшку на яго не кладу.

Гэтыя два прыклады, зразумела, можна патлумачыць проста як збег выпадковасцей. Прытым такіх, што адбыліся ў адзін і той жа час. Магчыма, і так. Мяне, аднак, у сувязі з гэтым насцярожвае тое, што яны супалі акурат тады, калі я пісаў артыкул пра Янішчыц. Таму і насцярожыла, што дзесяць гадоў да гэтага таксама адбылося такое, ад чаго вее нейкай містычнасцю. Зноў жа ў час юбілею Янішчыц. Толькі тады, як вядома, адзначалася 50-годдзе з дня яе нараджэння.

## Каб жа толькі гэта

Прадстаўнічая пісьменніцкая дэлегацыя пасля наведвання Піншчыны вярталася ў Мінск. Час быў позні. Дый восень таксама стаяла позняя — нарадзілася ж Янішчыц 20 лістапада 1948 года. Да гэтай даты і былі прымеркаваны юбілейныя мерапрыемствы, што праходзілі ў яе на радзіме. Снег яшчэ не вы-

паў, але холад моцна даваў аб сабе знаць. Хоць гэта звычайная з'ява на стыку восені і зімы. Пры настылай зямлі, але не пакрытай яшчэ снегам, калі нават крыху падмарозіць, то халадэча такая, што на вуліцу лепей асабліва не паказвацца. А тут у аўтобусе, у якім ехалі пісьменнікі, нечакана заглох матор.

Усе спачатку асабліва не турбаваліся. У салоне цёпла. Дый спадзяваліся, што шафёру ўдасца хутка выправіць непаладкі. Толькі, як ні стараўся ён, а рухавік не заводзіўся. Нічога не давала і тое, што ў вадзіцеля неўзабаве знайшліся добраахвотныя памочнікі з тых пісьменнікаў, хто мае ўласныя машыны. Толькі праз некалькі гадзін, калі ад холаду ў аўтобусе ўжо немагчыма было сядзець, матор нарэшце запрацаваў.

У падобнай сітуацыі апынулася і аўтамашына, у якой ехала Тамара Дудко — вядомы грамадскі дзеяч, дырэктар піўзавода «Аліварыя». Таксама прыкладна ў гэты ж час. І блізу таго месца, дзе нечакана спыніўся аўтобус з пісьменнікамі. Гэтаксама далёка не адразу ўдалося выправіць непаладкі. Тады ўсё абышлося. Аднак ніяк у галаве не ўкладваецца тое, што пазней Т. Дудко загінула ў аўтакастрофе, хоць і ў іншым месцы. Як тут не прыгадаць пушкінскае:

Хоть убей, следа не видно,
Сбились мы, что делать нам?
В поле бес нас водит, видно,
Да кружит по сторонам.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Сколько их, куда их гонят,
Что так жалобно поют?
Домового ли хоронят,
Ведьму ль замуж выдают?

Дарэчы, той, хто добра знаёмы з творчасцю Дастаеўскага, не можа не памятаць, што Фёдар Міхайлавіч узяў гэтыя радкі адным з эпіграфаў да свайго рамана «Д'яблы». Таго самага рамана, які пры савецкай уладзе не спяшаліся перавыдаваць, бо лічылася, што твор гэты — памфлет на рускую рэвалюцыйную сітуацыю, таму ён па сутнасці і быў выкраслены з творчасці выдатнага пісьменніка, у якога беларускія карані. Род жа Дастаеўскіх, як вядома, паходзіць з Дастоева. Сёння згаданая вёска ўваходзіць у склад Іванаўскага раёна. Ды, не будзем забываць, што гістарычна — гэта Піншчына. Няўжо і сапраўды тут прысутнічае нейкая містыка? Пэўна сцвярджаць, зразумела, нельга, але, мабыць, усё ж нешта такое ёсць. Ва ўсякім разе пасля таго, як матэрыял пра Янішчыц быў узноўлены па памяці, а па сутнасці напісаны занава, я сутыкнуўся яшчэ з двума выпадкамі, якія, у пэўнай ступені, як бы дапаўняюць ланцужок маіх непрыемнасцей.

Калі пра тое, што ў маім камп'ютары згарэў вінчэстар і былі беззваротна страчаны многія файлы, я расказаў Уладзіміру Мазго, які на той час працаваў у рэдакцыі часопіса «Вясёлка», Валодзя ўсхвалявана адказаў:

— Сапраўды дзіўна, бо...

Я не даў яму дагаварыць, таму што пасля гэтага ягонага «бо» на сэрцы стала трывожна. Няўжо згубіўся мой матэрыял, прапанаваны «Вясёлцы» да чарговага Дня беларускага пісьменства? Копіі ж яго ў мяне не засталося.

— Ды ўсё ў парадку, — Мазго, мабыць, здагадаўся, пра што я падумаў. — Згубілі праўда, але...

— Не цягні!

— Але знайшлі.

Пасля гэтага ў мяне адразу адлягло на сэрцы. Аднак праз некалькі дзён мусіў яшчэ раз пахваляваццa. Таксама ў сувязі з тым, што адбылося непрад-

бачанае. Будучы ў выдавецтве «Мастацкая літаратура», пацікавіўся, ці хутка выйдзе мая кніга «Горадзень, Гародня, Гродна», адрасаваная дзецям.

— Па віне друкарні затрымка атрымалася, — пачуў у адказ.

Як высветлілася, аддрукаваныя аркушы, а гэта мелаваная папера з мноствам ілюстрацый, па недаглядзе кагосьці былі заліты фарбай і ўсё трэба было рабіць нанава. Магчыма б, гэтае паведамленне мяне надта і не ўсхвалявала — мала што бывае, ды атрымлівалася, што за кароткі тэрмін у мяне здарыліся тры непрыемнасці, прытым у прамежку часу, звязанага з камандзіроўкай на Піншчыну.

Не магу не згадаць і выпадак, што прыгадвае А. Кірыковіч у гісторыка-дакументальнай хроніцы «Памяць» Пінскага раёна. Праўда, ён іншага плана і выклікае не змрочныя думкі, а светлыя.

У 1990 годзе, на другі год пасля смерці Янішчыц, кіраўніцтва Пінскага раёна прыняло рашэнне аб правядзенні ў вёсцы Велясніца першага свята паэзіі, прысвечанага памяці выдатнай паэтэсы-зямлячкі. Яно было прызначана на нядзелю 1 ліпеня. Зразумела, да яго рыхтаваліся належным чынам. За дзень да гэтага А. Кірыковіч, які быў адказным за правядзенне свята, паехаў на грузавой машыне раённага аддзела культуры ў вёску Малоткавічы, каб забраць партрэт Я. Янішчыц, выкананы вядомым пінскім мастаком А. Шыдлаўцом. Партрэт быў вельмі вялікі, таму заняў у машыне амаль увесь кузаў. Калі пад'ехалі да ракі Ясельды, то вадзіцель закрычаў: «Партрэт паляцеў!» — і пачаў тармазіць.

Выйшаўшы з кабіны, убачылі, як ззаду, на адлегласці метраў 300—400, партрэт паэтэсы павольна апускаецца на асфальт. Занепакоіліся, што ён можа разбіцца. Толькі спалох аказаўся марным. А. Кірыковіч прызнаецца: «… Калі мы пад'ехалі да яго і не заўважылі не тое што паломкі, а нават ніводнай драпінкі, мне, атэісту, які не верыць ні ў якія звышнатуральныя сілы, падумалася, што душа Жэні гэтым самым падала нам нейкі знак. Але які? Можа, яшчэ раз выказвала любоў да родных мясцін і, не дачакаўшыся Велясніцы, а толькі ўбачыўшы Ясельду, ластаўкай паляцела да яе. А можа, хацела гэтым палётам сказаць: «Бачыце, як я ўмею лётаць і прызямляцца без ніякае шкоды. Але ўмею я гэта толькі тут, на роднай зямлі. Не ў Мінску!» Хто ведае?»

Сапраўды, многага мы яшчэ не ведаем. А можа, гэта і добра, бо калі ўсё ведаеш, то, бадай, і жыць нецікава. Усё ж тое незвычайнае, неардынарнае, невытлумачальнае, што часам адбываецца, як бы падсцёбвае ў жаданні глыбей спазнаць рэчаіснасць і адначасова лішні раз зразумець, якое шматграннае і складанае жыццё і як шмат чаго ў ім мы яшчэ не спасціглі.

## Таварыш генерал, ты мяне зваў?

Раскажу, як аднойчы я пажартаваў са свайго сябра Славы. Было гэта таксама падчас ягонай службы ў арміі. Вярнуўся з нейкіх гасцей я зарана. Сяджу сабе адзін у пакоі. Дзень выхадны, асабліва заняцца няма чым. Сумна. Таму і прыйшло ў галаву, а чаму б не патэлефанаваць Славу. Праблема, аднак, у тым, што прамой тэлефоннай сувязі з Мінска ў ягоны батальён на той час не было. Праўда, Пратасевіч мне неяк назваў пачатковы нумар, каб пасля праз розныя Кедры, Сялкі і іншыя паролі выйсці на пароль таго батальёна, які мне і трэба.

Чаму б не паспрабаваць? Калі служыў у арміі, неаднойчы карыстаўся такой сувяззю. Аднак гэта магчыма толькі тады, калі ў пераходзе ад пароля да пароля не адбудзецца ніякіх збояў. Гарантыя поспеху, калі звоніць чалавек,

які паводзіць сябе ўпэўнена, мае пэўнае званне. Іначай, на тым жа Кедры ўсё можа і скончыцца. Галоўнае ж, каб цябе ведалі там, дзе называецца апошні пароль.

Ды я быў ваўком стрэляным. Калі пасля набору нумара пачуў:

— Радавы Іваноў слухае! — крыкнуў з усёй сілы ў трубку: — Тэрмінова злучы з Сялком!

— Ёсць! — прагучала ў адказ і праз нейкую хвіліну пачулася:

— Сялок! Яфрэйтар Сідараў слухае.

Паступова я набліжаўся да запаветнага пароля. Але чым бліжэй быў да мэты, тым больш ўпэўніваўся, што сяржанта Пратасевіча мне проста так не паклічуць, бо можа стацца, што яго давядзецца доўга шукаць. Таму ўсё залежыць ад таго, наколькі праяўлю характар.

Пачуўшы пароль будбата і адказ дзяжурнага, я не проста закрычаў, а мацюкнуўся ў трубку. Гэта, безумоўна, у войску добра спрацоўвае, а пасля што сілы дадаў:

— Тэрмінова паклікаць сяржанта Пратасевіча!

На тым канцы провада спалоханы голас замармытаў штосьці накшталт таго, што гэта немагчыма, бо ён далёка адсюль. Тады я дадаў:

— На провадзе, маць тваю, генерал Марціновіч! (Канечне, мацяршчына з маіх вуснаў ішла патокам, але не магу ўсё гэта прывесці. — **А. М.**) Паўтараю: пакліч майго пляменніка Пратасевіча!

Чакаць давялося мінут пяць. Слава прыбег запыханы і разгублены, але хутка зарыентаваўся.

— Прывітанне, дзядзька, — пачуў я ягоны голас.

Мы крыху пагаварылі, а потым я пажадаў яму ўсяго найлепшага.

Калі праз некалькі дзён сустрэліся з ім у Мінску, па тым хваляванні, з якім ён гаварыў са мной, адчувалася, што ад таго майго званка Слава яшчэ канчаткова не прыйшоў у сябе.

— І доўга ты думаў, каб да такога даўмецца? — запытаўся ён.

— Гумарам трэба валодаць, — з пачуццём годнасці адказаў я.

— Каб ты ведаў, які перапалох быў у батальёне, як мяне шукалі?!

— Перажывуць, — спакойна адказаў я.

— Табе хоць бы што! А ў мяне камандзіры дапытваліся, чаму не папярэдзіў, што маю такога сваяка.

— І што ты на гэта адказаў?

— Сказаў, што ты не родны мой дзядзька, а нейкі далёкі родзіч.

— Няхай ведаюць, хто ў іх служыць, — адказаў я, задаволены сваім розыгрышам.

## Калінінград — не для інтыму град

У дадзеным выпадку тыя салдаты, якія дзяжурылі на тэлефоне, зразумела, не маглі здагадацца, што з імі жартуюць. Больш за тое, нават падумаць пра гэта не маглі, бо, будучы пры выкананні службовых абавязкаў, мусілі хутка забяспечваць сувязь. Аднак часам знаходзяцца ахвотнікі паверыць у тое, у што, калі добра разважыць, ніяк паверыць немагчыма, самі па сабе. Такая ўжо чалавечая натура, што нярэдка некаторыя лёгка спакушаюцца на розыгрыш. Так было, калі я вырашыў пажартаваць з друкароў, дзякуючы якім выходзіць у свет «ЛіМ». Асобных з іх я больш-менш ведаў, калі чарговы нумар, будучы па ім дзяжурным, перад тым, як даць яму зялёнае святло, неабходна было

падпісваць. Але прайшоў час і ў гэтым неабходнасць адпала, бо гэтая працэдура рабілася ўжо ў рэдакцыі, пасля чаго гатовыя для друку адбіткі везліся ў друкарню.

Абавязковыя ж экзэмпляры для рэдакцыі звычайна забірала наша прыбіральшчыца А., якая па сумяшчальніцтве выконвала і такую работу. З гэтай А. я быў у добрых адносінах. Журналісты старэйшага пакалення, дый усе, каму некалі даводзілася карыстацца пішучымі машынкамі, канечне ж, памятаюць яшчэ, як цяжка было дастаць для гэтай мэты добрую паперу. Апроч газетнай, ніякая іншая ў магазінах амаль не прадавалася. То А. мне звычайна ішла насустрач. Маючы ў друкарні шмат знаёмых, яна без асаблівых праблем даставала пачак-другі больш дабротнай. Я ж стараўся за падобную паслугу аддзячыць ёй.

Дык вось гэтая А. нечакана выйшла замуж за жыхара Калінінграда, але ён на пастаяннае месцажыхарства ў Мінск так і не пераехаў. Звычайна муж наведваўся да яе, але часам і яна ездзіла да яго ў Калінінград. Калі ж гэтая паездка займала і пятніцу, то ўзнікала праблема з дастаўкай абавязковых экзэмпляраў нумара ў рэдакцыю. Па сяброўстве А. прасіла зрабіць гэта мяне. Зразумела, адмовіць у просьбе я ёй не мог, дый яна звычайна аддзячвала: у якасці прэзента частуючы мяне такой рыбай, якой у крамах не было ці яна прадавалася рэдка.

Друкары да таго, што забіраў гэтыя асобнікі я, а не А., ставіліся спакойна, бо для іх не было ніякай розніцы. Так працягвалася даволі доўга. Толькі памыляюцца тыя, хто сцвярджае, што жанчыны куды больш цікаўныя, чым мужчыны. Усё залежыць ад чалавека. Знайшоўся і сярод друкароў адзін, які задумаўся, чаму гэта часта не А. забірае газету, а я. Не вытрымаў. Калі я прыехаў чарговы раз, пацікавіўся:

— А чаму часам вы замест А. прыязджаеце?

Знайшоўся і адзін, які вырашыў пажартаваць:

— А можа, у вас з ёю асаблівыя адносіны?

— На жаль, не, — я зрабіў выгляд, што я быў бы не супраць таго, каб у нас з А. і сапраўды пачаліся «асаблівыя адносіны». — Не паддаецца, — уздыхнуў я, — вельмі мужа свайго любіць.

— Мы чулі, што яна выйшла замуж, — кажа першы друкар.

— Прычым тут муж, — умяшаўся ў гаворку яшчэ адзін і з веданнем справы дадаў: — Галоўнае — да жанчыны адпаведны падыход.

— Значыць, не ўмею, — самотліва разважыў я. — Хоць у кожнага свая праблема…

Я паглядзеў на друкароў так, быццам разважаў: гаварыць ці не гаварыць.

— Няўжо ў А.? — друкар, які першым пачаў гаворку, аказаўся самым цікаўным.

— Як бы вам сказаць…

Яны зразумелі, што я вагаюся гаварыць ці не гаварыць, таму паспяшаліся запэўніць, каб не баяўся казаць праўду. Пра тое, што даведаюцца ад мяне, нікому ні-ні.

Хіба мог я пасля гэтага не падзяліцца з імі «сакрэтам»?

— У А. ўсё ў парадку, — запэўніў іх, — але праблема ў яе мужа.

— Што-небудзь здарылася?

— У нас у мужчын адна праблема, — з веданнем справы сказаў я. — Асабліва калі ты ўжо ва ўзросце…

— Няўжо ў яго не…

Я пастараўся быць як мага больш сур’ёзным, бо ў тым, што хацеў цяпер сказаць, і заключаўся мой жарт.

— Ведаеце, — кажу, — у яго вельмі рэдкі выпадак, — але гаварыць галоўнае не спяшаюся.

— Скажыце, — пачалі прасіць яны, — што гэта за выпадак? Дальбог, нікому не раскажам.

— Разумееце, — я задумаўся. — А як бы вам лепш сказаць… Бадай, адмоўна сказваецца рознасць у кліматычных умовах.

Мае субяседнікі ажно раты раскрылі, але, па усім відаць, так яшчэ і не ўпэўніліся, куды я хілю. Але нічога больш не пытаюцца. Баяцца, каб не перадумаў — гаварыць усю праўду ці прамаўчаць.

— Так і быць, — працягваю я, — паколькі вам цалкам давяраю, то ведайце… Крыху маўчу, каб зрабіць большы эфект ад сказанага і на адным дыханні прамаўляю: — У яго рэдкі выпадак: не с...ць толькі ў Мінску!

Адразу зразумеў, што мае субяседнікі падвоху не зразумелі.

— Ну і бедалага, — паспачуваў адзін.

— Трэба было жаніцца на калінінградцы, — сказаў той, які добра ва ўсім разбіраўся, — то ніякіх бы праблем і не было.

Трэці ж аказаўся самым здагадлівым:

— Таму А. і ездзіць да яго рэгулярна ў Калінінград!

— А за яе газеты забіраю, — патлумачыў я.

Што друкары ў гэтым маім аповедзе ніякага розыгрышу не ўбачылі, зразумеў я праз тыдзень, калі сама А. забрала чарговы нумар.

Прывёзшы газеты ў рэдакцыю, яна, заходзячыся ад смеху, запытала ў мяне:

— Гэта ты так пажартаваў?

— Пра што ты? — я зрабіў выгляд, што ні пра што не здагадваюся.

— Самае дзіўнае, што яны ва ўсё паверылі, — А. працягвала смяяцца.

— Паверылі?! Чаго-чаго, а гэтага я не чакаў, — прызнаўся я.

— Нават парады пачалі даваць, як майго… акліматызаваць.

— Запісала?

Яна ўхілілася ад адказу, а толькі папрасіла:

— Можа, і ў наступную пятніцу забярэш за мяне газеты?

— Калі ўжо табе так хочацца…

Хіба я мог адмовіць жанчыне, у якой такая праблема?

## Канспект за гадзіну... На цэлы сшытак

Часам жарт і выжыць можа дапамагчы. У гэтым я ўпэўніўся, калі, будучы студэнтам, здаваў залік вядомаму кінакрытыку Ефрасінні Бондаравай, якая чытала ў нас курс па кіно. Не сказаць, каб на гэтых занятках быў надта актыўны. Больш за тое, займаўся сваімі справамі. Не звяртаючы ўвагу на тое, што займаліся звычайна ў невялікіх аўдыторыях, бо на курсе было недзе ў межах дваццаці пяці чалавек. Нехта пераводзіўся на завочнае навучанне. Хтосьці пераходзіў на вячэрняе. Я, напрыклад, прыйшоў з аддзялення беларускай мовы і літаратуры. Кожны перад выкладчыкам навідавоку. Тым не менш я і чытаў. І матэрыялы якія-небудзь пісаў.

Прынамсі, не паглядзеўшы на той час знакаміты фільм «Зося», прарэцэнзаваў яго ў «Чырвонай змене». Для напісання карыстаўся іншымі рэцэнзіямі. Тады ці не ўсе рэспубліканскія газеты рэгулярна пісалі як пра прэм’еры фільмаў, так і спектакляў. Дарэчы, калі ўжо працаваў у «ЛіМе», а Ефрасіння Леанідаўна з’яўлялася нашым актыўным аўтарам, яна неяк прызнавалася мне, што спачатку думала, быццам чалавек я на журфаку выпад-

ковы. З-за той жа маёй пасіўнасці меркавала так. А яшчэ з-за таго, што не слухаў лекцыі.

Калі Бондарава скончыла чытаць курс па кіно, як і мае быць, прыйшоў час здаваць залік. Спадзяваўся, што ніякай складанасці не ўзнікне. Аднак памыліўся: Ефрасіння Леанідаўна і пра гэта пытае, і пра тое. І чым больш пытае, тым больш упэўніваюся, што сказаць па сутнасці мне няма чаго. Сітуацыя — не з лепшых. Не ведаю, як бы і выйшаў з яе, калі б Бондарава не запыталася ў мяне пра кінарэжысёра Льва Куліджанава: пра фільмы, пастаўленыя ім, і пра тое, ці знаёмы я з ягоным дакладам на з'ездзе Саюза кінематаграфістаў СССР — Куліджанаў узначальваў гэты творчы саюз. Зразумела, ніякага даклада я не чытаў, у чым і мусіў прызнацца. Ефрасіння Леанідаўна сказала:

— Прачытаеце, тады і прыходзьце здаваць залік.

Тут мяне нібыта нехта за язык пацягнуў:

— А калі я пайду ў Ленінку і гэты даклад заканспектую. Цэлы сшытак…

— Цэлы сшытак? — Бондарава з недаверам пагля́дзела на мяне. — І за колькі часу?

— За гадзіну, — запэўніў я і дадаў: — Акурат, калі амаль усе здадуць залік, тады і падыду.

— Так і быць, — засмяялася Ефрасіння Леанідаўна, будучы, канечне ж, упэўнена, што за такі кароткі прамежак часу канспекта на цэлы сшытак у мяне не атрымаецца. Нават на школьны, які я і меў на ўвазе.

Каб марна не бавіць час, хуценька пабег у бібліятэку. Тады, як вядома, яна размяшчалася на вуліцы Чырвонаармейскай, амаль насупраць будынка, у якім знаходзіліся філалагічны і гістарычны факультэты, а потым і факультэт журналістыкі. Цяпер у ім размяшчаецца гістарычны факультэт. Без асаблівых цяжкасцей заказаў неабходны нумар газеты. Пісаў я, канечне, вялікі літарамі, паміж радкамі рабіў немалыя пропускі. Таму праз кароткі час абяцаны на сшытак канспект быў гатовы.

У аўдыторыі, у якой Бондарава прымала залік, я з'явіўся нават раней, чым дамаўляліся. Пагля́дзеўшы мой канспект, яна зразумела, што я па сутнасці абвёў яе вакол пальца, але злавацца не стала. Слова сваё стрымала і паставіла мне жаданы залік.

## Крыўдуй не крыўдуй, а такі чалавек

Таму і ніколькі не крыўдую на паэта С. К слову сказаць, і перакладчык ён добры. Зразумела, паэзію пераўвасабляе па-беларуску. А ў астатнім... Магчыма, я і памыляюся, аднак як бы вы паставіліся да ўсяго, калі б тое, што збіраюся расказаць, адбылося з вамі.

...Звычайна і так кладуся рана спаць, а тут трэба было ехаць заўтра на Свята беларускага пісьменства. Здаецца, ці не ў Камянец. Дарога няблізкая, таму аўтобусы ад Палаца спорту мусілі адпраўляцца вельмі рана. Паспець бы толькі... З чыстым сумленнем засынаю, раніцой падхопліваюся яшчэ задоўга, як павінен спрацаваць будзільнік. Іду на кухню, а там чакае мяне сюрпрыз. Жонка ў запісцы паведамляе: «Тэлефанаў С., прасіў, каб ты, як прачнешся, яго разбудзіў».

Калі прасіў, то чаму б не пайсці чалавеку насустрач. Бяру пераносную трубку ад тэлефона, каб набраць неабходны нумар. Ды трэба ж так здарыцца, што яна разрадзілася. Сам жа тэлефон знаходзіцца ў іншым пакоі, дзе ўсе яшчэ спяць. Пайсці туды, значыць, патрывожыць іхні сон. Застаецца мабіль-

нік, але тады я толькі асвойваў яго, таму і не ведаў, як на ім набраць гарадскі нумар. І так спрабую, і гэтак — нічога не атрымліваецца.

Нарэшце, знаходжу нумар ягонага мабільніка. Спяшаюся набраць яго. Як быццам, усё ў парадку, чуюцца доўгія гудкі. З нецярпеннем чакаю адказ, але замест яго праз імгненне пачынаюцца кароткія гудкі. Значыць, С. адразу ж перарваў сувязь. Паўтараю набор, будучы перакананым, што проста чалавек спрасоння не даўмеўся, што і да чаго. Аднак вынік той жа, што і першы раз. Гэта пачынае мяне выводзіць з сябе. Тым не менш, набіраю неабходны мне нумар трэці раз. Нарэшце адчуваю, што мяне слухаюць.

— Здароў, — кажу С.

Можна ўявіць сабе мой стан, калі ў адказ пачулася:

— Табе што, няма чаго рабіць?

Не ручаюся, што калі б у гэты момант С. быў перада мной, не заехаў бы яму з усяго размаху. А так давялося моўчкі вылаяцца і збірацца ў дарогу.

Самае цікавае чакалася наперадзе. Канечне, С. спазніўся і ўскочыў у аўтобус апошнім. Аднак не гэта, зразумела, здзівіла мяне. Убачыўшы мяне, ён, перш чым заняць свабоднае месца, як нічога і не было, паздароўкаўся. Мне стала не па сабе. Наколькі смешным гэта можа падацца, але ў мяне з'явілася такое адчуванне, што быццам усё прытрызнілася: і мой званок С., і ягоны больш чым дзіўны адказ мне.

Калі ж крыху ад'ехалі ад Мінска, вырашыў праверыць, а ці не памыліўся я раніцой нумарам. Магчыма, я пазваніў зусім і не С., а каму-небудзь іншаму, таму і атрымалася такая непрадказальная рэакцыя на мой званок. Набіраю нумар С. Паколькі С. сядзіць па сутнасці насупраць мне, праз праход, бачу, як ён дастае з кішэні свой мабільнік. Уважліва глядзіць на экран, «вывучаючы» ад каго званок, а потым прыкладае тэлефон да вуха. Я чую ягоны смех:

— Дык гэта ты мне тэлефанаваў! — сцвярджальна кажа ён і, выключыўшы мабільнік, праз праход падміргвае мне. Маўляў, усё ў парадку, сітуацыя ўладжана. Хоць бы прабачэння папрасіў, толькі дзе там. У ягоным разуменні нічога незвычайнага не здарылася. У паэтавым, канечне, разуменні.

Паэтава ж разуменне і ўспрыманне ўсяго, паўтараю, асаблівае. Быў па справах у выдавецтве «Мастацкая літаратура». Заходзіць С. Здароўкаецца і, як кажуць, без уводнай звяртаецца да мяне:

— Вось ты перанёс інфаркт і жывеш, а Пісьмянкоў памёр, — і спакойна сам сабе ўсміхаецца.

Разбірайся сабе: ці то гэта канстатацыя факта, ці то жарт такі своеасаблівы. Гэтым разам я ўжо не вытрымаў, абурыўся. А С. хоць бы што.

— Нейкі нервовы ты стаў, — адказаў ён і спакойна пайшоў, не забыўшыся ўсміхнуцца сам сабе.

Яшчэ адзін факт гэтага кшталту.

Выйшла ў РВУ «Літаратура і Мастацтва» чарговая кніга ў перакладзе С. Паказвае, хваліцца. Я жартам і кажу:

— Трэба было з цябе грам сто, але я на бальнічным.

С. адказвае ў сваім ранейшым духу. Пры тым не жартуючы, а сур'ёзна, толькі ледзь прыкметна ўсміхаецца:

— П'еш і нічога табе не робіцца.

З ранейшай, як кажуць, оперы. Праўда, С. тут ні пры чым. Проста ёсць такая катэгорыя «разумнікаў», якія не ведаюць (а можа, не хочуць ведаць, што ёсць усё ж мяжа, якая аддзяляе жарт ад таго, што выглядае ўжо не смешным, а дурнаватым — ці што).

Такім «разумнікам» аказаўся неяк і адзін мой сябар-журналіст. Даўно тое было. Яшчэ з часоў майго халасцякоўства. Калі не меў свайго кутка. Таму даводзілася звычайна харчавацца ў сталовых. Я ж вельмі люблю бульбу, асабліва падсмажаную. А там яе ніколі не знойдзеш. То хадзіў у выхадныя часта да гэтага свайго сябра, таксама халасцяка, які, аднак, у адрозненне ад мяне, меў пакой з агульнай кухняй. Нярэдка, каб не бегаць у магазін, я прыносіў з сабой і бульбу. Але падсмажаная яна, вядома ж, смачнейшая, калі да яе яшчэ што-небудзь знаходзіцца. У майго сябра знаходзілася.

Але раз на раз не выпадае. Не ў тым сэнсе, што не было падсмажанай бульбы, ці сяго-таго да яе. Проста аднойчы, калі завітаў да яго, адчуваў сябе блага — вельмі балела сэрца, таму ніякай гаворкі пра сёе-тое з майго боку, зразумела, не магло ісці. Як ні ўгаворваў мяне сябра, давялося яму аднаму браць штокольвечы да бульбы.

Праз тыдзень я, як і звычайна, зноў наведаўся да яго. Думаеце, ён пацікавіўся маім здароўем? Дзе там! Ён паглядзеў на мяне сур'ёзна, асуджальна і, скептычна ўсміхнуўшыся, сказаў:

— «Расплакаўся»... Ні што цябе не ўзяло, жывым застаўся.

Як ні цяжка мне далося, але ўсё ж прамаўчаў, ніяк не зрэагаваў на сказанае ім, бо даўно пераканаўся, што ў любой сітуацыі — галоўнае не падаць духам. Хоць не заўсёды гэта ўдаецца.

Гадоў сорак з нечым назад крытык Т. «разрозился» ў мой адрас гнеўным артыкулам. І не ў якім-небудзь выданні, а ў самой «Литературной газете», што на той час з'яўлялася свайго роду заканадаўцам літаратурнай моды для ўсяго Савецкага Саюза. Дый змешчаны гэты артыкул быў на першай паласе. Атрымалася ледзь не «указующая» перадавіца кшталту «правдинской».

Гаварылася ж у гэтым матэрыяле пра тое, што, маўляў, «притчей во языцех» стала на Беларусі імя Алеся Марціновіча. У якім толькі выданні ні друкуецца, але, аказваецца, піша не так, як павінен пісаць па меркаванні яго, Т.

Адкуль растуць ногі, я здагадаўся адразу. Сапраўды, я шмат друкаваўся, друкуюся і, калі Бог дасць здароўя, буду друкавацца ў далейшым. Канечне ж, Т., які да ўсяго спрабаваў свае сілы і ў прозе, дорачы мне ўласны зборнік аповясцей і апавяданняў, разлічваў з майго боку на рэцэнзію. Таму і падпісаў гэтую кнігу мне як сябру. Недзе яна ў маёй бібліятэцы захоўваецца, бо кніг з аўтографамі ніколі не выкідваю, нават калі тыя, хто падпісваў іх, зрабілі мне штосьці непрыемнае. Я ж не апраўдаў сяброўскі давер Т. і рэцэнзію не напісаў. Таму і з'явілася гнеўная водпаведзь з ягонага боку.

Хлусіць не стану, што я, маўляў, да ўсяго гэтага паставіўся абыякава. Калі раніцой разгарнуў «Литературку», адразу стала не па сабе. Пабег у кабінет да галоўнага рэдактара, другога Ж. Той, на маё здзіўленне, паставіўся да ўсяго спакойна, запэўніўшы, што ў гэтым нічога страшнага. Я тады, праўда, з ім не пагадзіўся, але праз некалькі гадоў упэўніўся, наколькі мудрым чалавекам аказаўся Ж. Упэўніўся не дзе-небудзь, а на Усесаюзнай нарадзе маладых крытыкаў дзіцячай літаратуры.

Мяне, канешне, на яе ніхто не паслаў бы, бо ў СП БССР былі ў фаворы іншыя аўтары. Але, друкуючыся ў часопісе «Детская литература», я завочна пазнаёміўся з крытыкам, літаратуразнаўцам Уладзімірам Аляксандравым, які ў ім загадваў аддзелам, а да ўсяго з'яўляўся памочнікам Сяргея Міхалкова. Уладзімір Паўлавіч, калі пачалі праводзіцца нарады маладых крыткаў дзіцячай літаратуры, у склад удзельнікаў іх рэгулярна запісваў мяне. Слова ж Масквы на той час, зразумела, было законам для саюзных рэспублік. Так я пабываў на трох усесаюзных нарадах.

Здаецца, гэта было на першай з іх. Калі мы знаёміліся, то я, яшчэ ніяк не жадаючы забыць крыўду, нанесеную мне Т., прадстаўляўся прыкладна так:

— Алесь Марціновіч, якога разбілі ў «Литературной газете».

Назаўтра стала вялікай нечаканасцю, што на семінары мяне ведалі ці не ўсе, бо нехта дастаў той нумар «Литературки», і яна пайшла па руках. Людзям разумным няцяжка было зразумець, наколькі беспадстаўныя абвінавачанні ў мой адрас з боку Т. Атрымалася, што дзякуючы гэтай публікацыі, я стаў ледзь не героем семінара.

## Пайсці да каханкі — застацца без пагонаў

А гэтая ж сітуацыя — з шэрагу тых, што патрапляюць пад вызначэнне: хочаш смейся — хочаш плач. Праўда, я да яе не маю ніякага дачынення. Дый то пераказваю з трэціх вуснаў. Пачуў гэтую гісторыю ад аднаго свайго сябра, а паведала яму пра нечаканую сітуацыю, у якой апынулася, яго сяброўка В. Жанчына маладая, незамужняя. Адна выхоўвала дачку. Прынамсі, маладой, незамужняй была на той час, калі ўсё адбылося.

Зразумела, што адзінокай жанчыне часам хочацца сустрэцца з мужчынам. З адзінокім ці жанатым — як атрымаецца. Прывабіў В. неяк адзін маёр. Жанаты, праўда, але такой бяды: не пад вянец жа збіралася ісці. Ваенныя ж, як спявае Маша Распуціна, «они необыкновенные». Наколькі той маёр быў «необыкновенный» гэта ведаць ужо самой спакусніцы. Адно можна пэўна сказаць: ваенных без пагонаў не бывае. Зразумела, што і маёры сярод іх выключэннем не з'яўляюцца. Навошта, кажаце, на пагоны звяртаць увагу? Бо акурат пагоны і надаюць пікантнасць гэтай сітуацыі.

Спачатку ж усё было лепш не прыдумаеш. Само сабой, зразумела, усё пачыналася са знаёмства. Пасля было знаходжанне агульнай мовы. Нарэшце, запрашэнне гэтага маёра ў госці. Далей у падрабязнасці ўнікаць не можам, бо справа гэтая — інтымная, а як казаў незабыўны Максім Багдановіч, чужую душу брыдка мацаць рукамі. Але свята — на тое і свята, каб калі-небудзь скончыцца. З чужым мужам яно, як вядома, заканчваецца куды хутчэй, чым таго хацелася б.

Трэба было маёру вяртацца дамоў. Да жонкі. Да дзяцей. Падышоў да вешалкі, дзе павесіў свой мундзір, а… Не, мундзір быў на месцы, але пільны маёр заўважыў тое, на што цывільны чалавек, магчыма, і не звярнуў бы ўвагу. Цывільнаму чалавеку, калі ён ідзе ад каханкі, важна толькі, каб ягоны пінжак быў на месцы. А ці ўсе гузікі — гэта рэч другарадная, бо ўсіх гузікаў магло не быць і тады, калі прыйшоў у госці. На такую дробязь цывільны чалавек ніколі не звяртае ўвагі. Іншая справа — чалавек ваенны. Нездарма Маша Распуціна спявае пра ваенных, што яны «люди необыкновенные»

Паглядзеў маёр уважліва на свой мундзір — гузікі на месцы. Гэта, канечне, добра, але на месцы павінны быць і пагоны. Пагонаў жа не было! Маёр так спалохаўся, што ледзь на нагах устаяў, мусіў да сцяны прыхінуцца. Як гэта няма пагонаў?! Без пагонаў і маёр — не маёр. І нават не салдат. Бо і ў салдата павінны быць пагоны. Для пэўнасці маёр рукой правёў па тым месцы, дзе павінны быць пагоны. Але іх не аказалася. Нібыта карова ў адну з кватэр у стольным Мінску неяк патрапіла і языком іх злізала.

Маёр сабраўся ўжо каханку сваё паклікаць, якая засталася ў спальні. Хацеў сказаць ёй, што так не жартуюць. Аднак толькі раскрыў ён рот, як у

прыхожай з'явілася яе дачка. Што з ёю могуць быць праблемы, маёр здагадаўся яшчэ тады, калі ўпершыню аказаўся тут. Вельмі ж яна вяла сябе неяк непрадказальна. То магла падбегчы і, падскочыўшы, ухапіць яго за валасы. То нечакана кінуць нейкае абразлівае слова. Асаблівыя ж праблемы ўзнікалі, калі яе хацелі выправіць на некаторы час на вуліцу, каб застацца ўдваіх. Ніяк не хацела ісці. Гэтым разам, хоць і з цяжкасцю, усё ж увагаварылі паглядзець у суседнім пакоі тэлевізар. А магла б здагадацца, што лепш на вуліцу пайсці — як-ніяк, у шостым класе вучыцца.

— Ну што? — дачка каханкі паглядзела на маёра з пераможаным выглядам?

— Як што? — здзівіўся маёр, ён, вядома, адразу здагадаўся, што яна мае на ўвазе. — Гэта твая работа?

Дзяўчынка засмяялася:

— Пагончыкі цю-цю…

— Аддай, — сказаў маёр такім цвёрдым голасам, якім звычайна размаўляў са сваімі падначаленымі тады, калі тыя штосьці рабілі не так, як яму хацелася.

— Не аддам, — дачка В. заскакала на адной назе і тут жа ашаламіла яго сваёй дасведчанасцю: — А жоначцы што скажаш?

Маёр перш за ўсё і баяўся, што жонка заўважыць у яго адсутнасць пагонаў. Не позняга вяртання баяўся, а менавіта гэтага. Наконт вяртання можна схлусіць, што якое-небудзь ЧП у часці адбылося, а што адказаць на пытанне: «Любы, дзе твае пагоны?»

Раней маёру падабалася, што жонка не магла дачакацца ягонага вяртання са службы. Інначай, як любым, яго не называла. Цяпер жа ён яе ўзненавідзеў: «Лю-бы!» Спала б сабе, і ўсё ў парадку, у крайнім выпадку ёсць запасныя пагоны. А то атрымліваецца, што давядзецца неяк тлумачыць адсутнасць іх. Толькі якую прычыну прыдумаць? Не, трэба знаходзіць агульную мову з гэтай свавольніцай.

— Слухай, — маёр пастараўся быць як мага больш спакойным. — Ты ж дарослая…

У гэтым яна з маёрам згадзілася.

— Таму і ведаю, чаму ты ходзіш да мамы, — у яе вачах з'явіліся нездаровыя іскрынкі, — а я не хачу.

— Больш не буду, — вырвалася ў маёра. — Толькі аддай пагоны.

— Не аддам! — гучней адказала дзяўчынка і пабегла ў свой пакой.

На яе голас выглянула В.

— Што ў вас здарылася? — запыталася яна. — Я думала, што ты пайшоў…

— Глядзі, — ён паказаў на мундзір.

— Што я не бачыла мундзіра? — адказала В. раздражнёна, бо неаднойчы магла ўпэўніцца, колькі нерваў каштавалі ёй непрадказальныя паводзіны дачкі. Цяпер жа, аказваецца, яна нешта не паладзіла і з каханкам.

— З мундзірам усё ў парадку, — маёр стараўся быць спакойным, — але няма пагонаў.

В. адразу здагадалася, у чым прычына. Яна кінулася да дачкі:

— Аддай! — закрычала са злосцю і ўжо цішэй дадала: — Прашу, аддай пагоны…

Дачка, аднак, здавацца не збіралася.

— Не аддам, — адказала спакойна, але рашуча. — Не хачу, каб ён да нас хадзіў.

Ад пачутага жанчына зніякавела: толькі гэтага нeставала. Маёр жа, як школьнік, які правініўся, прамовіў, шукаючы ў вачах дзяўчынкі спагаду:

— Не буду. Толькі аддай пагоны…

— Гэта — мужчынская размова, — узрадавалася шасцікласніца і выцягнула пагоны, што ляжалі пад пакрывалам на крэсле.

Нават не падзякаваўшы, маёр папрасіў каханку:

— Хутчэй прышый.

— Не ўмею, — адказала тая.

— Тады я сам, давай ніткі.

Ён дзейнічаў так упэўнена, што яму мог бы пазайздросіць любы, нават самы вопытны салдат. І гэта, нягледзячы на тое, што пагонаў маёр звычайна сам не прышываў. Прасіў каго-небудзь з тых жа салдат, толькі, зразумела, нядаўна прызваных на службу, бо дэмбелі на такое не ішлі. Ці, у крайнім выпадку, карыстаўся паслугай жонкі. Але страх перад ёю і прымусіў яго менавіта самому справіцца хутка.

На развітанне ён сказаў ціха сваёй каханцы — ціха, бо баяўся, каб не пачула яе дачка:

— Я не супраць і далей сустракацца, толькі, прабач, — ён, як пабіты сабака, паглядзеў у вочы В.: — Баюся тваёй дачкі, то, можа, дзе-небудзь у іншым месцы...

## Без грошай — наўрад ці лепш

Яшчэ пра сітуацыю, што так і патрапляе пад вызначэнне хочаш — смейся, а хочаш — плач. Адбылося гэта з вядомым пісьменнікам М., які жыве ў глыбінцы. Але даволі часта «вырываецца» ў абласны цэнтр, дзе абавязкова сустракаецца са сваім сябрам. Гэты яго сябра, дарэчы, пра ўсё і расказаў.

М. — не такі і малады. Але нельга назваць яго і старым. Ва ўсякім разе не быў ім на той час, калі ўсё адбылося. Правільным будзе сказаць, што ён знаходзіўся ў такім узросце, калі ж вельмі настойліва штурхае «бес в ребро». У маладосці не надта бегаў за спадніцамі, але, набраўшыся жыццёвай мудрасці, зразумеў, што многае ўпушчана. Таму гэтае ўпушчанае і пачаў старанна навёрстваць.

Аднак, як вядома, аднаго жадання мала, неабходны яшчэ і магчымасці. А якія магчымасці ў глыбінцы, дзе ўсе і ўсё навідавоку? Таму М. гэты для сваіх любоўных паходаў выкарыстоўваў ці абласны цэнтр, ці стольны Мінск, у якім у яго таксама ёсць сябра і да якога ён таксама даволі часта наведваецца. Але, тым не менш, аддаваў перавагу абласному цэнтру. Усё ж сталічная жаночая палова больш спешчаная ўвагай з боку мужчын. У абласным жа цэнтры — куды прасцей. Ва ўсякім разе пісьменнік у гэтым быў перакананы. Магчыма, праўда і на ягоным боку — наконт гэтага сказаць нічога не магу, бо такога абласнога вопыту ў мяне проста няма.

Праўда, тая паездка для М. з глыбінкі ў абласны цэнтр аказалася няўдалай, бо не знайшлося ніводнай дзяўчыны ці маладой жанчыны, якая б згадзілася завітаць да яго ў гасцініцу, дзе ён спецыяльна зняў асобны нумар. Чамусьці гэтым разам не хацелі ісці з ім на кантакт і кабеты больш сталага ўзросту, якім ён недвухсэнсоўна намякаў, чаго хоча і што ад іх патрабуецца. Таму М., расчараваны няўдачамі на любоўным фронце, апошні вечар перад ад’ездам вырашыў правесці са сваім сябрам. Той таксама быў не супраць гэтага, бо ім было пра што расказаць адзін аднаму.

Калі развітваліся, бралася на вечар. Але, паколькі ўсё адбывалася летам, то на вуліцы было яшчэ даволі светла. Таму да гасцініцы, якая была не так і далёка, М. пайшоў адзін — балазе абласны цэнтр ведаў добра. Перад гэтым сказаў сябру, што назаўтра па прыездзе дамоў, абавязкова патэлефануе яму.

Аднак раніцой М. сам з'явіўся ў рабочым кабінеце свайго сябра. Не папярэдзіў загадзя, бо тады мабільных тэлефонаў яшчэ не было. Дый званіць не мела асаблівага сэнсу, таму што ўсё адно давялося б сустракацца, бо такая нявыкрутка атрымалася, што толькі сябра і мог дапамагчы. Адбылося ж наступнае...

Ідучы да гасцініцы, донжуан з глыбінкі ўбачыў на лаўцы дзяўчыну, якая сядзела, закінуўшы нагу за нагу, курыла і летуценна азіралася па баках. Акінуўшы яе вопытным вокам, М. без цяжкасці зразумеў, што «эти глаза не против». Хіба ж пасля гэтага можна прайсці міма? Таму М. падышоў да дзяўчыны, павітаўся і, прамовіўшы колькі дзяжурных слоў, паступова пачаў пераход да галоўнага. Галоўнае ж у дадзеным выпадку патрапляла пад ягоную праграму-мінімум, сэнс якой заключаўся ў тым, каб дзяўчыну завабіць у гасцінічны нумар.

На ягоную радасць, гэта асаблівых складанасцей не выклікала. Дзяўчына, заявіўшы, што ёй сумна і адзінока, ды яшчэ паскардзіўшыся, што пасварылася са сваімі блізкімі, таму і сышла з дому, згадзілася правесці вечар разам. Хоць які вечар: на дварэ ўжо стаяла цёплая летняя ноч. Акурат такая ноч, калі хочацца пацалункаў, абдымкаў і ўсяго астатняга. М., зразумела, у першую чаргу хацелася ўсяго астатняга, таму ён, баючыся, што, чаго добрага, дзяўчына можа перадумаць, узяў яе пад руку і адчуў, як усхвалявана забілася сэрца. Не, не дзяўчыны, яе сэрца М., несумненна, чуць не мог. Гатова было вырвацца з грудзей ягонае сэрца — пяцідзесяцігадовага лавеласа, якому з узростам вельмі захацелася быць падобным на Дон Жуана.

Не заўважылі, як за размовамі падышлі да гасцініцы. Дзяўчына ў апошні момант, праўда, заўпарцілася. Маўляў, пагаворым яшчэ на вуліцы і развітаемся. Ды пісьменнік на гэта не звяртаў асаблівай увагі. Ён быў перакананы, што з яе боку гэта нішто іншае, як звычайная гульня. Яшчэ падумаў: «Цану сабе набівае». Таму ва ўсю пачаў дзейнічаць па даўно распрацаваным самім жа сцэнарыі: больш пяшчотных слоў, болей запэўніванняў у каханні з першага позірку. Пры неабходнасці для падмацавання сур'ёзнасці сваіх пачуццяў ён мог яшчэ апусціцца на калені, але гэта звычайна рабіў тады, калі з той, якая яму падабалася, заставаўся адзін на адзін у пакоі, а то і ў кабінеце — як і дзе выпадала. Але варыянт стаць на калені пры святле вулічнага ліхтара ён адхіліў — што лішне, то не здрова. Нарэшце, дзяўчына тэатральна ўздыхнула. Што азначала: і хацела б развітацца, ды гэта не ў маіх сілах.

— Мне таксама хочацца быць з табой, — прамовіла яна, прыадкрыўшы вусны так, што яму захацелася тут жа, не ідучы ў пакой, пачаць цалаваць яе, але ён стрымаў гэтае нястрымнае жаданне, бо добра памятаў мудрыя словы свайго бацькі-селяніна: «Пакуль не запрог каня, у сані не садзіся».

— То пойдзем, — пяшчотна сказаў М., з замілаваннем гледзячы на дзяўчыну, і прапускаючы яе да дзвярэй гасцініцы.

Ніякіх праблем з дзяжурнай не ўзнікла, бо, ідучы, сябра, быццам прадчуваючы, што можа ўзнікнуць сітуацыя, калі ўсё будзе залежаць ад яе, М. сказаў ёй камплімент і даў некалькі шакаладак. Таму цяпер дзяжурная не папракнула яго за такое позняе вяртанне. Толькі калі праходзіў з дзяўчынай міма, па-змоўніцку ўсміхнулася яму. А можа, гэта толькі падалося яму? Усё адно не пакідала радасць ад таго, што ўсё так добра складваецца.

Яго, калі б больш цвяроза да ўсяго паставіўся, бадай, мусіла б насцярожыць тое, што дзяўчына, якая толькі што ледзь не ў каханні збіралася клясціся яму, увайшоўшы ў пакой, калі памкнуўся яе абняць, заўпарцілася. Толькі ён гэтаму не надаў асаблівага значэння, тым больш, што яна, каб змякчыць сітуацыю, прызналася:

— Не магу вось так, адразу...

«А куды спяшацца? — падумаў М. — Яна ж сказала, што з блізкімі пасварылася, то можа застацца і да раніцы».

Пісьменнік падышоў да акна, расчыніў яго насцеж, у пакой уварваўся цёплы свежы вецер.

— Зірні, як прыгожа, — захоплена сказаў М. дзяўчыне. Ён хоць і пісаў празаічныя творы, у душы заўсёды адчуваў сябе паэтам, асабліва апошнім часам, калі нарадзіўся быццам занава, шукаючы ўцеху ў каханні.

Дзяўчына разам з М. пачала ўзірацца ў начны горад. Але для М. не прайшло не заўважаным, што яна не падзяляла ягонае захапленне. Толькі, зірнуўшы ў той бок, дзе стаяла некалькі гандлёвых кіёскаў, нечакана спахапілася:

— Ой, цыгарэты ж у мяне скончыліся!

— Ты думаеш, што яны працуюць? — маючы на ўвазе кіёскі і, здагадваючыся, што дзяўчына хоча закурыць, спытаў М..

— Павінны, — адказала дзяўчына і дадала: — Ёсць такія, што працуюць кругласутачна.

— Тады збегаю, куплю, — падахвоціўся М., — а ты пачакай.

— Добра, — адказала дзяўчына.

Ён хуценька спусціўся ўніз, патлумачыў соннай дзяжурнай, што збегае па цыгарэты. Тая ніяк не зрэагавала на гэта — відаць, звыклася, што ў пастаяльцаў абавязкова з'яўляецца якая-небудзь неабходнасць пакінуць гасцініцу ноччу. Зачыніўшы за сабой дзверы, М. пабег у той бок, дзе купкай стаялі кіёскі. На яго расчараванне, ніводзін з іх не працаваў. Давялося шукаць у іншым месцы, а гэта, безумоўна, заняло нямала часу. Калі ж жаданы пачак цыгарэт быў у руцэ, стрымгалоў паімчаў назад.

— А вашая сяброўка пайшла, — сонна адказала дзяжурная. — Прасіла, каб патэлефанавалі. А ключ аддала.

Яму хацелася крыкнуць:

— Ды ў мяне няма яе нумара, — але прамаўчаў, бо з'явілася нядобрае прадчуванне, што гэтая дзяўчына не проста так нечакана сышла.

Як і звычайна ноччу, ліфт не працаваў, таму ён, спатыкаючыся на прыступках, пачаў пераадольваць паверх за паверхам, пакуль не трапіў на свой. Адчыніўшы дзверы, першае, што зрабіў, пачаў шукаць сваю сумку. Яна ляжала на ранейшым месцы, але калі адчыніў той аддзел яе, у які звычайна клаў свой бумажнік, заўважыў, што ён адчынены. Усё стала ясна. Адсутнічалі грошы. Не было і загадзя купленага білета на аўтобус, які ішоў раніцой у ягоны райцэнтр...

— Уліп дык уліп, — сумна падвёў вынікі сваёй споведзі М., шкадуючы не толькі таго, што гэтым разам донжуан з яго не ўдаўся. — Гадаўка, — ён сцяў вусны, бадай, разважаючы, ці не вымацерыцца, але перадумаў, махнуў рукой. — Чорт з імі, з тымі грашыма! Не так і шмат іх было. Але, — ён запытальна паглядзеў на свайго сябра, — навошта білет красці?

— То, можа, хоча з табой ехаць? — пажартаваў той.

М. не зразумеў жарту.

— Пра гэта мы не дамаўляліся, — адказаў сур'ёзна.

— Значыць, спадабаўся, — працягваў жартаваць сябра.

— Навошта яна мне?
— На аўтавакзале і высветліш усё.
— Ты ж ведаеш, што ў мяне няма за што білет купіць.
— То бяры, — сябра працягнуў яму грошы. — Як донжуану не дапамагчы...
— Табе жарцікі, а мне...
М. не дагаварыў. Зірнуўшы на гадзіннік, ён пачаў развітвацца:
— А то чаго добрага спазнюся на аўтобус.

## Калі маеш, то аддай

Вядомы пісьменнік — паэт і празаік, чалавек няпростага лёсу, які зведаў жахі сталінскіх лагераў, светлай яму памяці П., вырашыў сваё 80-годдзе адзначаць на радзіме. А гэта ўскрай Беларусі, на самай мяжы з Расіяй. Ад Мінска больш як трыста кіламетраў, а то ўсе чатырыста. Дабірацца, канечне, доўга. Ды хіба адмовіш чалавеку, з якім такія добрыя стасункі, а я, да ўсяго, і пісаў пра ягоную творчасць неаднойчы. Таму мы, не вагаючыся, згадзіліся. Апроч мяне гэта Алесь Пісьмянкоў, а таксама паэт і празаік П. і З.

Едзем гадзіну, другую. Дзе-нідзе спыняемся, каб крыху адпачыць. Разамнём крыху ногі і зноў у дарогу. А на душы моташна, быццам і не на святочнае мерапрыемства едзем. Прычына зразумелая: усе мы, пра што падзяліліся адзін з адным, за дзень да паездкі, вечарам пабывалі ў якой-небудзь кампаніі. Не грэх было б хоць крыху асвяжыць горла. Ды маўчыць юбіляр. Мы ж саромеемся нагадаць яму пра гэта. Хоць прычына нашага маўчання і ў іншым.

То быў час, калі нетавала прадуктаў. Не на шмат лепшае становішча назіралася і з рознымі «спецыфічнымі» напіткамі. А можа, у пенсіянера і грошай не хапала што-небудзь купіць на дарогу. Таму вельмі ўзрадаваліся, калі прыехалі ў раённы цэнтр. Усе нашы спадзяванні былі на тое, што ў вучылішчы ці тэхнікуме, дзе ладзілася сустрэча, пачастуюць. Канешне, пачаставалі. Але толькі пакармілі, а пра астатняе, што нас гэтак хвалявала, забыліся. Давялося трываць далей, а гэта ці не да самага вечара.

Наведаліся мы ў родную вёску П., пазнаёміліся з яго раднёй, выступілі ў вясковым клубе. Нарэшце, даведваемся, што неафіцыйная частка будзе ладзіцца ў чырвоным кутку мясцовай малочна-таварнай фермы. Пасля такой весткі настрой у нас адразу ўзняўся. Сумнявацца, што там нас чакае «лячэнне», не выпадала.

Сапраўды, усё адбылося, як і мае быць. Застолле зацягнулася да позняга вечара. На добры лад, дык і разыходзіцца пара. Толькі дзе там! Такая гаварыльня пачалася, быццам кожны да гэтага некалькі дзён маўчаў. У мяне ж такі характар: дзе б ні быў, але абавязкова хочацца, каб любое, нават самае прыемнае мерапрыемства, скончылася як мага хутчэй. Аднак колькі ні спрабую нагадаць, што трэба ехаць у гасцініцу, усе нуль увагі. Ад няма чаго рабіць, выходжу з пакоя, дзе былі накрыты сталы, і раптам у калідоры мой позірк спыняецца на выключальніку.

Нечакана ўсплылі ў памяці гады вучнёўства. На той час наша вёска поўнасцю яшчэ не была электрыфікавана, а святло правялі толькі ў некалькі хат, якія знаходзіліся на вуліцы, што вяла да будынка, у якім ахалоджвалі малако. Рабілася гэта пры дапамозе матора малой магутнасці на бензіне, які звычайна ў поўнач спынялі, каб раніцой завесці яго зноў. Маланкава мільгнула думка, а што калі і тут святло на ферму паступае па такім прынцыпе.

Падышоў да выключальніка, агледзеўся па баках, ці няма каго-небудзь паблізу, і націснуў на яго. Святло на ферме імгненна пагасла. Пасля гэтага я зноў уключыў яго і выключыў. Як і ў нас у вёсцы, зрабіў гэта тройчы, і адразу ж накіраваўся назад, дзе працягвалася застолле. Бачу: загадчык фермы, падняўшыся, звяртаецца да ўсіх, хто за сталом:

— Прабачце, пасля такога папярэджання ў нас падачу электрычнасці спыняюць, таму прапаную «аглаблёвую».

Якраз тое, чаго я з гэткім нецярпеннем чакаў. Аднак ні тады, ні па дарозе назад так і не прызнаўся, што менавіта я і прыспешыў з'яўленне «аглаблёвай». Калегі-пісьменнікі маглі б зразумець няправільна. Чалавек жа на падпітку — гэта... Гэта чалавек, якому заўсёды мала. Дый пазней, у Мінску ўжо, пра гэта расказаў толькі Пісьмянкову. Сам жа юбіляр прызнаўся ва ўсім нам па дарозе дамоў. У чым, гадаеце, мог прызнацца П.? Ды ў тым, чаму гэта на працягу ўсёй доўгай паездкі на ягоную радзіму доўжыў нашы пакуты. Падсвядома. Адбылося гэта з-за таго, што абодва бакі: адзін бок — мы, другі — ён, не змаглі прачытаць думкі адзін аднаго.

Мы, паколькі П. не прапаноўваў падсілкавацца, а то і выпіць крыху, думалі, што ён з сабой нічога не ўзяў. Сам жа П, пераканаўшыся, што мы пра якінебудзь пачастунак не напамінаем, сышоўся на тым, што ў гэтым няма ніякай неабходнасці.

## На закуску... кроў

Еду са Светлагорска. Гасцяваў у сваёй малодшай сястры. Яно, канечне, можна было пагасцяваць і лепш, ды сястра паставіла ўмову, каб не спакушаў яе мужа. Давялося згадзіцца, бо апошнім часам ён злоўжываў спіртным, ды, нарэшце, за розум узяўся. Паколькі сам медык, то ў ніякія спосабы пазбаўлення ад алкагольнай залежнасці не верыць. Прынамсі, не верыў ва ўсе тыя, што былі ў васьмідзясятыя гады мінулага стагоддзя, а пра гэты перыяд я і расказваю. Таму ён сабраў сваю волю ў кулак і… не п'е, бо яго дома ніхто не спакушае.

Не збіраўся спакушаць яго і я, бо не мог не паслухацца сястры. Аднак у адрозненне ад яе мужа ў мяне сіла волі куды слабейшая. Магу трымаць яе ў сваім вялізным кулаку — кажуць, якога памеру кулак, такога і сэрца, у такім разе яно ў мяне вялізнае. — Але сіла волі звычайна дзейнічае да таго часу, пакуль вып'ю толькі грамаў сто. Далей магу зрабіць сабе паслабленне, а, значыць, прапаную выпіць і сястрыному мужу.

Ён, добра ведаючы пра гэта, усё спрабаваў угаварыць мяне паўтарыць дозу. З тым разлікам, што, калі я вып'ю яшчэ сто грамаў, забуду пра дадзенае слова. Таму і яму налью сто грамаў. Ды не тут было. Я трымаўся мужна: сто і досыць. Калі падымаўся з-за стала, сястра мая нарадавацца не магла. Не парушыў я слова, дадзенага ёй, і назаўтра раніцой, калі збіраўся ў Мінск. Так узрадавалася, што нават дазволіла мужу правесці мяне на аўтавакзал.

Нарэшце падышоў аўтобус Хойнікі—Мінск. Развіталіся… Пасажыраў у салоне аказалася няшмат і я, сеўшы ззаду, каб ніхто не перашкаджаў, заглыбіўся ў свае думкі. Яны чамусьці сыходзіліся на адным: як быць. Зразумела, першы прыпынак — Парычы адпадалі, бо там ніякага людскага буфета і ў паміне не было. Чаго не скажаш пра Бабруйск. Там, пры жаданні, абавязкова што-небудзь можна знайсці. Дый слова, дадзенае сястры, на Бабруйск не распаўсюджвалася. З упэўненасцю, што Бабруйск — горад піўны, я і пачаў чакаць прыезду ў яго.

Па прыбыцці аўтобуса, я, не доўга думаючы, спачатку пайшоў у вакзальны буфет, з перакананасцю, што калі там нічога не знайду, падацца ў бліжэйшы магазін. Часу ставала, бо аўтобус стаяў у Бабруйску каля паўгадзіны. Але нічога шукаць не давялося, бо хутка нос у нос сутыкнуўся з вядомым празаікам С.

— Адкуль? — ці не ў адзін голас запыталіся мы адзін у аднаго.

Высветлілася, што С. у больш выгадным становішчы, бо ехаў ад сваіх бацькоў, якія жылі ў суседнім з Бабруйскім раёне. Калі я сказаў С., што сарвала мяне з цёплага і ўтульнага месца ў аўтобусе, ён засмяяўся:

— Ніякіх праблем. Мне ж мама на дарогу дала.

Ён не ўдакладняў, што мама дала яму, бо і так было зразумела. Вядома, пасля пачутага я спыніў усялякія пошукі і мы пайшлі ў аўтобус. Аднак, калі аўтобус ўжо крануўся, пашкадаваў, што не збегаў у вакзальны буфет. Канечне, мама дала С. з сабой тое, што мяне цікавіла. Дала з сабой і шматок свежага сала. Але ў С. не аказалася нават якой-небудзь скарынкі, не кажучы пра іншую закусь. Настрой у мяне адразу сапсаваўся, што не прайшло незаўважным для С.

— Чаго гэта ты раптам «приуныл»? — засмяяўся ён.

— Я ж не магу піць, калі нічога няма для закусі.

— Інтэлігент, — асуджальна паглядзеў на мяне. — Я табе магу паказаць, як гэта робіцца.

На той час С. добра піў, гэта цяпер ужо гадоў ці не дваццаць ён моцна трымае сваю волю ў кулаку. Таму я не сумняваўся, што ён лёгка правядзе для мяне паказальны ўрок. Аднак С. не ведаў яшчэ аднаго. Калі ўбачу, як гэта ён будзе рабіць, у мяне адразу можа з’явіцца агіда да спіртнога. Пра што і сказаў яму.

— Атрымліваецца, што ўсё ж ты павінен піць першы, — прыйшоў ён да высновы.

— Але як? — гэтае пытанне я задаў не яму, а сабе. Сам хуценька пачаў шукаць на яго і адказ. Нарэшце запытаўся ў С.: — А сала смалёнае?

— Свежае, — пачулася ў адказ, — я ж табе казаў.

— То, можа, маці твая хоць крыху яго пасаліла, — я не страчваў надзеі.

— Ды не саліла, — С. паглядзеў на мяне: — А якая табе розніца?

— Я б узяў крыху на язык солі і ўсё ў парадку.

— Ты не жартуеш? — здзівіўся С.

— Якія могуць быць жарты, — адказаў я. — Пасля солі, не задумваючыся, магу выпіць.

— Няма солі, — уздыхнуў С.

— А ты ўсё-такі пакажы мне кавалак сала, — папрасіў я.

— Няўжо свежага адкусіш? — не паверыў С.

— Не, са свежым не магу, а з …

Убачыўшы кавалак свежага сала, я ўзрадаваўся. У адным месцы скурка была ў крыві.

— Хутчэй налівай, — папрасіў я С.

— Дык і шклянкі няма, — разгубіўся той.

— Тады з пляшкі.

Узяўшы ў яго пляшку, я хуценька правёў пальцам на тым месцы сала, дзе была кроў, лізнуў палец і, як нічога і не было, зрабіў некалькі глыткоў.

— А ты сапраўды інтэлігент? — С. не хаваў свайго захаплення. — Праўда, — сказаў ён, — мы — людзі простыя, таму і без крыві можам абысціся.

Наступныя глыткі я ўзяўся рабіць стоячы на праходзе ў аўтобусе. Бо так было зручней. Аднак не паспеў я прыкласціся да рыльца бутэлькі, як на ўвесь аўтобус пачуўся незадаволены голас вадзіцеля:

— Не напіцеся, як гэты, а то і вас у Мінску не разбуджу.

Прабачце, забыў сказаць, што з Хойнікаў у Бабруйск ехаў адзін п'яны і вадзіцель па прыездзе ў Бабруйск, як ні стараўся, так і не змог яго разбудзіць. Махнуўшы рукой, ён сказаў:

— Чорт з табой, едзь да Мінска. «Заспяваеш», калі трэба будзе назад вяртацца.

Дарэчы, той п'яны, не здагадваючыся, што даўно праехаў Бабруйск, працягваў спакойна спаць.

— Мы не такія, — паспяшаўся запэўніць вадзіцеля С..

— Мы інтэлігенты, — дадаў я.

Вадзіцель на гэта нічога не адказаў. Дый ён, бадай, за нас надта не турбаваўся, бо паводзілі мы сябе ціха. Калі ж бутэлька была выпіта, я пацікавіўся ў С.:

— А заўтра блага не будзе? Усё ж без закускі…

— Пра што гаворка? — шчыра здзівіўся С., — мама ж спецыяльна для мяне гнала. Нейкія травы дадавала.

Назаўтра я сапраўды адчуваў сябе так, быццам нічога ў рот і не браў. Вось што значыць па-сапраўднаму народны рэцэпт. Паўплывала на настрой, безумоўна, і таварыскасць, кампанейскасць С. Нездарма ў народзе кажуць: «Добрае слаўцо лепш за піўцо». А калі гэтае самае «піўцо» ды з добрым слаўцом, а яшчэ з добрым чалавекам, то нічога не скажаш — выдатна.

З гэтай сваёй звычкай хоць што-небудзь, нават самае нечаканае, узяць на зуб перад тым, як выпіць чарку, калі няма ніякай закускі, я сутыкаўся не аднойчы. Штосьці забылася, але ў памяці застаўся яшчэ адзін выпадак, калі давялося шукаць што-небудзь, каб замарыць чарвячка. Звязаны ён з маім дзяжурствам так званым свежым вокам па «ЛіМе».

Прыйшоў тады на дзяжурства чамусьці і галоўны рэдактар. Не першы, а другі Ж. Чаго завітаў я запамятаваў, бо на той час па нумары дзяжурылі звычайна загадчык аддзела і хто-небудзь з супрацоўнікаў — адпаведна галоўны дзяжурны і свежае вока. Але, мабыць, быў нейкі адказны нумар, таму што на дзяжурстве быў яшчэ і адказны сакратар С. Паколькі ў дзяжурным пакоі месца ўсім неставала, то Ж. узяў ключы ад кабінета ў Т., які загадваў аддзелам літаратуры і мастацтва ў «Звяздзе», а ў той дзень па нейкай прычыне не працаваў. Туды я і насіў паказваць палосы.

Адзін раз заходжу, другі. Гляджу Ж. не адзін, а разам з адказным сакратаром С. Першы раз нічога падазронага не заўважыў, а другім бачу: штосьці абодва нейкія ажыўленыя. Аднак падумаў, што гэта падалося. Аднак калі зайшоў трэці раз, упэўніўся, што не памыліўся. Дый Ж. кажа:

— Грамаў сто засталося, то калі хочаш...

—Але ж я — свежае вока, — жартую.

— Лічы, што табе галоўны рэдактар загадаў, — засмяяўся Ж. і налівае мне сто грамаў гарэлкі.

— А чаго-небудзь няма…

Ж. не даў дагаварыць і гэтаксама, як некалі ў аўтобусе С., асуджальна паглядзеў на мяне:

— Інтэлігент знайшоўся...

Я паўтарыў, што, калі чаго-небудзь не знайду на зуб, не змагу выпіць.

— Нічога не засталося, — сказаў быццам вінавата Ж., — Хіба што ў стале Т. што-небудзь ёсць, — ён адчыніў шуфляду і ўзрадаваўся: — На дне шклянкі цукар застаўся. Пойдзе?

— Канечне, — адказаў я, апускаючы палец у шклянку. Узяўшы на яго крыху цукру, я паўтарыў тое, што рабіў у аўтобусе, калі закускай для мяне стала кроў, якая запяклася на сале.

## Герой за нас гарой

Жыў у горадзе Глыбокім цікавы паэт Тамаш Ляшонак. Па сваёй асноўнай прафесіі — узначальваў раённыя энергасеткі — быццам і далёкі быў ад паэзіі, але вершы пісаў цудоўныя. На жаль, будучы чалавекам сціплым, не надта спяшаўся друкаваць іх. Таму ў Мінску і даведаліся пра яго толькі тады, калі ягоны ўзрост ужо набліжаўся да шасцідзесяці. Затое першая кніжка Тамаша Васільевіча «Запознены дар», якая стала свайго роду і выбраным, была прыхільна сустрэта і крытыкай, і чытачамі. Таму і вырашана было прэзентацыю яе правесці ў Глыбокім акурат у дзень 60-годдзя аўтара. Сам юбіляр ахвотна пайшоў насустрач.

У Глыбокае паехала прадстаўнічая пісьменніцкая дэлегацыя, у складзе якой быў народны пісьменнік Беларусі Іван Шамякін, што, безумоўна, надавала гэтаму мерапрыемству яшчэ большую вагу. Вечар прайшоў вельмі хораша і, па ўсім адчувалася, прынёс вялікае задавальненне віноўніку ўрачыстасці. Зразумела, не абышлося і без неафіцыйнай часткі, якая гэтаксама прайшла хораша, а юбіляр пачуў у свой адрас нямала цёплых і заслужаных віншаванняў. Але, якім бы радасным ні было свята, яно, як вядома, рана ці позна, але абавязкова завяршаецца.

Урачыстасці з нагоды 60-годдзя Ляшонка скончыліся позна. Ад’язджаць не хацелася, але ад’язджаць трэба. Праўда, вярталіся не з пустымі рукамі: на дарогу нам далі вялізную бутлю віна, што выпрабляецца на мясцовым заводзе. Канечне ж, не «чарніла», якое паступае ў магазіны, а такога, што разлічана для ўласнага спажывання, ці для шаноўных гасцей. Паколькі мы гэтым разам былі «свае», то нам і адпаведны прэзент. А гэты прэзент, вядома, такі, калі толькі ўспомніш пра яго, то адразу хочацца спыніць машыну. Зразумела, для таго, каб пакаштаваць віна. Праўда, спачатку задавальняліся тым, што пускалі шклянку па кругу ў салоне аўтобуса.

Між тым ужо і ноч наступіла. Тады нехта з нас і прапанаваў спыніцца і выпіць, як кажуць, па-людску. Іван Пятровіч гэтую ідэю ўхваліў, толькі папрасіў, каб доўга не затрымліваліся. Разам з усімі, калі машына спынілася, выйшаў на ўзбочыну. А цёмна так, што нічога не відаць. Таму, каб зручней было, папрасілі вадзіцеля ўключыць у салоне святло, а ззаду машыны, проста на асфальце паставілі шклянкі па колькасці чалавек. Наліваць узяўся я. Але паспрабаваў — нічога не атрымліваецца. Бутля вялізная, паспрабуй патрапіць у шклянку, каб не праліць ні кроплі. Шамякін, заўважыўшы, што я маруджу, выказаў незадавальненне:

— Давай хутчэй, а то і так позна ўжо.

— Не атрымліваецца, Іван Пятровіч, — кажу. — Няхай хто-небудзь мне шклянкі падае, зручней будзе наліваць.

Толькі прамовіў я гэта, як нечакана з цемры вынырнула машына, з якой, быццам тыя ганчакі, выскачылі два міліцыянеры з дубінкамі. Яшчэ гэтага не хапала?! Але як хутка яны выскачылі, гэтаксама хутка і запаволілі свае крокі:

на грудзях Шамякіна ззяла Зорка Героя Сацыялістычнай Працы. Хутчэй за ўсё нават не толькі яна ўразіла іх. Міліцыянеры не маглі не пазнаць народнага пісьменніка. Дарэчы, так адбылося і тады, калі ехалі ў Глыбокае. Патрульны, спыніўшы нашу машыну, каб праверыць у вадзіцеля дакументы, быў вельмі ўражаны, калі ў салоне ўбачыў Івана Пятровіча. Ён нават разгубіўся. Калі ж Шамякін падпісаў яму сваю кнігу, з радасцю прамовіў:

— Скажу сябрам, як гэта адбылося, вельмі здзівяцца.

Тым больш здзівіліся такой сустрэчы гэтыя міліцыянеры.

— Вы уж извините, пожалуйста, — сказаў адзін з іх. — Проезжая мимо, мы не могли не остановиться. Понимаете, здесь такой порой опасно даже ездить. Тем более — останавливаться. Может проведем вас к нашему посту?

Ад падобнай прапановы мы, канечне, адмовіліся. Падзякавалі міліцыянерам за такое клопатнае стаўленне іх да нас. Хуценька выпілі крыху віна і прадоўжылі свой шлях у Мінск. На жаль, у Івана Пятровіча ўжо не засталося ніводнай кнігі, каб падпісаць нашым дабрадзеям — усе раздарыў чытачам на вечары Ляшонка. Хоць ні ў кога з нас не заставалася сумнення, што калі б яны не ўбачылі Шамякіна, проста так ад іх мы наўрад ці адкараскаліся б. Усё ж на дварэ быў толькі 1995 год, і пакуль парадак у органах унутраных спраў, як і ў іншых сферах дзяржаўнай улады, канчаткова не навялі.

## Такія вось спіртовыя справы

Было гэта падчас адной з камандзіровак. Вярталіся познім вечарам. За размовамі час бег непрыкметна і хутка. Толькі калі ўжо ўехалі ў Мінск, вадзіцель нечакана спахапіўся:

— Ой, забыў сказаць, што на дарогу нам далі некалькі бутэлек ці то мінералкі, ці то нейкага безалкагольнага напітку.

Паколькі справа была зімой, а такой парой, як вядома, піць не надта хочацца, не сталі яго папракаць, чаму не сказаў пра гэта раней.

— У такім разе, — прапанаваў я, — падзелім пароўну.

— Можаш сабе і больш узяць, — кажа галоўны рэдактар. — Такога дабра і ў магазіне хапае.

— Даронаму каню ў зубы не глядзяць, — прыгадаў я вядомую прымаўку. — Магу і ўзяць.

Прыпыніліся, выйшлі з машыны. Вадзіцель адкрыў багажнік. У ім аказалася бутэлек шэсць ці сем. І ўсе аб'ёмныя: некалькі літровых, астатнія паўлітровыя. Пачалі разглядаць этыкеткі. Паколькі падсветкі ў багажніку не аказалася, з цяжкасцю пераканаліся, што ў большасці іх аказалася мінеральная вада «Мінская-4». Аднак у некаторых была «Дарыда», але не толькі мінералка, а і падсалоджаная вада. Не памятаю ўжо з якім водарам. Хоць гэта і не так істотна. Але, тым не менш, калі пачалі дзяліць гэты дарунак, то я ўсё ж узяў адну бутэльку такой вады. Падумалася: малодшы сын не будзе яшчэ спаць, а паколькі ён на той час вучыўся ў малодшых класах, то чаму б яго не пачаставаць... Галоўны рэдактар жа абмежаваўся бутэлькай ці то «Мінскай-4», ці то «Дарыды», прытрымліваючыся той думкі, якую выказаў яшчэ ў салоне машыны:

— Мне шмат не трэба.

Тое, што засталося, я падзяліў з вадзіцелем.

Як і меркаваў, па прыездзе дамоў упэўніўся, што малодшы сын яшчэ толькі збіраўся класціся спаць. Я, нават не распранаючыся, хуценька пайшоў на кухню, каб наліць яму шклянку напітку. Зразумела, узяў не бутэльку з мінералкай,

а тую, у якой была падсалоджаная вада. На маё здзіўленне, корак адкруціўся вельмі хутка. Адчуванне было такое, што бутэльку ўжо адкрывалі. Гэта мяне насцярожыла. Западозрыўшы няладнае, я паднёс рыльца яе да носа. Не паспеўшы панюхаць, каб упэўніцца, што ўсё ж знаходзіцца ў гэтай бутэльцы, як адчуў спецыфічны пах. Сумнення не заставалася: бутэлька была напоўнена спіртам. Канечне, і ўсе астатнія. Я жахнуўся: што б было, калі б, не звярнуўшы ўвагі на тое, бутэлька закрыта няшчыльна, наліў бы з яе напою ў шклянку і даў сыну. Па спіне прабег халадок. Без выкліку хуткай дапамогі наўрад ці абышлося б. Ды добра, што ўсё добра скончылася.

Раніцой жонка паведаміла мне:

— Чагосьці ў гадзін дванаццаць ночы тэлефанаваў табе твой галоўны, — і ўсміхнулася: — Няўжо ў дарозе не нагаварыліся?

Я нічога не адказаў, хоць пачаў здагадвацца ў чым прычына такога позняга званка ад галоўнага рэдактара. Прадчуванні мае апраўдаліся. Як даведаўся пасля прыходу на работу, ён захацеў па прыездзе выпіць крыху мінералкі. У адрозненне ад мяне, не звярнуў увагу на тое, што вінтавы корак адкрываецца надта лёгка. Наліўшы мінералкі ў шклянку, зрабіў глыток і папярхнуўся.

Мне нічога не заставалася, як папрасіць у яго прабачэння.

— За што? — здзівіўся ён.

Я расказаў, як збіраўся напаіць напіткам сына і дадаў:

— Трэба ж было мне папярэдзіць.

Толькі яму было не да таго, каб крыўдаваць, бо яго непакоіла цяпер іншае.

— Шкада, што толькі адну бутэльку сабе ўзяў, — уздыхнуў ён роспачна. — У мяне на дачы летам, дый пад восень шмат ягад. Столькі настойкі мог бы зрабіць з іх.

Гэтыя ягоныя словы я прапусціў міма вушэй, бо, як вядома, пасля бойкі кулакамі не махаюць. Цяпер жа дзяліцца з ім «мінералкай» у мяне не было ніякага жадання. Як і ў нашага вадзіцеля, як даведаўся я пазней. А мо і трэба было мне ўсё ж аддаць галоўнаму адну бутэльку спірту. Для сваёй жа карысці. Толькі тады я, безумоўна, і не мог падумаць, які сюрпрыз можа паднесці мне гэты дармовы спірт.

Аднак адбылося гэта толькі праз некалькі месяцаў. Спачатку гэтым дарункам я шчодра падзяліўся са сваякамі — навошта купляць у аптэцы спірт для націрання, для дэзынфекцыі раны ці пры ўколах, калі пітны — самай высокай якасці. Тое, што засталося, разліў у паўлітровыя бутэлькі. Адна з іх была з-пад гарэлкі. Корак жа у такіх бутэльках, у чым маглі ўпэўніцца тыя, хто не з'яўляецца цвярознікам, часам адкручваецца так, што лёгка знімаецца з самой асновай корка без парушэння насечак. Калі пасля гэтага зноў закруціць бутэльку, то адчуванне такое, што яна ніколі не адкрывалася. Апошняе і падвяло мяне.

Паколькі спірт, нават разбаўлены для душэўнага сугрэву, я амаль ніколі не ўжываю, то гэтыя бутэлькі і стаялі спакойна. Праўда, неяк са здзіўленнем для сябе заўважыў, што няведама адкуль узялася ў мяне пляшка з брэсцкай гарэлкай. Як ні сіліўся, ніяк не мог успомніць, калі я купіў. Дый стаяла яна чамусьці поруч з бутэлькамі, у якіх знаходзіўся спірт. Падумалася: то хай і стаіць, месца шмат не займае. Калі трэба выпіць сто грамаў для расшырэння сасудаў, ёсць і іншыя напоі. Дарэчы, каб дакладна наліваць неабходную дозу, старэйшая сястра прыдбала мне для гэтага мензурку. А што — вельмі зручна. Адмераў сто грамаў і ніякіх праблем.

Тым вечарам я вярнуўся дахаты пазней звычайнага. На добры лад, то ніякія сто грамаў ужо не патрэбны былі. Тым больш, што ў хаце гэтым разам спіртнога — ні кроплі. За выключэннем, зразумела, спірту. І тут я ўспомніў

пра пляшку брэсцкай гарэлкі, якая з'явілася невядома адкуль. Так і быць. Бяру мензурку і... Яна нечакана падае на падлогу і разбіваецца ўшчэнт. Гэта прытым, што падлога пакрыта лінoліўмам, мензурка лёгкая.

У гэтым момант не мог паверыць у тое, што тым самым пададзены мне нейкі знак. Напамінак, што не трэба адкрываць гэтую бутэльку. Толькі дзе там, я ўжо не мог спыніцца! Пайшоў на кухню, узяў шклянку. Вярнуўшыся з ёю, дастаў бутэльку з брэсцкай і наліў прыкладна сто грамаў якіх мне так нестава-ла. Чамусьці інтуітыўна ўдыхнуўшы паветра, я адным глытком выпіў іх.

Калі б хто-небудзь назіраў за мной у гэты момант, ён, бадай, падумаў бы, што я звар'яцеў. Я сударгава выдыхаў і ўдыхаў паветра і стрымгалоў імчаўся на кухню. Крыху прыйшоў у сябе толькі пасля таго, як выпіў паўшклянкі вады. Аказваецца, мензурка разбілася зусім невыпадкова. Я не павінен быў адкрываць тую бутэльку, бо у ёй аказаўся.... спірт. Мною ж наліты, пра што я, аднак, забыўся.

Назаўтра мне было так блага, што не змог піць нават мінералку. Сапраўдную, зразумела. Не кажучы пра тое, што ў рот не лезла ніякая ежа. Дый нават ад думкі, што можна неяк падлячыцца, станавілася не па сабе.

## З «Чырвонкай» — піць не горка

Калі праходзіў вытворчую практыку ў «Чырвонай змене», прыязныя адносіны склаліся ў мяне з загадчыкам аддзела літаратуры, у якім я і практыкаваўся, і з ягоным сябрам, навуковым супрацоўнікам Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы Акадэміі навук БССР, які часта заходзіў да яго.

Некалькі разоў хадзілі разам на Камароўку. Не дзеля таго, каб купіць там якіх-небудзь прадуктаў, а каб выпіць віна. Тады яно прадавалася там з вялізных бочак: ці то малдаване прывозілі, ці то грузіны, а хутчэй за ўсё і першыя, і другія, бо такога дабра ў іх заўсёды хапала. Немалаважна і тое, што шклянка віна на Камароўцы каштавала вельмі танна, у пераліку на бутэльку атрымлівалася танней, чым у магазіне. Да ўсяго можна было без асаблівых праблем і закусіць, бо ў іншых радах гандлявалі салёнымі гуркамі, памідорамі і шмат чым іншым, што так добра падыходзіць для закускі. Тады цэны не тое, што кусачымі не былі, як сёння, а ўсё каштавала проста нічога. То нярэдка, выпіўшы шклянку віна, ішлі да гэтых гандляроў і яны, не задумваючыся, маглі даць пакаштаваць добры кавалак гурка з разлікам, што калі спадабаецца, то купім кілаграм-другі. Гурок нам, канешне, падабаўся, але дэгустацыя, зразумела, рабілася з іншай нагоды. Таму мы вярталіся да вінных бочак, каб праз некаторы час пайсці і паспрабаваць памідораў. Усё было культурна, ніхто не напіваўся. Аднак, як кажуць, раз на раз не прыходзіцца.

Аднойчы гэты загадчык аддзела і навуковы супрацоўнік прапанавалі пайсці да іх дамоў. Кватаравалі яны ў адным з двухпавярховых дамоў на вуліцы Інтэрнацыянальнай. Ці ў тых, што былі знесены пры ўзвядзенні Палаца рэспублікі, ці з другога боку, дзе старая забудова захавалася, ужо забылася. Паколькі я перад гэтым атрымаў ганарар, то прапанаваў узяць затраты на сябе — чаму б не адзначыць паспяховае праходжанне практыкі. Адзначылі добра. І, як звычайна, таго, што было загадзя куплена, не хапіла. Але бегчы ў магазін не давялося. Мой намер зрабіць гэта спыніў загадчык аддзела.

— Не трэба, — сказаў ёсць, — у нас сваё ёсць.

— Добра, што загадзя купілі, — узрадаваўся я, бо, па праўдзе кажучы, не надта і хацелася бегчы.

— Ды не куплялі яго мы, — удакладніў навуковы супрацоўнік. — Наш гаспадар шмат яго на дачы «націснуў». Чалавек дзелавіты, нішто ў яго не прападае.

Як даведаўся я, сам гаспадар знаходзіўся ў бальніцы. Перад тым, як накіравацца на лячэнне, ён сказаў сваім кватарантам, што могуць, калі з'явіцца жаданне, крыху выпіць ягонага віна. Зразумела, жаданне ў іх было заўсёды, але не хацелі злоўжываць ягонай дабратой. Цяпер жа з'явілася нагода пакарыстацца ёю.

Сядзелі за сталом доўга. З загадчыкам аддзела і навуковым супрацоўнікам, безумоўна, людзьмі загартаванымі ў гэтай справе, якой мы займаліся, я стараўся трымацца нароўні і, як мне здавалася, гэта ўдавалася. Толькі не кажы гоп, пакуль не пераскочыў. Усё ж я аказаўся слабейшым за іх, у чым адразу ўпэўніўся, калі, спусціўшыся на першы паверх, каб ісці дахаты, ніяк не мог знайсці дзверы, што вялі з пад'езда на вуліцу. Давялося званіць у адну з кватэр, каб дапамаглі зарыентавацца.

Аднак назаўтра, як і заўсёды, прачнуўся рана. Не хацелася спазняцца на практыку. Трэба ж так здарыцца, што калі на тралейбусе пад'ехаў да Цэнтральнай плошчы (цяперашняя Кастрычніцкая), на прыпынку ў яго зайшлі загадчык аддзела з навуковым супрацоўнікам. Калі яны ўбачылі ў салоне мне, вельмі здзівіліся.

— Маладзец, — сказаў адзін з іх.

Не паспеў я запытацца, у чым жа праяўляецца гэтае маё малойства, як другі ўнёс канкрэтыку:

— Мы думалі, што ты пасля ўчарашняга цэлы дзень будзеш адлежвацца.

— Молада — не зелена, — засмяяўся я.

Пра гэты выпадак я ўспомніў нядаўна, калі адна маладая пісьменніца адзначала сваё 30-годдзе. Як быццам, гэта і не такая дата, якой трэба надаваць вялікую ўвагу, ды самой ён лепш ведаць. Пасля традыцыйных выступленняў, як і заўсёды, быў накрыты святочны стол. А які святочны стол без.... Гэтым разам былі каньяк і віно. Мужчын, зразумела, больш цікавіў каньяк. Я апынуўся поруч з былым навуковым супрацоўнікам, а сёння слынным навукоўцам.

Да гэтага таксама неаднойчы сустракаліся з ім, але ў такой абстаноўцы — упершыню. А паколькі, як у той рэкламе, «свежее дыхание облегчает понимание», то дыханне каньячнае — тым больш. Калі шмат пра што было сказанаперасказана, я ўспомніў і пра той, болей чым саракагадовай даўнасці выпадак.

— О, дык ты яшчэ не ўсё ведаеш! — ажывіўся знакаміты вучоны.

— У якім сэнсе? — запытаўся я.

— Мы ж тое віно ўсё выпілі.

— Што на стале было?

— Пры чым тут стол? — слынны навуковец засмяяўся. — Наш гаспадар у бальніцы затрымаўся. А неўзабаве ў яго здарыўся інфаркт. На той жа час, як ты ведаеш, гэта найчасцей канчалася смяротным зыходам.

— Сапраўды, — згадзіўся я, — лекі былі не тыя, што сёння, дый то замежных неставала.

— Таму, — працягваў знакаміты вучоны, — мы рашылі, што гаспадар кватэры ўжо не жылец на гэтым свеце. А калі так, то ніякае віно яму ўжо не спатрэбіцца. Адзін раз выпілі за яго здароўе, другі... Не заўважылі, як праз некалькі дзён з запасаў нічога не засталося. А тут...

— Гаспадара выпісалі, — выказаў я здагадку.

— Аняго ж... Мы, канечне ж, узрадаваліся ягонаму вяртанню. Харошы чалавек быў, душэўны. Былы настаўнік... А тут.... — Ён замаўчаў, а потым

дадаў: — Калі прызналіся ва ўсім, не пакрыўдзіўся. Маўляў, з кім не бывае ў маладым узросце.

— Молада — не зелена, — прамовіў я тым жа тонам, як і тады, калі яны напаткалі мяне ў тралейбусе.

— А як жа іначай? — вядомы навуковец засмяяўся.

## Лепшы загар... у бібліятэцы

Сцвярджаць катэгарычна, што менавіта так і было, не магу. Усё ж я не з'яўляўся сведкам гэтага выпадку. Але і сумнявацца ў праўдзівасці яго таксама не выпадае. Бо пачуў пра ўсё гэта з вуснаў свайго добрага сябра, вядомага паэта і празаіка. Дарэчы, ён усяго на адзін дзень маладзейшы. Таму часам жартам называе мяне старэйшым братам. Я ж, адпаведна, звяртаюся да яго як да брата малодшага. Гэты мой малодшы брат у свой час працаваў у рэдакцыі адной з газет на Палессі. І загадчыкам аддзела пісем давялося яму быць, і адказным сакратаром, і нават намеснікам галоўнага рэдактара. У гэтай жа газеце быў і адзін супрацоўнік, які належаў да тых, якія не толькі доўга на адным месцы не затрымліваюцца, але і гатовы, надта не задумваючыся, памяняць прафесію. Дык вось гэты…

Назавём яго С. Гэты самы С. нечакана рашыў, што ад яго будзе куды больш карысці, калі ён развітаецца з журналістыкай і стане загадчыкам сельскай бібліятэкі. Што ж, вольнаму воля. Тым больш, што С. быў халасцяком. Таму ніякай цяжкасці з уладкаваннем на новым месцы не ўзнікла. Сям'ю перавозіць не трэба, а самому лёгка зняць у вёсцы які-небудзь пакойчык. Так і стаў С. загадваць адной з сельскіх бібліятэк у тым жа раёне. Як працаваў ён — добра ці па прынцыпе: абы дзень адбыць, у свайго малодшага брата я не цікавіўся. Дый ён пра гэта расказваць не збіраўся. Расказаў мой малодшы брат іншае.

Аднойчы, будучы ў камандзіроўцы, супрацоўнікі рэдакцыі, сярод якіх быў і мой малодшы брат, успомнілі, што ў адной з вёсак працуе іхні колішні калега. Паколькі вёска гэтая знаходзілася непадалёку ад таго месца, куды яны прыехалі, то і рашылі праведаць С. Зрабіць гэта было нескладана, бо ў іхнім распараджэнні мелася рэдакцыйная машына. Заехалі ў неабходную вёску, спыталіся, дзе знаходзіцца бібліятэка.

Дзень жа быў настолькі спякотны, што да яго падыходзіла вядомае выказванне Уладзіміра Маякоўскага: «В сто сорок солнц закат пылал…» На добры лад, дык паляжаць бы дзе-небудзь на беразе ракі, пазагараць, пакупацца. Аднак работа ёсць работа. Паколькі ж С. быў чалавек дысцыплінаваны, то яны не сумняваліся, што ён на працы. Дый, падыходзячы да бібліятэкі, за некалькі метраў убачылі, што замка на дзвярах няма. Але паспрабавалі іх адчыніць, нічога не атрымліваецца. Яшчэ раз тузанулі — таксама ніякага выніку.

— Яны ж знутры зачынены, — здагадаўся мой малодшы брат. — Паглядзім праз акно, што там робіцца.

Паколькі фіранак на вокнах і ў паміне не было, падышоўшы да аднаго з іх, журналісты без цяжкасці змаглі ўбачыць, што робіцца ў пакоі. Дакладней, у ім нічога не рабілася. Загадчык бібліятэкі С. ляжаў на падлозе. Прытым… у чым яго маці нарадзіла. Прыйшло ў галаву самае страшнае: няйначай іхняга былога калегу нехта забіў. Да ўсяго яшчэ і распрануў дагала. Праўда, адразу ж з'явілася няўвязка: як жа ў такім выпадку можна зачыніць дзверы знутры. Тым часам С., не здагадваючыся, што за ім назіраюць, заварушыўся і лёг на жывот.

— Ён жа загарае! — мільганула думка ў майго малодшага брата.

Тут жа пастукалі ў шыбу. С. уздрыгнуў, але ўбачыўшы былых калег, усміхнуўся і не апрануўшыся, пайшоў адчыняць дзверы.

— Ты што гэта? — былыя калегі, ступіўшы за парог, няўцямна паглядзелі на яго.

— Гы-гы-гы, — пачулася ў адказ. У яго была такая манера выказваць свае эмоцыі перад тым, як сказаць галоўнае. — Нешта не так? — ён не спяшаўся апранацца. — Ужо і пазагараць нельга, — на ягоным твары прачытвалася недаўменне.

— То, можа, хоць апранешся?

— Калі так вам хочацца, — тонам, быццам ён робіць ім ласку, адказаў С. і пачаў нацягваць на сябе штаны. Тым не менш, нібыта ў апраўданне, чаму яго заспелі ў такім выглядзе, патлумачыў:

— Якія чытачы могуць быць у гэты час? — як бы запытаўся С., потым сам жа і адказаў: — Усе ж на рабоце… Гы-гы-гы… Летні ж дзень год корміць, ці не так? Гы-гы-гы… А ў пакоі не прадыхнуць, то я, — працягваў ён свой маналог, — і вырашыў пазагараць… Паколькі ж ніхто не зойдзе, распрануўся дагала. А тут, гы-гы-гы, вы з'явіліся. Расказвайце, што робіцца на рэдакцыйным фронце, — папрасіў ён і, раскрыўшы рот ці не да вушэй, зноў загыгытаў: — Дарэчы, газета ваша мне вельмі прыдалася, — С. паказаў на падлогу.

На падлозе былі раскіданы нумары раёнкі.

— Усё ж на голай падлозе халаднавата, — патлумачыў ён, чаму падаслаў газеты.

## Следства вядуць пакрыўджаныя

Мне ўспамінаецца празаік Д. Праўда, не адзін, а разам з празаікам і нарысістам, адным з самых актыўных прыхільнікаў рабочай тэмы ў беларускай літаратуры М. Прыгадваю гэты выпадак і не нарадуюся за калег па пяры: такім палец у рот не кладзі. Няхай і не ўсё ім належным чынам удавалася ў творчасці, але, пры неабходнасці, знаходзілі выйсце з, здавалася б, невырашальнай сітуацыі.

Было гэта таксама пры Асіпенку. Алесь Харытонавіч, як да яго і Жычка, любіў друкаваць вострыя матэрыялы — такія, якія б выклікалі шырокі рэзананс. Праўда, Асіпенку за гэта хвалілі, а Хведару Дзмітрыевічу даставалася. Маўляў, выбіраў не той аб'ект крытыкі. Як цяпер кажуць, давалі аб сабе знаць двайныя стандарты. Хоць каму крытыка падабаецца? Маю на ўвазе пісьменнікаў, якім выказваюцца, няхай і справядлівыя заўвагі. Не знаходзілі сабе месца і празаік Д. з празаікам і нарысістам М., калі па іх у адным са сваіх артыкулаў прайшоўся той самы крытык Т., якога я ўпамінаў ужо.

Алесь Харытонавіч, загадзя ведаючы, якую рэакцыю гэтая публікацыя выкліча з боку пакрыўджаных пісьменнікаў, прапанаў Т. падпісаць матэрыял не ўласным прозвішчам, а псеўданімам. Што, канечне, і было зроблена. Каб жа ніякай уцечкі інфармацыі наконт гэтага, Асіпенка папярэдзіў супрацоўнікаў рэдакцыі, каб усё трымалася ў тайне. Зразумела, што мы не маглі не паслухацца свайго галоўнага рэдактара. Не збіраўся выдаваць тайну і я. Аднак не толькі таму, што тады працаваў у аддзеле крытыкі і для мяне на першым плане былі рэдакцыйныя справы. На той час меў добрыя адносіны як з Д. і М., так яшчэ і з Т., таму падстаўляць яго не збіраўся.

Тым самым празаік Д. і празаік і нарысіст М. аказаліся ў складаным становішчы. Нясцерпна хочацца даведацца прозвішча свайго «крыўдзіцеля», а намаганні марныя. Як ні стараліся яны, але і я ім нічога не сказаў. Ды нездарма

кажуць: «голь на выдумку хитра». Думалі-думалі празаік Д. і празаік і нарысіст М., як усё ж дапамагчыся, каб тайнае стала яўным, і прыдумалі…

У дзень атрымання ганарару ў касу яны пайшлі ўдвух. Празаік Д., праўда, толькі падмацоўваў ход гэтай аперацыі сваёй прысутнасцю. Быў як бы для падстрахоўкі. Правядзенне ж яе цалкам узяў на сабе празаік і нарысіст М. Падышоўшы да запаветнага акенца, ён паздароўкаўся з касіркай. Вольга Фамінічна, так звалі гэтую жанчыну, грошы выдавала ўжо не адзін дзясятак гадоў, таму добра ведала ў твар сталых наведвальнікаў. Празаік жа і нарысіст М., у адрозненне ад празаіка Д., друкаваўся куды часцей, таму, убачыўшы яго, яна здзівілася:

— Нешта даўно вас не відаць?

Зацікаўленасць сталымі кліентамі ў яе была невыпадковай. Ганарары на той час плацілі немалыя, то многія аўтары звычайна, найперш тыя, хто ведаў касірку, адмаўляліся браць рэшту манетамі, а часам маглі ахвяраваць ёй і рубель-другі. За дзень набіралася даволі значная сума. Гэта стала вядома выпадкова. Пасля таго, як галоўны рэдактар часопіса «Полымя» Кастусь Кірэенка, заўважыўшы дома, што Вольга Фамінічна выплаціла яму большую суму, чым трэба, як чалавек сумленны назаўтра паспяшаўся вярнуць ёй гэтыя грошы. Як жа здзівіўся ён, калі высветлілася, што касірка нават не заўважыла нястачы.

— Даўно не друкаваўся, — адказаў празаік і нарысіст М. на здзіўленне Вольгі Фамінічны. — Затое сёння будзе добрая сума, — ён даў зразумець ёй, што сёе-тое пакіне.

— І ў якой ведамасці шукаць вас? — абрадавалася касірка.

— У «ЛіМе», — як ні ў чым не бывала адказаў М.

Вольга Фамінічна ўважліва прагледзела ведамасць.

— Чамусьці няма вашага прозвішча, — на яе твары з’явілася недаўменне.

— Не можа быць? — шчыра занепакоіўся М. і папрасіў яе: — Калі ласка, яшчэ раз паглядзіце.

— Няма, — зноў пачулася ў адказ. — Мабыць, нешта ў бухгалтэрыі наблыталі, — выказала яна меркаванне.

— То і схаджу ў бухгалтэрыю, — празаік і нарысіст М. па-змоўніцку падміргнуў празаіку Д., які стаў крыху ў баку: усё ішло па задуманым плане.

У бухгалтэрыю зайшлі разам і адразу накіраваліся да стала галоўнага бухгалтара. Тая ніколькі не здзівілася, што па адным і тым жа пытанні звяртаюцца ўдвух: з’ява ў дзень ганарару звычайная. Калі хтосьці атрымліваў грошы, то ягоны сябра (ці сябры) з нецярпеннем чакаў, калі можна будзе пайсці і адзначыць гэта.

Выслухаўшы М. і загадзя папрасіўшы прабачання, галоўны бухгалтар запыталася ў яго:

— У якім нумары вы друкаваліся?

Празаік і нарысіст назваў сваё прозвішча і нумар газеты. Каб доўга не шукаць, удакладніў:

— Глядзіце там, дзе матэрыялы па крытыцы, звычайна пятая-шостая палосы.

— Ды няма вашага прозвішча, — роздумна адказала галоўны бухгалтар.

— Але ж там надрукаваны мой артыкул? Можна, — папрасіў празаік і нарысіст М., — я сам пагляджу.

Галоўны бухгалтар падала яму газету.

— Ведаеш, хто пісаў? — звярнуўся ён да празаіка Д. — Крытык Т.!

— Ну і, Харытонавіч, — засмяяўся той, — думаў, што мы не даведаемся.

У бухгалтэрыі запанавала цішыня. Усім так і карцела даведацца, што маецца на ўвазе. Давялося расказаць…

## Псеўданім — як шмат у гэтым слове

Бадай, няма неабходнасці нагадваць, што такое псеўданім. Тым не менш для недасведчаных патлумачу. Яно састаўное ад *псеўда*... + грэчаскае *onyma*, якое перакладаецца як імя. Псеўданім азначае подпіс ці імя, якімі асоба замяняе сваё сапраўднае прозвішча, альбо імя. Гісторыкі падлічылі, што па колькасці псеўданімаў, бадай, першынствуе Вальтэр — болей за 160. Недзе ў межах сотні іх было і ў класіка марксізму-ленінізму Уладзіміра Ульянава (Леніна). Я, зразумела, не магу параўнацца ні з адным з іх, але што колькасць маіх псеўданімаў прыбліжаецца да ста, магу засведчыць, не крывячы душой. Праўда, улік ім я ніколі не вёў і не вяду, таму дакладная колькасць невядома, бо цягам часу многія самім жа мною забываюцца і ўбачыўшы іх пад якой-небудзь публікацыяй, асабліва невялікай заметкай ці нататкай, ужо сумняваюся я пісаў іх, ці нехта іншы. Але нават Янка Саламевіч, які займаўся даследаваннем псеўданімаў, налічыў іх у мяне шмат дзясяткаў. Зразумела, не без маёй дапамогі.

У савецкія часы карыстаўся я імі часцей не па сваёй волі. Пільнае ЦК, правільней, сектар літаратуры ўважліва сачылі за тым, каб адныя і тыя аўтары ў выданнях, у якіх яны працуюць, часта не друкаваліся. Дый знаходзіліся «дабрадзеі», якія слалі «наверх» ананімкі. Маўляў, злоўжываюць сваім службовым становішчам, а з-за гэтага няштатныя аўтары не могуць надрукавацца. Таму, каб далей ад граху, і даводзілася карыстацца псеўданімамі. Цяпер жа часам наўмысна стаўлю новы псеўданім, каб павялічыць іх колькасць.

Абставіны ж з'яўлення ці не першага псеўданіма такія. Трапіўшы па размеркаванні ў рэдакцыю драгічынскай раённай газеты «Запаветы Леніна», літаральна ж у першыя дні працы даў сабе слова: абавязкова вырвуся ў Мінск. У крайнім выпадку адпрацую неабходныя па размеркаванні два гады. Так і нарадзіўся псеўданім Е. Дромін, што азначала: еду Драгічын—Мінск. Праўда, як няцяжка заўважыць, давялося Драгічын, замяніць на Дрогічын, але гэтак, калі на тое пайшло, назва гучыць па-руску. Праўда, у рэдакцыі засумняваліся, маўляў, у беларускай мове няма імя на «е». Чаму няма, запярэчыў я, а Еўдакім Раманаў? Тым самым усе сумненні былі зняты. Так і сталі друкавацца ў «Запаветах Леніна» матэрыялы нейкага Е. Дроміна. Гэты псеўданім мне так спадабаўся, што нават працуючы ў «ЛіМе», нярэдка карыстаўся ім. Дый цяпер, хоць і рэдка, можа з'явіцца такое жаданне.

Менавіта ў «ЛіМе» ўтварэнне псеўданімаў мною было пастаўлена ледзь не на паток. Кім толькі я не быў: Ігарам, а потым Алесем Вішнеўскім (Вішнеўская — маміна прозвішча), А. Беразоўскім (Беразоўскія ёсць у бабулiным родзе), А. Чайкоўскім (таксама адштурхоўваўся ад бабулінага роду), А. Казлоўскі, бо родам з вёскі Казловічы Слуцкага раёна. А. Ан-евіч — Алесь Андрэевіч. Потым пачаў ужываць у якасці псеўданімаў прозвішчы, якія былі ў сапраўднасці. Яшчэ пазней у сапраўдным прозвішчы мяняў адну літару. Напрыклад, замест Віктара Гайсёнка на старонках «ЛіМа» з'явіўся Віктар Вайсёнак. Калі крыху перайначыш і імя, то замест Леаніда Юнчыка пачаў друкавацца ў «ЛіМе» Лявон Юрчык.

Цікавая гісторыя адбылася ў мяне з псеўданімам Язэп Літвіновіч. Упершыню я ўжыў яго, пішучы артыкул пра Адама Мальдзіса ў сувязі з адным з ягоных юбілееў. Імя Язэп узяў невыпадкова — Язэпам завуць вядомага даследчыка беларускай літаратуры Язэпа Янушкевіча, які раскрыў у яе гісторыі шмат белых плям. Гэтым жа паслядоўна і мэтанакіравана займаецца і Адам Іосіфавіч. Абодва — і Мальдзіс, і Янушкевіч — маюць дачыненне і да таго перыяду

ў гісторыі Беларусі, калі не было яшчэ беларусаў, а былі літвіны. Таму псеўданім Язэп Літвіновіч і быў узяты з прыцэлам, каб Адам Іосіфавіч падумаў, што пра яго пісаў менавіта Янушкевіч.

Задумана — зроблена. Калі ж ёсць пачатак, то мусіць быць і працяг. Праз некаторы час у «ЛіМе» зноў з'явіўся матэрыял Язэпа Літвіновіча, потым яшчэ… Але цяпер гэтым псеўданімам я карыстаўся і тады, калі рэцэнзаваў якую-небудзь кнігу, якую сам Янушкевіч наўрад ці ўзяўся б аналізаваць. Тое ж тычылася і творчага партрэта якога-небудзь пісьменніка. Рэакцыі з боку Я. Янушкевіча, аднак, ніякай не было. У мяне ўжо з'явілася думка, што, можа, хтосьці з супрацоўнікаў «ЛіМа» рассакрэціў гэты псеўданім, таму Я. Янушкевіч на яго ніяк і не рэагуе. Аказваецца, наконт «засакрэчанасці» гэтага псеўданіма ўсё ў парадку. Пра гэта я даведаўся ад самога Янушкевіча.

— А ці не ведаеш ты, хто такі Язэп Літвіновіч, — запытаўся ён аднойчы ў мяне.

— А хіба гэта не ты? — я зрабіў выгляд, што ніякага дачынення да гэтага псеўданіма не маю.

— Прычым тут я? — Янушкевіч выказаў недаўменне. — Ты як той Адам Іосіфавіч…

Я адразу здагадаўся, што ён мае на ўвазе Мальдзіса.

— І што ён табе кажа?

— Спачатку падзякаваў за юбілейны артыкул пра яго. А потым, калі пачалі з'яўляцца пад гэтым псеўданімам іншыя матэрыялы, здзівіўся, чаму гэта я не падпісваю іх сваім уласным прозвішчам, — Язэп уважліва паглядзеў мне ў вочы і па-змоўніцку запытаўся: — А можа, Язэп Літвіновіч — гэта ўсё-такі ты?

— Павер, не я, — я так даверліва паглядзеў на яго, што ён не мог сумнявацца ў маёй шчырасці.

Магчыма, гэты псеўданім яшчэ доўга не быў бы рассакрэчаны, калі б я не пачаў расказваць пра тое, як успрымаюць Язэпам Літвіновічам Язэпа Янушкевіча. Вось тут і адбылася ўцечка інфармацыі. Пры чарговай сустрэчы ён, працягваючы мне руку, засмяяўся:

— Здароў, Язэп Літвіновіч.

Адпірацца далей не мела сэнсу. Але Янушкевіч нішколькі не пакрыўдзіўся за тое, што я так доўга па сутнасці вадзіў яго за нос. Чаго не скажаш пра аднаго маладога пісьменніка. Дастаткова толькі было мне падпісаць адзін са сваіх матэрыялаў псеўданімам Б. Ятровіч, як ён, чамусьці пазнаўшы ў гэтым прозвішчы частку свайго псеўданіма, узняў самы што ні ёсць лямант. Давялося адмовіцца ад гэтага псеўданіма — чым бы дзіця не цешылася, абы не плакала.

Дарэчы, ёсць няпісанае правіла, якое заключаецца ў тым, што не этычна выкарыстоўваць у якасці псеўданіма прозвішча вядомага чалавека, а тым больш не толькі ягонае прозвішча, а і сапраўднае імя. Аднак аднойчы я пайшоў на гэта. Правільней, вымушаны быў пайсці. У 1975 годзе ў «Бібліятэцы часопіса «Вожык» рыхтавалася да друку першая кніга гумару і сатыры Аляксандра Капусціна. Ён, працуючы тады намеснікам галоўнага рэдактара «ЛіМа», папрасіў напісаць да яе прадмоўку, бо так традыцыйна прадстаўлялі кожнага аўтара. Але хто я быў на той час? Звычайны пачынаючы крытык. Кніг не выдаў, ніякіх званняў не атрымаў, у Саюз пісьменнікаў БССР не быў прыняты і нават не паклапаціўся аб членстве ў Саюзе журналістаў.

Паколькі ў нас з Аляксандрам Пятровічам вялікіх сакрэтаў не было, я ўспрымаў яго не толькі, нават не столькі начальнікам, колькі старэйшым таварышам, то пачалі думаць, як выйсці са становішча. У рэшце рэшт спыніліся на тым, што прадмоўку напішу я, а прозвішча паставім Мікола Гамолка. Да-

ведаўшыся аб гэтым, Мікола Іванавіч ахвотна згадзіўся. Тым больш, што з Капусціным яны сябравалі.

Калі кніжка пабачыла свет, паколькі ў рэдакцыі «Вожыка», зразумела, падобнай падстаўкі ніхто не ведаў, ганарар атрымаў Гамолка. І нямалы па тым часе. Добра помню, што гэта было недзе 25 рублёў — прыкладна пятая частка маёй месячнай зарплаты. Падыходзіць да мяне Аляксандр Пятровіч: так і так, маўляў, што рабіць будзем. І сапраўды — што?! Як быццам ганарар і мой, але ў той жа час ён і не мой.

Пагадзіліся на тым, што паклічам Гамолку (з грашыма, канечне) і пойдзем утрох у рэстаран «Лето», які тады знаходзіўся на вуліцы Ульнаўскай, непадалёку ад моста праз Свіслач, насупраць парку. Так і зрабілі. І, скажу шчыра, цудоўна правялі вечар: хапіла і на гарэлку, і на закусь. А гэта яшчэ адно сведчанне, як «цяжка» жылося ў так званыя «застойныя» часы. Асабліва творчым работнікам…

Калі ж у згаданай «Бібліятэцы…» выходзіла чарговая кніга Аляксандра Пятровіча, то невялікая жартаўлівая прадмова з'явілася пад маім ужо сапраўдным прозвішчам. Нарэшце, і я дарос да таго, каб прадстаўляць іншых. Напісаў, што Капусцін з тых людзей, якім ад нараджэння ўсё жыццё … хочацца. Меў на ўвазе, канечне, літаратурную творчасць. Праўда, рэдактар зборніка Нэлі Тулупава ўсё ж асобныя месцы «змякчыла». Але такой бяды. Галоўнае, што і прадмоўка, дый і сама кніжка смешнымі атрымаліся. Задаволеным быў, зразумела, найперш сам Аляксандр Пятровіч. Праўда, гэтым разам абышлося без адзначэння такое важнай падзеі, бо наступілі такія часы, калі з ганарарам за прадмоўку ў рэстаран і совацца няма чаго. Дый, бадай, за грашовае ўзнагароджанне, атрыманае за кнігу, Капусцін наўрад ці мог бы належным чынам пачаставаць. Толькі такой бяды, можна і іншым разам у каго-небудзь на кватэры сабрацца. На тым і разышліся, калі ў бухгалтэрыі «Вожыка» атрымалі грошы.

## Курыца — мара «паэта»

Не ведаю, чым і вытлумачыць гэта. Магчыма, просты збег выпадковых абставін, а можа, нешта і іншае. Хоць, бадай, правільным будзе другое, бо, калі мець на ўвазе звычайную выпадковасць, то чаму часта атрымліваецца так, што некаторыя пісьменнікі, якія ў сябе на радзіме былі па сутнасці незаўважанымі, выехаўшы ў Расію, адразу ж ярка заяўляюць аб сабе. Аднак ёсць адно «але» — гэта тычыцца рускамоўных літаратараў. Ці не самы красамоўны прыклад — ураджэнец Бялыніцкага раёна паэт Ігар Шклярэўскі. Менавіта з пераездам у Маскву ягонае імя па-сапраўднаму загучала.

Праўда, празаік С., магчыма, і менш вядомы, ды, жывучы доўгі час ў горадзе на Няве — спачатку, зразумела, у Ленінградзе, потым у Санкт-Пецярбургу, напісаў шэраг кніг, чытаць якія адно задавальненне, бо гэта тая высока псіхалагічная проза, у якой глыбокае пранікненне ў душу чалавека. Не менш важна таксама і тое, што яна мацуецца на агульначалавечых каштоўнасцях. С. не прымае кан'юнктуру рынку, таму ніколі не падладжваўся і не падладжваецца пад яго.

Для С. стала правілам: пішу так, як жыву, жыву так, як пішу. Гэтага свайго крэда ён нязменна прытрымліваецца па сённяшні дзень, пераехаўшы на пастаяннае месцажыхарства з Санкт-Пецярбурга ў Маскву. Каб жа застаўся ў Мінску, у якім нарадзіўся, сумняваюся, што ён набыў бы такую вядомасць. Усё ж

у нас нярэдка... Як бы лепш сказаць? Бадай, дае знаць аб сабе прадузятае стаўленне да тых, хто піша не на матчынай мове. Нават калі яны, як С., у душы, па сваім светаўспрыманні застаюцца беларусамі.

Але я не збіраюся аналізаваць ягоную творчасць, бо, упэўніўся ўжо чытач гэтай маёй кнігі, у мяне іншая задача. Таму і не называю прозвішча гэтага пісьменніка цалкам, як і прозвішчы многіх (за рэдкім выключэннем), каго згадваю. Хоць я схільны да думкі, што расказваючы пра людзей вядомых, як цяпер любяць казаць, публічных, неабходна ісці тым шляхам, якім апошнім часам ідуць выдаўцы знакамітай серыі «Жизнь замечательных людей». Гэта раней баяліся, каб чаго добрага, нават выпадкова не тое, што зняць глянец з тых, пра каго расказваецца, а проста злёгку «падрапаць» яго. Цяпер жа, калі ласка... Ужо ведаем, што і Пушкін зусім не той, якім мы яго ўспрымалі дзесяцігоддзямі. Канечне, ніхто ў ягонай геніяльнасці не сумняваецца, а ў астатнім… Як і ў любога чалавека, у яго, мякка кажучы, было нямала недахопаў.

Ды вернемся да празаіка С. Паколькі ён не толькі карэнны мінчанін, а ў Мінску ў яго жыла старэнькая мама, якой тады было за 90, а таксама нямала сяброў, то ён пастаянна наведваўся ў Мінск. Бываючы ж у нашай сталіцы, абавязкова сустракаецца з паэтам А. Хоць паэт А. прыкметна і маладзейшы за празаіка, у іх сяброўскія адносіны. Сустрэўшыся ж, зразумела, п’юць не толькі чай. Пры піцці ж не толькі чаю, абавязкова прыходзіць час, калі хочацца з кім-небудзь сустрэцца. Так аднойчы яны выйшлі і на мяне. Не па прынцыпе: патэлефаную таму, а калі яго няма, то другому, а таму, што ў мяне з абодвума таксама добрыя адносіны. Спачатку пагаварыў я з адным, пасля — з другім. Далей усё зразумела: сустракаемся.

Абодва, канечне, былі на падпітку. Праўда, празаік С. трымаўся куды лепш, няйначай сказвалася тое, што ў маладосці ён актыўна займаўся спортам і нават быў чэмпіёнам. Прыйшлі не проста так, а з бутэлькай каньяку. Каньяк я не вельмі люблю, болей — гарэлку. Дый, як кажуць, даронаму каню ў зубы не глядзяць. Каньяк, дык каньяк. Калі ж ёсць пра што пагаварыць, то, здаецца, і градусы не бяруць. Праўда, калі перайшлі на другую бутэльку, я пачаў заўважаць за сабой, што гэтага каньяку для мяне ўжо мнагавата. Тым больш, што паэт А. ужо амаль не піў, а толькі мы з празаікам С., які, нельга не адзначыць, трымаўся малайцом. Ні на чарку ад мяне не адставаў.

Настаў час разыходзіцца. Паколькі нам з С. было ў адну дарогу, то развіталіся з А. і накіраваліся ў метро. Рызыка, калі мець на ўвазе наш стан, не малая. Але ёсць і станоўчы бок: С. — чалавек усмешлівы, ветлівы, дый я ў падобных выпадках ніколі не задзіраюся з міліцыянерамі, стараюся быць цішэй вады, ніжэй травы. А калі ты да міліцыянера як да чалавека ставішся, то ён да цябе адпаведным чынам. Таму мы без асаблівай цяжкасці спусціліся на платформу, а неўзабаве і цягнік падышоў.

У вагоне ужо, у якім цесна так, што ўсе стаяць упрытык, С. ледзь не ў вуха мне гаворыць:

— Паехалі да маёй мамы. Выпіць дома ёсць. А на Маскоўскай забягу ў гастраном, куплю курыцу, падсмажым...

Ідэя, канечне, была заманлівая. Заманлівая, аднак, калі б не адно «але». Я не сумняваўся, што тую курыцу мы з’ямо са смакам. Аднак не сумняваўся і ў іншым: будзе выпіта ўсё, што ёсць, а пасля гэтага мне дамоў ужо не дабрацца. У мяне ж даўно стала нязменным правілам: нягледзячы ні на што, вяртацца дахаты. Па прынцыпе: калі сам не можаш, то «аўтапілот» давядзе, які неаднойчы выратоўваў. Ды наўрад пасля такога гасцявання і «аўтапілот» дапаможа. С., відаць, угадаў мае думкі.

— Застанешся, пераначуеш, — сказаў ён і запэўніў: — Месца хопіць.

— Прабач, не магу, — адказаў я.

С. не паспеў ніяк зрэагаваць на гэта, як цягнік падышоў да станцыі Кастрычніцкая, на якой мне пераходзіць на другую лінію.

Прыехаўшы дамоў, я пачаў збірацца класціся спаць, па ўласным вопыце ведаючы, што раніцой будзе цяжка падымацца, а трэба ж ісці на работу. Але не паспеў раскласці пасцель, як зазвінеў мабільнік. Тэлефанаваў паэт А.

— С. у цябе? — запытаўся ён.

— З якой гэта нагоды яму быць у мяне? — здзівіўся я.

— Вы ж разам паехалі...

— Ехалі ды не даехалі, — пажартаваў я.

— Гавары, што здарылася, — паэт не падзяліў майго жартоўнага настрою.

— Ды нічога не здарылася.

— Дзе ж, у такім разе, С.?

— Дома, мабыць?

— Мабыць...

У голасе паэта А. чулася трывога:

— Дома яго няма.

— То па мабільніку пазвані, — прапанаваў я.

Паэт А. цяжка ўздыхнуў:

— Як жа я патэлефаную яму, калі мабільнік свой ён дома пакінуў.

Мне стала не па сабе: а што калі з празаікам С. і сапраўды штосьці здарылася? Атрымліваецца, што і я ў нечым вінаваты. Мог жа не пакідаць яго аднаго.

— Калі што высветлю, — абнадзеіў паэт А., — то патэлефаную табе.

Пасля гэтага ў мяне, зразумела, адпала ўсялякая ахвота класціся спаць. Ад хвалявання нават у галаве прасвятлела. Калі паэт А. доўгі час не падаваў голасу, не вытрымаў, сам пазваніў яму. На жаль, дамоў празаік С. так і не вярнуўся.

— Можа, да каго-небудзь зайшоў? — выказаў я меркаванне.

— Але ж мог бы патэлефанаваць?

— А калі вясёлая кампанія, то не да гэтага...

— Будзем класціся спаць, — сказаў паэт А.

— Будзем, — згадзіўся я, тым больш, што стрэлкі гадзінніка збіраліся паказаць поўнач.

Назаўтра паэт А. патэлефанаваў гадзін у восем раніцы.

— С. жывы, — радасна паведаміў ён.

— І дзе ж ён быў?

— Курыцу еў, — засмяяўся паэт А. — Сустрэнемся, то падрабязней пра ягоныя прыгоды раскажу.

…Хоць вечарам я і адмовіўся ехаць да яго, празаік ад свайго жадання купіць курыцу не адмовіўся. Як і меркаваў, ён зайшоў на вуліцы Маскоўскай у магазін. Толькі ўзважыў птушку сваёй мары, як яго нечакана аклікнула нейкая жанчына.

— Прабачце, вы не С.? — запыталася яна.

— Ён самы, — адказаў празаік, сілячыся прыгадаць, дзе ж мог сустракацца з гэтай маладой жанчынай.

— Вы ж неяк у нашай бібліятэцы выступалі, — унесла яна яснасць. — Я ж вас і запрашала на сустрэчу.

— Успомніў, — паспяшаўся запэўніць яе празаік С., бо і сапраўды прыгадаў сваё не такое і даўняе выступленне ў адной з мінскіх бібліятэк.

Пагаварылі пра тое-сёе. Жанчына сабралася развітвацца. Але празаік С., як галантны кавалер, запярэчыў:

— Не, я вас адну не адпушчу. Абавязкова правяду.

Жанчыне нічога не заставалася, як пагадзіцца. Што было далей, празаік С. помніў слаба. Адно запомнілася яму, што елі на кухні курыцу, купленую ім. Зразумела, падсмажаную гэтай жанчынай. І, здаецца, разам з імі смакаваў курыцу муж гэтай жанчыны, які з задавальненнем пазнаёміўся з вядомым маскоўскім пісьменнікам, а да ўсяго карэнным мінчанінам. Дабіраўся празаік С. дамоў на таксі, якое выклікала жанчына са сваім мужам.

Раніцой яму, канечне, было цяжка. Цяжка было і паэту А. Зразумела, не быў выключэннем і я. Аднак празаік С. і паэт А. знаходзіліся ў куды больш выгадным становішчы. Ні аднаму, ні другому не трэба было спяшацца на работу: празаік С. быў у гасцях, а паэт А. — на пенсіі. Я ж мусіў ісці на работу. Калі што і аблягчала маё становішча, дык толькі тое, што меў лішні раз сустрэцца, а галоўнае пагаварыць па душах з гэтымі цудоўнымі людзьмі і пісьменнікамі. А яшчэ ўпэўніўся, што памыляюцца тыя, хто курыцу не лічыць птушкай. Яна — як тая «птица завтрашнего дня», з'яўляецца марай любога пісьменніка, а не толькі паэта.

## Нечаканыя інтэрв'ю, або Як стаць пісьменнікам

Самыя светлыя ўспаміны засталіся ў мяне пра народнага пісьменніка Беларусі Н. Я шмат пісаў пра ягоную творчасць, рэцэнзаваў яго кнігі — апошнім часам ці не ўсе. Чалавек на дзіва інтэлігентны, тактоўны, ён заўсёды быў са мной на «вы», але часам так і хацелася сказаць: «Што гэты вы ўсё выкаеце?» Ды баяўся, што можа пакрыўдзіцца, а то і няправільна зразумее, падумаўшы, што тым самым хачу нейкага больш блізкага, ці што, стаўлення да сябе. Аднак і так яно было такое, што лепшага і не трэба. Калі ж стаўленне добрае, то і можна разлічваць на дапамогу нават у тых выпадках, калі іншым такое прапаноўваць не адважышся.

Так адбылося і тады, калі рыхтаваўся чарговы пленум Саюза пісьменнікаў БССР. Ён быў, здаецца, прысвечаны пытанням нарыса і публіцыстыкі. Н., яшчэ калі не быў народным пісьменнікам, працаваў у друку, пачынаючы з адной абласной газеты, потым у рэспубліканскай газеце «Звязда» і часопісе «Маладосць». Зразумела, напісаў нямала артыкулаў, нарысаў. То чаму б, вырашылі ў рэдакцыі «ЛіМа», не выказацца яму па гэтых пытаннях на старонках штотыднёвіка? Спыніліся на жанры інтэрв'ю, а ўзяць яго даручылі мне.

Паколькі Н. да ўсяго займаўся вялікай навукова-даследчыцкай працай, грамадскай дзейнасцю, займаў адказную пасаду ў Акадэміі навук Беларусі, то, зразумела, часу вольнага ў яго было няшмат. Але заданне ёсць заданне, яго трэба выконваць. Тэлефаную, тлумачу, што і да чаго. Як і трэба было чакаць, у адказ гучыць:

— Вельмі заняты.

— Але ж зразумейце, — настойваю я, — трэба.

— І сам разумею, што трэба,— гаворыць ён.

Па тым, як гэта было сказана, я адчуў, што ён катэгарычна ад інтэрв'ю не адмаўляецца. Таму вырашыў не адступаць.

— Ёсць адно выйсце, — кажу яму, — канечне, калі вы не супраць…

— І што вы прапаноўваеце? — зацікавіўся Н.

— Я задаю вам асноўныя пытанні…

— Па тэлефоне? — пачаў здагадвацца Н.

— Калі вы, канечне, — асцярожна развіваю сваю думку, — не супраць.

Пасля непрацяглага маўчання ў трубцы пачулася:

— А, можа, гэта і сапраўды выйсце?

Ён ці-то запытаўся, ці-то адказаў сцвярджальна. Я ўхапіўся за апошні варыянт:

— Ды лепш і не прыдумаеш!

— Ну, калі так, — ён засмяяўся, то задавайце гэтыя свае пытанні. Толькі, — Н. насцярожыўся, — а ці паспееце запісаць тое, што буду гаварыць?

— Не хвалюйцеся, — запэўніў яго.

Пытанні ў мяне, канечне, загадзя былі падрыхтаваны. Таму Н. засталося толькі адказваць. Гутарылі мы мінут дваццаць. А мо і болей, але, як мне падалося, асноўнае, што цікавіла мяне, удалося даведацца. Астатняе ж…

Пра астатняе ён і сам здагадваўся, таму, перш чым пакласці трубку, сказаў:

— Вы ж столькі пісалі пра мяне. Магчыма, з ранейшых матэрыялаў штонебудзь возьмеце.

— Канечне, — запэўніў я Н. — І абавязкова дам вам пачытаць.

На тым і развіталіся.

Часу ў мяне было мала. Таму адразу ўзяўся за падрыхтоўку інтэрв’ю. Тым не менш, гэта заняло некалькі дзён. Як і дамовіліся, тэлефаную Н. Узяла трубку ягоная жонка. Назваўшы сябе, прашу паклікаць яго да тэлефона.

— Няма дома, — адказала яна.

— А калі будзе?

— Праз два дні, — паведаміла яна і ўдакладніла. — Паехаў адпачываць у «Іслач».

Настрой у мяне адразу знік: давядзецца ехаць у Дом творчасці «Іслач». Але, як высветлілася, яна гатова прыйсці на выручку.

— У вас што-небудзь пільнае? — запыталася яна.

Расказваю, што і да чаго.

— Муж мой так добра ставіцца да вас, то не магу не дапамагчы вам…

— Няўжо? — не паверылася мне.

— А вы прачытайце гэтае інтэрв’ю мне па тэлефоне, — прапанавала яна.

Прапанова была нечаканай. Але адмовіцца не мог. Не хацелася пакрыўдзіць яе, але ў не меншай ступені не хацелася і ехаць у Іслач.

— Чытайце, — пачулася зноў у трубцы, і я пачаў чытаць.

Матэрыял вялікі, дзесьці старонак восем, бо я размахнуўся на цэлую паласу. На той жа час, калі камп’ютарнага набору і ў паміне не было, матэрыял размяшчалі шчыльна, то акурат і ўлазіла на паласу старонак восем, а калі без ілюстрацый, то і крыху болей. Чытаю, а ў трубцы маўчанне.

— Алё? — пытаюся.

— Ды слухаю, слухаю.

Так і даслухала жонка Н. моўчкі ўвесь матэрыял да канца, парушаючы гэтае маўчанне толькі тады, калі я праяўляў занепакоенасць.

— Цудоўна, — нарэшце сказала яна. — Можаце друкаваць.

— Вы так мяркуеце? — мне ўсё яшчэ не верылася, што ніякай праблемы з візіраваннем гэтага інтэрв’ю няма.

— Не хвалюйцеся, — запэўніла яна. — Муж мне давярае…

Гэта, зразумела, не першае інтэрв’ю, якое даводзілася мне браць у народнага пісьменніка Беларусі Н. Аднойчы мы размаўлялі ў ягоным кабінеце. Кабінеце, праўда, не дакладна. Пакой гэты знаходзіўся адразу за прыёмнай, а за ім быў яшчэ адзін — па статусе Н. не як знакамітага пісьменніка, а як аднаго з самых вядомых у краіне вучоных-філолагаў, у яго быў яшчэ і пакой для адпачынку.

Прыйшоў я з магнітафонам «Весна», бо дыктафонаў тады і ў паміне не было. Зразумела, у Савецкім Саюзе, таму што за мяжой даўно карысталіся гэтым цудам тэхнікі. Уключаю я магнітафон, задаю пытанне, а Н. пачынае адказваць. Затым ідзе чарговае пытанне, потым — зноў адказ. Часам Н. просіць выключыць магнітафон і тады размова заходзіць пра тое, што не для друку. З гэтага не да друку запомніліся ягоныя развагі пра творчасць аднаго калегі па пяры, дарэчы, таксама народнага пісьменніка. Н. сцвярджаў, той празмерна захапляецца дзённікавымі запісамі.

Запомнілася і іншае. Тое, што тычылася творчасці народнага песняра Янкі Купалы. Думаю, што цяпер гэтыя развагі Н. можна абнародаваць. Прынамсі, ён закрануў той момант, калі Купала працаваў спачатку практыкантам і памочнікам вінакура ў маёнтку Сёмкава пад Мінскам, а потым — на бровары ў Яхімоўшчыне на Маладзечаншчыне.

— Што мы пра гэта ведаем? — запытаўся Н. і сам жа адказаў. — Ды па сутнасці нічога. Працаваў — так. Але ж з некім сустракаўся, з кімсьці сябраваў. Але з кім? Гэта ж цікава было б даведацца. Толькі ці даведаемся?

Ад Н. я ўпершыню пачуў, што захаваўся ліст, у якім народны пясняр разважае наконт таго, што Ясенін, маўляў, піў і спіўся. Гуляў і згуляўся, а я, маўляў, працягваю рабіць і тое, і другое. Гаварылі і яшчэ пра шмат што іншае. Пра што, на жаль, запамятаваў. А што шмат расказваў Н., сведчыць тое, што інтэрв'ю зацягнулася. Сакратарка не вытрымала, зазірнула ў кабінет і напомніла Н., што яго ўжо мінут дзесяць у прыёмнай чакаюць тыя, хто быў запрошаны на нейкае пасяджэнне.

Уявіце сабе маё адчуванне, калі я, выйшаўшы з кабінета Н. з магнітафонам у руках, убачыў некалькі акадэмікаў і членаў-карэспандэнтаў навук, якія цярпліва чакалі, калі ж нарэшце скончыцца гэтае інтэрв'ю.

Сітуацыя са згаданым інтэр'ю ў народнага пісьменніка Беларусі Н. не ардынарная, але ў дадзеным выпадку іншага выйсця не заставалася. Нешта падобнае аднойчы здарылася і тады, калі трэба было ўзяць інтэрвю ў народнага пісьменніка Ш. Зноў жа я пра яго шмат пісаў, мог, пры жаданні, заўсёды патэлефанаваць яму. Таму калі гаворка зайшла пра тое, каб ён паразважаў пра штосьці надзённае, Ш. нечакана сам прапанаваў:

— Вось табе мае выступленні ў друку апошняга часу. Выберы, што падыходзіць. Дый прагледзь некаторыя мае артыкулы. Скампануй пытанні і адказы на іх, а потым я штосьці папраўлю, нешта ўдакланю. Павер, зусім няма вольнага часу.

Мне засталося толькі згадзіцца. Інтэрв'ю, па-мойму, атрымалася не з горшых. Было надрукавана ў тым жа «ЛіМе».

## Трусы «металічныя» — праблемы не лірычныя

Калі працуеш журналістам, даводзіцца шмат пра што пісаць. Часам і не па профілі. Праўда, калі ты супрацоўнік рэспубліканскага выдання, то ў гэтым сэнсе прасцей. Прынамсі, так было ў «ЛіМе». Звычайна пра тэатральныя пастаноўкі, новыя фільмы пісалі супрацоўнікі адпаведнага аддзела. Я ж у асноўным рэцэнзаваў кніжныя навінкі, а яшчэ, паколькі ўзначальваў аддзел інфармацыі, які потым стаў аддзелам літаратурнага жыцця, мусіў пісаць розныя інфармацыі, нататкі. Хоць, праўда, зрэдку як бы прыходзіў на дапамогу калегам. Але, паўтараю, гэты было выключэннем.

Іншая справа — раённая газета. Хочаш не хочаш, а часта даводзіцца быць усёядным, бо штат невялікі, а матэрыялы ад няштатных аўтараў, у прыватна-

сці, такія, якія можна друкаваць, паступаюць не часта. Але ад гэта я асабліва не перажываў, бо любіў друкавацца, таму і ахвотна ездзіў у камандзіроўкі. У адным толькі выпадку адчуваў сябе някавата. Менавіта ніякавата, а не няўпэўнена, бо таго, што не спраўлюся з фактычным матэрыялам, не баяўся. Прычына была куды больш сур’ёзная.

Як вядома, сярод пішучай брацііі — як сярод журналістаў, так і сярод пісьменнікаў у мае маладыя гады (дый пазней) рэдка можна было сустрэць такога, хто не браў бы ў рот ні кроплі. Праўда, цяпер наконт гэтага больш станоўчага: усё ж творчая моладзь часцей, чым мы раней, прытрымліваецца здаровага ладу жыцця. А тады расслабляліся, а то і, здымаючы стрэс, любілі пасядзець у кампаніі. Дый тыя, хто працаваў у раёнцы (ці прадстаўнікі старэйшага пакалення, якія працуюць яшчэ) ведаюць, што станоўчыя героі нашых нарысаў, карэспандэнцый лічылі сваім абавязкам пачаставаць таго, хто збіраўся сказаць пра іх добрае слова. Як жа іначай, калі і кот ласку любіць. Вадзіўся, як я казаў ужо, такі грашок і за мной.

Аднак жа даводзілася нярэдка прымаць удзел і ў розных рэйдах. Прытым у такіх, у час якіх цікавіліся, як у тым ці іншым калгасе наконт дысцыпліны, ці няма на рабоце п’яных. У падобных сітуацыях я і адчуваў сябе ніякавата. Тым больш, што ў лепшых гаспадарках, дзе такіх недахопаў не назіралася, кіраўніцтва прапаноўвала вынікі рэйда адзначыць. Каб сумленне было чыстым, не адмаўляўся толькі ў тым разе, калі ведаў, што матэрыял будзе толькі станоўчым. Калі ж пісаў матэрыял, то стараўся тых, каго «злавілі» на рабоце, а сярод іх былі не толькі закаранелыя алкаголікі, надта не бэсціць. Праўда, працуючы ўжо ў Мінску, вельмі здзівіўся, што ў некаторых журналістаў падобнага роду комплексу непаўнацэннасці няма. Дый паспеў пазнаёміцца з многімі паэтамі, празаікамі, якія, самі далёка не цвярознікі, рэгулярна выступаюць у часопісе «Вожык», газетах, у якіх колькі дзясяткаў гадоў назад былі куткі сатыры і гумару, са сваімі творамі, бэсцячы выпівох. Некаторыя ж, паспеўшы развесціся, з гэткім жа імпэтам крытыкуюць тых, хто не захаваў сям’ю. Што ж, у кожнага свая мараль.

На жаль, аднойчы яна з двайным дном аказалася і ў мяне. Адбылося гэта падчас працы ў слуцкай аб’яднанай газеце «Шлях Ільіча». У час пасяўной кампаніі паехалі разам са старшынёй раённага камітэта народнага кантролю — зразумела, на ягонай службовай машыне — правяраць, наколькі захоўваецца працоўная дысцыпліна ў час гэтай важнай сельскагаспадарчай кампаніі. У адзін калгас заехалі, у другі…

Нарэшце завярнулі ў той, што знаходзіўся далей ад райцэнтра, чым папярэднія. Падобнай адарванасцю ад Слуцка і не прамінулі пакарыстацца тыя, хто надта не абцяжарваў сябе захаваннем працоўнай дысцыпліны. Маўляў, чаго асабліва баяцца: раённае начальства ў такую далячыню не паедзе, а сваё… Сваё ж зробіць выгляд, што нічога не заўважае. Усё ж трэба завяршыць сяўбу ў вызначаны тэрмін, іначай можна і вымову атрымаць. Таму мы, наведаўшыся на адзін з палеткаў, напаткалі на падпітку трактарыста. Дый сеяльшчыкі былі неяк падазрона вясёлымі. Аднак што больш за ўсё здзівіла, прынамсі, мяне, дык тое, што галоўны аграном калгаса, які ўзяўся нас суправаджаць, асабліва не перажываў.

Усё стала зразумелым пасля таго, як старшыня народнага кантролю, паслаўшы на парушальнікаў гром і маланкі, адпусціў іх працягваць працаваць, бо, зразумела, знайсці замену ім было немагчымым. Пасля гэтага яны адышлі з галоўным аграномам і пачалі пра штосьці гаварыць, раз-пораз пазіраючы на мяне. У мяне адразу з’явілася думка, што абмяркоўваюць нешта важнае, прытым не ведаюць, як да гэтага пастаўлюся я.

Я не памыліўся. Галоўны аграном падышоў да мяне:

— Запрашаю вас, карэспандэнт, да сябе дамоў. Пасядзім, рыбка ў мяне свежая ёсць.

Не цяжка было здагадацца, што маецца на ўвазе пад гэтым «сядзеннем».

Так я і трапіў у няёмкае становішча. Канечне, калі б быў адзін, без старшыні раённага камітэта кантролю, адразу адмовіўся б ад гэтага запрашэння і канцы ў воду. Але я ўжо не сумняваўся — іначай чаго б гэта яны адыходзілі ў бок, што старшыня не супраць таго, каб пакаштаваць аграномавай рыбкі. Я пакутліва шукаў выйсце са становішча, у якім апынуўся. Шукаў і не знаходзіў яго. У матэрыяле па выніках рэйда абавязкова павінен прысутнічаць крытычны момант — такое заданне я атрымаў ад рэдактара, адпраўляючыся ў камандзіроўку. Адказаўшы ж на прапанову галоўнага агранома калгаса згодай, я, паводле маіх прынцыпаў, не маю права адмоўна пісаць пра гэтую гаспадарку. Канечне, можна было б рэйд прадоўжыць пасля застолля, але ж як мы са старшынёй народнага кантролю — прабачце за таўталогію — зможам кантраляваць іншых, калі самі ўжо будзем парушальнікамі працоўнай дысцыпліны.

— Журналіст, — засмяяўся галоўны аграном. — Разумею, што робіцца ў цябе на душы. Не перажывай, было б з-за чаго… Ну, пакрытыкуеш ты, што на сяўбе ў мяне няма дысцыпліны. І што з гэтага? Пішы тое, што палічыш патрэбным. А цяпер — да мяне, — і кінуў старшыні народнага кантролю: — Ён згодзен, — з гэтымі словамі аграном узяў мяне за руку: — Пайшлі, — і мы заспяшаліся да машыны.

Наколькі прафесіянальным спецыялістам быў гэты аграном, я так і не паспеў даведацца, бо адпрацаваў у Слуцкім раёне ўсяго некалькі месяцаў, а ў гэты калгас больш не наведваўся, а што гаспадар ён сапраўдны, упэўніўся, калі пад'ехалі да ягонага дома. Дом быў прыгожы, новы, а паблізу ад яго знаходзілася невялікая сажалка, з якой і налавілі рыбы. А пасля сядзелі за сталом, шмат пра што гаварылі. Я, праўда, па-ранейшаму адчуваў сябе ў няёмкім становішчы, таму некалькі разоў стараўся прасіць прабачэння, але галоўны аграном перапыняў мяне, паўтараючы адно і тое ж:

— Пішы, журналіст, я не пакрыўджуся.

Па дарозе назад, у Слуцк, старшыня народнага кантролю папрасіў:

— Ты ўжо вельмі не крытыкуй яго.

— Ну, што вы, — здзівіўся я. — Як жа пасля гэтага можна?

Сваё слова я стрымаў. Але разам з тым даў маху, прапанаваўшы гэты матэрыял газеце «Чырвоная змена». З яе рэдакцыяй я супрацоўнічаў і тады, калі працаваў у драгічынскай раёнцы, а потым — у капыльскай. Паколькі матэрыялаў з месцаў неставала, то я прапаноўваў «Чырвонцы» некаторыя свае. З Драгічына выходзіў на Анатоля Астрэйку (не блытаць з ягоным цёзкам — знакамітым паэтам, аўтарам унікальнай кнігі «Слуцкі пояс»), з якім пазнаёміўся падчас вытворчай практыкі ў гэтай газеце. З Капыля — на паэта Міколу Федзюковіча. Але то былі матэрыялы станоўчыя і раённае начальства, а больш канкрэтна — партыйнае кіраўніцтва было вельмі задаволена тым, што пра раён расказваецца ў рэспубліканскім друку.

Інакш яно ставілася да крытычных матэрыялаў. Аднак калі на карэспандэнтаў, якія прыязджалі з Мінска, асабліва ўздзейнічаць не магло, то тых, хто працаваў у раёнцы, магло і на месца паставіць. Канечне, я пра гэта памятаў. І, хутчэй за ўсё, калі б пазваніў хто-небудзь іншы, а не Мікола Федзюковіч — ён тады працаваў у аддзеле сельскагаспадарчага жыцця, я б адмовіў. Але Міколу адмовіць не мог. Тым больш, што ён вельмі настойваў, бо матэрыялаў з

месцаў пра сяўбу не было. Таму я і начытаў гэты матэрыял стэнаграфістцы, з якой звязаў мяне Федзюковіч.

Вынікі рэйда «Чырвоная змена» апублікавала на першай паласе. Яшчэ добра, што я паставіў пад матэрыялам толькі свой подпіс, а старшыні народнага кантролю і члена рэйдавай брыгады (звычайна ў раённых газетах гэта быў рэдакцыйны шафёр, каб яму заплаціць хоць нейкую капейчыну) зняў, а то, чаго добрага, ім не здабраваць. А так перапала толькі мне. Зразумела, праз рэдактара, якому пазванілі абураныя райкамаўскія работнікі. Засталося запэўніць, што нічога падобнага болей не дапушчу.

Тым не менш я хутка парушыў самому сабе дадзенае слова. Не мог не зрабіць гэтага, бо тое, з чым сутыкнуўся, вельмі ж прасілася на абнародаванне ў маштабах рэспублікі. Праўда, гэта быў не той вопыт, што варты пераймання, а своеасаблівы, бо патрапляў ён пад вызначэнне: хоць смейся, хоць плач. А ўкаранілі гэты «вопыт» (без двухкосся ў дадзеным выпадку ніяк не абысціся) на Радзічаўскім заводзе металічных вырабаў, што працаваў у адной з вёсак непадалёку ад Слуцка.

Не ведаю, ці ёсць цяпер там якая-небудзь вытворчасць, а ў савецкія часы Радзічаўскі завод, без перабольшання, быў вядомы ва ўсім Савецкім Саюзе. Не будзем разбірацца, наколькі гэта апраўдана і эканамічна выгадна, але электрапастухі, вырабленыя ў Радзічаве, траплялі ажно на Далёкі Усход. Канечне, у гэтых «пастухах» нічога складанага не было: звычайны дрот, які падвешвалі на слупках вакол таго ўчастка, на якім пасвіліся каровы. Па дроце прапускалі электрычны ток малога напружання і калі якая-небудзь буронка спрабавала пераадолець агароджу, то лёгкі ўдар электрычнасці ў пысу прымушаў яе адразу ж адмовіцца ад такой задумы.

Але я маю на ўвазе не гэты вопыт, бо як да яго не стаўся, а ён усё ж станоўчы. На гэтым заводзе вырашылі, зноў жа зрабілі правільна, што для рэнтабельнай працы адных электрапастухоў мала. Дый захацелі заняць працай жанчын. Таму і адкрылі падсобны цэх, куды і ўладкавалі тых з іх, хто пажадаў. Занятак знайшлі чыста жаночы: жанчыны пачалі шыць трусы. Не для сябе зразумела, а мужчынскія — такія, якія некалі называлі сямейнымі. У гэтых трусах з-за іхняга вялікага памеру адначасова маглі ўмясціцца муж, жонка, дый цешчы месца хапала. Праўда, ніводнага мужчыны, якому б спадабалася падобнае суседства, не знайшлося. Ва ўсякім разе — на Случчыне. Усё ж трусы — не блытаць з хатнімі жывёламі — рэч індывідуальная. Таксама прадукцыя, канечне, вельмі неабходная, таму заўсёды запатрабаваная. Тым больш тканіны ў краіне ставала. Таму ніякіх праблем не было ні з вытворчасцю, ні са збытам. Усё нічога б, калі б…

Як вядома, любы выраб, а гэткі «стратэгічнага» прызначэння — не выключэнне, патрабуе адпаведнай біркі. Што ж, у гэтым сэнсе радзічаўскія заводчыкі таксама аказаліся на вышыні. Як і трэба, пазначылі «Радзічаўскі завод металічных вырабаў». Але пасля гэтага, па логіцы, трэба было б указаць крыху ніжэй нешта накшталт: «Падсобны цэх прадпрыемства». Ды дзе там: адразу ж напісалі: «Трусы мужчынскія. Сямейныя». Маўляў: ведай нашых: «Не кочегары мы, не плотники, а к трусам мужским охотники».

Убачыў я ў Слуцкім універмагу новае радзічаўскае «изделие», і пачуццё гонару за родных мне случакоў цёплай хваляй кранулася сэрца. Гэта ж такія жартаўнікі ў мяне на радзіме знайшліся, хоць у Клуб вясёлых і знаходлівых запрашай. Запытаўся ў прадаўшчыцы, паказваючы на гэтыя самыя трусы:

— І як вам надпіс?

Яна адразу здагадалася, што і да чаго.

— Не вы першы заўважылі гэта, — адказала яна. — Смяюцца людзі, але бяруць…

«Што ж, вопыт варты пераймання, — падумалася мне. — Гэта ж калі пайсці падобным шляхам, то, скажам, Слуцкі завод сантэхнічнага абсталявання можа выпускаць ліфчыкі жаночыя, ці, па-нашаму кажучы, станікі. Піўзавод — атруту для мышэй. І на этыкетцы ні ў якім разе нельга ўказваць, што гэта падсобная вытворчасць, дастаткова назваць само прадпрыемства. А калі вопыт варты пераймання, то чаму б не прапагандаваць яго.

Свой матэрыял пра радзічаўскіх «вынаходнікаў» я вырашыў прапанаваць «Мінскай праўдзе», з якой ужо на той час актыўна супрацоўнічаў. Праўда, у асноўным рэцэнзаваў творы пісьменнікаў, ураджэнцаў Міншчыны, а таксама рыхтаваў што-небудзь на тэмы культуры. Але ж у гэтай газеце рэгулярна з'яўляўся і куток сатыры і гумару. Тое, пра што я ўзяўся расказаць, акурат і падыходзіла для яго. Таму і пісаў з разлікам, каб не толькі смешна было, але і каб адначасова сатырычныя моманты прагучалі. Мабыць, удалося мне гэта няблага, бо ўжо праз тыдзень матэрыял быў надрукаваны.

У тым, што ў раёне гэтая публікацыя не пройдзе незаўважанай, я ніколькі не сумняваўся. Аднак ніяк не чакаў, што на яе будзе такая імгненная рэакцыя з боку раённага кіраўніцтва. Хоць, калі разважыць, яе можна было прадугадаць. «Мінская праўда» — гэта нават не маладзёжная «Чырвоная змена». Абласную газету ў райкаме чыталі гэтаксама ўважліва, як і раёнку, а яшчэ «Сельскую газету», таму заўсёды ведалі, што пісалася пра раён. Калі напаткоўвалі станоўчую публікацыю, то, безумоўна, радаваліся, калі ж знаходзілі крытыку...

Не паспеў гэты нумар «Мінскай праўды» трапіць у райкам партыі, як падняўся сапраўдны вэрхал. Першы заўважыў гэта загадчык аддзела прамысловага жыцця, які, не марудзячы, патэлефанаваў рэдактару нашай раёнкі. Ён, не хаваючы свайго абурэння, як той следчы, настойліва дапытваўся, хто гэта схаваўся пад псеўданімам. Рэдактар паспрабаваў пераканаць яго, што супрацоўнікі газеты ніякага дачынення да гэтай публікацыі не маюць. Магчыма, пасля гэтага ў райкаме і супакоіліся б, аднак нумар «Мінскай праўды» трапіў на вочы сакратару, які займаўся пытаннямі прапаганды і агітацыі.

Ужо нашаму беднаму рэдактару давялося ператварыцца ледзь не ў сышчыка. З адным з супрацоўнікаў перагаварыў, з другім... Тут хтосьці і падказаў яму, што аўтарам хутчэй за ўсё з'яўляецца Марціновіч, бо менавіта ён часта выступае ў рэспубліканскім друку, у тым ліку і ў «Мінскай праўдзе». Ды я, ужо навучаны горкім вопытам, прызнавацца не збіраўся. Зразумеўшы, што ад мяне нічога не дабіцца, рэдактар вырашыў змяніць тактыку.

— Здорава напісана! — прамовіў ён, не хаваючы свайго захаплення, пасля чаго паглядзеў на мяне так, быццам баяўся, што я запярэчу яму, і дадаў: — Хіба нашы так могуць?!

— Не могуць, — пагадзіўся я, радуючыся, што нарэшце гэтае расследаванне, як падалося мне, падышло да канца.

Аднак памыліўся. Мой галоўны рэдактар у дадзеным выпадку аказаўся добрым псіхолагам. Ён вырашыў закрануць маё самалюбства.

— Узяць цябе, — разважліва пачаў ён, нібыта вывучаючы мяне,— што твой рэйд, у параўнанні з гэтым фельетонам?

Сказаўшы «фельетонам», рэдактар яшчэ ўважлівей, чым дагэтуль, паглядзеў на мяне. Больш за тое, быццам стараўся пранізаць мяне сваім позіркам наскрозь. У душы ён, несумненна, ужо радаваўся, прадчуваючы, што такая пахвальба аслабіць маю пільнасць і я абавязкова прагаваруся.

Аднак я вырашыў стаяць да апошняга. Не тое, што баяўся… Іншае адчуванне з'явілася. Мне ўсё ж падабалася, што, не чакаючы гэтага, апынуўся ў цэнтры такой павышанай увагі. Няхай і ў раённым маштабе, але гэта і на самай справе цешыла маё самалюбства.

Я вытрымаў позірк рэдактара.

— Сапраўды, — уздыхнуў я, — пры ўсім сваім жаданні ніколі так не напішу. Умеюць жа людзі...

Здаецца яшчэ імгненне і з маіх вачэй гатовы былі закапаць слёзы.

Рэдактар быў чалавекам добрым, таму ад гэтага майго ўздыху яму стала не па сабе.

— А ты асабліва не перажывай, — сказаў ён разважліва.

Цяжка было зразумець, што пры гэтым меў на ўвазе: тое, што я яшчэ навучуся пісаць, ці, усё ж, не сумняваўся ў маім аўтарстве публікацыі ў «Мінскай праўдзе» і хацеў, каб я забыў пра ўсе непрыемнасці.

## «Іронія лёсу»: беларускі варыянт

Бадай, няма такога чалавека, які б хоць аднойчы ў сваім жыцці не глядзеў мастацкі фільм «Іронія лёсу, альбо З лёгкай парай». Наадварот, многія рабілі гэта некалькі разоў, бо звычайна перад самым Новым годам ці ў першыя дні яго абавязкова знойдзецца тэлеканал, які пакажа гэтую ўсенародна любімую кінастужку чарговы раз. Нядаўна ж, як вядома, і працяг яе знялі. Цікаўнасць да гэтага фільма, як мне здаецца, не толькі ў тым, што ён зроблены на высокім мастакоўскім узроўні. Прывабнасць яго яшчэ і ў тым, што сітуацыя, пакладзеная ў яго аснову, вельмі жыццёвая.

Пры жаданні некаторыя могуць прыгадаць штосьці падобнае, калі «спрацавала» іронія лёсу, з уласнага жыцця. А з чужога, то пэўна, бо ў жыцці, як сцвярджаў Анарэ дэ Бальзак, самы слынны раманіст — яго вялікасць выпадак. Праўда, тое, што адбываецца па волі выпадку, не заўсёды цягне на раман. Дый тыя, на каго гэты выпадак уздзейнічае, не трапляюць зусім нечакана ў іншы горад, у якім многае выглядае гэтаксама, як і ў іхнім, родным. А вось кватэры, пад'езды блытаюць неаднойчы. На жаль, гэта не заўсёды добра заканчваецца. Адзін такі, далёка не аптымістычны зыход адбыўся і па маёй віне. І хоць віна ўскосная, але ўжо больш як сорак гадоў, калі прыпамінаю той выпадпак, неяк становіцца нядобра. Быццам узяў і падштурхнуў чалавека...

Гэта быў ці не першы дзень маёй працы ў рэдакцыі драгічынскай раённай газеты. Што адзін з першых, то пэўна. У душы я разумеў, што трэба было б адзначыць маё працаўладкаванне, але, будучы на той час надта сарамлівым, не асмельваўся прапанаваць гэта. Супрацоўнікі ж газеты самі не напомнілі. Відаць, думалі: адкуль узяцца ў маладога спецыяліста грашам. Атрымае пад'ёмныя, першую зарплату, то і пачастуе. Грошы, праўда, у мяне былі. Не паспеў растраціць дзве месячныя стыпендыі, якія выдаваліся тым, хто ехаў па размеркаванні.

Каб я хутчэй увайшоў у курс справы, рэдактар прапанаваў мне падзяжурыць па нумары. І сам я быў не супраць гэтага, бо памятаў адно з выказванняў Гётэ: «Суха теория, мой друг, а древо жизни пышно зеленеет». Дзяжурства па нумары — гэта ж таксама дрэва — дрэва журналістыкі. Таму я ахвотна ўзяўся чытаць палосы, якія прыносілі мне з друкарні, што знаходзілася ў тым жа калідоры, што і рэдакцыя. Нешта папраўляў, штосьці ўдакладняў.

Тым часам рабочы дзень блізіўся да завяршэння. Аднак ніхто мяне не прыспешваў, бо ўсё ішло паводле рэдакцыйнага графіка. Я ж стараўся быць як

мага больш уважлівым, за што і не прамінуў пахваліць мяне рэдактар. Мне ад такой пахвальбы, безумоўна, стала радасна: атрымліваецца, што не марна вучыўся на журфаку. Дый ад таго ўзрадаваўся яшчэ, што «ўліванне» ў працоўны калектыў адбываецца паспяхова. Праўда, калі паглядзеў на рэдактара, па ягоным позірку заўважыў, што паводзіць ён сябе крыху не так, як да гэтага. Больш вясёлы, раскаваны. Прычына стала зразумелай, калі ўбачыў, як адзін з загадчыкаў аддзела, увайшоўшы ў кабінет, штосьці зашаптаў рэдактару на самае вуха. Той, зрабіўшыся сур'ёзным, ціха сказаў:

— Адну.

Для мяне не заставалася сумнення, што мае новыя калегі таксама займаюцца «ўліваннем». Толькі, вядома, не ў калектыў, які для іх даўно свой, а незаўважна ад мяне прапускаюць адну-другую шклянку пладова-«выгаднага». Зразумелым стала і іншае: паколькі я іх частаваць не збіраўся, то нельга было чакаць гэтага і ад іх. Але адначасова ў галаве мільгнула і іншая думка: калі ім можна, то чаму не можна мне? Але не кінеш жа чытаць палосы. Таму давялося крыху пачакаць, калі чарговую панясуць на праўку і ў мяне з'явіцца вольная хвіліна.

Пасля гэтага я і паспяшаўся на аўтобусную станцыю, на якой меўся буфет, які працаваў дапазна. Пра гэта я даведаўся, калі пасля абароны дыплома прыязджаў у Драгічын «на разведку». У гэтым жа буфеце прадавалі і тое, чаго мне цяпер так хацелася. Я папрасіў у буфетчыцы шклянку віна, а ў дадатак ці то нейкі піражок, ці то яйка, і, задаволены зробленым, вярнуўся на дзяжурства. Настрой стаў нават куды больш прыемны, чым ад пахвальбы рэдактара. А паколькі дзяжурства зацягвалася, то я паспеў зрабіць у буфет яшчэ адну ходку. Калі што і здзівіла, дык тое, што буфетчыца ўсміхнулася мне, як старому знаёмаму. Пазней ужо, калі стаў у Драгічыне сваім чалавекам, даведаўся, што Броня — так звалі гэтую немаладу жанчыну, ведала, хто я такі. Аб з'яўленні ў рэдакцыі маладога супрацоўніка чуткі разышліся хутка, а тыя, хто працаваў у газеце, былі яе сталымі кліентамі.

— Шклянку? — для пэўнасці спытала буфетчыца Броня.

— Шклянку! — упэўнена адказаў я, і, апярэджваючы яе запытанне наконт закускі, дадаў: — Больш нічога.

Яна не толькі з разуменнем, але і з радасцю паглядзела на мяне, канчаткова ўбачыўшы ў маёй асобе сталага наведвальніка. Вядома, што ў далейшым я не мог не апраўдаць яе спадзяванні.

Нарэшце, была прачытана апошняя паласа. Рэдактар падпісаў нумар у друк і ўсе пачалі разыходзіцца. Але мне спяшацца на кватэру не хацелася, Пратасевіч на той час у рэдакцыі яшчэ не працаваў, таму я вырашыў адзін прагуляцца па Драгічыне. Хутка я апынуўся каля гарадскога парку, у якім, я гэта ўжо ведаў, працаваў павільён, які па-простаму называлі забягалаўкай. Калі я прайшоўся некалькі разоў узад-уперад, ногі мяне самі пацягнулі ў гэты павільён.

Зайшоўшы ўнутр, я здзівіўся, як шмат у ім народу. Зразумела, гэта былі мужчыны. Пазней, калі пасля арміі працаваў у Капылі, а потым у Слуцку, нічога падобнага не бачыў. Вядома, там таксама працавалі розныя павільёны і буфеты, але ў іх было не так людна. Тут жа было такое ўражанне, што ўсе мясцовыя Адысеі, як у той песні, уцяклі сюды «от жены, от детей». Давялося станавіцца ў даўгаватую чаргу. Выстаяўшы яе, я пачаў азірацца па баках, шукаючы вольнае месца. Але нідзе яго не было. Заняты былі не толькі сталы. Некаторыя абступілі нават вялізныя дубовыя бочкі, у якіх тады прывозілі піва. Я ўжо хацеў выпіць віно стоячы, як з-за аднаго са сталоў пачулася:

— Сашка, ідзі да нас!

Я ўздрыгнуў не столькі ад поклічу, колькі ад таго, што хтосьці тут ведае мяне.

Аказалася, што за тым сталом сядзелі супрацоўнікі газеты. Адзін з іх да таго, як я прыехаў па размеркаванні, узначальваў аддзел пісьмаў. Калі я падышоў, хтосьці з іх незласліва папракнуў:

— Пачаставаць шкадуеш, а адзін...

Я, не даслухаўшы яго, накіраваўся назад. У чарзе зашумелі, але, калі даведаліся, што толькі што разлічваўся з буфетчыцай, дазволі ўзяць яшчэ. Потым, зразумела, было яшчэ і яшчэ. У свой пакойчык я вярнуўся познім вечарам. Пакінулі мы буфет ці не перад самым закрыццём, а да ўсяго яшчэ пагаварылі ў парку. Разышліся як самыя блізкія сябры. Нават той супрацоўнік, які пазбавіўся з-за мяне аддзела, нікольki не крыўдаваў. Журналісцкай адукацыі ён не меў. Дый рэдактар абяцаў пакінуць яго ў рэдакцыі звычайным супрацоўнікам.

Аднак, калі я прыйшоў у рэдакцыю раніцой, заўважыў, што нешта не так... Тыя, з кім я ўчора бавіў час, былі пахмурныя, былы загадчык аддзела зусім не з'явіўся. Нарэшце, адзін з іх, Васіль Андрэевіч, з якім пазней склаліся такія прыязныя адносіны, ці то папрасіў мяне, ці то папярэдзіў:

— Нікому ні слова пра тое, што ўчора былі разам.

— Ды буду маўчаць як рыба, — запэўніў я яго. — Навошта гэта афішыраваць.

— Маладзец, — сказаў ён, але выраз ягонага твару па-ранейшаму заставаўся сумным. — Астатняе, Сашка, — уздыхнуў ён, — сам даведаешся.

Гэтае «сам даведаешся» заінтрыгавала мяне, але, бадай, у большай ступені спалохала. Значыць, адбылося нешта такое, пра што ён сам не хоча казаць, а можа, і баіцца нават. Адразу стала не па сабе. Неставала яшчэ, каб адразу ўліп у нейкую непрыглядную гісторыю.

Праўда, як хутка высветлілася, уліп былы загадчык аддзела пісьмаў. Ён і дагэтуль меў нямала непрыемнасцей на рабоце з-за таго, што не ў меру ўжываў спіртное. Хоць яго неаднаразова папярэджвалі, аб'яўлялі вымовы, ды выправіцца чалавек ніяк не мог. Перад маім прыездам ён атрымаў апошняе папярэджанне. Магчыма, калі б яшчэ нейкую правіннасць ён зрабіў на рабоце, рэдактар пастараўся б усё спусціць на тармазах, але адбылося такое...

Былы загадчык аддзела пісьмаў жыў у адным доме з сакратаром райкама партыі. Падобныя двухпавярховікі ў сярэдзіне 60-х гадоў з'яўляліся ў шмат якіх невялікіх раённых цэнтрах. Дый пазней будаваліся, падобныя адзін на адзін. Але той былы загадчык не дамы пераблытаў, а паверхі ў сваім доме. Таму патрапіў не ў сваю кватэру, а ў тую, у якой жыў сакратар райкама.

Настолькі п'яны быў, што калі яму адчынілі дзверы, нават не заўважыў, што перад ім не ўласная жонка, а чужая жанчына. Тут жа ў прыхожай пачаў распранацца. Калі ён стаў знімаць штаны, гаспадыня закрычала, паспрабавала прагнаць яго. Ды дзе там! Стоячы ў адных трусах, ён паслаў яе — куды, зразумела, і накіраваўся ў спальню. Акурат у гэты момант і з'явіўся сакратар райкама. Толькі пасля гэтага былы загадчык аддзела зразумеў, што штосьці атрымалася не так, але ён быў настолькі п'яны, што не ўстаяў на нагах і паваліўся на падлогу. Давялося гаспадару па тэлефоне выклікаць ягоную жонку.

Гэтая прыгода і вызначыла далейшы лёс былога загадчыка аддзела пісьмаў. Пасля таго ён ужо стаў увогуле былым журналістам. Па-мойму ў рэдакцыі ніхто так і не даведаўся, што гэтаму «паспрыяў» і я. Тыя, з кім у той вечар выпіваў, умелі трымаць язык за зубамі. Толькі мне ад гэтага не лягчэй. Па сённяшні дзень адчуваю нейкую маральную віну.

Ці ўзяць яшчэ адзін выпадак падобнага кшталту. Расказаў мне пра яго

празаік В., на жаль, ужо нябожчык. У Мінску мы хоць і працавалі з ім у розных рэдакцыях, але ў адным будынку, а жылі ў суседніх дамах, якія стаялі паралельна. Прытым гэта пяціпавярховікі, пабудаваныя па тыпавым праекце, а таму вельмі падобныя. Калі б ішоў хто ноччу, не ведаючы іх нумарацыі, то мог бы лёгка пераблытаць, у каторы яму трэба ісці.

Празаік жа В. часта дамоў вяртаўся на «аўтапілоце», то аднойчы і патрапіў не ў свой. Знайшоўшы «свой» пад'езд, ён, паколькі на той час дамафонаў яшчэ не было, лёгка зайшоў унутр і падняўся на патрэбны яму паверх. Падышоў да «сваёй» кватэры, дастаў ключ. Аднак як ні стараўся, ключ не хацеў паварочвацца. Празаік В., крыху пачакаўшы, паўтарыў свае намаганні. Зноў ніякіх вынікаў. Тады ён націснуў кнопку званка. Дзверы адразу расчыніліся і В. убачыў на парозе раззлаванага незнаёмага мужчыну. Тут трэба сказаць, што п'яным В. заўсёды станавіўся вельмі раўнівым.

— Ты хто такі?! — абурана закрычаў празаік. — Да маёй жонкі прыйшоў! — ён паспрабаваў нанесці мужчыну ўдар, але той здолеў ухіліцца і нанёс удар у адказ.

Празаік В. упаў на падлогу, але знайшоў у сабе сілы падняцца і кінуўся на свайго крыўдзіцеля. Той закрычаў:

— Мала яшчэ?! То атрымлівай! — ён з размаху так ударыў празаіка В., што той адляцеў у бок і, паваліўшыся, апынуўся ля краю лесвіцы, што вяла ўніз. Мужчына, не чакаючы пакуль ён падымецца, штурхануў яго нагой і пайшоў у кватэру.

Празаік В. з цяжкасцю падняўся. Пачуццё рэўнасці настолькі апанавала яго, што ён вярнуўся назад да «сваёй» кватэры і сабраўся біць у дзверы нагамі, але ў апошні момант на яго быццам найшло нейкае прасвятленне. Ён уважлівей прыгледзеўся да дзвярэй і зразумеў, што гэта дзверы не ягонай кватэры. Але ж нумар то ягоны? Празаік В. цяжка прыхінуўся да сцяны. Невядома, колькі б ён яшчэ прастаяў так, калі б дзверы не адчыніліся.

— Ты яшчэ тут? — закрычаў мужчына. — Мала атрымаў?

Чакаць «дабаўкі» празаік В. не стаў і павольна, паколькі ягоныя ногі падкошваліся, пачаў спускацца па лесвіцы ўніз. Толькі калі апынуўся на лаўцы, што стаяла ля пад'езда, да яго нарэшце дайшло, што ён пераблытаў дамы.

## Жонка ўрач — з хворым сэрцам да каханкі не ідзі

Сцвярджаючы так, я, праўда, не збіраюся пераконваць, што гэта абавязкова трэба рабіць, калі жонка твая, для прыкладу, настаўніца, альбо, скажам, журналістам працуе. Каханне, як і Усход, справа тонкая. Самому вырашаць, як і што рабіць. А можа, лепей і ўвогуле нічога не рабіць. У тым сэнсе, што лепш дома застацца, чакаючы з работы сваю законную палавіну. Парадамі тут толькі можна нашкодзіць. Але ў адным магу запэўніць: усё ж асабліва небяспечныя хаджэнні налева тады, калі жонка ў цябе ўрач.

Аднак перш чым расказваць пра справы сардэчныя — у прамым і пераносным сэнсе, паведаю спачатку пра выпадак, пра які неяк даведаўся ад сваёй знаёмай. Ён у чымсьці падобны на папярэднія. З адной хіба розніцай: зыход у ім шчаслівы.

Адбылося гэта таксама даўнавата, яшчэ тады, калі мала хто меў мабільныя тэлефоны. Адсутнасць яго ў мужа маёй знаёмай акурат і паўплывала на тое, што яна трапіла ў сітуацыю, якая спачатку ёй каштавала нямала нерваў, а потым, калі прыйшла ў сябе, прымусіла пасмяяцца.

Пачалося ўсё з таго, што муж затрымліваўся з работы. Падобныя затрымкі за ім і раней назіраліся, але звычайна ён з'яўляўся ў гадзін восем-дзевяць вечара. Зразумела, адпачыўшы ў коле сяброў. Але паколькі наступным днём мусіла быць субота, то гэтым разам ён затрымаўся даўжэй. Толькі недзе ў гадзін адзінаццаць вечара патэлефанаваў. Ці то з гарадскога тэлефона-аўтамата, ці то з чужой кватэры. Высвятляць яна не стала, бо ягоны язык настолькі заплятаўся, што і так з цяжкасцю разабрала, што хацеў сказаць. Адно дайшло да яе: хутка будзе дома.

У чаканні правяла ці не гадзіну. І з акна на вуліцу глядзела, і да дзвярэй падыходзіла, каб упэўніцца, ці не ідзе ён. Быў бы мабільнік, канечне ж, магла б сазваніцца, а так даводзілася чакаць, молячы Бога, каб хоць нічога не здарылася. Нарэшце дзесьці апоўначы ў тамбуры, а ў тамбуры ўваход у дзве кватэры — суседскую і іхнюю, пачуліся цяжкія крокі. «Нарэшце», — з палёгкай уздыхнула яна і, не пытаючыся, хто там, рашуча адчыніла дзверы. Лепей не рабіла б гэтага!

У праёме дзвярэй паказаўся невядомы мужчына і, дыхнуўшы перагарам, у прамым сэнсе … паваліўся на яе. Ад страху ў яе перахапіла дыханне. Яна нічога не магла сказаць, толькі з усёй сілы адштурхнула яго ад сябе. Мужчына ж ніяк не мог зразумець, чаму яго не пускае ва ўласную кватэру нейкая чужая жанчына

— Ты хто такая, маць тваю?! — азвярэў ён. — Адкуль ўзялася ў маёй кватэры?!

— Пайшоў вон! — закрычала ў адказ мая знаёмая, з жахам пачынаючы ўсведамляць, што адной з гэтым агрэсіўным прышэльцам не саўладаць.

— Гэта я «пайшоў вон»?! — ягоныя п'яныя вочы звузіліся, не абяцаючы нічога добрага. Мужчына паспрабаваў адштурхнуць яе, каб зайсці ў прыхожую.

Невядома, чым бы гэты няроўны паядынак скончыўся, калі б у тамбуры не пачуліся крокі. Яна ўжо не сумнявалася, што гэта, нарэшце, вярнуўся дамоў яе муж.

— Валодзя! — з радасцю закрычала яна і адразу перайшла на слёзы: — Зрабі з ім што-небудзь!

— Хто гэта?! — у сваю чаргу закрычаў муж.

— Адкуль я ведаю? — яна не апраўдвалася, а ўсё яшчэ ніяк не магла прыйсці ў сябе. — Думала, што ты... Адчыніла дзверы, а гэта ён...

З цяжкасцю падбіраючы слова, муж звярнуўся да незнаёмца:

— Пайшлі, разбяромся...

— Пайшлі, — гэтаксама, ледзьве варочаючы языком, з цяжкасцю адказаў незнаёмец, кіруючыся за ім.

— Вярніся, Валодзя, — загаласіла мая знаёмая.

Ды муж, зразумела, не стаў яе слухацца, толькі напаследак сказаў:

— На лаўцы каля дома пасядзім.

Ёй нічога не заставалася, як згадзіцца. Калі ж праз некаторы час падышла да акна, то ўбачыла, што муж з незнаёмцам і сапраўды сядзяць на лаўцы, аб чымсьці размаўляючы.

— Знайшоў алкаголік алкаголіка, — падумала знаёмая, але ўжо не злосліва, бо пераканалася, што ўсё скончылася добра.

Па вяртанні ж мужа даведалася, што ў іх кватэру «ламаўся» мужчына з іхняга ж пад'езда. Небарака столькі ўзяў «на грудзі», што пераблытаў паверхі. Разабрацца, што тамбур зусім не такі, як на ягоным паверсе, ён быў ужо не ў стане. «Аўтапілот» у такіх дробязях не разбіраецца. У яго іншая задача —

давесці чалавека бліжэй да дома, што ён і зрабіў. У астатнім кожны мусіць разлічваць на ўласныя магчымасці.

Хоць час расказаць і пра асаблівую небяспеку хаджэння налева, калі жонка ў цябе ўрач. Праўда, ведаю пра ўсё не з асабістага вопыту. Але ўсё адно магу нават пабажыцца, што гэта менавіта так. Бо адна ўрач сама прызналася мне, як нечакана заспела на месцы здрады свайго мужа, у вернасці якога ніколі не сумнявалася. Пасля таго расказала, як я з ёю пазнаёміўся. Таксама нечакана. І таксама з-за … спраў сардэчных. Хоць такога знаёмства нікому іншаму не жадаю. Нават таму, хто далёка не сябар мне. Па той прычыне не жадаю, бо гэткія сустрэчы нярэдка заканчваюцца ў лепшым выпадку бальніцай.

Ды годзе інтрыгі. Пачалося ўсё будзённа-проста: прыхапіла ў мяне сэрца. Паколькі маю ўжо немалы вопыт, як трэба паводзіць сябе ў падобных выпадках, адразу ўхапіўся за выртавальны валідол. На жаль, не дапамог. Нічога станоўчага не дала і другая яго таблетка, пакладзеная пад язык. Потым была нітрагліцэрына, але і яна не дапамагла. Засталося адзінае выйсце — выклікаць хуткую. Што я і зрабіў. А праз некаторы час, як і мае быць, на маёй кватэры з'явілася ўрач.

На шчасце, нічога сур'ёзнага не аказалася. Усё абышлося традыцыйным у падобных выпадках уколам. Калі ж ён быў зроблены, урач — жанчына ўжо ў гадах — падказала, што няблага было б прайсці курс масажу. Пры адной думцы, што давядзецца некуды хадзіць, мне стала не па сабе, таму я катэгарычна адмовіўся.

— А вы ўсё ж падумайце, — усміхнулася ўрач, — я ж і сама даўно практыкую масаж.

— Самі? — здзівіўся я.

— А чаму б і не? Прайшла курсы… Дый не шмат бяру. Апроч усяго буду прыязджаць да вас на кватэру.

— Так і быць, — нарэшце згадзіўся я.

Так і пачалася для мяне масажатэрапія. Паколькі ж кожны сеанс быў працяглы — ці не гадзіну займаў, то быў час пагаварыць. Тым больш, што мая масажыстка аказалася жанчынай гаваркой. Такіх ніколі за язык цягнуць не трэба. Ахвотна і пра сваё жыццё раскажуць. З нямецшай ахвотай, калі пажадаеш, і тваю споведзь выслухаюць. Адным словам, хутка мы знайшлі з ёй паразуменне. Пакрысе і да спраў … сардэчных перайшлі.

Не ўсміхайцеся: у мяне і думкі не было, каб рабіць да яе нейкія «захады». У яе, не сумняваюся, — тым больш. Гаварылі, канечне, пра любоў, але, як кажуць, усё вакол… Пра тое, што нас абаіх не тычылася. Але нечакана «масажыстка» перайшла на сваё, асабістае.

— Ведаеце, — аднойчы сказала яна, — а я са сваім першым мужам развялася.

«Развялася дык развялася, — падумалася мне, — што мне да гэтага. Мала хто разводзіцца. Многія з гэтага і ніякай трагедыі не робяць».

Урач, бадай, здагадалася, што за думкі з'явіліся ў маёй галаве.

— Са мной адбыўся, — заінтрыгавала яна, — вельмі рэдкі выпадак… Вам, як пісьменніку, — дадала яна, — думаю, гэта будзе цікава.

— Вельмі рэдкі? — мне захацелася хутчэй пачуць, што ж сапраўды адбылося.

— Слухайце, самі ўпэўніцеся.

Першы муж гэтай «масажысткі» быў кандыдатам навук, працаваў выкладчыкам у адной з вышэйшых навучальных устаноў. Працы ставала, таму меў, як кажуць, ненарміраваны дзень. Яна яшчэ хвалявалася, прасіла яго, каб бярог

сябе, бо часам скардзіўся на сэрца. Але ён запэўніваў, што нічога страшнага, без работы нельга. Таму калі-нікалі вяртаўся вельмі позна. І не здагадвалася жонка, што да асноўнай работы ў яе мужа была яшчэ і такая, якая прыносіць куды больш прыемнага.

Тайнае стала яўным зусім нечакана. З-за збегу акалічнасцей. Падчас дзяжурства гэтай «масажысткі» прыйшоў выклік, што аднаму мужчыну вельмі кепска. Яе і паслалі па ўказаным адрасе. Увайшоўшы з медыцынскай сястрой у патрэбную кватэру, яны хуценька распрануліся і накіраваліся ў пакой, у якім на канапе ляжаў мужчына.

— Урач, дапамажыце, — залівалася слязьмі яго маладая жонка, — памірае…

— Перастань, — ціха абарваў яе мужчына. Па ўсім відаць, ён і сапраўды адчуваў сябе вельмі блага.

— Супакойцеся, — адказала ўрач і наблізілася да хворага.

Як толькі ўважліва зірнула на мужчыну, яе ногі падкасіліся: на канапе ляжаў яе муж.

— Ты? — міжвольна вырвалася ў яе.

— Дапамажы, — адзінае, што знайшоўся ён сказаць.

Яна дамагла. Не магла ж парушыць клятву Гіпакрата. Апроч таго ратавала не каго-небудзь чужога, а ўласнага мужа.

— Так што запомніце, — сумна закончыла сваю споведзь «масажысткa», — калі ў вас жонка ўрач, з хворым сэрцам да каханкі не хадзіце.

Канечне, пасля гэтага з мужам яны разышліся. Праўда, хутка разышоўся з гэтай «масажысткай» і я. Безумоўна, курс масажу, які я аплаціў, яна завяршыла. Аднак ужо калі я прайшоў палову яго, у мяне з'явілася насцярога, а ці так ужо неабходна мне гэтае лячэнне. Пасля таго з'явілася, калі ўрач параіла:

— Вельмі забаліць сэрца, можна месца, дзе яно знаходзіцца, памазаць мачой.

Я прамаўчаў, але ніякага жадання займацца урынатэрапіяй у мяне не было. А яшчэ падумалася, што, магчыма, нейкую не такую тэрапію яна праводзіла і са сваім першым мужам, таму і пачаў шукаць любоўную ўцеху па-за межамі свайго дома. Ды ў рэшце рэшт — гэта іх асабістая справа. Тым не менш, калі маеш жонку-ўрача, лепей да каханак не хадзіць. Асабліва калі ў цябе хворае сэрца. На ўсялякі выпадак трэба берагчы сябе. Ад разводу!

## Усё, што ні адбываецца, к лепшаму

Не памятаю, хто гэта і сказаў. Магчыма, і народная мудрасць. Сутнасць жа заключаецца ў тым: да трыццаці гадоў чалавек ўсё ўспрымае сэрцам, а пасля трыццаці — розумам. У тым сэнсе, што ў маладым узросце стаўленне да тых ці іншых падзей больш эмацыянальнае, а часам і катэгарычнае. Калі ж гаворка заходзіць пра пэўныя ацэнкі, то яны часам празмерна крытычныя, без уліку канкрэтных рэалій. Дый то з'яўляюцца па прынцыпе: кураня курыцу вучыць. Дарэчы, ці не найбольш характэрны прыклад тое, як ставіліся некалі некаторыя «маладнякоўцы» да сваіх папярэднікаў. Іхні тэзіс «у рожкі са старымі» нічога добрага не даў. Відавочна хіба толькі адно: зробленае ў літаратуры «старымі» і сёння яе залаты фонд, а многія «маладыя» так і нічога не пакінулі пасля сябе. На жаль, не ўсе ўрокі засвойваюцца наступнікамі. Гэта назіраецца і сёння, калі многія маладыя літаратары, нічога па сутнасці не напісаўшы, гатовы адхіліць ці не ўсю савецкую літаратуру, што з упартай паслядоўнасцю

і робяць. Самі ж далей звычайных практыкаванняў не ідуць, не прамінаючы паднесці гэта як новую літаратуру.

Успомнілася гэта мне з такой нагоды. Калі я пісаў дыпломную работу, то выбраў наступную тэму: «Публіцыстыка Янкі Купалы». А паколькі мне на той час было ўсяго няпоўных дваццаць тры, то і ўспрыняў публіцыстыку народнага песняра не розумам. А пры падобным стаўленні лёгка і крытычных захадаў зрабіць. Чым я і не прамінуў пакарыстацца, таму і выказаў шаноўнаму Івану Дамінікавічу пэўныя заўвагі. Зразумела, не істотныя, але тады мне яны здаваліся значнымі. Гэта, канечне, было належным чынам ацэнена, таму і атрымаў не пяцёрку, а чацвёрку.

Ды з мяне дастаткова было і чацвёркі. Галоўнае, што яна сумленна заробленая. Сёння ж… Сёння мне ніякавата, што замахнуўся на самога Купалу. Але гэта сёння, калі ўсё стараюся ўспрымаць розумам. Розумам — цяжэй, сэрцам — лягчэй.

Дзеля чаго я гэта ўспомніў? Цягам часу наша стаўленне да таго, што было — і ўвогуле ў жыцці, а тым больш у тваім асабістым, мяняецца. Але дазволю сабе паўтарыцца, бо гэты момант я часткова закранаў ужо ў пачатку сваёй споведзі, недаравальна цягам часу старацца падаць сябе з лепшага боку. Да гэтага я, думаю чытач заўважыў, не імкнуўся. Больш за тое, у нечым магчыма і празмерна «раскрыўся». Аднак уносіць хоць якія-небудзь купюры ніякага жадання няма. Дый я ў тым ужо ўзросце, калі няма сэнсу штосьці хаваць, а трэба ўжо думаць пра вечнае, а ўжо ў самой вечнасці разбяруцца, ці правільна жыў, ці тое рабіў, што трэба.

Дарэчы, у кнізе Юрыя Бондарава «Мгновения», якую я ўжо згадваў двойчы, ёсць і развагі пра тое, як шмат у свеце загадкавага і невытлумачальнага. Над гэтым асабліва задумваецца той, да каго нечаканага падкрадваецца страшная хвароба. Як і кожны на ягоным месцы, ён абдумвае пражытае. Не можа не думаць і над тым, як шмат у свеце несправядлівасці. Не ў глабальным, канечне, маштабе, тут і так усё зразумела. Дый калі тваё ўласнае жыццё вісіць па сутнасці на валаску, зусім не да высокіх матэрый. Праводзячы ў пакутлівым роздуме не тое што гадзіны, а дні і ночы, ён паступова прыходзіць да высновы, што, бадай, лёс кожнага чалавека загадзя прадвызначаны і, хочаш таго ці не хочаш, а хутчэй за ўсё пражывеш роўна столькі, колькі табе адведзена. Пра гэта і навела Ю. Бондарава «Но все-таки...» Дазволю сабе прывесці яе цалкам:

«Наверное, где-то там, в бесконечности, есть свой список, и ежедневно некая рука с усталой небрежностью ставит крестик или галочку напротив какого-либо имени — и тот, кто носил это имя на грешной земле, покидает ее в срок намеченный.

В выборе этом почасту нет благоразумного, логического порядка и нет верховной справедливости (так нам кажется), и мы говорим о неисповедимых путях, о високосном роковом годе, прошедшем с косой по знакомым и близким нашим, по совсем молодым людям, а слова «инфаркт» и «рак» стали уже эмоционально равнозначны понятиям «война» и «смерть».

Раз мой приятель, вернувшись из больницы и идя со мной вечером из ресторана по теплой весенней улице, сказал:

— Если зажечь над окнами всех смертельно больных всего мира красные лампочки, нас потрясла бы эта страшная иллюминация на большой земле!..

Но все-таки... все-таки если там, в запредельных списках, норма справедливости, не перепутываются ли эти списки кем-то с мстительной, пугающей людей злорадностью, не опахивает ли их черное, казнящее крыло, лукавя, обдавая вне очереди обреченные имена запахом жженой горечи?

Или, может быть, истина в сердцевине закона кажущегося равновесия? Это выше понимания разума человеческого. И здесь нет ответа».

Адказу і сапраўды няма. Правільней, у кожнага свой адказ. Над гэтым асабліва задумваешся, калі сам апынаешся перад выбарам: быць ці не быць. У такое становішча я трапіў, толькі паспеўшы размяняць свой шосты дзясятак. Калі хуткая везла ў дзявятую клінічную бальніцу, спачатку здавалася, што нічога страшнага няма. Занепакоіўся пасля таго, як адразу трапіў у рэанімацыю. Дый то не адразу, бо, як даведаваўся пазней, нам давалі ўколы, якія не толькі боль здымалі, а, як бы лепей сказаць, трывогу.

Дый, аказваецца, у такія палаты медсясцёр бяруць як на падбор: усе маладыя, прыгожыя. Для таго, каб у іхняй прысутнасці хворыя адчувалі сябе камфортна. Паколькі ж праца ў рэанімацыйных палатах цяжкая, то праз некалькі гадоў медперсанал мяняюць. Я так і не прывык называць іх медсёстрамі, ці сёстрамі. Звычайна звяртаўся «девушка». Тая ці іншая «девушка» папраўляла мяне, казала, што я няправільна звяртаюся. Ды як жа іначай звяртацца, калі «девушки» на заглядзенне, а то і на выданне. Канечне, не для нас, у каго аказаўся інфаркт.

Зноў жа і наконт дыягназу ашчаджалі нас. Ужо ўрачы. Спачатку ўсёй праўды не казалі. Таму і я быў упэўнены, што ў мяне, як і ў іншых, усяго мікраінфаркт. Што нешта не так, западозрыў толькі пасля таго, калі некаторых з такім самым дыягназам перавялі ў звычайныя палаты, а мяне працягвалі ўтрымліваць у рэанімацыі. Іначай і нельга было, бо ў мяне быў складаны інфаркт. Па-руску кажучы, «обширный». Але тады, наколькі гэта складана, не думалася. Паглядзіш на адну медсястру, на другую... Прабачце, на адну «девушку», на другую — і адразу хораша становіцца на збалелым сэрцы.

Трывога з’явілася пасля таго, як падчас знаходжання ў звычайнай палаце, мне забаранілі хадзіць у сталовую, а ежу прыносіла санітарка. Дый прагулкі па доўгіх калідорах — у дзявятай яны такія, хоць на веласіпедзе катайся — вельмі стамлялі, а то і заканчваліся болямі ў сэрцы. Пра тое, каб выйсці на вуліцу і гаворкі не ішло. Але канчаткова, наколькі ўсё сур’ёзна, я ўпэўніўся, калі мяне адпраўлялі ў санаторый.

Цяпер гэта «Беларусачка» паблізу Ждановіч. На той жа час ён, здаецца, называўся «Беларусь» і ў ім абавязкова (бясплатна) лячылі ўсіх, хто перанёс інфаркт. За выключэннем, аднак, пенсіянераў. Маўляў, яны і так непрацазольныя. Паколькі мне тады да пенсіі было далекавата, то я не надта задумваўся над падобнай сацыяльнай несправядлівасцю.

Дык вось зайшла ў палату медсястра і сказала, каб складваў свае рэчы ў пакет. А якія маглі ў мяне быць рэчы? Зубная паста, шчотка, мыла. Ды яшчэ лёгкая куртка. Склаў я ўсё гэта ў пакет, а медсястра:

— Я панясу. Вам нельга.

— Што вы, — запярэчыў я. — Сам...

Яна нічога не адказала. Я і не здагадваўся, якую непасільную ношу ўзяў на сябе. Едучы ў ліфце, яшчэ неяк трымаў гэты пакет, але калі выходзіў з вестыбюля да «рафіка», то ледзь не хістаўся. Праўда, сядаючы ў яго, яшчэ паспрабаваў кінуць медсястры нейкі двухсэнсоўны камплімент, ад якога яна

ўсміхнулася, а малады вадзіцель паглядзеў на мяне так, што ў позірку гэтым прачытвалася: а ты, бацька, упэўнены, што выкарабкаешся?

Выкарабкваўся я сапраўды цяжка. У рэшце рэшт, як і іншыя, хто перанёс такі цяжкі інфаркт. З адной толькі розніцай: многім не пашанцавала, а мне пашчасціла. Сапраўды ўжо, мабыць, недзе ўверсе для кожнага «срок помечен». Канчаткова ўпэўніўшыся ў гэтым, я ў думках пачаў маліць Бога: «Госпадзі, толькі дапамажы». Маліў, хоць да гэтага быў атэістам. Не ваяўнічым, праўда, але атэістам. І не хрышчаным быў, бо нарадзіўся ў сям'і настаўнікаў. Цяпер жа я паўтараў: «Госпадзі, толькі дапамажы. Абавязкова пахрышчуся».

Усявышні пачуў маю мальбу. Хоць і паступова, а як жа іначай, калі на сэрцы была не проста рана, а вялізная рана, станавіўся на ногі. Памятаю, што, як толькі вярнуўся з санаторыя, хоць і працягваў знаходзіцца на бальнічным, паспяшаўся ў тагачасную Ленінку. Клаў раз-пораз пад язык выратавальны валідол і стараўся штосьці чытаць, нешта выпісваў з заказаных кніг. Часам наведваўся ў рэдакцыю «ЛіМа», у якім працаваў, бо мая ўласная пішучая машынка стаяла на рабоце. Але больш-менш без праблем удавалася надрукаваць усяго некалькі старонак, як у сэрцы з'яўляўся цяжар, яно пачынала балець. Пасля ад урача даведаўся, што менавіта пры працы за пішучай машынкай, а яшчэ пры вязанні, адбываецца ўдзеянне на нервы, што вядуць да сэрца, таму і з'яўляецца боль.

Пра тое, у чым пакляўся, канечне, не забываў. Дый падзяліўся гэтым з жонкай. Тая ўзрадавалася. Маўляў, нарэшце зробіш тое, да чаго прыйшлі іншыя куды ў больш раннім узросце. Я ж пацікавіўся, як адбываецца абрад хрышчэння. Хутка ж у мяне аказаўся і тэкст малітваў, якія трэба вывучыць на памяць. Тут-то і атрымалася замінка. Як ні стараўся я, у мяне нічога не атрымлівалася. Тэкст малітваў ніяк не завучваўся, хоць, калі школьнікам, ніякіх праблем не ўзнікала з завучваннем на памяць якога-небудзь верша ці ўрыўка з празаічнага твора. Мабыць, цяпер сказваўся ўзрост. Дый усё ж тэксты малітваў больш складаныя. У такім разе, як быць?

Думаў-разважаў я і знайшоў простае і, як мне здаецца, правільнае выйсце. Так сказаць, па аналогіі. Калі чалавек каго-небудзь кахае, то ён выказвае прадмету сваёй любві ўласныя словы, а не паўтарае тое, што гаварылі да яго іншыя. То чаму я не маю права сваімі словамі выказаць любоў да Бога. Праўда, у храме, у якім мелася адбыцца маё хрышчэнне, святар, калі даведаўся пра гэта, паставіўся да ўсяго крыху іначай. Было вырашана, што ён чытае малітву, а я паўтараю. Так і стаў я праваслаўным вернікам. Пачаў жыць новым жыццём.

Правільней, жыццё маё падзялілася на два перыяды: да і пасля. Але не столькі да інфаркту і пасля інфаркту, колькі да хрышчэння і пасля хрышчэння. І гэты другі перыяд стаў для мяне на дзіва плённым і выніковым. Мне прысвоілі званне лаўрэта Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь. Я двойчы стаў лаўрэатам прэміі «Залаты Купідон». Мне прысвоена (зноў жа двойчы) званне заслужанага журналіста Беларускага саюза журналістаў, я лаўрэт прэміі БСЖ «Залатое пяро». Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь узнагароджаны медалём Францыска Скарыны.

Гэта, аднак, не значыць, што ўсё было так бясхмарна. Маю на ўвазе не толькі працу, нават не столькі працу. На жаль, выпрабаванні са здароўем не скончыліся. Некалькі гадоў назад урачы паставілі несуцешны дыягназ: дыябет другога тыпу. І гэта прытым, што ніхто з маіх родзічаў на такую хваробу не хварэў. Сказалася ўжыванне розных лекаў: лячыў сэрца калечыў падстраўнікавую залозу. Ды галоўнае — жыву. І стараюся пра гэтую яшчэ больш цяжкую

хваробу, невылечную хваробу не думаць: у кожнага свой «срок помечен». Хочется спадзявацца, што для мяне ён будзе доўгім. Таму калі нехта месца сабе не знаходзіць пасля таго, як яму паставілі такі дыягназ, то часам суцяшаю яго, што нічога страшнага, а калі-нікалі і жартую па-чорнаму. Маўляў, чаго баяцца, усё адно абяцаюць хуткі канец свету.

Нядаўна да мяне ў кабінет заявіўся паэт і празаік Х. Ён быў, як ніколі вясёлы і твар ягоны ззяў, як той начышчаны самавар. Толькі сабраўся даведацца ў яго, у чым прычына такой радасці, як ён сам усё і расказаў:

— Урачы падазравалі, што ў мяне дыябет, але аналіз не пацвердзіўся. А я ўжо думаў, што ўсё.

— Чаму ўсё? — здзівіўся я. — Жывуць жа людзі і з дыябетам. І мяне ён не абмінуў...

— Э, нічога ты не ведаеш. Мой цесць ад яго памёр, пражыўшы крыху больш за пяцьдзясят.

Цесць Х. некалі адказваў за ўсю мінскую падпіску і, трэба сказаць, многім дапамог.

— На той час не было такіх лекаў, як сёння, — запярэчыў я.

— Ат, — Х. гатоў быў адмахнуцца ад мяне, як ад назойлівай мухі, — нічога ты не разумееш.

Пасля такога папроку мяне прарвала:

— А ты правяраўся на СНІД? — я ўважліва паглядзеў на яго.

— Прычым тут СНІД? — спалохаўся Х.

— Ты хіба не ведаеш, што некаторыя прыкметы гэтых дзвюх хвароб супадаюць?

— Няўжо? — на Х. стала страшна глядзець. — Не можа такога быць?!

— Газеты трэба чытаць, — параіў я яму, адчуўшы, што ён не зразумеў жарту.

— Газеты кажаш? — нарэшце да яго дайшло, што я жартую. — Я табе ўсур'ёз, а ты...

Згодзен, часам жартую, як кажуць не да месца. Нават і тады, калі гаворка заходзіць пра гэтую маю хваробу. Але ж у дадзеным выпадку смех — свайго роду засцерагальны шчыт. Пажартуеш і пачынаеш забываць, наколькі ўсё сур'ёзна. Хоць часам становіцца не па сабе. Тады, калі нечакана напаткоўваеш у друку паведамленне, што нехта з вядомых з падобным дыягназам адышоў у вечнасць, хоць і мог бы яшчэ жыць ды жыць.

Так было і тады, калі даведаўся, што памёр выканаўца галоўнай ролі Будулая ў вядомым мастацкім фільме «Цыган» Міхай Валанцір. Пра гэта прачытаў у газеце, якая нават у такім сумным выпадку не забывае пра тое, каб усё падаць хоць з якім-небудзь элементам сенсацыйнасці: «Несколько лет назад врачи поставили ему страшный диагноз — диабет».

У падобным сцвярджэнні для мяне, канечне, не было нічога новага. Але ўнутры адразу нешта быццам зварухнулася. Тым больш, што далей гаварылася пра тое, што гэты акцёр захварэў на вочы. Пачалі падводзіць яго і суставы. Зноў жа нічога новага — страшныя вынікі дыябету. Таму ўрачы і не змаглі ўратаваць яго. Я адчуў, як пакутліва заныла сэрца, пачаў шукаць уратавальны валідол.

У астатнія ж дні жыву па прынцыпе: надзея памірае апошняй.

Так жыў і мой бацька. Калі яго аперыравалі ў Мінскай абласной бальніцы, думалі, што ратуюць ад абвостранай язвы страўніка. Пры правядзенні аперацыі аказалася, што гэта ніякая і не язва. Спалоханыя мы, ягоныя дзеці —

я і дзве мае сястры, паехалі ў бальніцу, мелі гаворку з урачом-дацэнтам, які назіраў за нашым бацькам пасля аперацыі. Сказаўшы нам усю праўду, ён супакоіў:

— Ніхто з нас не вечны. А бацька ваш гадоў пяць яшчэ пражыве. Прыкладна семдзесят будзе яму. Не так і мала...

Бацька пражыў восемдзесят тры з паловай гады. Яшчэ больш доўжыўся зямны шлях мамы — ажно 90 гадоў. А ёй жа таксама паставілі страшны дыягназ, праходзіла абпраменьванне. Ды лёс усё ж аказаўся для мамы на дзіва спагадлівы. Тым больш, калі прыняць пад увагу тое, што яна лячылася амаль адначасова з вядомым крытыкам і публіцыстам Верай Палтаран. Калі я заходзіў да мамы, то даведаўся, што верагодней за ўсё Вера Сямёнаўна ляжала ў той жа палаце, толькі некалькімі днямі раней. Палтаран памерла 28 сакавіка 1989 года, акурат у дзень свайго 70-годдзя.

Як пасля ўсяго не паверыць у тое, што «наверное, где-то там, в бесконечности, есть свой список, и ежедневно некая рука с усталой небрежностью ставит крестик или галочку напротив какого-либо имени — и тот, кто носил это имя на грешной земле, покидает ее в срок намеченный». Таму і застаецца спадзявацца толькі на лепшае. Іначай навошта, дый дзеля чаго жыць.

На гэтым і хочацца закончыць і гэтую сваю споведзь.

Сумнаваты завяршальны акорд? Як сказаць…

Жыццё ж працягваецца…

Магчыма, і працяг гэтай кнігі з’явіцца.



**Алесь ВЕТАХ**

# ПРАЯЗНЫ БІЛЕТ

*Апавяданне*

Лістападаўскім вечарам прафесар Дабравольскі вяртаўся з позняй лекцыі ў свой спальны раён. Падняўшыся па сходках на канцавой станцыі метро, ён, нягледзячы на бляклае асвятленне, апынуўся ў прыцемках і скіраваўся да невялікага шапіка, каб набыць праязныя білеты на наступны месяц — і для сябе, і для жонкі. Прафесар прыткнуўся да чаргі з некалькіх чалавек — і пачаў чакаць сваёй пары-хвіліны. Чарга рухалася хутка. І вось Дабравольскі нахіліўся над акенцам, за якім сядзела жанчына ў залацістых акулярах і з высокай прычоскай, паклаў грошы ў скрыначку-шуфлядку і замовіў білеты: сабе на аўтобус—метро, жонцы на тры віды транспарту — апрача згаданых аўтобуса і метро, яшчэ на тралейбус. Прафесар праз хвіліну ўзяў білеты і рэшту, намерыўся пакласці іх у партманет, які папярэдне дастаў з кейса, аднак хтосьці імгненна выхапіў з яго рук білет і памчаў наўцёкі. Дабравольскі зрэагаваў адразу і кінуўся наўздагон рабаўніку. Постаць чалавека ў сіняй куртцы выяўна мільганула на прыпынку раз, другі — і знікла дзесьці між людзей. Прафесар, сунуўшы партманет і рэшту грошай у кішэню паліто, пабег далей — акурат туды, дзе пасажыры навыперадкі, адзін перад адным, заскоквалі ў тралейбус. Сіняя куртка зноў мільганула — на гэты раз зусім побач. Рабаўнік рынуўся ў сярэднія дзверы цалкам запоўненага тралейбуса, плячом налёг на кагосьці з пасажыраў — і ўціснуўся ў салон, хоць і стаяў на апошніх сантыметрах падлогі. Дабравольскі падбег да самага краю пасадачнай пляцоўкі, аднак не паспеў: дзверы тралейбуса раптоўна зачыніліся. Але рагатая электрычная машына не кранулася, бо, хутчэй за ўсё, паперадзе штосьці замінала, перашкаджала руху. І ў гэты момант чалавек у сіняй куртцы павярнуў галаву і зірнуў праз шкло: Дабравольскі выяўна ўбачыў твар рабаўніка, можна сказаць, сфатаграфаваў яго фэйс — зрокавую памяць ён

---

***Алесь Ветах (Бельскі Алесь Іванавіч)*** *нарадзіўся 23 ліпеня 1963 года ў вёсцы Цімкавічы Капыльскага раёна Мінскай вобласці.*

*Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (1986). Доктар філалагічных навук, прафесар кафедры гісторыі беларускай літаратуры БДУ. У 2000—2002 гг. узначальваў лабараторыю літаратурнай адукацыі Нацыянальнага інстытута адукацыі. З 2001 г. адначасова — галоўны рэдактар часопіса «Беларуская мова і літаратура».*

*Выдаў кнігі прозы «Ружовая знічка» (1994), «Хроніка смутку» (1999). Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Івана Мележа (2000).*

*Выступае як літаратуразнавец і крытык.*

меў выдатную, нават фенаменальную. Саракадвухгадовы выкладчык і вучоны быў у добрай фізічнай форме, прафесарскі склероз пакуль яму не пагражаў. Напэўна, ён, калі б паспеў, паспрабаваў бы затрымаць гэтага маладога, амаль зялёнага, каршуна-налётчыка. Аднак рабаўніку пашэнціла — ён даў драпака, уцёк, вільнуў, як кажуць, хвосцікам, нібы прыткая мыш-палёўка, яго і дух прастыў.

Прафесар Дабравольскі дачакаўся на прыпынку свайго аўтобуса — і паехаў дахаты. Калі сеў у «сорак другі» (аўтобус па нумары маршруту), то дастаў з кішэні набыты праязны на снежань. Гэта быў ягоны білет на аўтобус—метро. Зразумела, жончын праязны скраў рабаўнік, ёй не пашэнціла. Дабравольскаму падумалася: лепш бы налётчык схапіў яго білет, дык нічога пра гэтае прыкрае здарэнне дома можна было і не казаць. А заўтра ён абавязкова зноў набыў бы сабе праязны. Як ні дзіўна, але прафесар, нягледзячы на прыкрую засмучанасць, адчуваў сябе досыць спакойна, ніколькі не хваляваўся, не гневаўся, тым больш не збіраўся паведамляць пра інцыдэнт у міліцыю. На душы была абыякавасць да таго, што здарылася: от схапіў, скраў гэты білет нейкі хуліган, ну і бог з ім, абы яму добра было. Ужо сеўшы вячэраць, Дабравольскі ўсё ж прызнаўся жонцы пра ўчыненае рабаўніцтва і вінавата сказаў:

— Не дагнаў гэтага нягодніка. Прабач, Галя, але без білета ты засталася. Заўтра новы праязны набуду, а не, дык ты мо сама прыдбаеш: заўтра пасля лекцыі абарона дысертацыі ў савеце, дык буду штаны дапазна праседжваць, а пасля, ведаеш, на сабантуй ісці трэба, бо Паламарчук — ён навуковы кіраўнік — пакрыўдзіцца. Ну ніяк не выпадае, каб не адзначыцца, — спадзеючыся на разуменне, патлумачыў Дабравольскі. Але яго жонку нібы і не цікавіла гэтая абарона з пасляслоўем у выглядзе банкету. Яна не магла змірыцца з пачутым пра нахабны грабежніцкі напад маладзёна на людным прыпынку і пачала абурацца:

— І што гэта толькі робіцца! У сталіцы, на людным прыпынку абрабавалі. Не сёння, дык заўтра, як у Амерыцы, страляць пачнуць — і нікому клопату не будзе. Хоць ты дома сядзі і на працу не рыпайся. Колькі недавяркаў розных развялося!

— Дарэмна ты так глабальна бярэш, абсалютызуеш. От знайшоўся хцівец на маю галаву — мо яго абставіны, жыццё на гэта змусілі пайсці. Студэнтам, навучэнцам розных устаноў льготы на бясплатны праезд адмянілі — і вось вынік як бачыш, — выказаў здагадку Дабравольскі.

— Дзіўлюся тваёй, Ігар, мяккацеласці, памяркоўнасці, — ушчуваючы, дакорліва сказала жонка. Яна не пагадзілася з такой празаічнай інтэрпрэтацыяй мужам учынку грабежніка, пярэчыла далей: — Ты, як і амаль усе інтэлігенты, гатовы апраўдаць нават злачынства, шукаць тлумачэнне там, дзе яно проста не патрэбна: на нашых вачах моладзь ператвараецца ў ваўкоў, робіцца жорсткай, агрэсіўнай, нараджаецца жахлівае грамадства, у якім страшна жыць.

— Не абагульняй, калі ласка. Гэта па-першае. Вось я працую са студэнцтвам — мілая, слаўная моладзь, як сказаў бы паэт. А, па-другое, твае фобіі адносна соцыуму перабольшаныя, — прагучаў контрадказ прафесара Дабравольскага.

Аднак жонка не збіралася спыняць спрэчку, настойвала на сваім:

— Сёння ён цябе абрабаваў, а заўтра ў рукі нож возьме і камусьці кішкі выпусціць. І такіх дэгенератаў усё больш і больш. Ім мора па калена, яны ні перад чым не спыняцца. Муж нашай супрацоўніцы — такі разумны, добры, шляхетны чалавек — заступіўся ў аўтобусе за пажылую жанчыну, якую маладыя нахабнікі абражалі — усяго толькі за тое, што яна зрабіла заўвагу, каб

не мацюкаліся. Дык адзін бандзюган з гэтай зграі моцна стукнуў яго нечым цвёрдым па галаве, ляснуў так, што Вячаслаў Барысавіч прытомнасць страціў. Інвалідам яго зрабілі: цяпер увесь час на аптэку працуе. Дык ты хіба не бачыш, што робіцца?! — узрушаная спрэчкай, з недаўменнем пыталася і абуралася жонка прафесара Дабравольскага.

А той, відаць, не падзяляў такой змрочнай канцэпцыі рэчаіснасці. Бо, маўляў, бандытызм, рабаўніцтва, разбой заўсёды мелі месца ў грамадстве. Дык навошта, лічыў ён, згушчаць фарбы, перабольшваць, з асобных фактаў і эпізодаў ствараць негатыўны вобраз жыцця. І на лекцыях, і ў спрэчках, і ў разважаннях на розныя тэмы ён найперш арыентаваўся на станоўчыя прыклады, прытрымліваўся думкі, што толькі так можна стварыць імідж этычнай культуры як надзённай патрэбы чалавека і грамадства ў цэлым. Ён не любіў гаварыць пра подлае і мярзотнае, брыдкае і пачварнае. Ягоная Галіна, наадварот, заўсёды заўважала адмоўнае і ганебнае, не магла прайсці міма нейкага негатыву, каб не адрэагаваць на яго. Гэткі яе максімалізм, упэўненасць і правільнасць у стаўленні да жыцця былі вынікам адпаведнага выхавання. Бацькі і савецкія настаўнікі вучылі Галю: нельга быць абыякавай да таго, што дзеецца навокал, трэба займаць актыўную жыццёвую пазіцыю, імкнуцца рабіць усё магчымае, каб людзі і свет станавіліся лепшымі. Каб яна цяпер працавала не бібліёграфам у кніжнай палаце, а была школьнай настаўніцай, педагогам, то магла б строга і правільна вучыць ды выхоўваць іншых, новае пакаленне дзяцей. Галіна яшчэ працягвала разважаць пра тое, што ўратуе сучасны свет. Яна з настальгіяй згадвала мінулы час, калі людзі, асабліва пакаленне, якое перажыло вайну, было больш чулым, спагадным, міласэрным. Дабравольскі згаджаўся з жонкаю ў адным: трэба абуджаць чалавечнае ў чалавеку, несці кожнаму, хто мае ў гэтым патрэбу, спачуванне і суцяшэнне, дапамагчы, як тое робіць добры пастыр, напоўніць сэрца дабрынёй, любоўю і верай. Але акурат гэтай веры ў Галіны менела ўсё больш і больш, яна рабілася песімісткай у сваіх высновах і прагнозах, а ён заставаўся непапраўным ідэалістам і рамантыкам: мо таму, што шукаў прыгожае ў жыцці, мінулым, мастацтве і кнігах.

Прафесар Ігар Леанідавіч Дабравольскі чытаў розныя асноўныя і спецыяльныя курсы па культуры ад старажытнасці да нашых дзён. З новага навучальнага года ён адначасова выкладаў і ў суседнім універсітэце. Сюды яго запрасілі як вядомага вучонага, аўтара некалькіх манаграфій, культуролага. Прафесару даручылі прачытаць курс па гісторыі сусветнай культуры, да таго ж ён прапанаваў у якасці дадатковага спецкурс «Антычная драматургія і тэатральнае мастацтва». Дабравольскі-сумяшчальнік пачаў працаваць на першым і другім курсах з будучымі дызайнерамі і педагогамі-мастакамі. У пачатку другога семестра ён завітаў на першую лекцыю да новай групы студэнтаў. Як толькі стаў за выкладчыцкую кафедру і павёў вачыма па аўдыторыі, позірк адразу заўважыў, зафіксаваў убачанае раней аблічча незнаёмца — таго хлопца-рабаўніка ля станцыі метро, які выхапіў з рук, нібы каршун-драпежнік, праязны білет. Прафесар затрымаў свой пільны, учэпісты пагляд на студэнце, імгненна суаднёс у памяці той вобраз-партрэт рабаўніка і гэты шыракалобы твар з даўгаватым грушападобным носам, прыпухлымі шчокамі, рэзка акругленымі брывамі і — надзвычай прыкметная, істотная дэталь! — шрамам-рубцом з правага боку на верхняй губе, пасечанай, мабыць, калісьці ў дзяцінстве. Яны на момант сустрэліся позіркамі, і хлопец адчуў: прафесар пазнаў яго. Дабравольскаму здалося, што грабежнік і студэнт у адной іпастасі не вытрымае яго вострага позірку, зараз жа падскочыць і кінецца наўцёкі. Аднак

Ігар Леанідавіч памыліўся: ён не варухнуўся, толькі нахіліў галаву, адвёўшы свой сустрэчны позірк. Прафесар Дабравольскі агучыў назву спецкурса, тэму першай лекцыі і, як заўсёды, роўным, упэўненым голасам пачаў гаварыць, звяртаючыся да студэнтаў:

— Вы неаднойчы чулі: жыццё — гульня, тэатр, а мы ўсе ў ім акцёры. І гэта сапраўды так. Тэатр і жыццё вельмі падобныя, блізкія па сваёй сутнасці. Толькі на сцэне ёсць свае спецыфічныя законы і мастацкія правілы, якія мы і будзем спасцігаць разам з антычнымі драматургамі. І яшчэ адзін важны момант. У тэатры ёсць свая праўда, і праўда гэтая можа быць вялікай, проста ашаламляльнай, калі яна ўражвае, глыбока кранае нас. У антычнасці лічылі, што глядач разам з героямі павінен перажыць катарсіс…

Зрэдку лектар абводзіў вачыма аўдыторыю, запыняў позірк на асобе студэнта, якога нядаўна пабачыў у іншай ролі — грабежніка. Той, апазнаны Дабравольскім, сядзеў, патупіўшы вочы, не падымаючы іх, рабіў выгляд, быццам канспектуе лекцыю. У адноснай цішыні студэнты, большасць з якіх былі дзяўчаты, уважліва слухалі новага, а галоўнае, досыць маладога прафесара, сачылі за яго артыстычнымі жэстамі, захапляліся высокаю паставаю і натхнёным прыгожым голасам гэтага імпазантнага мужчыны ў касцюме-тройцы. Напэўна, налётчык, які тым восеньскім вечарам дзейнічаў смела і нахабна, быў здзіўлены: пасля лекцыі выкладчык не зрабіў ніякага памкнення, каб падысці да яго і паспрабаваць тут жа затрымаць. Студэнт, мабыць, усё ж адчуваў боязь і страх, у думках рыхтаваўся да найгоршага. Яму здавалася, што з боку пацярпелага абавязкова будзе пэўная рэакцыя альбо нейкая спроба, але нічога падобнага не дачакаўся. Калі Дабравольскі пакінуў аўдыторыю, то студэнт, ён жа рабаўнік, падумаў: цяпер прафесар абавязкова высветліць ягоную асобу, паведаміць пра здарэнне куды трэба: і ў міліцыю, і ў дэканат ці рэктарат. Ігар Леанідавіч у сваю чаргу вырашыў пакуль не чапаць студэнта, хоць і быў перакананы на ўсе сто: на лекцыі перад ім сядзеў той самы рабаўнік, які адабраў жончын праязны. Студэнт ужо не меў спадзеву, што сёння або заўтра яго куды-небудзь паклічуць даваць тлумачэнні, а таму, як разважаў у думках, давядзецца аднеквацца, апраўдвацца, але наўрад ці гэта дапаможа. Хлопец пачаў добра разумець, што ў тым выпадку, калі Дабравольскі заявіць пра яго грабежніцкі ўчынак, то павераць не яму, а прафесару, а ў выніку прыйдзецца развітацца з універсітэтам: адсюль яго вытураць з трэскам, пагоняць, нібы шалудзівага сабаку. Усе аднакурснікі даведаюцца, кім ён быў насамрэч у той вечар на прыпынку, пасля гэтага паказацца каму-небудзь з іх на вочы будзе сорамам і ганьбаю.

Ігар Леанідавіч таксама ўсведамляў, якія наступствы для студэнта можа мець заява пра інцыдэнт з праязным білетам. Ён вырашыў памарудзіць, не рабіць рэзкіх, рашучых рухаў і крокаў, бо, па-першае, прайшоў час і ўспрыманне здарэння ля метро прытупілася, а, па-другое, спадзяваўся, што яму надарыцца магчымасць пагаварыць з гэтым маладым чалавекам, што выклікаў антыпатыю, і ўсё ж паспрабаваць высветліць прычыну, матывы такога ўчынку.

Для рабаўніка надышлі пакутлівыя дні хвалявання і чакання: вось-вось абрынецца страшэнны гром з маланкаю. Прысніўся яму кашмарны сон: нейкія людзі ў брудных лахманах, падобныя да пачвар, цягнулі яго ў цёмны лясны гушчар, пры гэтым сукі дрэў балюча драпалі, ранілі цела, пісягі імгненна набухалі чамусьці не чырвонаю, а чорнаю крывёю, якая тонкімі струменьчыкамі пырскала і злятала долу, утвараючы чорны і віхлясты, як гадзюка, ручай. Студэнт усё ж наважыўся і прыйшоў на наступную лекцыю, пасля — на чарговую, гэта значыць, трэцюю, і ўпэўніўся, што прафесар датычна ягонай асобы не робіць ніякіх спроб і захадаў. Тады ён трохі супакоіўся. Усё ішло

звычайным парадкам. Кожны — і прафесар, і студэнт — трымаліся сваіх абавязкаў, сустракаліся паводле раскладу штотыдзень.

Дабравольскі нічога не сказаў жонцы пра тое, што ў адным са студэнтаў пазнаў рабаўніка. Бо цудоўна ведаў імпульсіўны, гарачлівы характар сваёй Галіны, і тады, напэўна, пад уплывам яе гнеўных філіпік і маральна-псіхічным націскам давядзецца дзейнічаць, інакш кажучы, выводзіць на чыстую ваду дробнага хулігана.

Ігар Леанідавіч вырашыў дачакацца зручнай хвіліны, каб у гутарцы са студэнтам расставіць, як кажуць, усе кропкі ў гэтай прыкрай гісторыі. Ён як чалавек інтэлігентны, так бы мовіць, культуралагічны, вялікі прыхільнік культуры і мастацтва абраў шлях да дыялогу. Студэнт прадчуваў, што наперадзе яго чакае сустрэча і размова з абрабаваным прафесарам, і адбудзецца гэта, як меркаваў, падчас сесіі, менавіта тады, калі будзе здаваць яму залік. У думках віноўніку драмы ля станцыі метро хацелася падысці да прафесара Дабравольскага і выбачыцца, пакаяцца, адкрыць свае таямніцы і праблемы, штосьці патлумачыць, каб той дараваў яму ўчынены грэх. Аднак студэнт пакуль не здолеў зрабіць тое, што збіраўся; маральна ён рыхтаваўся да цяжкай гутаркі. Яму выпаў шанец загадзя штосьці сказаць наконт свайго ўчынку і не толькі пра яго, паслаць сігнал да магчымага дыялогу на аснове творчасці. Вось як гэта адбылося.

Пасля гаворкі пра эстэтыку антычнага тэатра і разгляду драм Эсхіла, Сафокла, Эўрыпіда прафесар Дабравольскі прапанаваў студэнтам хатняе творчае заданне: ён папрасіў іх напісаць эсэ на тэму «Трагедыя: праўда ў жыцці і на сцэне». На выкананне задання ён даў тры тыдні, папярэдзіўшы, што чакае пісьмовыя працы да канца сакавіка. У вызначаны тэрмін эсэ здалі амаль усе студэнты. Сярод іх была адна незвычайная творчая праца, якая мела зусім іншую назву «Праметэй пакаянны» і жанравую пазнаку: «Страсці паводле восьмага запавету». Ігар Леанідавіч адразу скеміў, хто згадаў восьмы біблейскі запавет «Не ўкрадзі», — гэта менавіта ён, хто напаў і абрабаваў яго на прыпынку. Цяпер прафесар ведаў яго імя і прозвішча: Кірыл Гуткевіч. Гэты хлопец зрабіў спробу напісаць п’еску. Ігар Леанідавіч азнаёміўся з пералікам дзейных асоб трагедыі. Здзівіла, што сярод персанажаў грэчаска-рымскай міфалогіі фігуравалі Хрыстос і Дзева Марыя. Прафесар Дабравольскі прачытаў гэты шматстаронкавы драматургічны опус, які ўяўляў з сябе постмадэрнісцкае вольнае абыходжанне з антычным сюжэтам. Тут перамяжоўваліся розныя часавыя пласты, дзве эпохі — існавання антычных багоў і нараджэння Хрыста. Паводле аўтара п’есы, Праметэй — магутны асілак, разам з тым чулы сын, у якога цяжка захварэла маці Феміда, і праз гэта ён пакутуе. Фемідзе холадна, яна на смяротным ложы просіць запаліць агмень, згатаваць штонебудзь на сняданак і пакарміць яе цёплым, каб абагрэць душу. Праметэй выпраўляецца на Алімп і выкрадае агонь, нясе яго няшчаснай матулі. Затым распальвае вогнішча і саграе маці цяплом. Ён гатуе варыва і корміць яе з лыжачкі. Маці акрыяла, дзякуе сыну. Разам яны падтрымліваюць цяпельца, каб яно не згасла. У канцы п’есы Праметэй вандруе ў часе і патрапляе ў Іерусалім, дзе даведваецца пра прыход на свет Ісуса Хрыста. Герой-асілак прыносіць лампадку з агеньчыкам да ясляў і аддае Марыі, якая нарадзіла Сына Чалавечага.

Вось такі сюжэт прыдумаў, склаў на свой лад Кірыл Гуткевіч. П’еска ў цэлым атрымалася кампазіцыйна рыхлаю, з недаведзенымі сцэнамі, слабой матывацыяй учынкаў герояў, са стылёвымі і моўнымі хібамі. Яе, гэтую творчую спробу ў драматургічным жанры, можна было крытыкаваць і кры-

тыкаваць. Але што ўразіла Ігара Леанідавіча ў тым тэксце — непрыдуманы душэўны пафас з элементамі драматызму і шчырай сентыментальнасці. Праметэй апусціўся на калені і пакаяўся перад Багародзіцай — Вялікай Маці Чалавецтва. Герой-тытан бачыўся не ў арэоле магутнасці і велічы, а перадусім паўставаў у аўтарскай трактоўцы як высакародны, пяшчотна-чулы, далікатны і добры. Усё гэта па-чалавечы неяк кранула Дабравольскага. А напісаны твор агаломсіў яго так, што цяжка было зразумець і паверыць, як адораны хлопец змог пайсці на рабаўніцтва. Прафесар задаваў сабе пытанні, спрабуючы разабрацца, хто ж гэты студэнт на самай справе: няўжо геній і злодзей у адной асобе? які лад жыцця ён вядзе? гэта адзінкавы неабдуманы і памылковы ўчынак ці яго другое «я», існасць натуры? ці трэба яго караць?..

Ігар Леанідавіч пачаў думаць, што студэнт рабуе таму, што на гэта яго штурхае хвароба. Ёсць жа такія з'явы, як клептаманія, лудаманія, піраманія… Чалавечых паталогій і анамалій хапае. Дабравольскі прыгадаў, як пісалі ў газетах, што былую алімпійскую чэмпіёнку затрымалі за крадзеж у супермаркеце. Цяпер Ігар Леанідавіч знаходзіў прычыну рабаўніцтва ў нейкіх адхіленнях маладога чалавека. Ён вырашыў, што на заліку шчыра пагаворыць з аўтарам драматургічнага тэксту пра новага Праметэя, паспрабуе выклікаць давер, наладзіць з ім кантакт і высветліць, навошта і чаму ён мусіў пачапіць маску злодзея. Прафесар Дабравольскі быў перакананы: трэба выцягваць, ратаваць гэтага маладога хлопца, каб ён меў цярплівасць, вытрымку, разважлівасць і канчаткова не споўз у нейкую небяспечную балотную твань ці, крый божа, не скаціўся ў жахлівую чорную бездань. «Галоўнае, каб яшчэ якога коніка не выкінуў, не натварыў абы-чаго», — прамільгнула трывожная думка, калі Ігар Леанідавіч паклаў сшытак з п'ескай Кірыла Гуткевіча паверх стоса творчых студэнцкіх прац. Ён імкнуўся неяк інакш зірнуць на ўсю гэтую гісторыю з праязным білетам, глыбей зразумець, што ж адбылося паміж імі, людзьмі, прыналежнымі да адной агульнай сферы — культуры і мастацтва. З'явілася прыкрасць, аднак і шкадаванне, што іхнія сцежкі, жыццёвыя лініі так раптоўна перасякліся тым познім вечарам на прыпынку пры самым метро. Пэўна, студэнт паспрабаваў сваёй творчасцю адкупіцца за грэх…

…Кірыл Гуткевіч больш не прыйшоў на заняткі. Не з'явіўся ён да прафесара Дабравольскага і на залік. Гэтая акалічнасць непакоіла Ігара Леанідавіча, і ён пацікавіўся ў старасты групы Кацярыны Шырокай, дзе падзеўся, чаму няма студэнта Гуткевіча. Дзяўчына паціснула плячыма, але пасля як быццам апамяталася і пачала гаварыць: «Ён мусіў пайсці працаваць у гіпермаркет, па начах раскладвае тавар. Маці яго апошнія дні дажывае — рак даядае. А ў яе, апроч Кірыла, больш нікога няма». З упэўненасці, што Гуткевіч — чалавек сур'ёзны і адказны, да таго ж добра вучыцца, стараста абнадзеіла: «Пэўна, прыйдзе на залік пазней. Магчыма, сёння сам патэлефануе і скажа, калі ён будзе».

Дабравольскі, пачуўшы пра начную працу студэнта Гуткевіча і хваробу яго маці, востра адчуў жыццёвую драму-трагедыю гэтага маладога чалавека. Сапраўды, цяпер Кірылу не да залікаў. Лёс моцна, неміласэрна зацінуў яго ў сваіх абручах. «Гары ён гарам той праязны білет», — падумалася ў той момант Ігару Леанідавічу. Яму нічога не заставалася, як спадзявацца на новы дзень, лепшае і штосьці добрае. Галоўнае, каб студэнт прыйшоў на залік. Што датычыць прафесара Дабравольскага, то ён цяпер не меў цяжкага каменя за пазухай…



Дар'я ДАРОШКА

# МАЯК ДЛЯ ШЧАСЦЯ

* * *

Прывітанне, свет! Даўно не бачыліся.
Вокны вечным снегам зацярушаныя.
Я любіла свет, а зоркі страчваліся...
Зрэнкамі святло піла — прымушаная
Смагу лютую трываць. Трава пабляклая...
Вочы колер страцілі зялёны, зменлівы.
А галіны дрэва зараз воглыя —
Гэта плача неба хмараў бельмамі,
Што не бачна мне, як у блакітнасці,
Ветрык зоркі калыхае-гойдае...
Просіць неба аб вялікай літасці
У таго, хто фарбамі валодае.

* * *

З самага ранку скамечаны дзень,
Быццам сукенка з чырвонай фланэлі...
Недзе пад поўняй згубіўся твой цень.
Што ты без ценю? — Дзіця без арэляў,
Шчасце без суму, бяссонны спакой,
Месяц без зорак, пярсцёнак без шлюбу,
Снежань без снегу, і мова, якой
Слоў не хапае «каханы» і «любы».

* * *

Нашто палохацца калюжы,
Даўно скаванай маразамі?
За вокнамі блукае сцюжа,
Платы будуючы між намі...

---

***Дар'я Дарошка (Чараухіна Таццяна Леанідаўна)*** *нарадзілася 23 лютага 1977 года ў Гомелі. Скончыла гомельскае медвучылішча (1996), філалагічны факультэт ГДУ імя Ф. Скарыны (2004). Працавала медсястрой у дзіцячай бальніцы, актрысай у Гомельскім дзяржаўным тэатры лялек, бібліятэкарам у гарадской бібліятэчнай сістэме.*

*Аўтар кніг паэзіі «Не наступайте птице на крыло» (у суаўтарстве з Уладзімірам Чараухіным) (2010), «В Начале» (2012), «Маяк» (у суаўтарстве з Уладзімірам Чараухіным) (2014).*

Нашто палохацца памылак,
Што трапілі ў нічыйны сшытак?..
Пад белым покрывам сняжынак —
У люстры ледзяным адбітак
Чыйгось жыцця...

## НЕ ВУЧЫМСЯ

У далячынь сыходзяць мары
І ў занядбанні паміраюць.
Па свеце Час блукае марна:
Не вучымся, што б ён ні раіў.
Куфэрак чалавечых сэрцаў
Пафарбаваны ў колер ночы.
У ім схавана прага смерці,
Як у кітайскім тамагочы.
Гучаць сюіты, вершы, стрэлы...
Лятаюць птушкі і гранаты.
Мы апранаем наша цела
У лепшую кашулю брата.
Нібыта прагнем пакарання
І набліжаем час расплаты.
А будзе новае світанне —
Ізноў узнімем меч на брата.

* * *

Сумуе сцяжынка
Па дотыку снегу,
Абдымках сумётаў
Пад шолах ялін.
Зімовай самоце,
Што дорыць нам снежань
У час, калі поўня
Звісае з галін.
Імкнецца да долу
Скрозь лёс і яліны,
Дзіцячыя казкі,
Дзявочыя сны…
І коціцца поўня
Услед каляіне,
У вечным напрамку
Да юнай вясны.

## НОВАЯ ДОБРАЯ ПРЫКМЕТА

Магчыма ўсё, і веру я,
Што хутка знойдзецца прыкмета,
Што запрацуе як маяк
Для шчасця, сонейка і лета.



**Васіль ГІГЕВІЧ**

# СОН

*Апавяданне*

У бяздушнай цемрадзі з’явілася агромністая-агромністая спіна, плечы, абцягнутыя нечым цёмна-шэрым, ні то плашчом, ні то хітонам. І патыліцу ён убачыў. Але ўсёй постаці, як і галавы не бачыў. Безцялесны і капляністы, ён быў малы і ніяк не мог ахапіць позіркам усё, што перад ім вымалёўвалася ў мёртвай цемрадзі.

Як гэта бывае ў снах, ён ведаў, што перад ім не чалавек, не — хтосьці іншы, з кім дагэтуль не сутыкаўся. Той агромністы, якога бачыў са спіны, нешта разглядваў перад сабою і плакаў. Чулася ціхае, бы дзіцячае ўсхліпванне.

Тады намаганнем волі ён падняўся ўгору і з-за пляча зірнуў, што ж разглядвае агромністы, з-за чаго плакаў.

Унізе пад сабою ён убачыў фотакартку, — невялічкую, шэсць на дзевяць, трохі памятую, чорна-белую. Такія фотакарткі рабіў некалі старэйшы брат, даваеннік, калі быў студэнтам і падзарабляў у газетах фотакарэспандэнтам. Пасля вайны фотакарткі як і фотаапараты былі ў вёсцы раскошаю. Тады дзяўчаты, разыходзячыся з танцаў, узяўшыся падручкі, спявалі:

— Хочаш картачку на памяць,
Табе, мілы, падару…

Ён наблізіўся да фотакарткі; малюнак на картачцы павялічыўся, стаў на шмат ярчэй, выпуклым.

І пазнаў ён Міцьку кульгавага, які ў лесе знайшоў гранату і рвануў чаку... І Пецю высокага, — ён ездзіў у школу за пяць кіламетраў з чужой вёскі. Узяўшыся аберуч за рагаты руль трафейнага веласіпеда, Пецюля высіўся над галовамі аднакласнікаў. І яшчэ аднаго хлопчыка пазнаў. Дзеля форсу той хлопчык усеўся на кола веласіпеда.

---

*__Гігевіч Васіль Сямёнавіч__ нарадзіўся 3 студзеня 1947 г. у вёсцы Жыцькава Барысаўскага раёна Мінскай вобласці. Скончыў фізічны факультэт Харкаўскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя М. Горкага (1969), Вышэйшыя літаратурныя курсы ў Маскве (1979). Працаваў настаўнікам, інжынерам на заводзе, на кінастудыі «Беларусьфільм», у часопісах «Маладосць» і «Полымя».*

*Аўтар кніг прозы «Спелыя яблыкі» (1976), «Калі ласка, скажы» (1978), «Жыцiва» (1980), «Астравы на далёкіх азёрах» (1984), «Доказ ад процілеглага» (1985), «Крах цывілізацыі» (2012) і інш.*

*Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1982).*

Як першы раз, са здзіўленнем разглядаў бурачкі, гумовыя боты, куфаечкі, куртачкі, шапкі-аблавушкі, — усё тое беднае, пасляваеннае, ужо забытае і таму чужое...

Была зіма, бялеў пад нагамі дзяцей снег, сцяна чарнела за іх спінамі. Мабыць, то была сцяна школы. Твары ў дзяцей былі дробныя, выдзяляліся на шэрым фоне белымі плямачкамі. Дзеці застылі на холадзе купкаю, уважліва гледзячы не ў бліскучае вочка фотаапарата, з якога вось-вось павінна было выскачыць птушанятка, — нашмат далей яны ўзіраліся, у той зваблівы і загадкавы свет, які чакаў іх прыходу.

Прыцярушаныя гадамі імгненні пачалі ўваскрасаць, і не халоднай памяццю, ён пачаў поўніцца жывымі пачуццямі.

Адчуў зімовую стылаць, якая некалі была, калі хлопчык сядзеў на коле веласіпеда.

Штосьці прыадкрылася, бы чорная фіранка з душы спала і таму забытыя пачуцці напаўнялі яго, безцялеснага і капляністага, — салодкімі хвалямі захліствалі.

Адчуў пах антонавак, сыры пах халаднаватай зямлі, з якой восенню людзі выбіраюць бульбу, пах тканіны, — з яе маці шыла на «зінгераўскай» машынцы штаны і кашулі. Не толькі пахі, але і гукі, якія ён некалі чуў, напоўніліся слодыччу, — пачуў тужлівае курлы-курлы пад зорным небам, перасвіст і шчоўканне шпака на шпакоўні, — яе зімою збіў бацька, вывесіў на жэрдцы ў садку і вось, калі яшчэ не сышоў снег, той шпак прыляцеў і заліваў свет чысцюткай радасцю, ад якой аж трымціць душа… І цурболенне талай вады пачуў ён — з лесу яна выцякала вялізным ручаём і, перабягаючы лагчыністую вуліцу, усю ноч цурболіла і цурболіла.

— Чаму ты плачаш? — як у роўніцы захацеў спытаць ён таго, твару якога не бачыў. Але нічога не распытваў.

Малюнак на картачцы зрушыўся, з’явіліся новыя малюнкі — дзеці быццам змыліся талаю вадою. Новыя малюнкі былі рухомыя, бы кіно паказвалася. Але былі яны не такія яркія і ўражлівыя, якім быў першы малюнак.

Вось паявіўся хлопец з дзяўчынай. Нахіліўшы галовы, яны гэтаксама, як і некалі дзеці, пільна ўзіраліся ў сваё будучае. Вунь яму вядомы чатырохпавярховы студэнцкі інтэрнат са знаёмым акном на першым паверсе. У тое акно можна пагрукаць пасля адзінаццаці і хлопцы яго адчыняць…

Чым далей, тым менш выразнымі станавіліся новыя здымкі, хаатычнымі, як быццам хтосьці пералапаціў сямейны альбом, перамяшаў так, што ніякай логікі не праглядвалася. Тыя пачуцці, якімі поўніўся нядаўна, таксама патухалі і цяпер ён здаля халоднымі вачыма прыглядаўся да бліскучых машын на даўжэзных праспектах, да трыбун і залаў, дзе сядзяць загальштукаваныя людзі з нейкімі казённа-закамянелымі тварамі, прыглядаўся да застолляў, да шматтысячных мітынгаў. І сярод усяго бязладнага, як цяпер адчуваў, не патрэбнага яму, мільгае знаёмы мужчына; гэткі ж, як і многія, пры гальштуку, ён штосьці гаворыць людзям, разумнае і правільнае, ён нават размахвае рукамі на мітынгах, гаворачы адно, а думаючы іншае: як бы не спазніцца ў чарзе па новае шчасце, якое вось-вось пачнуць дзяліць.

Паявілася шкадоба па страчаным, па тых радасных пачуццях, якімі беспрычынна толькі што поўніўся.

Са здзіўленнем разглядаў распаўнелага ленаватага мужчыну, што застыў перад тэлевізарам; гэты мужчына ўсё яшчэ чагосьці мітусіўся ў камандзіроўках, у замежных паездках, на недабудаванай дачы, на гулянках, не забываючы зазірнуць у вока фотаапарата, чакаючы, што адтуль выскачыць штосьці новае, чаго дагэтуль не набыў: пасада ці грошы.

І позірк у мужчыны станавіўся ўсё больш настырным, — такія позіркі паяўляюцца ў старых людзей, калі ім здаецца, што ўсё ведаюць і не яны павінны жыццю, а жыццё ў іх у даўжніках.

Між тым той невядомы ўсё плакаў і плакаў.

І цяпер ужо не радасць, а смутак агораў яго. Зноў захацелася адчуць зімовую стыласць, пах сіняватага вечаровага снегу, што нечапаным высцілаецца за плотам аж да палоскі далёкага лесу, адчуць бяздушны халадок поўні, на якой бачыліся загадкавыя горы і даліны...

Тады не вытрымаў, услых, як у роўніцы папрасіў:

— Пакажы яшчэ раз.

— Кіна не будзе...

Ён аж уздрыгнуў, сцепануўся, як ад нечаканага ўдару.

Гэтак некалі гаварыў кіншчык, калі перад уваходам у клуб глох маторчык і тады не толькі ў клубе, а і ўсё навокал пранізвала цемра, бо электрычнасць у вёску яшчэ не правялі.

Усе ведалі, хто кідаў гліналю і граззю ў маторчык — Варчын Колька. У яго не было пяці капеек на білет, а сярдзіты кіншчык без білетаў у клуб не пускаў, ён нават ад акон дзяцей адганяў, каб тыя не маглі паглядзець салодкае кіно, у якім, як у казцы, жылі і кахаліся шчаслівыя прыгожыя людзі. Варчын Колька быў бязбацькавіч, жыў з маці ў зямлянцы, нават не мог прынесці кіншчыку курынае яйка, вось з адчаю і злосці ён і кідаў граззю ў маторчык.

Кіншчык тады выходзіў з клуба, поркаўся ў маторчыку і ўрэшце кідаў у зорную россып:

— Кіна не будзе...

— Пакажы яшчэ раз, — зноў умольна бы дзіцяпапрасіў ён. Чамусьці яму было боязна паглядзець у твар гэтага агромністага і яму непадуладнага.

Бы апраўдваючыся, пачаў шаптаць:

— Я ж не калека і не алкаш. І дом у мяне ёсць, чаша поўная, і машына ёсць, і гараж. І гэта, як яе… Пасада людская. Хоць на пенсію пайшоў, але ж цэняць, некалі быў ажно намеснікам міністра. І дача, не ў кожнага такая — двухпавярховы катэдж, пяць гадоў будаваў. І за мяжу тры разы ездзіў. У Еўропу ездзіў, глядзеў на тую Еўропу. Праўда, калі дамоў вяртаўся пасля Еўропы, чамусьці крыўда і злосць паяўляліся, як у Колькі Варчынага, калі граззю ў маторчык кідаў.

Нечакана быццам спатыкнуўся — не тое... Не тое ён гаворыць. Пра іншае трэба спавядацца — без чаго ўсё гэтае мітуслівае, чым гады запаўняў, не мае сэнсу. Ён заціх, суцішыўся, потым як сам сабе шапнуў:

— Жыццё пражыў, як за плот выкінуў... Можа, таму, што кахання не было. Жанчыны былі, а кахання...

Здалёку-здалёку, як з-за лесу данеслася:

— Кожнаму даецца каханне. Усім пароўну: і жанчыне, і мужчыну. Хоць раз, ды даецца.

— Дык чаму ж у мяне? — ускліктнуў і не дагаварыў.

І тут ён угледзеў новую картачку. Яе дагэтуль ні разу не бачыў.

Ад убачанага патыхнула такім цяплом пяшчоты, што ён, безцялесны і капляністы, запульсаваў пяшчотаю.

Ён усё спазнаў, усё ўваскрэсла ў памяці і ажыло. І тая заснежаная вёска сярод лесу, і прадаўгаватая, крытая шыферам ферма, і круглатвары лысы старшыня з хітрымі жывымі вочкамі. І яе, загадчыцу фермы ўбачыў, — невысокую, у шэрай рабочай куртцы, у гумавых ботах, з шэрай цёплай хусткаю на галаве, якая закрывала вушы і шыю — амаль увесь твар.

Як і ўсе вяскоўцы яна называла яго на «вы», і ўсё не сутыкалася з ягоным позіркам. У калгасе ведалі, што ён — высокае начальства, ды і ён прывык да вінаватых немаведама за што позіркаў вяскоўцаў, і таму быў паблажлівы і занадта вясёлы пры гаворцы як са старшынёю, так і з загадчыцай фермы, якую хвалілі за работу на розных нарадах.

Весяліла, поўніла хмельнай радасцю думка пра заўтрашняе пасяджэнне, на якім павінны зацвердзіць яго на новую пасаду. У тыя гады ён адчуваў сябе, быццам бы падымаўся па драбінах угору, і з вышыні ўсмешлівым, ясным, цвярозым позіркам мог аглядаць бесталковую людскую мітрэнгу.

Стэрэаскапічнымі, як і на першай картачцы, былі новыя малюнкі: белы пласт снегу на пакатым шыферы, зледзянелыя штырыстыя ледзяшы, што ў рад звісалі з шыферу, разбітая грузавымі машынамі і трактарамі гразкая каляіністая дарога, «Волга» ля фермы.

Пасля абеду ў чыстым вымытым паветры залётаў снег. Вялікі, лапчасты і бязважкі, ён белай рухомай сеткаю мільгацеў перад вачыма і ніяк не апускаўся на гразкую дарогу, на ферму, на блізкую сцяну прыдарожнага ельніку.

Быў канец лютага. Адліжыла. І хоць сонца ў падвышаным небе не было відна, але нечакана запахла вясною. Часта-часта закапалі ледзяшы...

Са старшынёй і загадчыцай яны выйшлі з фермы і на імгненне застылі ля «Волгі», напітваючыся свежасцю адліжнага мяккага снегу, свежымі пасля сцюдзёных вятроў пахамі.

Пара было выбірацца ў Мінск, усё было больш-менш зроблена і праверана: лічбы і факты, і нават загаловак справаздачы прыдуманы. «На зямлі Палескай» — так ён хацеў назваць справаздачу.

Ды чамусьці, сам не разумеючы чаму, адцягваў ад’езд, не мог адвесці позірку ад бліскучых, нечым устрывожаных вачэй загадчыцы, ад яе постаці, нечым надта знаёмай. Не хацелася, хоць забі, ехаць туды, дзе шум, смурод машын, людская мітусня, хацелася застацца тут, дзе цішыня, вымытае паветра і салодкі вясновы пах.

Першым схамянуўся старшыня, хаваючы позірк, сказаў:

— Вясна пачынаецца... Наперадзе новыя змены... — Памаўчаў і дадаў: — А цяпер завернем да мяне. Павячэраем «на дарожку».

Ён не раз бываў на вячэрах «на дарожку», ведаў, чым усё пачынаецца і заканчваецца. На гэты раз не захацелася ехаць да стала, на якім высіліся бутэлькі і талеркі з разнасоламі, — засмяяўся, кіўнуў галавою ўбок загадчыцы:

— Можа, у цябе што знойдзецца «на дарожку»?

Ён быў у гуморы. Калі садзіліся ў машыну, у задняе люстэрка «Волгі» ўбачыў, як яна густа палыхнула…

Нічога не сказаў і гаваркі старшыня, толькі чамусьці закусіў ніжнюю вусніну.

«Волгу», каб лішне не свяціцца ў вёсцы, ён загнаў у двор. Загадчыца першай шухнула да зачыненых на замок дзвярэй хаты, а ён, знарок не спяшаючыся, нейкі час валтузіўся ў машыне — узяў прыхаваныя там бутэльку каньяку і шакаладку, — укладваў іх у дыпламат, дзе бялелі паперы. Пасля, калі ступіў на снег, агледзеў двор: і хляўчук, і замеценую снегам паветку, і плот, у якім падгнівалі жэрдкі і дзе-нідзе былі адарваныя планкі. Мужчынскай рукі ў двары не было. Хата, як і прыбудовы, стандартныя, казённыя — гэтая жанчына была тут прыезджая, старшыня выдзеліў ёй жыллё як спецыялісту.

На прыступках венікам змёў снег з чаравікоў, зайшоў у хату і ахнуў.

Без курткі, без рабочага блакітнага халата, з распушчанымі па-гарадскому коратка падстрыжанымі валасамі, у белай кофтачцы, з-пад якой узвышаліся

круглыя невялікія грудзі, яна выглядала іншай. «Прападае жанчына, ні за капеечку прападае ў гэтай палескай глушы…» — то было першае, пра што падумалася.

Было ёй каля трыццаці. Цяпер яна па-іншаму высвецілася, зразумеў, чаму старшыня закусіў вусніну.

Чарнявы загарэлы твар, невялікія поўныя вусны, зграбнае падбароддзе, тонкая шыя без ніводнай маршчыны — усё было ў ёй нейкае чужое, не мясцовае.

Чамусьці знікла і настырнасць, і ўсмешлівасць. Ля парога нахіліўся, каб зняць чаравікі. Заўважыў, што ўздрыгваюць пальцы.

— Не трэба разувацца. Вы рукі можаце памыць у рукамыйніку.

Падняў галаву і на імгненне ўпершыню за дзень сутыкнуўся з яе вачыма. Яна не глядзела на яго. Ставячы на стол талеркі, не паварочваючы ў яго бок галавы, яна разглядвала яго.

Толькі цяпер зразумеў, што ў ёй незвычайнае — вочы... Круглыя, вялікаватыя, але не пукатыя на невялікім твары: дзве чорныя бліскучыя плямачкі плавалі, мільгацелі на чыстым блакіце. Плямачкі ўвесь час рухаліся, не знаходзілі спакою: то ўправа адплывалі, на самы край блакіту, то ўлева, то ўгору, то ўніз.

Не паварочваючы галавы, яна ўсё бачыла, гэтыя плямачкі жылі самастойна і таму ўсё ўпітвалі: і яго ля рукамыйніка, і белае пластыкавае вядро з чорнай, як нечае вока, вадою, і стол з цыратаю, і зялёную фіранку ў другую палову хаты, дзе, як здагадваўся, высілася белая грубка, стаяў ля сцяны жалезны аднаспальны ложак з астылай за дзень пасцеллю, дзе на карычневай тумбачцы бялеў экран чорна-белага тэлевізара, а чырвоныя пацёртыя дарожкі хавалі чорныя палоскі на рассохлай фарбаванай падлозе.

Ён ужо прывык да белых імпартных кранаў у ванне, да гладкага і бліскучага паркету, да норкавай шапкі, да мяккага сядзення ў «Волзе» і таму цяпер яму стала балюча і нават сорамна.

Бачыў, што і яна, разглядваючы яго, унутры рабіла нейкую важную работу.

Якую? Пра што яна, немнагаслоўная, думала?

Калі селі за стол, асмялелы пасля выпітага каньяку, ловячы жывыя чорныя плямачкі, спытаў:

— Як тут апынулася, вірлавокая?

На гэты раз яна зірнула ў вочы, быццам дакранулася рукамі, і неяк залішне сур’ёзна сказала:

— Вас шукала.

Ад пачутага штосьці тарганулася ў ім, і цяпер ён першы схаваў вочы.

А яна нечакана засмяялася, па-дзявочы весела, пачала рукой папраўляць валасы, сказала:

— Жартую, канечне…

Ён ляжаў побач з ёю ў ложку, слухаў, як хтосьці шамаціць і шамаціць за падвойнымі вокнамі, кідае ў шкло пасмы мокрага снегу, услухоўваўся ў яе ціхае ўсхліпванне, думаў пра пачутую споведзь і дзівіўся той лёгкасці і прастаце таго, што між імі адбывалася. Яму гэтаксама захацелася паспавядацца, да болю захацелася, ды штосьці стрымлівала яго. Ведаў, калі пачне спавядацца, адразу ж стане безабаронным перад ёю, прыціхлай і заплаканай. І тады тут жа ўсё, прыдбанае гадамі, рухне...

У шэсць раніцы, калі выйшаў з хаты на ганак, застыў: катастрофа…

«Волга» была замецена поўнасцю. Мокры снег ляжаў не толькі на сагнутым голлі яблынь, але і на плоце.

Насунуўшы на ногі гумавікі, кінуўся да хаты старшыні.

Цяпер яго сустрэў новы амаль незнаёмы чалавек, — не ўсміхаўся ласкава, твар ягоны пасля ночы быў памяты, быццам — а можа, так і было — старшыня ўсю ноч піў беспрабудна і цяпер, як гэта бывае пасля п'янкі, яго ўсё раздражняла і нават злавала.

Старшыня развёў рукамі і, як падалося, з нейкай радасцю сказаў, што памагчы яму наўрад ці зможа: ноччу пад цяжарам снегу абарвала правады на ферме, бульдозераў у калгасе няма, так што… Ламаючы ў сабе штосьці гордае, ён умольна зазірнуў у вочы старшыні і растлумачыў сітуацыю. Урэшце старшыня злітаваўся, — дзвынькануў нейкаму Пецю…

Пакуль раскопвалі ў двары снег, робячы дарогу для «Волгі», пакуль Пеця заводзіў «Беларуса» і сунуўся да двара, прабегла гадзіна. Развіталіся хутка і надта будзённа, без лішніх слоў. Яна спазнялася, датыкнулася да яго вуснаў мяккімі поўнымі вуснамі і, шапнула:

— Ключ ад хаты на ганку ў вядры пакінь, — і хутка пайшла са двара.

Ён глядзеў на ланцужок слядоў. Ад пачутага «ты» адчуваў сябе так, быццам жыў з ёю гадамі і цяпер было ўсё знаёма і таму вечарам ён зноў павінен быць у гэтым двары, дзе яго чакаюць падгнілыя жэрдкі, дзе на ганку будзе ляжаць у вядры ключ ад хаты...

Раз-пораз торгаючы тросам «Волгу», Пеця цягнуў машыну да трасы. Снег быў такі глыбокі, што пярэдні бампер адразу ж за вёскаю адарвала.

Развіднела. Выбіліся на трасу а палове дзявятай. Яшчэ можна было паспець. Тры з паловай гадзіны да пасяджэння. Яшчэ можна…

Але трасу пасля ночы не ўсю вычысцілі грэйдарамі, — машыны сунуліся цугам. Рызыкуючы, успацелы, як пасля лазні, перагазоўваючы, ён, сціскаючы аберуч руль, спрабаваў абагнаць бясконцы цуг фур і легкавушак.

Пасля таго, як другі раз машыну занесла на ўзбочыну і з мяккім шуханнем шлёпнула ў сумёт, зразумеў — трэба змірыцца. Пад Мінскам трасу больш-менш расчысцілі, між машынамі паявіліся прагалы, можна было паднаціснуць. І ён паднаціснуў. Абганяў фуру і тут жа, на бліжэйшым сумёце яго закруціла… Бязвольны, глядзеў, як высіцца, наязджае на «Волгу» фура, прашаптаў: «Усё, капец…»

У апошняе імгненне «Волгу» прыляпіла да закамянелай глыбы белага снегу, спрасаванага бульдозерам. Побач спынілася фура, з яе выскачыў пабялелы вадзіла з манціроўкай у руцэ:

— Ты што, прыдурак, творыш?!

Яшчэ трохі і ён накінуўся б на яго, але ўгледзеўшы нумары, якія сведчылі, што машына належыць начальніку высокага рангу, угледзеўшыся ў спалатнелы твар, вадзіла трохі аціх, але ўсё яшчэ крычаў і крычаў. З лаянкай ён дапамог адляпіць ад глыбы снегу памятую «Волгу».

На ўездзе ў Мінск яшчэ раз зірнуў на наручны гадзіннік. Пятнаццаць хвілін на першую. Усё. Можна было не спяшацца.

У той дзень ён напіўся да ачмурэння. У той дзень ён кляў сябе, як мог. Ён кляў сябе за слабасць, за тое, што не змог утрымацца на высокай салодкай лесвіцы. За тое, што спакусіўся на чорныя вочы, якія, як тады здавалася і верылася, зламалі яго лёс…

Ён разумеў, што трэба пачынаць усё спачатку, — з караскання на першую планку высачэзнай лесвіцы. Трэба было выкарчоўваць з сябе тое няправільнае, пра што ніколі нікаму не раскажа, не паспавядаецца ні сябрам, ні на апошнім судзе. Гэтае няправільнае было не тое, што брыдкім, а проста лішнім і чужым у новым правільным спланаваным і распісаным каляндарным жыцці...

Памалу, як лясное возера раскаю, зацягвалася, заглушалася ў памяці паездка: і вёска сярод лесу, і лысы сярдзіты старшыня, і яна...

І толькі пад вясну, калі днём падтайваў адліжны снег, а ноччу пад зорным небам чуўся зледзянелы хрумст, ягоную душу ахоплівала трывога: ні з таго ні з сяго ён станавіўся сярдзіты, узбуджаны, і тады блізкія стараліся не паказвацца яму на вочы. Тады яму хацелася напіцца ў адзіночку, да забыцця...

— Гэта яна? — падзівіўся ён услых. — У яе пяшчота была. А больш... І яшчэ яна чамусьці плакала…

Нічога ён не пачуў, — ні прысуду, ні парады.

Малюнак на фотакартачцы змяніўся. Новы жывы малюнак узнік. Цяпер гэта быў каляровы малюнак.

Ён зноў убачыў загадчыцу, пазнаў яе па постаці, — распаўнелая, нахіліўшы наперад галаву, яна аддалялася ад яго па летняй запыленай дарозе. Дарога вілася між жыта, якое выспявала, — лагчыністыя зялёныя плямы на ўзгорках перамяжаліся з ружаватымі. Нябачны вецер ганяў па жыце гнуткія хвалі і яны, гэтыя хвалі, пераліваліся зялёна-ружовым...

Побач з ёю, трымаючыся за руку, ішоў падлетак. Яна чамусьці была босай і, калі шлэпала па белым пяску, то над зямлёй узвіваўся лёгкі дымок. Падлетак той быў вышэйшы за яе, па-юначы нязграбны і хударлявы, быццам недакормлены ці хворы.

Штосьці надта знаёмае было ў падлетку, хоць твару яго не бачыў, як і яе твару не бачыў.

Ён пра штосьці здагадаўся і не асмеліўся спытаць таго агромністага і ўсясільнага пра падлетка.

— Яна чакала цябе. Яна плакала не толькі ў тую ноч, — пачуў ціхае і далёкае.

Абрыдлы сам сабе, ён заціх, сціснуўся, як ад холаду, калі цела прабіраюць дрыжыкі. Зразумеў, хто шамацеў і шамацеў за сцяною хаты ў далёкую бяссонную ноч, здагадаўся, хто кідаў белыя пасмы снегу ў шыбіны акна, ён нават зразумеў, чаму яна горка плакала, прыхінаючыся да яго гнуткім целам. Стала ясна, чаму страшна круціла і круціла «Волгу» на трасе.

І зноў пачуў ціхае, нібы дзіцячае, усхліпванне таго агромністага і невядомага.

— Міністэрства, дзе служыш, праз год ліквідуюць як непатрэбнае. А дача… Яе сваімі рукамі спаліш. Навошта яна?

Плечы, як і патыліца таго невядомага і агромністага, які паказваў картачкі, пачалі размывацца, зліваццца з цемраю. Аддалялася, затухала ціхае ўсхліпванне. Безцялесны і капляністы, ён пачаў адчуваць холад бяздушнай вечнай цямрэчы, у якой — гэта ведаў — ніколі нікога не было, ды і не магло паявіцца.

Тады ён жахнуўся…

## З АКНА МАЁЙ СВЯДОМАСЦІ…

*Эквадор… Далёкая, экзатычная для нас краіна вечнага лета, дзе нават у студзені тэмпература часцяком не падае ніжэй за дваццаць градусаў. Краіна высокіх гор, вулканаў, пальм, гевей, бальсавых дрэў, кавы, бананаў. Краіна мужнага народа, што змог перажыць каланіяльную навалу, войны, рэвалюцыі і адрадзіцца ў незалежнай дзяржаве. Краіна надзвычай цікавай сінкрэтычнай культуры, што спалучае ў сабе рысы іспанскай і старажытнай індзейскай культурнай спадчыны. Даўным-даўно тэрыторыя сучаснага Эквадора ўваходзіла ў склад магутнай імперыі інкаў, і некаторыя таямніцы старажытнай дзяржавы захоўваюцца і цяпер, амаль праз тысячу гадоў!*

*Зразумела, што ўсё гэта не магло не паспрыяць нараджэнню індывідуальнага і яркага мастацтва Эквадора. У рамантычным па духу эквадорскім жывапісе выкарыстоўваюцца элементы індзейскага і негрыцянскага фальклору, пануюць абагульненыя выразныя формы, гучныя фарбы. Здзіўляе яркай прыгажосцю і архітэктура экватарыяльнай краіны: ад кафедральных сабораў Кіта і Гуаякіля да Мастацкай галерэі… Эквадорская літаратура, узнёсла рамантычная, жорстка рэалістычная, падкрэслена мадэрновая, на жаль, мала вядомая беларускаму чытачу. Для знаёмства з ёй рэдакцыяй абраны цікавы самабытны паэт Хорхэ Карэра Андрадэ, які ў розныя перыяды творчага жыцця звяртаўся да зусім непадобных адзін да аднаго кірункаў і, у рэшце рэшт, стварыў цікавую, так бы мовіць, рэалістычна-анімістычную, чароўную паэзію.*

*«Я быў дзіцём без ілюзій, жыў твар у твар з рэальнасцю, укараніўся ў зямлі, і ўсю сваю любоў аддаў сціплым прадметам, якія атачалі мяне», — узгадваў паэт. Відавочна, адсюль яго пільная ўвага да бытавой дэталі, пейзажа, нацюрморта. Аднак не трэба забывацца на тое, што паняцце «прадмет», «рэч» было для продкаў паэта, індзейцаў, надзвычай шырокім. Кожная рэч мае душу і надзяляецца траістым сэнсам: рэальным, вобразным і рэлігійным. З такога ўспрыняцця свету вырасла лацінаамерыканская літаратура з яе магічным рэалізмам. Крытык Эдманд Жалу падкрэсліваў: «Роля магічнага рэалізму заключаецца ў пошуках у рэальнасці таго, што ёсць у ёй дзіўнага, лірычнага і нават фантастычнага — тых элементаў, дзякуючы якім паўсядзённае жыццё робіцца дасягальнай для паэтычных, сюррэалістычных і нават сімвалічных пераўтварэнняў». Падобныя пераўтварэнні адбываюцца з рэальнымі рэчамі і ў паэзіі Хорхэ Карэра Андрадэ. Першыя яго зборнічкі атрымалі глыбока сімвалічныя назвы «Невымоўная сажалка» і «Гірлянда маўчання». А вось вялікая анталогія вершаў паэта носіць імя «Інвентар свету». Займаючы дыпламатычную пасаду, творца наведаў шмат краін. І ў кожнай знаходзіў знакавыя, непаўторныя вобразы, што пасяляліся ў яго сэрцы. «Я — чалавек Эквадора, які спрабаваў пазнаць свет, каб разгарнуць у ім сваё жыццё ў падарожжа… Я жыў, каб бачыць… Я намагаўся стварыць вопіс рэальнасцей свету, як я іх бачыў з акна маёй свядомасці», — тлумачыў Хорхэ Карэра Андрадэ. Давайце ж і мы паглядзім на свет праз чароўнае шкло гэтага акна.*

***Юлія АЛЕЙЧАНКА***

Хорхэ Карэра АНДРАДЭ
(1902—1978)

# ДРЭСІРУЮ КРЫВІ МАЁЙ ЦЫРК...

## КНІГА ПЯШЧОТЫ

На шкляное старонцы,
ў пераплёце аконным,
на ракіце заззялі
белых росаў каралі,
паказалася вечнасць
засынаючым копам,
і хмызняк незвычайны,
як галіна карала.

Загусцела наўколле, як смала на распіле,
а над студняй заплакаў
калаўрот не ад гора…
Можа, за паваротам
той сцяжыны Вяргілій
дзесь сустрэўся сягоння з усмешкай Тагора.

Як абрад ачышчэння захад сонца прымаю
і шчымлівую ласку
п'ю я з чашы аконнай,
дзе на споведзь спяшае лугавіна нямая
і вярба разважае над загадкай зялёнай.

## ЦЁТАЧКА ІСАЛІНА

Цётка Ісаліна, яблычны румянец.
Цётка Ісаліна, не знайсці мілей,
як падлогу мые, ажно ззяе глянец,
быццам вокны лашчыць дожджык-вадалей.

Цётка Ісаліна, залатыя рукі.
Цётка Ісаліна, госці на парог —
Маладзеюць вочы, саладзеюць гукі,
Значыць, сёння будзе казачны пірог.

Не пражыць без феі цёткі Ісаліны.
Зранку зачаруе кожны яе крок:
варыць нам кампоты альбо сушыць дыні
і слязой зацірку соліць незнарок.

Поўны таз варэння, малако ў бітоне…
Цётка Ісаліна, фея дзетвары.
Помню, як сягоння: цёплыя далоні,
што прапахлі дыняй, гладзяць нам віхры.

## ПРЫВЫЧКА

Я еду па чыгунцы часу
ў кампаніі старых каструль,
працёртых крэслаў
і дзіўна знаёмых твараў,
якія пражываюць у нумарах маёй памяці.

Самыя разнастайныя і неверагодныя прадметы
раз-пораз нагадваюць мне пра сябе:
манеты, аўтаручкі, гнуткія лыжкі і гэтак далей, —
аж да дзівака дамавіка,
патанулага ў плачы дзвярных завес.

А таксама замочныя шчыліны,
што каравуляць ля кожных дзвярэй,
і кнопкі званкоў, чуйныя, як аголеная скура,
і выключальнікі,
каторыя так паслухмяна і лоўка
хаваюць ноч, выкрасаючы дзённае святло.

Гэтак я і еду без прыпынкаў
па нязведаным маршруце
ў нерухомым вагоне кватэры,
дзе каструлі перамігваюцца з люстэркам,
з гэтым летапісцам хатняга быту.

## НАВАЛЬНІЦА

На круп узгорка
промень, нябесны каваль,
ставіць пячатку кляйма.

З самай высокай кропкі
коціць гром
поўную бочку.

Падпяразваецца
сяміколерным поясам
неба пасля дажджу.

***Пераклад Уладзіміра МАЗГО.***

## ПАТАЕМНАЯ БІЯГРАФІЯ СЫНА

Мікраскапічны згустак жывога,
птушкі маленькай, меншай за колас…
Толькі ўжо, як руда ў дальніх нетрах,
у мацярынскім улонні твой голас.

У цёмных затоках крыві паслухмянай
спее і шырыцца кропелька-кокан,
дзе прарастаць будзе старанна
сіла жыцця з нервовых валокан.

Павекі цяжкія яшчэ не расклеіць,
цягнешся прагна да новага свету,
што пупавінай надзейнай не змерыць…
І заварушышся ў поўнач планетай.

Тыкаеш маці знутры, падшыванец,
дорыш чакання і веры дзівосы.
Быццам танцуеш няведамы танец,
з гэтага часу надзелены лёсам…

## ПРЫВІТАННЕ ПАРТОЎ

Чалавек Эквадора,
паганяты цяглых жывёл, земляроб
на зямлі ў колерах дзвюх пораў года,
прадавец ракавінак і бананаў,
на беразе, спісаным агнямі і марамі,
садавод, што росціць каўчук,
гаспадар каноэ на рацэ Амазонцы,
я табе шлю прывітанне ад партоў,
ад пейзажаў прамысловай зоны.

Шакаладны Амстэрдам,
чаўны, як драўляныя чаравікі ў агародным канале,
дамкі, маляваныя, чыстыя,
як служкі з рахманымі рухамі
і паветра — садавода сябра надзейны.
Гамбург, зацукраны ў снезе,
з люлькай у Эльбы чахле,
марская мова скрыгочучых кранаў
і радасць марская верфей,
што калоніі ўраз заснавалі.

Марсель з фарбаванымі донкамі
колеру кветкавых людзей;
прадаўцы рыбы

ведаюць песні ўсіх частак свету,
і на сталах — ананас афрыканскі
побач з дыняй-касмапаліткай,
чорныя масліны
і падводная глыб
ў гулкіх бляшанках.

Цягнікі — акрабаты
на начных тонкіх мастах.
Караван судоў рэжа зары вадаспад.
І вось да самай сярэдзіны неба —
Парыж, найпершы порт чалавечы;
набярэжныя Сены з кніжнымі рыбакамі;
Люксембургскі сад — рай для карміліц.
Эйфелева вежа — жырафа сярод вежаў.

Усё пяе ўва мне, калі чую, як самалёты
міжнароднай вясны
рэжуць неба каштоўную далеч.
Я на лініі заходніх цягнікоў
заняты рэгістрацыяй свету:
адзначаю ў сваім акенцы
нараджэння і смерці небакраі,
распальваю ў сваёй люльцы
межы чытален з чарапіц у вёсках
і дрэсірую крыві маёй цырк
біццём сэрца сусвету.

## ФІЛАСОФІЯ ДЫМУ

Пад вокладкай кніжнай — стан ружы тонкі:
квітнеюць за мурам высокім старонкі,
ды брамка сама  адчыняецца звонку.

А ружа над плёсам — як келіх з рубіну,
дзе пах завярнуўся пругкай спружынай,
гатовы праліцца на плёс лебядзіны.

Агонь жа — душа альбо думак гарэнне
той зоркі, што дорыць нябёс галашэне
і сэрцаў, ўначы пацярпелых крушэнне.

Хоць кніга крылатая, крылы малыя:
закрылі старонку — і кнігу забілі,
хаваючы ў цёмных каморах і пыле.

І келіх цудоўны паб’е грозны вецер,
а дымнае полымя ў подыху смерці
сыходзіць на неба, як хворыя дзеці.

Згараюць пакуты і гора гадзіны…
Магчыма, таму і пасланы яны нам,
каб у небе растаць задумлівым дымам.

## У ТРЭЦІМ КЛАСЕ

У вагоне трэцяга класа
салдат адкаркоўвае штыком
бляшанку часу.
Токар здымае
двухкаляровую стружку з яблыка.
А дзесьці на варанёным даху паравоза
стаілася безбілетніца-поўня.

Берлінскія піўніцы.
Піва колеру зыркіх вачэй.
Зялёны кірмаш на плошчы Лютэра.
Статыстыкай улічана кожная хлебная драбінка,
якую з'еў верабей.
Снегапад — першая споведзь зямлі;
«Вось і зіма!» — радасна паўтараюць
мужчыны і жанчыны.
Кёльнскі сабор —
сталагмітавы гай,
струмені граніту з фантана,
што ўрэзаліся ў блакіт,
паветраны замак шэрані,
акамянелы акорд.

Па дарозе з Кёльна ў Парыж
у вокны кідаюцца юныя нівы.
Вецер гладзіць залатыя пасмы палёў,
што забыліся на вайну:
нават шкілетам немаўлят, зарытых
у гэтым чарназёме,
споўнілася цяпер дванаццаць год.

Бельгія. Вакзальны гадзіннік паказвае час
з дакладнасцю да стагоддзя.
Блакітныя салдацікі, блакітныя фасады.
За гэтай сцяной — Брусель.
На сялянскі калёсах два метра гарода
едуць на кірмаш.

Вуліцы Парыжа быццам знаёмы з маленства,
хаця першы раз іх бачыш.
Трыумфальная арка ўкленчыла пад цяжарам гісторыі.

Птушкі на саборы Нотр-Дам,
быццам крылатыя барэльефы.
Рулетка круглай плошчы Згоды —
там я паставіў на белы нуль поўні
сваю надзею.
Аднойчы на выхадзе ранкам з Луўра,
я зразумеў, што лёд —
гэта вада, што зрабілася статуяй.

І праз слыхавое акно па канаце белага промня
можна залезці на край небасхілу.
У гэты калодзеж часам глядзяць
хмары-вандроўнікі і галубы.

***Пераклад Юліі АЛЕЙЧАНКІ.***

## КЛАРА ФОН РЭЙТЭР

Як яблык у вазе, сіропам абліты,
твой голас вандруе на пяты паверх
ў прызрыстым кубіку ліфта.

Метро загайдала падземныя рухі.
У цёмным тунэлі святлее вагон
адбіткам тваёй памаранчавай скуры.

Аўтобус нясе па праспектах сталіцы
вачэй тваіх позірк, павейкі сярпом,
калоссем духмяным, што мне будзе сніцца.

Вышэй, нібы тонкая нота калібры,
у сшытку шкляным між парадных дзвярэй
мільгне профіль твой, быццам лоўкі экслібрыс.

## ЗАКЛІК У АБАРОНУ ЗЯЛЁНАГА КОЛЕРУ

Колер зялёны марскі, адмірал зялёных адценняў.
Колер зялёны зямны, сябра ўсіх земляробаў,
прадвесне мараў аб шчасці агульным
бясконцы статак аблокаў, што  пасуцца на небе.

Падводнае гаю святло,
дзе расліны, жамеры ды птушкі жывуць і кахаюць
ў маўклівай любові да вечназялёнага творцы.
Зялёны водар смачнай піты, —
яна ў раслінным рондалі

вырабляе густую вадкасць
з дажджу і цемры скразной.

Трапічны стол, дзе сваім зялёным султанам
нацягвае сок ананас стракаты.
Хмызы на зялёных купінках,
бедныя сваякі пагоркаў.

Зялёная музыка мошак, што п’юць без супыну
палатно шаўковіцы шчыльнай,
маскіты, што селяцца ў скрынях,
мутна-зялёны барабанчык жабкі.

Зялёны кактуса шал
і дрэваў чаканне, што сеткай зялёнай збіраюць
цудоўны птушыны ўлоў.
Вось колер зялёны ўвесь, ўся радасць сусвету,
што тоне ў моры, імкнецца да неба,
па рэчцы бруіць, — у вучэльні, дзе малююць аголеную натуру,
і тускнее, быццам жывёла, пад ветрам.

## САМОТА ГАРАДОЎ

Не ведаючы нумара свайго.
Абкружаны мурамі і межамі.
Пад вязнем-месяцам,
месяцам з вечным ценем ля пяткі.

Жывыя межы паўстаюць:
адлегласць — крок да майго кроку.

Няма поўначы, поўдня, захаду і ўсходу.
Ёсць толькі памножаная самота,
самота падзеленая на колькасць людзей.
Бег часу па арэнах цыферблатаў,
трамваяў вантробы,
храмы з атлетычнымі спінамі,
сцены, што чытаюць па складах каляровыя словы, —
усё гэта зроблена з адзінокага выкапня,
з самотнага рэчыва.

Вобраз самоты:
муляр спявае на рыштаваннях,
нерухомая лужына ў нябёсах.
Вобразы самоты:
пасажыр з’ядае газету, марнуючы час,
вобраз каханай хавае лакей на грудзях.

Горад мае выгляд мінерала.
Гарадская геаметрыя не такая прыгожая
ў адрозненне ад той, што мы ў школе вучылі.
Трохвугольнік, яйка, кубік цукру, —
тое папросту адукацыя на свяце формаў.
Потым з'яўляецца акружына:
першая жанчына, першы месяц.

Дзе была ты, самота?
Я не ведаў цябе год да дваццаці.
У цягніках, у люстэрку, на фота:
ты заўсёды са мною.

Сяляне не настолькі самотныя,
таму што складаюць адзінства з зямлёю.
Дрэвы іх дзеці,
змену пораў года яны адчуваюць целам уласным,
прыкладам ім — жыцці маленькіх жывёлаў.

Гэтая самота харчуецца кніжкамі,
вандроўкамі, раялем і агеньчыкамі натоўпаў,
гарадамі, нябёсамі, аўтамабілямі,
шквалам пены,
дзе мора мяжуе з зямлёю.
Вынаходніцтвы адкрытыя ўсе.
Але няма таго, што вызваліць нас ад самоты.

Мапы, што скарбы хаваюць на гарышчах.
Слёзы палаюць у тытунёвым дыме.
Самоту не пахаваеш спевам гітары.
Яна шпацыруе па бедных кватэрах,
гандлюе вопраткай самагубцаў
і хавае сутнасць словаў у дратах тэлеграфных
самота.

***Пераклад Адама ШОСТАКА.***

# ЧАГО БАІШСЯ БОЛЕЙ?

Пушкін і Беларусь... Гэтая тэма не аднойчы разгорнута абмяркоўвалася на семінарах, «круглых сталах», навуковых канферэнцыях. Працы Сямёна Букчына, Цімафея Ліякумовіча, Міхася Ларчанкі, Веры Ляшук, Юльяна Пшыркова, Давіда Сімановіча, Ігара Сцяпуніна, Антаніны Шалемавай увайшлі ў скарбонку беларускага пушкіназнаўства. Ведаем мы зараз пра візіты рускага класіка на беларускія землі, пра ўплыў яго прагрэсіўных ідэй на фарміраванне светапогляду нашых слынных пісьменнікаў. «Люблю я Пушкіна за яго прыгожы, цудоўны верш. Люблю за яго багацце думак, за сюжэтнасць, за зразумеласць мовы для ўсіх…» — казаў Янка Купала. Як вядома, адзін з асноўных кампанентаў культурнага дыялогу народаў і літаратурных традыцый — мастацкі пераклад. Пераўвасобіць пісьменніка на роднай мове — значыць сапраўды палюбіць і зразумець яго. Пераклад дапамагае нацыянальнай мове ў поўнай меры паказаць сваю гнуткасць і здольнасць да эксперымента, папоўніцца новай лексікай.

Гісторыя перакладаў Пушкіна на беларускую мову досыць багатая і цікавая. Упершыню яго творы загучалі па-беларуску ў 90-я гады пазамінулага стагоддзя. Гутарка ідзе пра пераклад Адамам Гурыновічам верша «Эхо». Выдатны верш «Узник» наблізіў да беларускага чытача Максім Багдановіч, паэму «Палтава» — Якуб Колас. Актыўнай працай па перакладах і выданні твораў Пушкіна былі адзначаны 1936—1937 гады, калі рыхтаваліся мерапрыемствы ў сувязі са стагоддзем з дня смерці паэта. Пераклады Янкі Купалы, Пятра Глебкі, Алеся Дудара, Алеся Звонака, Міколы Хведаровіча, Эдзі Агняцвет і інш. з’явіліся на старонках рэспубліканскага друку. Пятрусь Броўка, Аркадзь Куляшоў, Максім Лужанін, Васіль Зуёнак, Максім Танк, Пімен Панчанка, Рыгор Барадулін — вось далёка не поўны спіс вядомых беларускіх паэтаў, што ў розны час дапамагалі таму, каб Пушкін «загаварыў» па-беларуску. У аўтарскіх зборніках, анталогіях, кнігах выбраных твораў увасоблена значная частка пушкінскай спадчыны на беларускай мове.

Не маглі абысці перакладчыкі і заўсёды актуальны і злабадзённы раман у вершах «Яўгеній Анегін». Па-рознаму былі сустрэты пераклады Ю. Дрэйзіна, А. Дудара, А. Куляшова. Першы з іх, прымеркаваны для сцэнічнага ўвасаблення, крытыка палічыла малапаспяховым, і ён меў кароткае жыццё. Пераклад жа Алеся Дудара, наадварот, адзначаны цікавымі творчымі знаходкамі, добрым адчуваннем рытму і інтанацыйнай канвы пушкінскіх строф. Аднак і яго часам папракалі буквалізмам, паблажлівымі адносінамі да будовы беларускай фразы. У 1939 годзе былі апублікаваны 29 строф шостай главы «Яўгенія Анегіна» ў перакладзе Аркадзя Куляшова. Праз дзесяць гадоў Куляшовым быў зроблены новы, канчатковы варыянт перакладу рамана (на жаль, рукапіс папярэдняга згарэў у Мінску ў час вайны). Смеласць інтэрпрэтацыі ў сімбіёзе з глыбокім разуменнем арыгінала і ашчаднасцю да пушкінскага слова — вось як можна лаканічна ацаніць працу перакладчыка. Зазначаючы нялёгкасць і адказнасць справы, Аркадзь Аляксандравіч пісаў: «У новым перакладзе я ішоў на ажыццяўленне пастаўленай перад сабой задачы — творчага, а не падрадковага прачытання і пераўвасаблення пушкінскіх строф, памятаючы словы аўтара «Яўгенія Анегіна» аб тым, што падрадковы пераклад ніколі не можа быць правільным. Даводзілася пераадольваць і яшчэ адну, спецыфічную, цяжкасць: заманлівую блізкасць рускай і беларускай моў. Блізкасць гэта ў асобных выпадках, амаль дакладна перадаючы сэнс, часта пераходзіла ў сваю супрацьлегласць, гэта значыць, рабіла такі даслоўны пераклад непа-

этычным». Як бачым, лавіраваць на грані ўласнатворчасці і перадачы аўтарскага сэнсу рызыкоўна… Трэба мець унутраны такт і сапраўдны талент.

Не пабаялася брацца за пераклады класікаў рускай літаратуры і паэтэса, якая больш за ўсё цаніла народнае, натуральнае, беларускае, — Валянціна Аколава. Можа, у нечым і перабольшвала «беларускі» кампанент у семантычнай карціне твораў Цвятаевай, Пушкіна. Можа, у чымсьці неапраўдана імкнулася да аказіянальнай лексікі. Але гэта ад палкасці сэрца, ад творчай энергіі, што бруіла цераз край, ад жадання зрабіць знаходкі сусветнай літаратуры і беларускімі таксама, шчымліва роднымі. І гэтыя пераклады таксама маюць права на жыццё, на існаванне ў ментальнай карціне свету беларусаў. Звярнуўшыся з пытаннем аб лёсе хатняга архіва паэткі да адной з арганізатараў вечарыны памяці Валянціны Аколавай — вядомай аўтаркі ключавых праектаў Беларускага радыё — Галіны Шаблінскай, я даведалася, што архіў быў паспяхова перададзены ў музей літаратуры. А дапамагала ў гэтай карпатлівай справе — кампазітар Валянціна Сярых. Яна, чалавек з выдатным густам і добры знаўца сусветнай паэзіі, узялася за аднаўленне перакладу «Яўгенія Анегіна», зробленага Аколавай. Невялікі ўрывак (некалькі частак пятай главы) усё ж дае магчымасць разважаць пра перакладчыцкую манеру паэтэсы. Відавочна, што не баялася яна адыходзіць ад стылістычнага афармлення арыгінала. І часам стварэнне новых вобразаў было цалкам удалым. Як добра гучаць перыфразы «зернiва з нябёсаў» ці «зямлі адзенне», метафара «сняжынак заанёльскі смех»… І скрозь беларуская, сакавітая, часам неалагічная, лексіка: «шкліны», «холадзь», «яркасны», «дрыготлівы», «гарчавіць», «адвосень», «болень», «вогмень». Не імкнулася і да строгага следавання сінтаксічнаму афармленню нават у відавочных выпадках:

Таццяна (руская душою
Сама не знала: для чаго?)

У заслугі Валянціны Аколавай як перакладчыцы варта залічыць рытмічную дакладнасць, выверанасць, выкарыстанне шырокіх магчымасцей гукапісу.

Ёсць, безумоўна, і свае хібы. Адна з іх — сэнсавая недакладнасць. Напрыклад, у арыгінале «снег выпал только в январе», у Аколавай — «на трэці снежня дзень». У Пушкіна кот, які мыецца, згадваецца ў якасці народнай прыметы аб хуткім прыёме гасцей, у Аколавай ён проста «лапкі мыў штодня» і «мявукаў нешта для гасцей».

Ды, нягледзячы на гэта, што ні кажы — такі пераклад «Анегіна» самабытны і ў пэўнай ступені цікавы для даследчыкаў.

Бескампраміснасць, поўнае заглыбленне ў свет творчай фантазіі, няспынная праца па самаўдасканаленні Валянціны Аколавай уражвала тых, хто ведаў асабіста гэтую таленавітую жанчыну з няпростым лёсам. Больш усяго баялася яна сытага спакою і бяздзейнасці, падману і фальшу, аб чым яскрава сведчаць паэтычныя радкі са зборніка «За тым лугам зялёненькім»:

Чаго баішся болей:
Падману ці тугі,
Мяшчанскага спакою,
Ці мо вяртаць даўгі,
Ці цяжкасці ўдачы,
Ці лёгкасці біды?

Няхай жа публікацыя ўрыўка перакладу Валянціны Валянцінаўны будзе ўспрынята як годнае ўшанаванне памяці паэтэсы і раскрые чытачам новыя грані яе цікавага светабачання, што, несумненна, адбіліся ў перакладзе «Яўгенія Анегіна».

***Юлія АЛЕЙЧАНКА***

# ДЗВЕ ВАЛЯНЦІНЫ

«…Дзве Валянціны — дзве творчыя жанчыны…» — так любіла часта паўтараць пры жыцці пра наша творчае супрацоўніцтва вядомая паэтэса Валянціна Аколава, актыўна заклікаючы мяне да творчага сяброўства. І зразумела, чаму: яна — прафесійны паэт, а я — прафесійны кампазітар, і абедзве — жанчыны!

Вельмі сумна мне пісаць такія словы «пры жыцці» пра сваю, маладзейшую за мяне, калегу, якая не дажыла да свайго 60-годдзя, да юбілею, які вельмі хацела адзначыць.

Наша знаёмства адбылося яшчэ на пачатку 80-х гадоў, калі я вярнулася ў родную Беларусь з Масквы пасля заканчэння аспірантуры Расійскай акадэміі музыкі імя Гнесіных, а перад гэтым — і самой акадэміі як кампазітар.

Валянціна тады адразу ацаніла маю музычную адукацыю, прыгадаўшы, што і сама яна вучылася ў Маскве на Вышэйшых літаратурных курсах. Так пачалося наша творчае супрацоўніцтва. Даволі плённае, як паказаў час. Першыя ўжо нашы песні «А на ясным небе» і «Мухамор» адразу ацаніла і пачала спяваць вядомая артыстка Надзея Мікуліч. Песні былі запісаны і ўвайшлі ў фонд Беларускага радыё. Валянціна казала тады, што раней не пісала эстрадных песень, бо лічыла гэта не надта сур'ёзнай працай. Але ж нашыя з ёй першыя поспехі вельмі натхнялі!

Натхнялі і мяне яе вершы. Акрамя высокага прафесіяналізму, несумненнага яркага таленту, мяне вельмі захапіла сакавітасць яе мовы: чыстай беларускай, народнай, каларытнай… Валя была актыўнай натурай, і мы шмат падарожнічалі па краіне з творчымі вечарамі: яна чытала свае вершы, я — іграла і спявала нашы сумесныя песні. Часта з намі выступалі і спевакі, салісты філармоніі, а яшчэ малады, пачынаючы тады свой музычны шлях Якаў Навуменка (які, на жаль, таксама рана пайшоў з жыцця).

Валянціна лічыла, што трэба ствараць больш добрых беларускіх песень, што адчуваецца пэўны недахоп іх у рэпертуары нашых спевакоў.

У хуткім часе мы даведаліся, што нашу з Аколавай песню «Зноў кружыць снег» узяла ў свой рэпертуар салістка аркестра Міхаіла Фінберга Наталля Тамэла. Загучалі нашы з Валянцінай творы і ў выкананні аматараў мастацкай самадзейнасці краіны.

Ды Валя не абмяжоўвалася песнямі, яна ўвесь вольны час пісала, пісала, пісала… Бясконца магла працаваць над словам: на кожны радок у яе заўсёды быў безліч варыянтаў. Яна магла тэлефанаваць мне (як, дарэчы, і іншым нашым знаёмым) у любы час, днём і ноччу — я яе разумела і не здзіўлялася гэтаму. Творчы працэс быў у яе бесперапынны.

Атрымаўшы кватэру ў суседнім са мной мікрараёне — Сухарава, Валянціна часта запрашала на прагулкі ў наш любімы «сухараўскі» лес і дзялілася планамі. Іх заўсёды было вельмі шмат. Сярод яе задумак былі і музычныя — яна прапаноўвала мне напісаць мюзікл (беларускі мюзікл!). Размаўлялі пра новыя паэмы, прысвечаныя Валянціне Мінскай, Еўфрасінні Полацкай, Валенцію Ваньковічу. Чытала вершы, прысвечаныя родным сваім мясцінам — Салігоршчыне.

Шмат гаварыла пра пераклады, якія вельмі любіла рабіць. Аднойчы яна падзялілася тым, што завяршыла доўгую працу над перакладам «Яўгенія Анегіна» на беларускую мову.

— Навошта гэта?.. — тады здзівілася я. — Пушкіна перакладаць наогул цяжка, ды і ёсць ужо пераклад паэмы на беларускую.

Прайшоў час, і я зразумела, што вельмі памылялася. Да канца недаацаніла яе творчай смеласці, арыгінальнасці, крэатыўнага стаўлення да слова…

Пасля Валінага адыходу з жыцця да мяне звярнулася яе родная сястра з Салігорска — Алёна Валянцінаўна, — з просьбай дапамагчы разабрацца з вялікім архівам паэтэсы. Я згадзілася. І вось тады я ўбачыла і прачытала ўпершыню пераклад «Яўгенія Анегіна» Аколавай.

Я была проста ўзрушана! Мой любімы з дзяцінства Пушкін загучаў на яскравай, выразнай і каларытнай беларускай мове. І такі пераклад магла зрабіць толькі Валянціна — я адразу адчула яе стыль. Але ў набраным кімсьці на камп'ютары тэксце (свайго камп'ютара ў Валі не было) аказаліся і праўкі: шматлікія варыянты слоў, напісаныя простым алоўкам рукой Аколавай (почырк яе я адразу пазнала). Што ж, удасканальваць напісанае Валя магла бясконца…

Экзэмпляраў паэмы было два, і з дазволу сястры паэтэсы адзін з іх я пакінула сабе. Астатнія творы былі перададзены на захаванне ў Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва, у чым нам не адмовіла дырэктар установы — Ганна Вячаславаўна Запартыка, за што хацелася б выказаць ёй шчырую падзяку. Таксама, як і аўтару шматлікіх праектаў Беларускага радыё Галіне Шаблінскай, якая адразу пасля смерці паэтэсы Аколавай прасіла паклапаціцца пра творчы архіў Валянціны, бо ведала, што напісана ёю было шмат, а вось надрукавана — зусім нямнога… І сапраўды, рукапісаў аказалася столькі, што спатрэбілася машына! Ды і разборка рукапісаў зацягнулася надоўга, амаль на два гады. Архіў быў перададзены на захаванне толькі на пачатку лета 2015 года (Валянціны не стала ў снежні 2013 года).

Пісала паэтка свае творы на выпадковых, падораных кімсьці паперах: кнігах бухгалтарскага ўліку, кнігах скаргаў і прапаноў, дамавых кнігах з ЖЭСаў, бо грошай ёй часта проста не хапала. А здароўе падводзіла, асабліва — у апошнія гады. Пасля смерці ў яе грашовіку засталося шэсць тысяч беларускіх рублёў… Хіба што на квіток у грамадскім транспарце. Тое ж — і на асабістых рахунках.

— Якое жабрацтва! — усё здзіўлялася, гледзячы на стан Валінай кватэры яе другая сястра, якая прыехала ў Мінск з Расіі на пахаванне паэтэсы. І сапраўды, у пакоях Валянціны былі толькі кнігі, кнігі, кнігі… А мне падумалася тады: ці не так сыходзяць з жыцця сапраўды адданыя сваёй музе людзі?

У студзені 2015 года хутка пасля Валінай смерці мы з Галінай Шаблінскай арганізавалі вечарыну памяці паэткі ў адной з бібліятэк горада Мінска. Людзей было няшмат, не ўсе ведалі пра нечаканы адыход Валянціны з жыцця, але атмасфера была вельмі цёплай. Чыталіся Алегам Вінярскім вершы, спяваліся песні, выдатна вёў мерапрыемства Навум Гальпяровіч.

А я ўзяла на сябе смеласць дапрацаваць да магчымага выдання (я веру ў гэта!) Валін пераклад «Анегіна», унесці праўкі ў набраны ўжо тэкст. Праца вялікая, але, спадзяюся, Бог дапаможа!

Нядаўна бачыла сяброўку ў сне.

— Дзякуй табе, Валька, — сказала яна мне, як жывая, — дзякуй за дапамогу з маімі творамі. Зараз і мне тут будзе спакайней.

І я прачнулася — таксама супакоеная. Сапраўды, рукапісы не гараць…

А для чытачоў — падарунак: урывак з паэмы Пушкіна «Яўгеній Анегін» у перакладзе Валянціны Аколавай. Спадзяюся, ён будзе належным чынам ацэнены і літаратарамі, і аматарамі паэзіі.

Творчасць Аколавай яшчэ чакае свайго даследчыка!

***Валянціна СЯРЫХ,***
***член Беларускага саюза кампазітараў, піяністка, кампазітар, педагог.***

## Аляксандр ПУШКІН

### ЯЎГЕНІЙ АНЕГІН
***(Урывак)***

#### Глава пятая

**I**

***О, сноў страшлівых ты не знай,***
***мая Святлана!***

Жукоўскі

Адвосень доўга той парою
Стаяла між платоў, саней;
Бялюткі снег вітаў зарою
З нябёсаў зерніва ў акне.
На трэці снежня дзень раптоўна
Таццяна ўгледзела святоўна
Гасцінны двор, сняжынак раць.
Хутчэй зімовы дзень вітаць!
На шклінах — з роспісаў узоры.
Сад. Срэбны іней. Чысціня.
Гукае далеч цішыня.
Зімы вясковай непаўторы;
Сарок стракатых: гам, шум, страх…
Зямлі адзенне ў дыванах.

**II**

Зіма!.. Сялянства будні, святы;
Зноў сані аднаўляюць бег.
Паўрыссю конічак заўзяты
Завеі мяккай топча снег;
Капытаў спрыт у тры аброці;
Карэта ў сонца пазалоце.
Ямшчык сядзіць у кажушку
І пры чырвоным паяску.
Дваровы хлопчык Жучку з горкі
На санках возіць, як дзіця.
Замёрз. Сняжынкі зіхацяць.
Сам, як вяршочак ростам толькі;
Балюча ў пальцах. Колкі снег.
Матуля грозная ў акне…

**III**

Але такога, мабыць, роду
Карціны вёскі вам не ў зрок:
Мілуем рэдка мы прыроду

(Хаця з прыгожага — радок).
Натхненне Богам абагрэта,
Нам ліра іншага паэта
Вядома пра зіхоткі снег.
Сняжынак заанёльскі смех,
Ён вас палоніць. Мне вядома,
Як дум імклівасць і саней.
Зімы прыход мне ўсё радней.
Дол — чысціня: пагляд не стомай:
Спявак фінляндкі малады,
Навошта ж спрэчкі? Слоў лады!

**IV**

Таццяна (руская душою
сама не знала: для чаго?)
Любіла з холаддзю зямною
Дні рускіх зімаў, снег — агонь,
Пад сонцам іней. Змрок марозны,
Саней разбег, прышпор пагрозны,
Ружовы вогмень, стынь зары,
З калядных зораў вечары.
Па звычаях (былінных!) роду
Іх дом-памесце жыў якраз:
Служанкі ў тайнасць (не ў паказ)
Варожак скліквалі з народу,
Паненкам мроілі штогод
Мужоў ваенных і паход.

**V**

Таццяна верыла паданням,
Народным сказам даўніны,
Снам, картам, варажбе, гаданням,
Чароўнаму святлу вясны:
Яе трывожылі прыкметы,
Загадкі рэчаў і прадметы,
Што абуджалі ў сэрцы кліч,
Дыханне ўзбуджвалі, як зніч.
Вусаты кот паглядваў з печы,
І лапкі мыў штодня сабе,
Быў з метай яркай на ілбе,
Мявукаў для гасцей аб нечым.
Рагаты ў небе ж маладзік
Таццяны мроі маладзіў.

**VI**

Яна дрыготліва бляднела,
Калі ад палай зоркі след
Зліваўся з небам, сэрцам млела
Ад мёртвых, яркасных камет,
Што рассыпаліся ў зарыны;
І ў тыя ж самыя хвіліны
Слязіўся шчасцейкам пагляд;
Зрок рамантычнасці быў рад
Манахам пры зямной размове;
З заечых сцежаў беганъ-страх —
Ён наганяў адчай і жах;
Гарчэлі вусны ў болень-слове;
Чакала ў прадчуванні дня
Няшчасця заўтрага яна.

**VII**

Што ж? Асалоду юных тайнаў
Таццяны розум гарчавіў:
Прырода мудра і старанна
Даруе радасці парыў
Скрозь супярэчнасцей знямогу.
Каляды зноў. І слава богу!
Вятрыска маладых гадоў,
Калыска доля-лёс ізноў.
Надзей прастор. Ля зор світае;
Бабулька-старасць слепіць зрок,
Да акуляраў блізіць крок.
Жыцця адвечар даплывае.
І шэпча ночы: «Зману круг
Каля дзявочых белых рук».

***Пераклад з рускай***
***Валянціны АКОЛАВАЙ.***

Ірына ШАЎЛЯКОВА-БАРЗЕНКА

# ПАЭЗІЯ РЭЧА(Ў)ІСНАСЦІ
## (Творчая індывідуальнасць Алеся Бадака)

На фоне найбольш заўважных трэндаў (канцэптуальна-каштоўнасных) і брэндаў (жанрава-стылявых) сусветнай мастацкай славеснасці беларуская літаратура пачатку XXI стагоддзя бачыцца феноменам парадаксальным. У тым сэнсе, што вектары аксіялагічнага, эстэтычнага, уласна мастацкага руху аказваюцца скіраванымі як бы супраць агульнай плыні. Напрыклад, пошукі канстытутыўных асноў асобаснага быцця як неад'емнай часткі нацыянальнай анталогіі — насуперак агульнай тэндэнцыі да індывідуацыі (тут: як агрэсіі індывідуальнага, маніфестацыі яго каштоўнаснай і экзістэнцыйнай самадастатковасці). У якасці адной з адметных асаблівасцей беларускай літаратуры можна вылучыць увагу да «пазатрэндавых» жанраў: філасофска- і сацыяльна-псіхалагічнага рамана, гісторыяцэнтрычнага рамана як узору «вялікага эпасу», да лірычнай прозы, сацыяльнай сатыры, філасофска-медытатыўнага ліраэпасу і інш. І гэта пры абыякавасці да літаратурнага хорару, трылера (у тым ліку — мастацтвазнаўчага), фэнтэзі, кіберпанка і да т.п. У беларускім літаратурна-мастацкім дыскурсе апошніх двух дзесяцігоддзяў пачынае складвацца паэтыка сімфанічнага тыпу. Для беларускага прыгожага пісьменства, дзе дамінуе класічны тып творчасці [1], гэта азначае, што так званая ўнутраная форма словатворчасці задаецца рэалістычным спосабам мастацкага аднаўлення быцця. А вось мастацкі тэкст як плён вобразнага аднаўлення свету можа ўяўляць плён складанага (сімфанічнага) суладдзя розных мастацкіх сістэм, сярод якіх могуць быць (у розных варыяцыях) пострамантызм, постсентыменталізм, неасімвалізм, неабарока, поставангардызм.

Згаданы вышэй парадаксалізм характарызуе не толькі быццё беларускай літаратуры ў агульнасусветным літаратурным кантэксце, але і некаторыя з'явы ўнутрылітаратурнага развіцця. Напрыклад, так званае сярэдзіннае пакаленне беларускіх пісьменнікаў.

У першай палове 2000-х гадоў гэтак зручна было пазначаць тагачасных саракагадовых (плюс/мінус колькі год) літаратараў, якіх у полі прыцягнення адно аднаго трымала ўжо не маніфестацыя еднасці (канцэптуальнай ці эстэтычнай), а супольная гісторыя фарміравання творчых індывідуальнасцей, што прыпала на другую палову 1980-х — 1990-я гады. Парадокс у тым, што час ідзе, з'яўляюцца новыя аўтары (не без маніфестаў і праектаў), але літаратурнае пакаленне, якое (у алфавітна-бесстаронным парадку) персаніфікуецца ў творчых асобах Алеся Аркуша, Эдуарда Акуліна, Ігара Бабкова, Алены Брава, Алеся Бадака, Сяргея Верацілы, Адама Глобуса, Сяргея Дубаўца, Анатоля Казлова, Барыса Пятровіча, Сяргея Рублеўскага, Людмілы Рублеўскай, Уладзіміра Сцяпана, Анатоля Сыса, Андрэя Федарэнкі, Віктара Шніпа і інш., застаецца *сярэдзінным*. Гэта значыць, што і ў другой палове 2010-х яно застаецца адным з канстытутыўных чыннікаў літаратурнага працэсу, як бы аргументуючы невыпадковасць з'яў і сюжэтаў бягучага літаратурнага жыцця.

Паводле логікі сучаснага культурнага маркетынгу ўплывовасць (= «інфармацыйная вага») літаратара наўпрост звязваецца са ступенню яго (сама)прамоўленасці. Маецца на ўвазе яго прысутнасць, сцверджанасць у інфармацыйнай прасторы, прычым нават не столькі як аўтара тэкстаў, колькі як медыйнага персанажа — удзельніка інтэрв'ю, дыскусій, форумаў, акцый, імпрэз, іншых мерапрыемстваў, якія абавязкова гучна анансуюцца і шчодра асвятляюцца. У кантэк-

сце развaг пра спецыфіку новай інфармацыйнай рэальнасці цікава звярнуць увагу на тое, што сярэдзіннае пакаленне беларускіх пісьменнікаў з аднолькавым поспехам практыкуе дзве рознаскіраваныя стратэгіі літаратурна-творчай самаактуалізацыі. Адны з іх (умоўныя «літ-экстраверты») упадабалі стратэгію рэгулярнага самапрамаўлення. Іншыя (умоўныя «літ-інтраверты») прытрымліваюцца традыцый мінімальнага публічнага маўлення (часам нават публічнага маўчання).

На гэтым парадоксы айчыннага літаратурнага быцця не заканчваюцца, бо пры ўсёй размаітасці згаданых стратэгічных суплётаў ёсць пісьменнікі, чыя літаратурная творчасць і жыццё ў літаратуры застаюцца па-за матрыцамі. Адметнай увагі ў кантэксце асэнсавання феномена сярэдзіннага пакалення вымагае асоба Алеся Бадака — з прычыны вынаходніцтва ім яшчэ адной жыццятворчай стратэгіі.

Алесь Бадак нарадзіўся 28 лютага 1966 года ў вёсцы Туркі Ляхавіцкага раёна Брэсцкай вобласці. У 1983 годзе паступіў на філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, вучоба перапынялася з-за службы ў арміі (1984—1986) і завяршылася ў 1990 годзе. Першыя вершы з'явіліся ў газеце «Піянер Беларусі» ў 1979 годзе. У мінулым стагоддзі першым у спісе набыткаў пісьменніка, занатаваных у шматлікіх біяграфічных звестках, было званне «паэт-песеннік». Між тым, ужо ў другой палове 1990-х яно перастала быць першачарговым. Да сярэдзіны 2010-х А. Бадак стаў аўтарам паўтара дзясятка кніг, з іх тры — паэтычныя зборнікі. Зборнік «дарослай» прозы, як абмовіўся ў адным з рэдкіх інтэрв'ю аўтар, на падыходзе. Пісьменнік апублікаваў шэраг кніг для дзяцей («Маленькі чалавек у вялікім свеце» (1995), «Верабей з рагаткай» (1999), «Незвычайнае падарожжа ў Краіну Ведзьмаў» (2001) і інш.) і аповесць для падлеткаў «Адзінокі васьмікласнік хоча пазнаёміцца» (2007); аўтар кніг папулярнай серыі «Усім пра ўсё»: «Расліны» (2008), «Жывёлы» (2009), «Птушкі» (2010), «Насякомыя» (2011), «Водны свет» (2012). Выступаў у друку з артыкуламі, эсэ, рэцэнзіямі. Вершаваныя і празаічныя творы А. Бадака «змяшчаліся ў перыёдыцы і анталогіях у Сербіі, Чарнагорыі, Венгрыі, Расіі, Казахстане, Азербайджане» [2].

Першая кніга вершаў А. Бадака «Будзень» была выдадзена ў дэбютнай серыі «Мастацкай літаратуры» ў 1989 годзе; яе рэдактарам стаў вядомы пісьменнік, літаратуразнаўца, легендарны «дэкан-паэт» філалагічнага факультэта БДУ Алег Антонавіч Лойка.

Зборнік «Будзень» народжаны *паэзіяй рэальнасці*: у будзённасці рэчаў і падзей утрымліваецца не толькі прадчуванне невытлумачальнай складанасці быцця, але і магчымасць яе вытлумачэння. Творы ўтрымліваюць падкрэслена пазнавальныя вобразы рэчаіснасці. Аўтар не ахвяраваў мастацкасцю вобразнага аднаўлення жыцця на карысць своеасаблівай фотадакументалістыкі, але імкнуўся па-свойму аднавіць тэмпарытм паўсядзённасці як звычайнага цуду:

Цэлы дзень кастрычнік сеяў
дождж,
і вось зараз,
пад вечар,
на голых галінах дрэў,
на апалым лісці,
на дахах дамоў
паволі
узыходзіць
смутак.
*«***Цэлы дзень кастрычнік сеяў...»*

У вершах А. Бадака не знойдзеш стылёвага арнаменталізму, гэткай вобразнавыяўленчай збыткоўнасці. Але іх нельга назваць і ўзорамі аўталагічнага стылю, мастацкай аскезы. У «Будні» запачаткоўваецца тая апісальнасць, своеасаблівая эпічнасць паэтычнага маўлення, якая бачыцца адной з ключавых адзнак пазнейшага вершавання творцы.

Стан лірычнага героя гэтага зборніка — натуральная жыццярадаснасць, яна пануе і ў свеце навакольным; яго паэт імкнецца аднавіць як штосьці рэчыўнае — і шматаблічна-рухомае:

Мулка на цені сваім пастушку.
Жмурыць блакітныя вочы і сумна
Ў неба глядзіць і чакае, пакуль
Воблака
Сонца ў кішэню засуне.

*«На пашы»*

Другі зборнік вершаў і песень — «За ценем самотнага сонца» — быў выдадзены «Мастацкай літаратурай» у 1995 годзе. Непадробная ўвага да рэчаіснага свету спрыяла «эпічнай дэталізацыі» жыццёвай панарамы ў творах гэтай кнігі А. Бадака. «Самотна-сонечныя» вершы набліжаюцца да *ліра-эпасу*; паэта па-ранейшаму вабіць не столькі метафізіка жарсці, колькі хроніка расстанняў. Такім чынам, і ў змястоўным плане другая кніга сталася лагічным працягам першай, з лагічным жа заглыбленнем паэта ў нетры самоты.

*Самотны* — стрыжнявы эпітэт другога зборніка (вершы «Казка без канца», «Сляпы», «Чорт» і інш.). Настрой, танальнасць яго можна вельмі прыблізна вызначыць як медытатыўна-элегічную, што ўбірае ўсю палітру самотнасці:

Сустракаемся рэдка зусім,
А ўсё больш расстаёмся з табою.
Наша шчасце — аранжавы дым,
Ціхі шлях ад самоты да болю.

*«***Мы ніколі не станем радней...»*

Я выпадковы і позні тут госць.
Я не прыеду сюды, мабыць, болей.
Не пасябруюць твая весялосць
З ціхай маёю журбою

*«***Я выпадковы і позні тут госць...»*

Дарэчы, варта заўважыць, што лірычны герой А. Бадака спакойна нясе вырак *анталагічнай* самотнасці, разлітай у самім рытме айчынных будняў.

Хаця ў сярэдзіне 1990-х паэт па-ранейшаму аддае перавагу вершу і песні, у другой кнізе можна ўжо адшукаць парасткі будучых паэм («Чарга», «Праклён»). Насенне было кінутае яшчэ ў «Будні» (верш «Цень»), але спатрэбіліся паўтара дзесяцігоддзя, каб жыццё і быццё (фізіка і метафізіка) сустрэліся ў паэмах «Маланкавага посаху».

Кніга лірыкі «Маланкавы посах» выйшла ў 2004 годзе, таксама ў «Мастацкай літаратуры». Яе склалі раздзелы «Таемны сад», «Смутак апалага лісця», «Цень», «Пурпуровае сонца», «Вяртанне на Млечны шлях».

Эпіграфам да першага зборніка А. Бадак абраў уласнае чатырохрадкоўе з верша «Госць» (раздзел «Сястра мая маланка»), тым самым пацвердзіўшы топавыя матывы ды вобразы сваёй паэтычнай творчасці:

Жывуць у небе змалку
На лецішчы вятроў —
Сястра мая маланка
І сумны брат мой гром.

Верш, аднайменны назве зборніка, адкрывае кнігу — і становіцца своеасаблівай брамай у двухсусветнасць мастакоўскай анталогіі, дзе вонкавая рэчаіснасць ёсць іншаўказаннем на свет сутнасцей.

Менавіта паэмы вызначаюць канцэптавую «тапаграфію» гэтай кнігі. Першы раздзел «Таемны сад», настраёвасць якога мусіць задавацца вершам «Сумую» і ўзмацняцца «Самотай», падсумоўваецца паэмай «Эміграцыя». Лірычны герой асуджаецца на дваістасць існавання і ўнутраную няпэўнасць як бы самой логікай быцця. «Эмігрант» тут — не ахвяра абставін альбо чужой волі; «душой у эміграцыі» — гэта волевыяўленне:

Я не хацеў вяртацца больш назад,
Да лёсам неацэненае працы,
Да векам напрыдуманых пасад.
Хто я цяпер? Звычайны эмігрант —
Не плоцццю, а душой у эміграцыі.

*«Эміграцыя»*

У другім раздзеле — «Смутак апалага лісця» — лірычны герой ахвяруе заўсёднаю сваёю самотнасцю на карысць… смутку («...незнаёмы, бяздонны, // стомлены смутак апалага лісця»). Раздзел завяршаецца паэмай «Ра» — адным з тых нешматлікіх у найноўшай беларускай літаратуры твораў, дзе «важныя праблемы рэчаіснасці раскрываюцца адначасова эпічнымі (наяўнасць у творы сюжэта, характараў) і лірычнымі (вобраз лірычнага героя, шматлікія лірычныя адступленні) сродкамі» [3, с. 233]. Сарцавінай паэмы ёсць міфалагема *вяртання*, што ўрэчаўляецца ў сімвалах, якія нібыта без цяжкасцей тлумачацца — і могуць бясконца расшыфроўвацца.

Я пехатой назад пайшоў — наўсцяж
Нямых вякоў, дзе засталіся продкі.
Шлях да Айчыны адусюль кароткі,
Калі твая Айчына не міраж.

*«Ра»*

У трэцім раздзеле — «Цень» — увагу прыцягвае аднайменная паэма, прычым якраз у своеасаблівым эпілогу да яе («На палях паэмы «Цень») найбольш выразна адчуваецца пульс адмысловага неасімвалізму, што ўлучае і рамантычныя парыванні, і ўласна сімвалісцкія вышукванні, і нават уварванні будзённых рэчаў у свет сутнасцей. У паэмах «Маланкавага посаху» ўсюдыісная ў А. Бадака самота як бы трацiць сваю рэчыўнасць: тут пануюць, хутчэй, сузіральнасць, медытатыўнасць. Вершы ў зборніку ёсць плёнам паэтызацыі рэчаіснасці, яны ўтрымліваюць такія важныя для індывідуальна-творчага стылю А. Бадака рысы, як дакладнасць паэтычнага малюнка («***Ідуць халодныя дажджы...»), безуважнасць, абыякавасць да стылявых раскошаў («Восеньскі эцюд»), размераны рытміка-інтанацыйны малюнак («***Прамовіць «падабаешся» лягчэй...»). Усё гэта робіць ўражанне надзвычай удалай сустрэчы важнага для паэта зместу з адзіна магчымай формай:

Вогнішча вецер раздзьмуць паспрабуе —
Дым страпянецца і шлях загародзіць.
Ціха ў яго я ўвайду і адчую:
Лісця душа
У мяне
Уваходзіць.

*«Смутак апалага лісця»*

З пачаткам 2000-х гадоў цэнтр увагі А. Бадака перамяшчаецца ад лірыкі і ліраэпасу да прозы. У якасці празаіка ён аддае перавагу жанрам апавядання («Баптыстка», «Па той бок адлюстравання»), аповесці («Не глядзіце ў снах на поўню»); у стасунках з дзіцячай аўдыторыяй улюбёным жанрам А. Бадака застаецца аповесць-казка («Незвычайнае падарожжа ў Краіну Ведзьмаў, «У цёмным лесе за сіняй рэчкай», «Пра Малпачку Чыту і яе сяброў» і інш.).

У 2007 годзе ў часопісе «Маладосць» была апублікавана аповесць «Адзінокі васьмікласнік хоча пазнаёміцца». Калі верыць калялітаратурнай міфалогіі, твор з’явіўся ў выніку пісьменніцкай змовы. Нібыта ў 2000-х гадах Раіса Баравікова, Алесь Бадак, Алесь Наварыч і Андрэй Федарэнка змовіліся напісаць некалькі празаічных твораў для падлеткаў, каб паспрыяць ператварэнню беларускай падлеткавай літаратуры ў сапраўдны брэнд нацыянальнага мастацтва слова. Зараз можна ўпэўнена гаварыць, што менавіта проза для падлеткаў як мэтаскіраваны

літаратурны праект у межах першага дзесяцігоддзя XXI стагоддзя сталася надзвычай плённай рэакцыяй айчыннай літаратуры на выклікі сучаснай інфармацыйнай рэальнасці.

Зрэшты, аповесць А. Бадака «Адзінокі васьмікласнік хоча пазнаёміцца» наўрад ці варта лічыць выключна творам для падлеткаў: «…дзве сюжэтныя лініі, аб'яднаныя тэмай першага кахання: адна з іх пераносіць чытача ў школу пачатку 80-х гадоў XX стагоддзя, другая разгортваецца на фоне сённяшняга дня» (паводле анатацыі да першага кніжнага выдання аповесці) [4] насамрэч ахопліваюць праблемна-тэматычны абсяг, незраўнана шырэйшы за школьныя стасункі падлеткаў і дарослых, узаемаадносіны вучняў і настаўнікаў.

Асноўным прынцыпам кампазіцыйнай будовы аповесці з'яўляецца двухпланавасць (у якой нам чуецца рэха двухсусветавасці, водгулле якога злучае вершы «Будня» з паэмамі «Маланкавага посаху»). Адзін з сюжэтных планаў разгортваецца ў 1985 годзе як гісторыя закаханасці васьмікласніка Сяргея Васілевіча ў дваццацігадовую настаўніцу біялогіі Таццяну Антонаўну Высоцкую (Танечку, як звалі яе між сабой вучні). Праз дваццаць год апавядальнік аказваецца ў школе ў якасці запрошанага госця, куды яго запрасіў сябра-настаўнік. Запрасіў з непрыхаванай мэтай: каб госць-пісьменнік выступіў у якасці арбітра ў адным надзвычайным школьным здарэнні («Тут адзін васьмікласнік хацеў настаўніцу з дапамогай інтэрнэта шантажыраваць» [5, с. 124]. «Спецыфічная дыскрэтнасць аповеда (чаргаванне былога і сучаснага, устаўныя эсэ і інш.)», на думку Л. Алейнік, «ніякім чынам не перашкаджае выяўленню логікі падзей. На працягу аповеда аўтар захоўвае меру кампазіцыйнай паслядоўнасці, паступова падводзячы да сутнасці даўняга канфлікту; заглыбляючыся ва ўспаміны маленства, па драбніцы ўзнаўляе колішні дзіцячы свет, прыгадвае амаль забытыя думкі, эмоцыі, уражанні…» [6, с. 98].

Шматпланавасць сюжэтна-кампазіцыйнай будовы (акрамя асноўных, маюцца яшчэ і пабочныя сюжэтныя лініі, лірычныя адступленні, устаўныя міні-навелы), узаемапранікненне і ўзаемаперапляценне розных часавых пластоў, адсутнасць рэзкіх пераходаў паміж імі стварае адчуванне нейкай няўлоўнай і разам з тым відавочнай містыфікацыі, у якую аўтар уцягвае чытача. Падкрэслена рэалістычныя і нібыта прыдуманыя аўтарам персанажы падаюцца аднолькава сапраўднымі, жывымі. Настолькі, што пачынаеш наўпрост атаясамліваць аўтара і юнага Сяргея Васілевіча, дарослага апавядальніка.

Для аўтара аповесці «Адзінокі васьмікласнік хоча пазнаёміцца» сталенне — гэта працэс, «межы» якога супадаюць з чалавечым жыццём. Назіраючы за сабою, пільна ў сябе ўглядаючыся, апавядальнік фармулюе сваё бачанне агульнага закона сталення: «Мы расстаёмся з дзяцінствам не тады, калі становімся паўналеткамі, а тады, калі перастаём разумець сэнс учынкаў, якія рабілі ў дзяцінстве. У трыццаць гадоў цягаць дзяўчынак за косы не тое што брыдка (у трыццаць мы часта робім рэчы куды больш брыдкія), проста перастаеш бачыць у гэтым дзеянні ўсялякі сэнс» [5, с. 140].

Па версіі А. Бадака, працэс сталення доўжыцца праз дзяцінства, юнацтва, маладосць, уласна сталасць; ён проста не можа закончыцца, як не заканчваецца асоба таго ці іншага чалавека нават пасля яго сыходу ў нябыт, працягваючыся ў памяці пра яго… *Адкрытыя фіналы* (менавіта так, у множным ліку) гэтага, а таксама іншых твораў А. Бадака могуць быць «дапісаныя» кожным чытачом па-свойму; яны бачацца запрашэннем да напісання гісторыі ўласнага сталення. Здаецца, што сам А. Бадак менавіта гэтым і займаецца. Па ўласным прызнанні, ён піша марудна: на невялікую аповесць аддаў каля пяці год. Вядома, можна толькі меркаваць, што ёсць прычынай гэтай няспешнасці — пакуты ці асалода ад словатворчасці. Магчыма, гэтыя складнікі роўнавялікія і аднолькава неабходныя для з'яўлення твораў, што будуць важныя чытачу рознаўзроставаму і розначасаваму.

«Пра што пісаць? // Высока нашы зоры, // Што ім да нашай цьмянай мітусні…», — скрушна разважаў лірычны герой аднаго з вершаў Л. Рублеўскай. Каб А. Бадаку не траціць час на падобныя роздумы, можна ўжо сёння агучыць кароткі спіс чытацкіх чаканняў: новых паэм — тузін, аповесцей (памеру еўрапейскага рамана) — паўтузіна (не менш). І яшчэ што-небудзь — на яго густ, які дагэтуль не падманваў чаканняў аматараў паэзіі, прозы, крытыкі… і нават інструкцый.

## Спіс літаратуры:

1. Шаўлякова-Барзенка, І. Л. «Утылітарная аксіялогія»: беларуская літаратура канца ХХ — пачатку ХХІ стагоддзяў у рэтраперспектыве тыпаў літаратурнай творчасці / І. Л. Шаўлякова-Барзенка // Науковий вісник Волинського національного університету імені Лесі Українки. Філологічні наукі. Літературознавство. — Луцьк, 2010. — № 11. — С. 280—284.

2. Пяць «Пра…» Алеся Бадака [Электронны рэсурс]. — Рэжым доступу: http://news.21.by/other-news/2013/04/10/747270.html. — Дата доступу: 28.01.2016.

3. Рагойша, В. Тэорыя літаратуры ў тэрмінах : Дапам. / В. Рагойша. — Мінск : Беларуская энцыклапедыя, 2001. — 384 с.

4. Адзінокі васьмікласнік хоча пазнаёміцца : аповесці / укладальнік М. Н. Мінзер. — Мінск : Литература и Искусство, 2008. — 176 с.

5. Бадак, А. Адзінокі васьмікласнік хоча пазнаёміцца / А. Бадак // Дзікі голуб : зб. сучас. беларус. прозы і крытыкі / уклад. Мікола Мінзер. — Мінск : Літаратура і Мастацтва, 2011. — 232 с.

6. Алейнік, Л. «Рамантыкі» і «рэалісты» / Л. Алейнік // Вандроўкі вакол самотнага сонца: беларуская літаратура пачатку XXI стагоддзя ў літаратуразнаўчых аглядах і эскізах : зб. артыкулаў / уклад. І. Л. Шаўлякова-Барзенка. — Мінск : Нац. ін-т адукацыі, 2011. — С. 76—100.

Артыкул паступіў у рэдакцыю 1 лютага 2016 года.

## Рэзюмэ

Ірына ШАЎЛЯКОВА-БАРЗЕНКА

### Паэзія рэча(ў)існасці (Творчая індывідуальнасць Алеся Бадака)

Артыкул прысвечаны аналізу творчай індывідуальнасці Алеся Бадака ў кантэксце феномена сярэдзіннага пакалення беларускіх пісьменнікаў, а таксама ў суадносінах з ключавымі тэндэнцыямі развіцця найноўшай беларускай літаратуры. Даследчык акцэнтуе ўвагу на фарміраванні ў сучаснай беларускай літаратурна-мастацкай прасторы паэтыкі сімфанічнага тыпу. Эвалюцыя паэтычнага светаўспрымання Алеся Бадака разглядаецца як уключэнне паэтыкі рэальнасці ў мастацкую канцэпцыю «двухсусветавасці». Таксама на аснове аналізу аповесці «Адзінокі васьмікласнік хоча пазнаёміцца» акрэслены асноўныя адзнакі прозы пісьменніка.

**Ключавыя словы**: сярэдзіннае літаратурнае пакаленне, Бадак, паэтыка сімфанічнага тыпу, паэтыка рэальнасці, лірыка, проза.

## Summary

Iryna Shauliakova-Barzenka

### The poetry of reality: creative identity of Ales Badak

The article is devoted to the analysis of creative identity of Ales Badak. His literary creativity is considered both in the context of a phenomenon of median literary generation and in connection with the main tendencies of development of the newest Belarusian literature. The author of this article focuses on the formation of poetics of symphonic type in the modern Belarusian literary. Evolution of Badak’s poetic worldview is regarded as inclusion the poetry of reality into the art conception of «twoworlds». The main features of writer’s prose revealed on the basis of the story «The Lonely Eighth-grader Wants to Get Acquainted».

**Key words:** median literary generation, Badak, poetics of symphonic type, poetry of reality, lyrics, prose.

**Уладзімір ДАНІЛЕНКА (Украіна)**

# ІЗГОЙ ВА ЎКРАІНСКАЙ ПРОЗЕ 90-х гг. ХХ СТАГОДДЗЯ

Цяжка не пагадзіцца з меркаваннем Віталя Чарнецкага, што познесавецкія і раннепостсавецкія часы былі асабліва постмадэрнісцкімі дзякуючы краху метанаратыву, якім быў савецкі міф пра камуністычную будучыню [4, с. 16]. З'яўленне ва ўкраінскай літаратуры гэтага перыяду маргінальнага героя стала выклікам плакатным героям Алеся Ганчара, Міхайлы Стэльмаха, Пятро Панча, Натана Рыбака, Юрыя Смоліча і іншых класікаў сацрэалізму. Маргінальны герой украінскай літаратуры 90-х гг. ХХ стагоддзя не ідэнтыфікаваў сябе з савецкім соцыумам і аказваў супраціўленне звыкламу канону сацрэалізму. Гэты вобраз быў выклікам афіцыйнай ідэалогіі, што стварыла вобраз законапаслухмянага савецкага героя са сваімі нацыянальнымі асаблівасцямі, які змагаецца за савецкія ідэалы на вайне або на працы. Ізгой ва ўкраінскай літаратуры з'явіўся ў часы крызісу савецкай ідэалогіі і пасля развалу Савецкага Саюза. Асаблівую ўвагу літаратуры ў той час прыцягвалі бадзягі і пацыенты псіхбальніцы. Каталізатарам нараджэння новага героя ўкраінскай прозы стала з'яўленне ў савецкім кінапракаце ў часы гарбачоўскай адлігі фільма Мілаша Формана «Палёт над гняздом зязюлі», знятага па аднайменным рамане Кена Кізі, пасля якога ў сродках масавай інфармацыі з'явіліся публікацыі пра псіхбальніцы і эксперыменты над іншадумцамі. І гэта падштурхнула многіх маладых пісьменнікаў, якія самі былі ізгоямі савецкага грамадства і вялі бадзяжны ці напаўбадзяжны лад жыцця, да мастацкага пераасэнсавання вопыту выжывання і супрацьстаяння сістэме.

У краінах другога свету постмадэрнізм развіваўся паралельна з постканіяльным поглядам на літаратуру і грамадства. Таму зварот увагі літаратараў да маргіналаў быў постканіяльным крокам маладых пісьменнікаў, што бачылі ў ізгоях людзей, якіх не ўспрыняла сістэма з-за іх нежадання адаптавацца да савецкіх прынцыпаў. У разуменні маладых аўтараў такое непрыняцце маргіналамі грамадскіх ідэалаў было бытавым бунтам людзей, якія не прызнавалі савецкіх каштоўнасцей і не ўспрымалі афіцыйнага фальшу.

У малой прозе гэтага перыяду яркімі выразнікамі псіхалогіі ізгоя былі Васіль Парцяк, Рыгор Цымбалюк, Васіль Трубай, у вялікай і сярэдняй прозе — Міхалка Скаліцкі, Алесь Ульяненка і Яўген Пашкоўскі. Пісьменнікі, якія распавядалі пра валацуг і пацыентаў псіхбальніцы, на нейкім этапе ўласнага жыцця самі сутыкаліся з бамжоўствам і псіхіятрычнымі клінікамі.

Аповесць М. Скаліцкага «Амінь» (1993) апісвае жыццё двух бадзяг — Міхайлы Пальціва і Анатоля Здаравегі, якія пазнаёміліся ў аддзяленні міліцыі падчас андропаўскага рэйда па адэскіх кінатэатрах. У 1983 годзе ў Савецкім Саюзе праходзілі аблавы. Сярод белага дня міліцыя і людзі ў цывільным спынялі людзей на вуліцы, перапынялі дзённыя сеансы ў кінатэатрах, каб высветліць, ці не прагульваюць грамадзяне свой працоўны час. Першы ж сказ эпічнага зачына аповесці «Справа была пры Андропаве» [2, с. 5] настройвае чытача на ўспрыняцце канкрэтнай эпохі.

У кожнага з бадзяг аповесці «Амінь» свая гісторыя. Здаравега адбыў пяць гадоў пакарання за ўдзел у дэманстрацыі і захаванне агнястрэльнай зброі, а Паль-

ціў усім кажа, што ён — сын рэпрэсаванага маршала Тухачэўскага. У абодвух жыццё не склалася з-за жанчын. Анатоль Здаравега ажаніўся ў ссылцы з жанчынай, пра якую казаў, што яна «прыгожая была, як у кіно». У маладой сям'і ўжо была кватэра і дзіця, але жанчына пачала здраджваць мужу. Вось як патлумачыў сітуацыю сам Здаравега: «Цябе бачылі, як ты па эстакадзе ішла з Пятром», — кажу. — А яна мне: «Ішла». — «Ты там бываеш, усё ж такі?», — кажу ёй. — «Табе ўжо данеслі», — кажа. — «І што вы там з Пятром рабілі?». — «Мы? Нічога, толькі пацалаваліся». Не паспела яна вымавіць, а я ёй у вуха, толькі праз канапу пераляцела. Я і сам спужаўся. А яна апрытомнела і зусім страціла сумленне. Я ў яе пытаюся: «Табе мяне не хапае?» — «Хапае», — кажа. — «Дык чаго ж тады?» А яе знаёмыя мне ў вочы ўжо казалі, што мелі з ёй справу. «А мне падабаецца, калі мяне любяць», — кажа. — Што рабіць? Пайшоў з дому» [2, с. 8].

Падобная сямейная драма была і ў Андрэя Пальціва: «У мяне таксама баба была. Палюбіла хадзіць налева, — расказваў Пальціў. Спачатку нічога было. А потым стала большага дамагацца, каб як у людзей, казала. Гаворыць, каб такі без'языкі быў сын Тухачэўскага — не можа быць. Смяялася з мяне. Я таксама пайшоў. Усё пакінуў. Дзеці ёсць. Верыш?» [2, с. 8].

Ёсць у аповесці развагі герояў аб простым зямным шчасці, якое заключаецца ў традыцыйных сямейных каштоўнасцях. У разуменні прараба Сашы, шчасце — гэта здаровая прыстойная жанчына, якая клапоціцца аб сваім мужы, кахае яго і не здраджвае. Саша распавядаў пра гэта «дастаючы бутэрброды ў тры слаі: масла, сыру, сухой каўбасы; свежыя памідоры, курыную ножку і паўлітровы слоік працёртых з цукрам клубніц. — Мне, як бачыце, не выпадае маркоціцца з-за страчанай волі. А ноччу ўсё ведае, усё ўмее… Я і сам не ведаю, што думаць, — дзяўчынай узяў, — ён меў найшчаслівейшы на свеце выгляд» [2, с. 18]. Такая ўвага да ўзятых на працу страў сведчыць аб тым, што ва ўяўленні простага чалавека пра шчасце харчаванне стаіць не на апошнім месцы. У разуменні герояў аповесці легкадумная жанчына з дрэнным выхаваннем разбурае жыццё мужчыны.

Ёсць у творы і больш глыбокія думкі пра шчасце. Сустрэча Пальціва са Святланай падарыла яму лепшыя імгненні жыцця. Святлана ў аповесці выконвае ролю здані, сну, яна з'яўляецца ў моманты, калі Пальціву бывае асабліва самотна. Так у камеры, у якую пасадзілі Пальціва, да яго нібы праз сцены, прыйшла Святлана. Гэты сюррэалістычны эпізод, як і многія іншыя, ператварае аповесць у баладу пра двух бяздомных мужчын. Згадка пры праверцы турэмнай камеры Святланінага прозвішча Галатэя раскрывае задуму аўтара паказаць маладую жанчыну як тварэнне эратычнай фантазіі Андрэя Пальціва. Сюррэалізм — адзін з элементаў эстэтыкі аповесці М. Скаліцкага «Амінь». У сцэне, калі ўнук «чорнай бабкі» — гаспадыні дома каля мора, дзе некаторы час кватаравалі Святлана і Пальціў, захацеў «паказаць Адэсу з вышыні птушынага палёту», Святлана несла Пальціва на руках. У той жа сюррэалістычнай сцэне ў час падарожжа на адэскі пагорак Пальціў «пасадзіў яе сабе на правае плячо і паплыў над мірыядамі адэскіх зор, а хлопчык, іх спадарожнік, імчаў побач з самаробным лукам» [2, с. 24]. Ад шчасця, якім перапаўняла яго Святлана, Пальціў пастаянна паміраў у яе абдоймах. Паміраючы, ён бачыў усё сваё мінулае жыццё. А потым аказвалася, што гэта быў сон. Такім чынам, праз аповесць праходзіць думка пра тое, што шчасце, як і жыццё, — толькі кароткі сон.

Рэальнае жыццё бадзяг больш празаічнае, чым эратычныя фантазіі Пальціва, яно зводзілася да элементарных праблем, ад якіх залежала штодзённае выжыванне: дзе знайсці ежу і пераначаваць; дзе перазімаваць, каб не захварэць і не замёрзнуць. За час бадзянняў па свеце Пальціў згубіў сацыяльныя інстынкты, і яго паводзіны нагадваюць паводзіны Мерсо з аповесці Альбера Камю «Чужаніца». Ён не святкуе вяселле свайго сябра Здаравегі, а ідзе ў кінатэатр глядзець фільм, а калі аўтамабіль збівае найбліжэйшага яму чалавека — Святлану, моўчкі заходзіць у тралейбус і з'язджае, пакінуўшы на тратуары цела каханай.

У аповесці ёсць дата нараджэння Андрэя Пальціва — 1931 год. Паколькі падзеі адбываюцца ў 1983 г., то нашаму герою пяцьдзясят два гады. Калі зніклі ў віры рэпрэсій яго бацькі, хлопчыка забралі ў інтэрнат. Падчас вайны ён жабраваў, а потым апынуўся на Валыні ў сям'і святара, дзе атрымаў адукацыю. Дзякуючы ўдалай жаніцьбе хутка робіць кар'еру. Адну за адной пераадольвае кар'ерныя прыступкі: брыгадзіра, майстра, прараба, галоўнага інжынера, кіраўніка трэста. Аднак пакуль прафесійна ўдасканальваецца, жонка Груня пачала яму здраджваць. Пасля разводу кар'ера героя пакацілася ўніз. Пры садзеянні жонкі, дасведчанай у службовых таямніцах свайго мужа, Андрэя пасадзілі на пяць гадоў, а па вяртанні на волю ён спіўся і стаў бадзягам.

Бытавое цячэнне ў аповесці «Амінь» уяўляецца як серыя ўзлётаў і падзенняў, а ўзаемаадносіны паміж мужчынамі і жанчынамі — як чарга бясконцых прыцягненняў і адштурхоўванняў. Пальціву адзіная жанчына сустрэлася на схіле яго жыцця. І калі ён зацікавіўся, ці толькі секс трымае каля яго Святлану, яна адказала: «Ну што ты! Мне здаецца, я з нараджэння з табой! Я пра іншае і думаць не хачу… Калі б ты і нямоглы быў стары, я б цябе не пакінула» [2, с. 32]. У разуменні Святланы блізкія адносіны паміж мужчынам і жанчынай засноўваюцца найперш на духоўнай сувязі, пацвярджаючы меркаванне аб нябесным паходжанні кахання. Таму калі пасля смерці душа Пальціва ўзнеслася да нябёсаў, там яго ўжо чакала Святлана.

У момант аддзялення душы бадзягі ад цела ў ягонай свядомасці прайшло ўсё яго сапраўднае і колішняе жыццё, а не прыдуманая легенда пра маршала Тухачэўскага, якую ён распавядаў усім. У час палёту на неба адкрываецца яшчэ некалькі фрагментаў мінулага, нібы Пальціў, гартаючы кнігу жыцця, счытваў з яе сваё мінулае і мінулае іншых грэшнікаў.

Аповесць «Амінь» — гэта прыпавесць пра жыццё ізгояў савецкага часу, выкінутых сістэмай са звычайнай плыні існавання. Праз увесь твор праходзіць тэма бяспраўя. Сярод бытавых зняваг таго часу асабліва пачварнай была сістэма пашпартнага рэжыму, што прывязвала чалавека да яго месца прапіскі. У эпізодзе, калі Здаравега і Пальціў разгружалі вагоны з віном, ім не заплацілі за працу, таму што ў іх не было прапіскі.

Хоць аповесць напісана па-за законамі рэалізму, у ёй ёсць глыбока сімвалічныя вобразы. Як зямля круціцца вакол Сонца, так Святлана круціцца вакол Пальціва, выконваючы ў яго жыцці кармічную ролю. У якія б краі ні закідала доля валацугу, ён неадменна трапляў да гэтай маладой жанчыны, якая, як яна прызнавалася, усё жыццё чакала Пальціва.

Міхалка Скаліцкі так пластычна перадае савецкі быт, што аповесць «Амінь» можна лічыць адной з найбольш фізіялагічных твораў таго часу. Натуральнасць твора дасягаецца дзякуючы мове герояў. Мова яго каларытная не толькі ў дыялогах, але і ў аповедзе аўтара. І гэтая моўная арганіка ў спалучэнні з нетаропкай плынню і ведамі пра тое, пра што піша аўтар, інакш кажучы, — веданнем жыцця, робяць М. Скаліцкага майстрам сучаснай прозы.

У творы няма згадак пра залежны статус Украіны, ды і героі — не дысідэнты. Малюючы жыццё бадзяг, аўтар паказвае, што Савецкі Саюз, нягледзячы на дэкларацыю аб краіне дабрабыту, у сапраўднасці быў паліцэйскай дзяржавай, у якой сачылі за кожным чалавекам, за яго рухамі, за яго ладам жыцця і светапоглядам. Апагеем таталітарызму былі часы кэдэбіста Юрыя Андропава, адлюстраваныя ў аповесці. Персанажы М. Скаліцкага — ізгоі грамадства, але ў іх больш чалавечнасці, чым ва ўсіх героях сацрэалізму разам узятых. Скаліцкі чуллівы да фальшу. Кожная фраза персанажаў, кожны сказ натуральныя, і гэтая натуральнасць паўстае як выклік плакатнасці сацрэалізму. Збягаючы ад сацрэалістычнага лубка, Скаліцкі дэманструе іншы свет, вольны ад савецкіх клішэ.

У рамане Алеся Ульяненкі «Сталінка» (1994) падзеі разгортваюцца ў вар'яцкім доме. Сярод усіх вар'ятаў юнак, названы ў рамане Лордам, вылучаўся тым,

што толькі яму ў палаце «хацелася жанчыны і волі» [3, с. 7]. Калі ён вырашыў збегчы, пасвяціў у свае планы Лапату, «што з-за рэўнасці застрэліў жонку» [3, с. 8]. Двое пацыентаў з бальніцы для душэўнахворых уцякаюць праз каналізацыйны тунэль і пасяляюцца ў запушчаным доме, дзе хворы Лапата неўзабаве памірае. Самотны Лорд мяняе сваю мянушку на Іону. Цяпер ён — беглы Іона, які намагаецца адаптавацца да свету, гэткаму ж хвораму, як кліенты вар'яцкага дома.

Паралельна з лініяй Іоны ў рамане разгортваецца лінія насельнікаў Сталінкі, аднаго з раёнаў Кіева. Праз сям'ю Піскаровых аўтар паказвае душу люмпенізаванага савецкага чалавека. Дзед Піскароў (а раней проста — Піскур, хаця больш правільна было б — Піскар) у маладыя гады служыў у НКУС і калі напіваўся, выхваляючыся, расказваў, як расстрэльваў вязняў. Праз доўгі дзедаў язык сям'я Піскаровых вымушана была перабрацца ў напаўпадвальнае памяшканне на Сталінцы.

Вобраз Горыка Піскарова, унука старога нкусаўца, пазначаны крутым характарам. Ён меў выдатны талент да вулічных боек, пра які маёр Сыраватка казаў: «Талант! Талант! А не таланцішка!» [3, с. 28]. Праз злачынствы дзеда-нкусаўца ўся сям'я Піскаровых мела розныя псіхічныя і маральныя заганы. Міхал, бацька Горыка, быў лавеласам і алкаголікам, і калі напіваўся, ганяўся з сякерай за жонкай Марыяй, якая любіла пагуляць і аднойчы заразілася сіфілісам. Яе сын па мянушцы Сё-Сё быў алігафрэнам, за злачынствы дзеда расплачваліся дзеці і ўнукі.

Цень пакойнага Сталіна навіс над сям'ёй Піскаровых, над раёнам Сталінка і над усёй краінай. У адным раёне Кіева сканцэнтравалася ўся каланіяльная рэчаіснасць. На партрэт Сталіна, як на ікону, моляцца дзед Піскароў і нават апошні сталінскі урка Нікандрыч, што трымае ў руках усю Сталінку. Гэта ён «браў вуркаганскія паборы» і разбэшчваў гомасексуалізмам хлопчыкаў. Сярод насельнікаў раёна была распаўсюджана плётка, «што стары блацяра, абпіўшыся кукнару, у чадзе таўчэ на лежаку з куфаек. Пасля таго, выціраючы чырвоны, бураковы твар, сядзе, выдыхаючы з сябе, хрыпла выдаўліваючы дыханне, складзе на каленях рукі, — кароткія, ружовыя каўбаскамі пальцы, — і, доўга і працягла гледзячы у рудым паўзмроку на зашмальцаваны партрэт Сталіна, буркне нешта кшталту: «Та-а-а-к, дрэнныя часы прыйшлі. А ты, малы, маўчы… Бывае…», — кароткім пальцам паківае на чарговага хлопчыка, што, падкурчыўшы ногі, без штаноў, туліцца на лежаку» [3, с. 53].

Ёсць у рамане і не менш каларытныя прадстаўнікі люмпена: Містар Пэпс Кабылінае Вока, ён жа Чэрап, ён жа Майдадыр, ён жа Катрыншчык, Васька Гліцэрын, Боцман, Інка з Чабаноў, Воўка Перадзелмашка, сляпы Саныч, Нінка Крываручка, Насач, Пава, Нілка, агнёва-рудая Надзька, Светка, сутэнёр Розік, Месаіб, баба Марфа, стары Нікадзім, Галька, каўказскія бандыты Нурым, Халям, Глосік і Косік. Усе яны жывуць па сваіх законах, якія не маюць нічога агульнага з традыцыйнай агульначалавечай мараллю.

Алесь Ульяненка — паэт люмпена. Ён сягае ў напаўпадвальныя памяшканні і абадраныя пад'езды, назірае, як люмпен п'е, есць, лаецца, б'ецца і савакупляецца на запушчаных дахах і ў затхлых каморах. Ён сягае ў душу люмпена, каб прасачыць за воплескамі яе пажады, зайздрасці, рэўнасці і агрэсіі. Ён назірае, як захлынуўшыся ад жоўці ды крыві, люмпен выходзіць з бруднага гарадскога дна і прыбіваецца да царквы, каб там, за яе халоднымі сценамі, пад патрэскванне парафінавых свечак укленчыць прад іконамі з надзеяй адмаліць цяжкія грахі.

Ізгоі рамана Яўгена Пашкоўскага «Бездань» (1992) — выгнаныя са сваіх зямель пошукамі лепшай долі, шукаюць сябе ў гэтым вялікім свеце. Сярод персанажаў Пашкоўскага не знайсці тых, у каго ўдала склалася кар'ера. Гэта людзі, не абцяжараныя грандыёзнымі планамі ці ўпэўненасцю ў сваёй вялікай місіі. Іх жыццё хаатычнае і дрэнна арганізаванае. Яны кіруюцца інстынктам, а не розумам. Сярод персанажаў рамана «Бездань» — рабочыя Андрэй і Сяргей, які

сам сябе кліча Серый, «жданоўскі аліментшчык Канапляны», гаспадар напаўпадвальнага памяшкання Папуля. Як і ў жыцці, у рамане Пашкоўскага трагічнае і камічнае ідуць поруч. Вось і заканчвае жыццё самагубствам у закрытай палаце псіхбальніцы саракагадовы Мікалай, вось Сяргей і Канапляны дапамагаюць грузчыкам разгружаць «імпартныя кофты», каб выманіць у спекулянтаў грошы і збегчы, потым прайграўшы іх напарстачнікам. Вось дзівак Сава, што «поіць віном звязанага ката» [1, с. 224]. Раман «Бездань» — гэта энцыклапедыя жыцця ўкраінскага савецкага люмпена. Героі Пашкоўскага нагадваюць герояў Ульяненкі з адным адрозненнем, што яны не такія ўзлаваныя на жыццё.

Персанажы рамана «Бездань» быццам выплываюць з туману і зноў знікаюць у тумане. У рамане «Бездань», як і ва ўсіх раманах Яўгена Пашкоўскага, няма выразнай сюжэтнай лініі. Кожны яго твор нагадвае волата са зламаным хрыбтом. Сутнасць прозы Пашкоўскага — не ў падзеях, не ў гісторыі, а ў тысячах дэталей, што падобныя да бессістэмна зваленых у кучу слаёў, з якіх можна было б стварыць сотні раманаў. Памяць Яўгена Пашкоўскага здольная захоўваць тысячы драбнейшых дэталей, якія ён высыпае з яе сховішчаў, і гэтая звалка хавае сюжэт, вобразы, характары. Імкнучыся пазнаёміцца з творчасцю Пашкоўскага, чытач адразу ж пачынае блукаць у нетрах слоў і ўжо на другой старонцы забывае, што аўтар казаў на першай. Раздзел яго рамана складаецца з аднаго-двух сказаў. Там, дзе рытм спыняецца і вымагае кропкі, аўтар «Бездані» ставіць кропку з коскай і працягвае сыпаць бясконцыя нізкі дэталей, фраз, слоў, урыўкаў дыялогаў. Чытач ужо не можа ўспрыняць такой колькасці дэталей, а пісьменнік усё назапашвае і назапашвае. Аўтарскі стыль Пашкоўскага — гэта бясконцы маналог, у якім дамінуе голас аўтара. Гіганцкія перыяды пісьменніка ўражваюць. На 130 старонках рамана «Абрыў» усяго 88 сказаў (для параўнання: 88 сказаў у рамане Рэмарка «На Заходнім фронце без перамен», крыху большага за раман Пашкоўскага, займаюць усяго 4 старонкі). Але пры ўсіх цяжкасцях з успрыняццем яго раманаў Яўген Пашкоўскі застаецца адным з самых сур'ёзных сучасных украінскіх празаікаў, глядзіць на свет як на палігон, дзе бясконца паўтараюцца сюжэты Свяшчэннага Пісання, што пацвярджаюць слушнасць старажытных апосталаў.

Стылізацыя — новая хвароба сучаснай украінскай літаратуры, якая з'явілася разам з постмадэрнізмам. Стылізацыя стылістычнай плыні з'ядае сюжэт, вобразы і робіць нечытэльнымі не толькі раман Яўгена Пашкоўскага, але і творы іншых украінскіх аўтараў. Стылізацыя пад нацыянальны эпас зрабіла цяжкім і нязграбным раман Вячаслава Мядзведзя «Крывя на саломе», уганараваны Нацыянальнай прэміяй Украіны імя Тараса Шаўчэнкі.

Ізгой як крайні сацыяльны тып дае магчымасць іншым адчуць сябе ў гушчары грамадства ці бліжэй да яго мяжы. Сераднякі заставаліся незаўважнымі ўдзельнікамі савецкай масоўкі, такімі, як усе. Але ў творах М. Скаліцкага, А. Ульяненкі, Я. Пашкоўскага ізгоі сябе не паводзяць як блазны, якія праз сваё блазнерства кажуць праўду, і не паводзяць сябе як прарокі, якімі ў свой час былі ўкраінскія дысідэнты. Гэта людзі, якія былі апушчаны сістэмай на сацыяльнае дно ці свядома самі туды спусціліся.

Фарміраванне псіхалогіі ізгоя звязана з праблемамі сямейнага выхавання. Недалюбленыя дзеці вырастаюць і робяцца бадзягамі, недарэкамі, прадстаўнікамі крымінальнага свету. Гэткі Пальціў з аповесці М. Скаліцкага, які выхоўваўся ў інтэрнаце. Яго стыль жыцця грамадства лічыла ненармальным. У рамане А. Ульяненкі «Сталінка» амаральнасць і дэградацыя сям'і Піскаровых тлумачыцца злачынствамі старога нкусаўца Піскарова, што пахваляючыся распавядаў пра сваё мінулае, калі напіваўся: «…ведаеш, колькі перавадзіў і перастраляў… так-так… вядзеш калідорам, як праводзіш кудысь, так, значыць, а ён табе штосьці расказвае, хіхікае і не верыць, што ззаду смерць чэпае маімі ботамі… так-так… боты ў мяне выдатныя былі… а ён гундосіць, гундосіць там лухту ўсялякую… нясе, пэўна, падлу, душонка жывёльная выкручваецца… так-так, я ў галіфэ, цьфу,

не той зараз час, вось тады было. А ты, бац з лівярвера, шматкі чэрапа з мазгамі па сценах, а ён падлай на цэмент, якраз у раўчук, туды, дзе кроў сцякае… і не чалавек ужо… дык і не быў… труп…» [3, с. 21]. Злачынствы старога Піскарова, якога цяжка назваць ізгоем, бо ён быў чалавекам сістэмы, праклёнам упалі на яго сям'ю, якую жыццё спусціла на самае дно грамадства. На дне апынуліся яго сын, нявестка, унукі, адзін з якіх нарадзіўся алігафрэнам, а другі стаў бандытам. Ізгоямі ў рамане «Сталінка» з'яўляюцца Іона, Лапата, якія збягаюць з вар'ятні, вязні, якія трапілі на цагельню да мафіі. Ізгоі рамана Алеся Пашкоўскага «Бездань» — Андрэй, Сава, Канапляны, Папуля, бязногі Мікалай у вар'ятні заканчваюць жыццё самагубствам.

Галоўны персанаж рамана «Бездань» Андрэй паходзіць з простай сялянскай сям'і, у якой бацькі не арыентавалі дзяцей на поспех, добрую адукацыю, не фарміравалі псіхалогію паспяховага чалавека. Калі хлопец вярнуўся з вандроўкі дадому маці яму сказала: «… ідзі хоць на паліўны склад грузчыкам, хоць у калгасе працуй, толькі абсядзься, хопіць шалець» [1, с. 143]. Нізкі сацыяльны і матэрыяльны статус сям'і Андрэя арыентаваў яго на жыццё аўтсайдара. Хаця ва Украіне, незалежна ад сацыяльнага паходжання, заўсёды шанаваліся адукацыя і кар'ера, і нават у простых сем'ях заахвочвалі сваіх дзяцей да вучобы. Бо інтэлектуальны ўзровень украінскай нацыі ў любую эпоху быў даволі высокім. Але, як бачна з рамана «Бездань», сям'я Андрэя не адносіцца да сем'яў, якія рыхтавалі сваіх дзяцей да жорсткай канкурэнцыі, у якой павінны перамагчы мацнейшы. Лёс ізгояў у творах Яўгена Пашкоўскага разглядаецца як праблема нацыянальнага праклёну, як страта ўкраінскім каланіяльным грамадствам веры, маралі, гонару і самапавагі.

Ізгой літаратуры 90-х гадоў вярнуў нацыянальную прозу да тэмы прапашчай сілы, вядомай па ўкраінскай класічнай спадчыне. Таму Міхалка Скаліцкі, Алесь Ульяненка, Яўген Пашкоўскі сталі прыкметнымі прадаўжальнікамі традыцый Панаса Мірнага, Архіпа Цясленкі, Васіля Стэфаніка, звяртаючы ўвагу чытача на праблему няшчасных, выкінутых на перыферыю грамадства. І ў гэтых няшчасных было больш чалавечнасці і натуральнасці, чым у плакатных героях сацрэалізму.

## Спіс літаратуры:

1. Пашковський, Є. Безодня / Є. Пашковський. — Львів: Піраміда, 2005. — 268 с.

2. Скаліцкі, М. Музічка / М. Скаліцкі. — Миколаїв: Видавництво Ірини Гудим, 2007. — 152 с.

3. Ульяненко, О. Сталінка. Дофін сатани / О. Ульяненко. — Харків: Фоліо, 2003. — 382 с.

4. Чернецький, В. Картографуючи посткомуністичні культури / В. Чернецький. — Київ: Критика, 2013. — 432 с.

Артыкул паступіў у рэдакцыю 5 кастрычніка 2015 года.

## Рэзюмэ

**Уладзімір ДАНІЛЕНКА**

### Ізгой ва ўкраінскай прозе 90-х гг. ХХ стагоддзя

У артыкуле аналізуецца вобраз ізгоя ва ўкраінскай прозе 90-х гг. ХХ стагоддзя. У аповесці М. Скаліцкага «Амінь», раманах Я. Пашкоўскага «Бездань», А. Ульяненкі «Сталінка» раскрываецца тэма маргінальнага героя каланіяльнага

грамадства. З пазіцый посткаланіяльнай крытыкі раскрываецца фальшывасць плакатнага героя сацрэалізму ў супастаўленні з маргінальным героем літаратуры постсавецкага перыяду, які захаваў натуральнасць, чалавечнасць і мастацкую пластыку. Новы тып героя постсавецкай літаратуры рабіў выклік украінскай літаратуры, арыентаванай на канон сацрэалізму.

**Ключавыя словы:** ізгой, недарэка, рэалізм, постмадэрнізм, вальнадумства, каланіялізм, посткаланіяльная крытыка, прапашчая сіла, савецкая ідэалогія, савецкі чалавек.

## Summary

**Volodymyr DANYLENKO**

### The derelict in Ukrainian prose 90s of the twentieth century

This article analyzes the image of a derelict Ukrainian prose 90s of the twentieth century. The story Mykhalkiv Skalitski Amen, the novels of Eugene Pashkovsky Abyss, Olesya Ulyanenko Stalinka theme menus marginal colonial hero supilstva. From the standpoint of postcolonial criticism menus falsity poster hero of socialist realism in comparison with marginal hero of post-Soviet literature, preserved natural, humanity and art plastic. A new type of hero of post-Soviet literature did call Ukrainian literature oriented towards social realism canon.

**Key words:** outcast, loser, realism, postmodernism, dissent, colonialism, postcolonial criticism, fallen power, Soviet ideology, the Soviet people.

***Пераклад з украінскай Юліі АЛЕЙЧАНКІ.***

**Уладзімір ГНІЛАМЁДАЎ**

# ПІСЬМЕННІК, ЯКІ ЛЮБІЎ СВАІХ ГЕРОЯЎ

Сярод беларускіх пісьменнікаў шмат выдатных раманістаў. Але, бясспрэчна, адно з першых месц належыць Івану Мележу (1921—1976), выдатнаму майстру слова, які ўславіў беларускую літаратуру буйнейшым сваім эпічным творам — цыклам раманаў.

Мележ — цэлы этап беларускай раманістыкі. Пры гэтым — новы этап, які разам з тым мае немалыя традыцыі ў нашым рэалізме, у даследаванні складаных чалавечых характараў, псіхалогіі — асабліва псіхалогіі сялянства.

Ён ганарыўся сваім вялікім настаўнікам — Кузьмой Чорным, які паспеў прачытаць першае ягонае апавяданне «У завіруху» (прысвечанае, дарэчы, Кузьме Чорнаму), прымусіў пачаткоўца паверыць у свае сілы. Мне згадваюцца яго ўспаміны пра Чорнага — удзячныя і пяшчотныя. Не без уплыву чорнаўскай школы ён стаў развіваць сацыяльна-псіхалагічны падыход да жыццёвых з'яў, знаходзячы для яго сваё стылёвае ўвасабленне — эпічна грунтоўнае і шматграннае.

Чорны — Мележ — адна з самых рэальных і плённых традыцый у нашай прозе. «Чалавек — гэта цэлы свет», — сцвярджае яна. Каб глыбей зразумець сучасніка, Мележ звяртаўся да мінулых дзесяцігоддзяў, да лёсу сялянства ў пераломны момант гісторыі. Яго зварот па часе быў першым, які нашмат апярэдзіў творы іншых савецкіх пісьменнікаў 60-х гадоў, блізкіх яму сваёй праблематыкай.

«Мы вярталіся да мінулага, — гаворыць ён пра вяртанне літаратуры да тэмы калектывізацыі, — зусім не для таго, каб паўтарыць тое, што казалі іншыя... Мы спрабавалі зрабіць новы крок уперад і ўглыб».

У Мележа ўсё сваё, свая біяграфія. «Краіна Івана Мележа, — пісаў пра яго зямляк Іван Навуменка, — надпрыпяцкае Палессе, праўдзівей, тая яго частка, якая сёння ляжыць непадалёк ад ракі ў межах Калінкавіцкага і Хойніцкага раёнаў...

У палескіх раманах Івана Мележа даволі дакладна захавана геаграфія родных мясцін пісьменніка, прычым назвы некаторых паселішчаў пададзены без змен — Глінішчы, Ламачы, Тулькавічы, Юравічы, другія крыху перайначаны — Курані, Алешнікі».

Нарадзіўся Іван Паўлавіч Мележ 8 лютага 1921 года ў беднай сялянскай сям'і ў вёсцы Глінішчы Хойніцкага раёна Гомельскай вобласці. Дзяцінства прайшло на вясковым улонні, летам дапамагаў бацькам па гаспадарцы, зімой вучыўся ў школе. Дзесяцігодку скончыў з атэстатам выдатніка. З восені 1939 года залічаны на вучобу ў Маскоўскі інстытут філасофіі і літаратуры імя М. Г. Чарнышэўскага, але ўжо з першага курса яго прызываюць у армію.

Пачаў ён свой шлях у літаратуру яшчэ да вайны, з вершаў, якія асаблівай сенсацыі не абяцалі. Потым перайшоў на прозу.

У Вялікай Айчыннай вайне ўдзельнічаў з першых дзён, удосталь пакаштаваўшы салдацкага хлеба. Летам 1942 года цяжка паранены ў баі пад Растовам, затым доўга лячыўся ў шпіталях Растова і Тбілісі; там, на бальнічным ложку, стварыў першыя свае апавяданні, якія насілі адбітак перажытага, непрыдуманага, свайго. «Я пісаў, можна сказаць, пра сябе», — прызнаецца ён потым, праз шмат гадоў. Лепшае з гэтых апавяданняў — «У завіруху», якое дало назву першай кнізе, вый-

шла ў 1946 годзе. Яго галоўны герой — салдат Засмужац — дзейнічае ў суровых абставінах вайны, якая патрабуе ад чалавека гранічнага напружання і фізічных, і маральных сіл. Высокае пачуццё патрыятызму і воінскага абавязку, адказнасць перад таварышамі, усведамленне важнасці задання надаюць яму моцы, каб выстаяць да канца.

Між іншым, як потым выявілася, у час вайны будучы пісьменнік вёў дзённік, апублікаваны ім шмат пазней — у сярэдзіне 70-х гадоў. Ён запісваў тое, што яму было даступна, што ён бачыў сам у межах дзеянняў сваёй часці, палка, які вёў жорсткія баі з праціўнікам на Збручы, пад Уманню, на Дняпры, каля Сінельнікава... Дзённік не прэтэндуе на шырыню абагульненняў, у ім зафіксаваны асабісты жыццёвы вопыт аўтара, вопыт чалавека, які па волі неабходнасці стаў воінам-франтавіком, радавым працаўніком вайны, якая сурова і бязлітасна вучыла яго і ягоных таварышаў гранічнай мужнасці і стойкасці. «Ты ж салдат!» — паўтарае ён самому сабе ў цяжкія хвіліны. У ягоным характары раскрываецца ўсё тое, што вынес ён з мірнага жыцця, узяў з духоўных багаццяў сацыялістычнага грамадства, яго ідэалаў. Нібы падводзячы вынік сваім разважанням у першыя дні вайны, ён запісвае ў дзённіку: «Адно я цвёрда ведаю — нас не перамогуць».

Калі ў часопісе «Маладосць» з’явіліся ў поўным, не скарочаным выглядзе яго ваенныя дзённікі (у першым Зборы твораў у шасці тамах былі змешчаны ўрыўкі), я надрукаваў рэцэнзію. Іван Паўлавіч жартаваў: «Вы напісалі рэцэнзію на мой самы першы твор». Свае дзённікі ён лічыў першым творам.

Ужо самыя першыя творы Мележа вызначаліся вернасцю пісьменніка жыццёвай праўдзе, глыбокім псіхалагічным абгрунтаваннем чалавечых учынкаў, вастрынёй сацыяльнага і духоўнага бачання рэчаіснасці. Гэтыя асаблівасці яго творчай індывідуальнасці знайшлі працяг і развіццё ў наступных работах, сярод якіх, у першую чаргу, неабходна адзначыць аповесць «Гарачы жнівень», напісаную ў пасляваенным 1946 годзе і прысвечаную паказу мірнага жыцця людзей. Аўтар тонка адчуў і перадаў паэзію беларускай вёскі таго часу, прыгажосць чалавека-працаўніка, яго любоў да зямлі і міру на зямлі. Усё гэта было асабліва адчувальна пасля гэтулькіх гадоў кровапралітнай вайны і пакут. Стала ясна, што ў літаратуру прыйшоў арыгінальны мастак, які глыбока разумее і любіць чалавека, здольны ўжыцца ў яго ўнутраны свет.

Паступова пашыраюцца жанравыя рамкі творчасці. Эпічная паўната і цэласнасць узнаўлення характараў і абставін — гэтыя рысы былі характэрны Мележу з самага пачатку. З часам яны ўзмацніліся. У канцы 40 — пачатку 50-х гадоў ён працуе над буйным творам — панарамным раманам «Мінскі напрамак», у якім ставіць мэту расказаць пра вызваленчую бітву за Беларусь летам 1944 года. Гаворка ідзе пра стратэгічную наступальную аперацыю, вядомую пад кодавай назвай «Баграціён», у выніку якой савецкія войскі і партызаны разбілі толькі ў Беларусі больш чым мільённую групоўку нямецка-фашысцкіх войск, вызвалілі ад іх значныя раёны Савецкага Саюза і Польшчы. Пісьменнік паказаў народ у змаганні, духоўную веліч яго барацьбы. Раман населены дзясяткамі герояў — тут дзейнічаюць байцы і камандзіры Савецкай Арміі, генерал Чарняхоўскі, партызаны, падпольшчыкі, якія мужна і гераічна змагаліся з нямецка-фашысцкімі акупантамі. Гэта сага аб народным подзвігу. «Яна памятная мне, гэта кніга, — прызнаваўся аўтар, — і таму, што, можа, толькі з яе выхадам я адчуў сябе пісьменнікам». Стаў, але не спыніўся на месцы — такая ўжо ўласцівасць сапраўднага мастака. Ён прадаўжае шукаць свае ідэі і тэмы, свой стыль і жанр, нарэшце, самога сябе. Некаторым персанажам «Мінскага напрамку», магчыма, яшчэ нестае сталасці псіхалагічнага аналізу, але ўжо тут вытрымана еднасць гуманістычных крытэрыяў ацэнкі асобы незалежна ад яе месца ў структуры сацыяльных адносін. Гэта павышае ўстойлівасць і пераканаўчасць мастацкай канцэпцыі пісьменніка, памагае яму глыбока ўгледзецца ў чалавека, больш аб’ектыўна разумець яго сацыяльную і духоўную каштоўнасць.

У 50-я гады былі створаны новыя кнігі апавяданняў і аповесцей — «Блізкае і далёкае» (1954), «У гарах дажджы» (1957), «Што ён за чалавек» (1960), п'есы — «Пакуль мы маладыя», «У новым доме» (1956) і інш. У мастацкіх адносінах гэтыя творы не раўнацэнныя, але многія з іх сведчылі, што празаік падышоў да якасна новага этапу сваёй творчасці. Асабліва значнага поспеху ён дамагаецца ў сферы маральна-этычнага пошуку. З гэтага пункту гледжання крытыка высока ацэньвала апавяданні «Спатканне за горадам», «Памылка», «У гарах дажджы», адзначаныя разуменнем супярэчлівай складанасці чалавечага характару, у многім абумоўленага супярэчнасцямі самога часу. «Што ты за чалавек?» — гэтае пытанне можна аднесці, скажам, да Леаніда Андрэевіча — аднаго з удзельнікаў драмы, якая разыгралася ў «Спатканні за горадам». Яго нялёгка разгадаць: «прыемны ва ўсіх адносінах», прыгожы, схільны да жартаў, дасціпны, начытаны... У такога не грэх і закахацца. І ў яго закахалася маладзенькая дзяўчына Аля, якая выпадкова пазнаёмілася з Леанідам Андрэевічам. Банальная жыццёвая гісторыя! Але таленавіты мастак тут адкрывае праўду жыцця і праўду паводзін чалавека, які, на жаль, не заўсёды аказваецца дастойным свайго высокага звання. Леанід Андрэевіч аказаўся на паверку чалавекам двудушным і прымітыўным, здольным толькі браць ад жыцця і нічога яму не даваць. Не далёка адстала ад яго і Аля... Пісьменнік асуджае эгаізм, мяшчанства, чалавечую абмежаванасць і неразумнасць.

Духоўныя далягляды яго творчай лабараторыі рассоўваюцца шырока. Чалавек і час, асоба і грамадства, свабода і неабходнасць, сэнс чалавечага жыцця. У 50-я гады цікавасць да гэтых пытанняў рэзка ўзрастае ва ўсёй савецкай літаратуры, якая паставіла ў цэнтр мастакоўскага даследавання перш за ўсё чалавека, чалавечы феномен. Адораны талентам эпічнага бачання і асэнсавання жыцця, І. Мележ бярэцца за новы раман, матэрыялам для якога паслужыла жыццё беларускай вёскі, знаёмае пісьменніку ад нараджэння. Ён даўно марыў напісаць кнігу пра Палессе — родную бацькоўскую зямлю, яе людзей — простых, сціплых працаўнікоў. «Ведаць, хто мы. Не забываць, адкуль мы выйшлі. Толькі тады, калі мы будзем ведаць, адкуль мы, якімі былі, мы можам ведаць, хто мы. Ведаць цану сабе, свайму жыццю», — так вызначаў І. Мележ ідэйны пафас сваёй новай задумы, якой наканавана было стаць «галоўнай кнігай» пісьменніка. Работа над раманам «Людзі на балоце» (першая частка «Палескай хронікі») была пачата ў 1956 годзе, закончана ў 1960. У 1965 годзе з'явілася другая частка «Подых навальніцы». У 1976 годзе выйшаў трэці раман «Завеі, снежань». У чарнавым варыянце засталіся ненапісанымі раманы «За асакою бераг» і «Свята вясны».

Героі «Людзей на балоце» — Васіль Дзятлік, Ганна, Яўхім і Халімон, Глушакі, Чарнушкі, Хадоська, Грыбок, Андрэй Руды, Міканор — жыхары вёскі. Кожны з іх мае сваю яркую індывідуальнасць. Іх жыццё, як і жыццё ўсяго Палесся, цікавіць пісьменніка ў пераломныя перыяды: гаворка ідзе пра пачатак 30-х гадоў, перыяд калектывізацыі, якая ўскалыхнула ўсю краіну і ўсё сялянства, у тым ліку Беларусь. Гістарызм «Палескай хронікі» з'яўляецца ў вышэйшай ступені актуальным і сучасным, таму пытанне аб чалавечай прыродзе і прызначэнні чалавека — «якім ты павінен быць, чалавек?» — зноў ставіцца на пярэдні план, атрымліваючы глыбокую сацыяльна-гістарычную і мастацка-псіхалагічную распрацоўку. Сюжэт рамана «Людзі на балоце» ў многім традыцыйны для беларускай літаратуры. Маладыя людзі Васіль і Ганна пакахалі адно аднаго, але сысціся не могуць: і ён, і яна — з беззямельнай беднаты. Патрэбна зямля, патрэбна багацце. Жыццёвыя шляхі герояў (а яны вельмі гордыя) разыходзяцца ў розныя бакі: Ганна выходзіць за вясковага багацея Яўхіма Глушака, хоць і не кахае яго, Васіль таксама жэніцца на дзяўчыне з багатым пасагам. У індывідуальны лёс людзей урываецца вецер гісторыі, барацьба новага са старым адбываецца і ў жыцці, і ў побыце, і ў чалавечай свядомасці. Аўтар імкнецца авалодаць усім гэтым у многім ужо вядомым матэрыялам па-новаму. Скрозь прызму любові, перажыванняў і ўзаемаадносін людзей ён перадае грамадскую праблематыку таго часу, пошукі селянінам леп-

шай долі. Зямля ў «Палескай хроніцы» выступае як аснова быцця селяніна, матэрыяльная і духоўная каштоўнасць, вялікі народны здабытак, на грунце якога можа будавацца чалавечае шчасце, сацыяльнае і духоўнае развіццё асобы.

Сёння шмат гавораць пра асабісты пачатак у літаратуры, які выяўляецца ў ёй шматпланава і надзвычай разнастайна. «Маё жыццё», «мая вёска», «мая вайна» — сваё, перажытае, адчутае розумам і сэрцам. Свет, узноўлены ў мастацкім творы, атрымлівае пячатку пісьменніцкай асобы. Як частка асабістага жыццёвага і духоўнага вопыту, узведзенага ў ступень агульназначнага, агульнанароднага.

Мележаўскія Курані ўвайшлі ў вялікую літаратуру, як Грымячы Лог М. Шолахава, Дзівайская воласць (Скрыверы) А. Упіта, Льгоў І. Тургенева, акруга Іокнапатофа У. Фолкнера, графства Уэсэкс вядомага англійскага раманіста Томаса Гардзі. Далёка вядомы за межамі Беларусі мележаўскія Курані, у якіх адлюстраваўся цэлы свет сацыяльных і індывідуальных страсцей, думак, перажыванняў.

Творы пісьменніка наводзяць на роздум.

Беларусы — нацыя прыродалюбная. Навакольнае асяроддзе, рэгіянальны фактар маюць тут найвялікшае значэнне. «Край белорусский, — адзначаў у свой час М. Багдановіч, — лесистый и болотистый. Вот нам и надо создать поэзию леса, поэзию топи. Украинская стихия — степь, у нас наша стихия — лес и болото. Здесь есть своя неповторимая красота, неповторимая ритмика, неповторимое волшебство. Надо их подсмотреть, найти и вынести на широкий свет».

Слынны сучасны наш паэт В. Зуёнак, пачуўшы М. Багдановіча, на гэты конт выказаўся так:

Балоты, балоты... Балты...
Адно ў адным — як замес...
Тысячагоддзяў гвалты —
А балт — не памёр, не ўваскрэс,

А балт жывы, неўміручы
Сам Бог так сказаў: «Жыві!..»
Тым беларус і жывучы —
Кропелька балцкай крыві!..

З падобным тлумачэннем, напэўна, не пагодзяцца этымолагі, а тым больш моваведы, аднак мастацкая, паэтычная логіка ў гэтым словаўтварэнні прысутнічае. Яна і наводзіць на думку, што не будзе памылкай лічыць колішніх балтаў протабеларусамі, продкамі сучасных беларусаў, урэшце — продкамі славутых герояў Івана Мележа.

Геніяльнага М. Багдановіча пачуў і І. Мележ. Успомнім эстэтычна вельмі выразны пачатак «Людзей на балоце».

«Хаты былі на востраве. Востраў гэты, праўда, не кожны прызнаў бы за востраў — аб яго не плёскаліся ні марскія, ні нават азёрныя хвалі. Навокал адно гніла куп'істая дрыгва ды моклі панурыя лясы.

Вёска тулілася ля берага вострава — платы агародаў дзе-нідзе забягалі на куп'ё ўзболатка, з другога боку, на поўнач, балоты крыху адступалі, дорачы людзям пясчанае поле. Адступалі балоты і на заходнім баку, дзе рунелі ці жаўцелі на краю лесу палі, таксама скупыя, няўдзячныя, хоць у іх глебе і было менш пяску. З поўдня балоты зноў падбіраліся да саламяных, замшэлых радоў стрэх, але ў гэты бок ішла найбольшая сувязь са светам, і тут па дрыгве была намошчана дарожка. Што гэта за дарожка, можна меркаваць хоць бы з таго, што ездзілі па ёй смела толькі ў маразы, калі і непралазная твань навокал рабілася цвёрдая, як ток, ці ўлетку, калі дарожка перасыхала».

Аповед насычаны апісаннем нацыянальнага побыту, працоўных традыцый.

Сапраўдная і ўсебаковая культура, вытокі якой карэняцца ў роднай палескай глебе, вельмі характэрна Мележу. Ён ішоў да яе вышынь, не забываючы пра свае «родавыя» пласты маральных каштоўнасцей.

Гэты селянін з'яўляўся ў асяроддзі беларускіх літаратараў (большасць з якіх — з сялян) узорам сапраўднага інтэлігента. Быццам пра яго, пра Івана Паўлавіча пранікнёна сказаў яго сучаснік Васілій Шукшын: «Явление это — интеллигентный человек — редкое. Это — неспокойная совесть, ум, полное отсутствие голоса, когда требуется — для созвучия — «подпеть» могучему басу сильного мира сего, горький разлад с самим собой из-за проклятого вопроса: «Что есть правда?», гордость... Если всё это в одном человеке, — он интеллигент. Но и это не всё. Интеллигент знает, что интеллигентность — не самоцель... Какой он такой, интеллигентный человек?.. Образ его создал сам народ. Только он называет его — хороший человек. Умный человек. Уважительный. Не мот, не пропойца. Чистоплотный. Не трепач. Не охальник. Работник. Мастер».

Неяк давялося мне быць разам з Б. Сачанкам у Івана Паўлавіча дома. Было гэта напрадвесні, здаецца, 1976 года. Трэцяя частка — «Завеі, снежань» — была ўжо здадзена ў «Полымя», думка сягала далей, у наступнае. Іван Паўлавіч любіў паслухаць думку чалавека пра свае творы — пра «Палескую хроніку» асабліва. Гаворка зайшла пра перыяд калектывізацыі, пра яе ходу ў Беларусі, пра творы, прысвечаныя ёй (Шолахаў, Панфёраў і інш.). Перад гэтым мне прыйшлося прачытаць цікавыя, багатыя жыццёвымі фактамі, успаміны М. Губскага, якія меліся друкавацца ў выдавецтве «Беларусь». Факты, аднак, не дужа цікавілі Івана Паўлавіча. Яго думка даўно ўжо спасцігла знешне-эмпірычны пласт эпохі і к таму часу дасягала новых даляглядаў — гістарычных, сацыяльных, філасофскіх.

Пісьменнік ішоў да надзвычай маштабных абагульненняў, яркіх мастацкіх адкрыццяў. Для яго, як для літаратара XX стагоддзя, цікавы асобны момант, рэдкі выпадак, пэўны індывід.

Створаныя Іванам Мележам беларускія тыпы ў сваіх мастацка-эстэтычных якасцях нічым не саступаюць героям буйных заходніх рэалістаў — Бальзака, Флабэра, Заля, Томаса Мана, Фолкнера і інш.

Беларуская крытыка ўжо адзначала ўмоўнасць і рухомасць граніц, паміж галоўнымі і негалоўнымі героямі апавядання. У другім рамане — «Подых навальніцы» — «стырно сюжэта» пераходзіць да Апейкі, які займае важнае месца ва ўсёй «Палескай хроніцы». Пісьменнік уважліва ўглядаецца ў характар свайго героя, у яго адносіны да жыцця, да людзей, не выпускаючы са свайго мастакоўскага поля зроку ўвесь змест яго творчай актыўнасці. Апейка — не ідэальны герой, але ён ва ўсім імкнецца кіравацца сумленнем, патрабавальнай любоўю да людзей. Яму даводзіцца нялёгка. Канфлікт з кар'ерыстамі тыпу Башлыкова і іншых людзей, далёкіх ад народа і яго запатрабаванняў, ускладняе пошукі новых форм жыцця, але пісьменнік даказвае, што дабро перамагае зло, што дабро неадольнае.

Калектывізацыя, прымусовая, як безальтэрнатыўны варыянт развіцця сельскай гаспадаркі, пры адсутнасці належнай матэрыяльна-тэхнічнай базы, паскораных тэмпах яе правядзення і беспрэцэдэнтным наступе на кулацтва, папраўдзе з'явілася вайной дзяржавы супраць працоўнага сялянства. Калектывізацыя па сутнасці запачаткавала працэс рассяляньвання вёскі, і гэты працэс доўжыцца да сённяшняга дня.

Канчатковай, адназначнай ацэнкі калектывізацыі ў Мележа няма. У яго не было магчымасці даць такую ацэнку, пагэтаму ён засяродзіў увагу на іншым. Падкрэсліваючы ролю гістарычнай памяці, жыццёвых урокаў і вопыту, ён, ад рамана да рамана, усё больш канцэнтруе ўвагу на асабістай праблематыцы чалавека, на яго маральным, духоўным змесце, паказвае жывую «цякучасць» (выраз Л. Талстога) яго характару. У трэцяй частцы — рамана «Завеі, снежань» — у ролі лідараў сюжэтнага дзеяння выступаюць Башлыкоў і Ганна. Тут абмяркоўваецца — праз паводзіны герояў — вострая праблема адносін да традыцый, да духоўнага досведу народа. Героі Мележа ўспрымаюць свет без аптымізму, але сам пісьменнік не падае духам. Сцвярджэнне гуманізму, павагі і чуласці ва ўзаемаадносінах паміж людзьмі — вось аноўная ідэя твора. І ў гэтым галоўная яго каштоўнасць.

«Палеская хроніка» сведчыць, што пісьменнік знаходзіўся ў росквіце творчых сіл, але здароўя, падарванага раненнем на вайне, не хапала. Засталася незакончанай «Хроніка», не былі рэалізаваны і некаторыя іншыя задумы. Аднак і тое, што ён пакінуў пасля сябе, мае велізарнае значэнне для савецкай літаратуры і ўяўляе непераходную мастацка-духоўную каштоўнасць.

Два першыя раманы трылогіі — «Людзі на балоце» і «Подых навальніцы» ў 1971 годзе былі адзначаны Ленінскай прэміяй.

Чалавечае асяроддзе вабіла яго. Іван Паўлавіч умеў уважліва выслухаць чалавека, умеў і любіў «адкрываць» чалавека.

— Цікавы чалавек! — гаварыў ён пра каго-небудзь з новых знаёмых і дадаваў: — А мы і не прыкмячалі...

Радаваўся, калі новы знаёмы спраўджваў яго спадзяванні. А колькім літаратарам ён даў у свет дарогу! Добра помніцца, як ён падтрымаў С. Андраюка — цяпер вядомага літаратара, калі той аказаўся ў складаным становішчы ў сувязі з выданнем першай кнігі.

Дапамагаў ён і многім іншым

Абсяг яго турбот і клопатаў быў надзвычай шырокі. Але перш за ўсё ён быў аддадзены літаратуры. Літаратура была яго і клопатам, і радасцю, як для селяніна поле. У гэтым паняцці, здаецца, сыходзілася ўсё. І галоўным, трэба сказаць, была якасць! Ён нязменна дбаў пра высокі ідэйна-маральны ўзровень нашага мастацтва, пра тое, каб літаратура заставалася літаратурай, г. зн. сапраўдным мастацтвам — без скідак на архісучасную тэму ці праблематыку, без палёгкі... І даваў прыклад — сваёй творчасцю, сваімі раманамі.

Здзіўлялі яго мяккасць і ўпартасць, грамадзянская прынцыповасць пазіцыі, выклікала павагу адзінства думкі і ўчынку. Яно — гэтае адзінства, цэласнасць — адлюстравалася ў выступленнях, у творах.

У Івана Паўлавіча было шмат шчырых сяброў.

З рускіх савецкіх раманістаў асабліва любіў Шолахава. Памятаю, калі на VI з'ездзе савецкіх пісьменнікаў у Маскве (1976 год), на адной з творчых секцый госць з Польшчы Ежы Путрамент сказаў пра «Ціхі Дон» не столькі як аб з'яве сучаснага літаратурнага працэсу, колькі як пра факт гістарычны, які мала ўплывае на цяперашнія пошукі мастакоў, Іван Паўлавіч быў асабіста незадаволены, нават, мне падалося, пакрыўджаны. Хацеў выступіць, але не адчуваў сябе здаровым, устрымаўся. Талент эпічнасці, эпічнасць мыслення заўсёды ставіў вельмі высока. У яго ўяўленні гэта была адзнака народнасці мастацтва.

Не раз даводзілася адчуць меру народнай любві, якой Іван Паўлавіч быў акружаны пры жыцці, меру любві і памяць аб ім, якія жывуць і будуць жыць. Засталося ў памяці святкаванне 50-годдзя Івана Паўлавіча ў 1971 годзе. Вечар адбыўся у Доме акцёра, які, вядома, не мог змясціць усіх мінчан — прыхільнікаў таленту аўтара «Палескай хронікі», яго землякоў, усіх, хто прыехаў, каб ушанаваць юбілей народнага пісьменніка.

Некаторыя кажуць, што апроч «Палескай хронікі», ён нічога, вартага ўвагі, не напісаў. А хіба «Палеская хроніка» — гэта мала? Незычліўцы ёсць у кожнага.

У тым, што ён кажа пра Шолахава (з нагоды яго 70-годдзя), гучыць сваё, уласнае, пра што ён безупынна думае:

«В наше время кое-кто страстно убеждает, что движение истории и бытие народное превосходно можно изобразить и через одну личность и что, надо думать, время эпопей ушло в прошлое. Но все эти сомнения властно сметает созданное Шолоховым в недавние времена. Какой многоликий, многосудебный, могучий поток народной жизни — радостей, страданий, надежд, отчаянья, нежности и жестокости, — жизни необратимой, неостановимой, открывается нашему взору и нашему сердцу в его романах! Какой многоцветный и какой естественный, удивительно правдиво и точно запечатленный мир живет в извечном обновлении в его книгах!»

Раманы І. Мележа перакладзены на многія мовы свету. На польскую мову «Людзей на балоце» пераклаў Э. Кабатц. Па запрашэнні аўтара ён гасцяваў у Мінску, пакінуў пра Мележа ўспамін:

«Гэта быў прыгожы чалавек. І пісаў ён прыгожа.

Вельмі шкадую, што ў мяне ніколі не хапала часу для сістэматычнага пазнавання багацця і красы так блізкай мне беларускай літаратуры. Яна мне блізкая, бо я паходжу з асяроддзя, у значнай меры, беларускага, гэтай зямлі, гэтай культуры я ўдзячны за немалы ўплыў на фарміраванне маёй асобы. Як чалавека і пісьменніка, што відно ў маіх кнігах, нават калі я ў іх вандрую па Міжземнамор'і, дзе так многа слядоў калісьці агульнай для ўсёй Еўропы культуры.

Магчыма, што іменна гэтая візантыйска-лацінская агульнасць, якая засела ў найцішэйшых, аднак найтрывалейшых і найбольш творчых клетках маёй істоты, уплывае на тое, што я час ад часу вяртаюся да беларускай літаратуры і дасягненні яе радуюць мяне, як брата — поспехі сястры. Ёсць і яшчэ адна прычына маёй блізкасці з беларускай літаратурай, — у ёй ёсць чым захапляцца. Калі я звяртаўся да кніг Быкава ці Мележа, якія меў прыемнасць (пэўна ж, і з немалымі цяжкасцямі) перакладаць, дык адчуваў тады, што выходжу на зялёны прастор зямлі, якая павінна быць чырвонай ад крыві, на ёй пралітай. Калі ж я кладу перад сабой наш агульны здымак, зроблены ў Мінску дванаццаць год таму назад, калі я гляджу ў Іванавы вочы, сумнаватыя, але ж і поўныя яснасці, дык не згаджаюся з папярэднім уражаннем і кажу, што гэтая зямля павінна быць залатой, як і людзі, якія на ёй жывуць, што яна павінна быць сонечнай, бо заслужыла такую долю.

Ён завёз мяне з маім сябрам, пісьменнікам Аляксандрам Мінкоўскім, на сваю дачу за горадам. У шчодрай зеляніне і ў шчодрым сонцы мы пазнаёміліся з яго мілай жонкай. Мы адчувалі сябе як у родным доме. Падняліся на другі паверх, у мезанін, дзе дрэвы глядзелі ў вокны з пагодлівым пошумам, дзе гаспадар часамі працаваў, дзе і мне захацелася папрацаваць, — не наогул, а перакладаючы яго раманы, чым я займаўся дома, пераклаўшы толькі «Людзей на балоце». Нялёгка гэта было, стаміўся я вельмі, пра што і сказаў тады Мележу. Такое багацце мовы, такі тугі вузел чалавечых страсцей — як мне ўсё гэта перадаць па-польску?.. І ён сказаў, што поўнасцю перадаваць нікому не ўдаецца, таму што няма мовы без пошуму дрэў за вокнамі, няма ў краявідзе сілы без чалавечых страсцей. «Прыязджай працаваць сюды».

Я тады разгубіўся, не выкарыстаў запрашэння, панясло мяне ў іншы бок белага свету. Аднак засталася туга па цёплай драўніне дачы за горадам, па варухлівай лістоце за вокнамі, па сонцы ў гаспадаровых вачах... І тады ўжо ён адчуваў сябе благавата, а бывала і вельмі цяжка, аднак ён умеў глядзець ясна і яснасцю гэтай абдорваць іншых.

Такім ён быў...»

Колькі памятаю Івана Паўлавіча — ён быў заўсёды задумёны, пагружаны ў сябе, «з думаю на чале», маўклівы.

Шмат пісаў...

Прыгадваецца сказанае яму Кузьмой Чорным напрыканцы вайны, у Маскве:

— Прыеду ў Мінск — абавязкова пасялюся дзе-небудзь на ціхай вуліцы. У драўляным дамочку. Каб ціха было і каб можна было пісаць, пісаць, пакуль аж рука не забаліць. Як у касца....

Клопатам Мележа было паспець усё сказаць. Пры гэтым ён кіраваўся максімалісцкім маральна-эстэтычным патрабаваннем, якое пакінулі нам выдатныя майстры мінулага: «Пішы, як жывеш, пішы, быццам пішаш тастамент, завяшчанне». Гэта значыць, пішы, не адхіляючыся ад праўды, будзь ёй верны. Верны жыццю!

Гэтае патрабаванне засталося і ягоным запаветам.

**Мікола ГІЛЬ**

# МОЙ СЯБРА МІША СТРАЛЬЦОЎ*

*Некалькі згадак з маладосці*

У маладосці мы наўрад ці ўмеем бачыць і ўспрымаць адэкватна сябе і сваіх сяброў. Маладосць зусім не схільная да аналітыкі. Вось і нашага Мішу мы хоць і вылучалі, але ж успрымалі і прымалі ўсяго толькі сваім аднакурснікам, дружбаком. Лепшым, разумнейшым, таленавіцейшым сярод нас, аднак наўрад ці прыбягала да каго думка аб тым, што некалі наш Міша Стралец стане класікам роднай літаратуры, паставіць сваё імя побач з імем самога Максіма Багдановіча.

Не прадказвалі яму такой будучыні і ягоныя вершы, што зрэдку пачалі той парою з'яўляцца ў друку. Вершы пісалі на філфаку многія, нездарма ж нават эпіграма хадзіла па руках аб тым, што досыць кінуць тут кіем у якога-небудзь студэнта, дык абавязкова патрапіш у паэта. Рускамоўныя Мішавы вершы, калі праўду казаць, былі досыць ардынарныя, хоць і бездакорныя з боку тэхнікі вершаскладання.

Думаецца, што і сам Міша не надаваў ім асаблівага значэння.

Аднойчы ж, у канцы пяцьдзясят шостага ці ў пачатку пяцьдзясят сёмага, на нейкай агульнай філфакаўскай лекцыі ў вялізнай 26-й аўдыторыі біякорпуса, Міша падсунуў мне па стальніцы некалькі лісткоў са сшытка: «Пробеги, старче». Гэта было апавяданне «Дома». Правільней — «рассказ», бо — па-руску. Я тут жа, з ходу, прачытаў яго, балазе, почырк у Мішы быў вельмі разборлівы.

Прачытаў з асалодаю, з радасцю, з захапленнем. Усё было знаёмае, роднае: лета, вёска, бацькоўская хата, першае пачуццё і першы сум, нават яшчэ не сум, а толькі подых яго, папраўдзе — подых надыходзячага сталення. Я шапнуў Мішу: «Здорава, Старычок! Трэба друкаваць!» Ён пасміхнуўся: «Дзе, Шаноўны?» (Шаноўны, — такое трошкі, мусіць, і здзеклівае імя я нечакана займеў сярод аднакурснікаў, бо некалькі разоў ужыў гэтае самавітае слова-зваротак, да ўсяго, пэўна, не заўсёды дарэчы З гэтае ж прычыны Міша неяк адразу ж стаўся для ўсіх ужо тады Старычком.)

Сапраўды, дзе друкаваць? Каб па-беларуску, дык можна было б прапанаваць «ЛіМу», занесці ў «Полымя» ці «Беларусь», а найперш — у «Маладосць». Міша нечакана сказаў: «А ты не мог бы перевести?» Я без ваганняў, здаецца, згадзіўся, і літаральна на наступных лекцыях перапісаў апавяданне па-беларуску.

Было тое, па ўсім, усё ж на пачатку 1957-га, вясною. Бо восенню таго ж года, у кастрычніцкай кніжцы чатыры гады назад створанага часопіса «Маладосць» апавяданне «Дома» было надрукавана. Мы ўсе шчыра віншавалі Мішу з дэбютам у прозе, зычылі яму новых твораў і публікацый. Да ўсяго гэтага ў мяне асабіста дамешвалася і задавальненне ад таго, што апавяданне з'явілася ў часопісе амаль няпраўленым, у тым выглядзе, у якім было пераказана па-беларуску мною.

Праз чатыры з паловай гады, у чэрвені 1962-га, Міша падарыў мне сваю першую кніжачку «Блакітны вецер». Расчуліў дарчы надпіс: «М. Гілевічу. Табе, на чыіх вачах нарадзіліся гэтыя крэмзы. Не будзь да іх занадта строгі, дружа. М. Стральцоў. 5.VI.62 г.».

---

* Заканчэнне. Пачатак у № 1, 2016 г.

Кніжачку склалі сем апавяданняў, і ўсе яны, бадай, сапраўды нараджаліся на маіх вачах. Ці не кожнае з іх Міша даваў мне чытаць яшчэ да друку, у рукапісным выглядзе. Даваў па-сяброўску, але і з просьбаю не проста азнаёміцца, а прачытаць уважліва, нават пільна, прыдзірліва, асабліва — да мовы.

Ужо другое сваё апавяданне — «Мацеевы дровы» — Міша пісаў па-беларуску, адчуўшы, зразумеўшы, што акурат беларускае слова — родная стыхія, у якой яму будзе вольна і ўтульна, хоць тады яшчэ пачуваўся ў ёй не зусім упэўнена. Таму і прасіў чытаць як мага строга і прыдзірліва. Прасіў, ды спадзяваўся ўсё ж на самога сябе. Пасля маладосцеўскага дэбюту ён асабліва старанна ўзяўся за вывучэнне беларускай мовы, хоць рабіў гэта і раней, з першых, бадай, студэнцкіх дзён. Запоем чытаў Кузьму Чорнага, Якуба Коласа, выпрошваў у навуковай зале аддзела беларускай кнігі Ленінскай бібліятэкі забароненых тады яшчэ Лукаша Калюгу і Міхася Зарэцкага, штудзіраваў у той жа «Ленінцы» і бібліятэцы БДУ слоўнік Насовіча.

І радаваўся:

— Дзіўная штука, старычок! У маленстве, недзе ў пяцігадовым узросце, жыў я ў дзеда на пасецы. Дзед з бабаю між сабою гаварылі не так, як у нашай хаце, — па-беларуску. І са мною — таксама. За колькі месяцаў я налаўчыўся па-іхняму. А пасля, вядома ж, забыўся. І думаў — начыста. А цяпер от чытаю Гарэцкага — і адчуванне такое, быццам усё тое дзедава вяртаецца да мяне, як і не забывалася. Бы ўсплывае аднекуль з прадоння.

— Дзіцячая памяць учэпістая, — кажу.

— Не, старычок, тут, мяркую, іншае. Нешта геннае. Мусіць жа, і бацькі раслі, гадаваліся-падрасталі ў беларускім слове, маленства, юнацтва было ў іх роднаслоўнае, гэта пасля, як «выйшлі ў людзі», перайначыліся на іншае, блізкае, не чужое, але — не сваё. З іх генамі апратка душы і перадалася, пэўна, мне, нашчадку.

— Ну ты куды загнуў!

— Дзедаў гэта след, Шаноўны, дзедаў, канешне! Але адчуванне сапраўды такое, што нібыта з самага падыспаду душы, дзе пачатак усіх пачаткаў. Ад таго вузельчыка, што татка з мамкай завязваюць.

Што ж, спрачацца не выпадала: Мішу — відней, натура ў яго тонкая, адчуванне наўрад ці падводзіць яго, мо такія імпэтныя ягоныя моўныя поспехі акурат і вытлумачваюцца геннай спадчыннасцю.

А поспехі былі папраўдзе нечуваныя. Ужо студэнтам чацвёртага, а тым больш пятага курса Міша ведаў, а галоўнае — чуў, адчуваў беларускае слова лепш за многіх з нас, якія карысталіся ім штодзённа і паўсюдна. Ён адчуваў яго прафесійна. І ў сваіх апавяданнях паўставаў ужо як таленавіты пісьменнік, маляўнічы мастак-лірык, а ў дадатак — і як тонкі, адмысловы стыліст. Чуццё на слова ў яго было сапраўды бездакорнае, аб чым сведчылі і ягоныя рэцэнзіі, літаратурна-крытычная артыкулы, вызначальнай рысай якіх быў акурат і глыбокі, тонкі моўны аналіз твораў, таго, наколькі ўдала выкарыстоўвае той ці іншы аўтар выяўленчыя магчымасці роднага слова.

Ён любіў слова. Захапляўся ім, як найвялікшым, амаль невытлумачальным цудам. Ён «мацаў» слова, браў яго «на зуб», смакаваў, наталяўся яго водарам. Радаваўся адметнаму, трапнаму, незацяганаму слову, як дзіця радуецца новай і займальнай цаццы.

Памятаю, з якой радасцю ён адкрыў для сябе другога нашага вялікага Максіма — Гарэцкага. Міша проста закахаўся ў яго. І не ў апошнюю чаргу — як у знаўца (і майстра, вядома ж!) роднага слова, да ўсяго — магілёўскага. Але, але, было ў Мішы і пачуццё мясцовага, так бы мовіць, моўнага патрыятызму.

— Па адукацыі, старычок, усяго каморнік, па-цяперашняму — землямер, — казаў Міша, прыжмурваючы ад расчуленасці чамусьці адно, правае вока, — а якое веданне мовы, якое чуццё, адчуванне слова, яго арганікі! Усе гады «Нашай

нівы» — час апрабацыі, выпрацоўкі, шліфоўкі мовы, а ў яго, нашаніўскага аўтара, адразу — класічная моўная празрыстасць. Тайна сія веліка есць, старычок!

І ягоны твар свяціўся такой непадробна шчырай шчаслівай усмешкай-радасцю, што — добры і прыгожы — рабіўся яшчэ дабрэйшым і прыгажэйшым.

Танюсенькую сваю кніжачку з невялікай, але таленавіта напісанай, шчымліва кранальнай аповесцю «Адзін лапаць, адзін чунь» Міша падарыў мне з адмысловым аўтографам — слоўна-графічным: «Лапаць (у дужках — малюнак лапця з аборамі) — лапаць (у дужках — дзве рукі з растапыранымі пальцамі) — філалогія. Ах, якія мы убогія!» Гэта аніякі не намёк на нешта ці на некага. Гэта звычайная Мішава самаіронія. Не выпінастая, не крыклівая, а — сцішаная, прыглушаная, бы трошкі нават сарамлівая і прабачальная. Маўляў, што ж тут зробіш, калі я (мы) такі(я) — убогія, як у гэтым выпадку. Хай сабе трошкі, але ўсё ж — убогія, старычок! Няма ў нас, казаў няраз Міша, ці то моршчачыся-крывячыся, як ад болю, ці то ледзь прыкметна ўсміхаючыся, тае еўрапейскае выхаванасці і энцыклапедычнай адукаванасці, страчана гэта намі пасля Скарыны. «І адкуль можа ўзяцца, старча?! Усе нашы адраджэнцы-пачынальнікі — інтэлігенты ў першым калене. І мы з табою такія ж убогія асцеты, як кажа слаўнай і дапраўды паэтычнай душы чалавек Сцяпан Гаўрусёў, сын Захараў, заўважу — і мой землячок-мугілёвец».

Невялічкая кніжачка-аповесць, на экзэмпляры якой Міша зрабіў мне такі вось дарчы надпіс, ці не самы шчымлівы, чысты і светлы — да пранізлівасці!— ягоны твор. Таму, пэўна, што і самы, бадай, аўтабіяграфічны. Наўпрост не пытаўся пра гэта ў Мішы, але ж і так відавочна, што дзед Міхалка — асоба не выдуманая, а родная і блізкая, добра знаёмая аўтару, і малы Іванка насіў у рэальным (не кніжным) сваім жыцці імя іншае, а менавіта — Міхась, папраўдзе, зважаючы на ўзрост, — Міхаська.

Аднойчы, завітаўшы да мяне ў хату, Міша ўгледзеў на самай ніжняй паліцы кніжнага стэлажа агромністага памеру фаліянт — «Дыялекталагічны атлас беларускай мовы». Не паленаваўся, выцягнуў яго з-пад стосу кніг (атлас ляжаў плашмя, бо паставіць яго на паліцы з-за памеру было немагчыма) і пачаў гартаць. І гэтак захапіўся, што не заўважыў нават пляшкі нашага любімага балгарскага белага «Міскету», якая з’явілася на стале.

Атлас, як кажуць, зачапіў яго за жывое. Ён нястомна накладваў празрыстую цэлафанавую кальку з нанесенымі на яе кропачкамі райцэнтраў на карты-схемы дыялектных адметнасцей і заўзята каменціраваў вынікі гэтых сваіх практыкаванняў. Супастаўляў і супастаўляў лексічныя, граматычныя і іншыя моўныя формы Міншчыны, найперш маёй Лагойшчыны, з адпаведнікамі Магілёўшчыны, а перадусім — сваёй Слаўгарадчыны, радаваўся, як дзіця, адзначаючы між імі мінімальныя адрозненні ці амаль поўную адсутнасць іх.

— Паглянь, старычок: мова сведчыць, што крывічы і радзімічы — дзеці аднаго роду-племені, — гаварыў Міша, водзячы пальцам па бліскучай, бы навошчанай, кальцы. — Якое слова ні вазьмі — як у вас, гэтак і ў нас. Во, назвы дзён тыдня, субота, скажам: і ў вас «субота», і ў нас — «субота». У вас зафіксаваны прыметнікі «ільняны, льняны і альняны», і ў нас дакладна тое ж. У вас кажуць «у кажусе», і ў нас. У вас часцей «матка», чым «маці», і ў нас таксама. У вас кароткія формы роднага склону — «хат, сцен», і ў нас — таксама, старычок. А во, зірні, вашы формы — «у лясох, на лугох, на нажох» (як святой памяці Ян Дамінікавіч пісаў) — поруч з формамі «у лясах, на лугах, на нажах». Цалкавіта тое ж фіксуецца і ў нас. А во — адрознасць: у вас — «яблык», мужчынскі род, а ў нас — «яблыка», ніякага роду. У вас — «кажа, меле, грэе», і ў нас, хоць паблізу гаворац і «кажыць, меліць, грэіць». У вас — «пасвіць» і «пасціць» , і ў нас — цот у цот. Але затое: у вас — «малако, масла кароўе», у нас жа — кароўскае. У вас «вярба», у нас — «верба», у вас — «несла», у нас — «нясла», у вас — «таўсты», у нас — «тоўсты», у вас — «зашчытак», у нас — «закот», у вас — «калыска», у нас — «зыбка». Розніца? Ды амаль ніякай, старча: што калыхацца, што зыбацца…

Сам купіў атлас, Шаноўны, ці сфундаваў хто? Малайца, Сымонаў сын! Кніжка — не адарвацца! Якая наша мова багатая, старычок! Во, у вас — «рэзгіны», а ў нас — «рэзвіны»: што лепш? Выбірай, таварыш пісьменнік, даказвай перавагу свайго. А во, брат: у вас — «квактуха», а ў нас — «квакуха». Што скажаш? Маўчыш? А я кажу: і адно добра, і другое… Каб не такі вялізны фаліянт, узяў бы яго ў цябе ў доўг, пагартаць вольнай хвілінай спакойна, прайсціся па ўсіх рэгіёнах, параўнаць маўленне па мерыдыянах і паралелях…

Ляпнуўшы ўрэшце цяжкой каленкоравай вокладкай фаліянта, бы вечкам нейкага старадаўняга куфра, Міша задуменна і трохі меланхалічна загаварыў аб велізарнай каштоўнасці гэтае (стукаючы костачкамі пальцаў па атласе) кнігі і працы, што крыецца за ёй, аб тым, што матэрыялы атласа красамоўна і пераканаўча даводзяць і сцвярджаюць адзінства і цэласнасць нашай мовы на ўсёй этнічнай тэрыторыі беларусаў (як гэта даказаў і паказаў вялікі наш вучоны і такі ж вялікі сын Беларусі акадэмік Яўхім Карскі); аб тым, як ён, Міша, з захлёбам чытаў слоўнік Бялькевіча, з радасцю адзначаючы, што гэта, па вялікім рахунку, слоўнік беларускай мовы, а не толькі так званы «краёвы», хоць ён, безумоўна, зафіксаваў найперш адметнасці гаворкі Магілёўшчыны; аб тым, што пісьменнікам трэба часцей зазіраць у слоўнікі і кніжкі, кшталту дыялекталагічнага атласу (і зноў ціхае пастукванне костачкамі пальцаў па масіўнай і цвёрдай вокладцы), ды чэрпаць адтуль, пералапачваючы слоўную руду, сапраўдныя моўныя залацінкі, бо ў многіх «братьев-писателишек» (Мішавы словы) мова сівая (у сэнсе — шэрая) і нясмачная, як «самагонка ў бабы Ёўгі з прыснапамятнага Сіняла, старычок».

Мы сядзелі, смакавалі балгарскі «Міскет» пад колішні сапраўдны (са слязьмі) швейцарскі сыр і гаманілі аб тым, як было б добра, проста выдатна («Нават слаўна, старычок!») прайсціся пешкі напрасткі, не надта трымаючыся торных дарог, ад майго Лагойска да ягонага Прапойска. (Міша, дарэчы, рэдка калі гаварыў Слаўгарад, часцей іменаваў свой родны райцэнтр гэтым яго даўнім, спрадвечным імем, які ў старажытнасці зваўся таксама амаль гэтак жа, як мой Лагожаск, — Прапошаскам, што лішні раз гаворыць за паходжанне ягонае назвы зусім не ад бальшыні там празмерных аматараў моцных напояў.) Прайсціся, паглядзець на Беларусь, паслухаць стрэчных простых беларусаў, няспешна падумаць аб імклівым бегу «беспечной чередою» дзён, тыдняў, месяцаў і гадоў, а яшчэ — на свае не так вочы, як вушы пераканацца, што аніякіх моўных (і ўсялякіх іншых — таксама!) меж між цэнтральнай Беларуссю і ўсходнім яе акрайкам не існуе і ніколі не існавала.

Прыжмурыўшы адно вока ў асалодзе ад пітва (Міша любіў добрае віно, ведаў у ім смак і мог ацаніць, пэўна, прафесійна), ён гаварыў нібыта фрагментарна, адрывіста, але, тым не менш, лагічна, слушна і пераканана:

— І адкуль ім быць, тым межам, старча? Хто скажа, дзе нашы межы ўвогуле, вызначаныя з навуковай скрупулёзнасцю і дасведчанасцю тым жа Карскім? Ці чытаў ты Устаўную Грамату пра абвяшчэнне БНР? Ведаю, не чытаў, не мог чытаць. А мне добры чалавек даў. Там нашы межы акрэслены дакладна, старычок. І дзе ж яны, спытаем, дружа, яшчэ раз, — тыя нашы межы? У Расіі, старычок, у Літве, Латвіі, Польшчы, Украіне. Ува ўсіх нашых суседзяў. Усе нас абабралі. З усіх старон, як пісаў светлай памяці Ян Дамінікавіч...

У маі, здаецца, 1968-га мы аказаліся разам на рэспубліканскім семінары творчай моладзі на возеры Свіцязь. ЦК камсамола з дазволу і благаслаўлення большага ЦК ладзіў тым часам такія семінары — нібыта для вучобы маладых пісьменнікаў, мастакоў, акцёраў, музыкантаў, а папраўдзе — ідэалагічна падкоўваць, апрацоўваць іх, настаўляць на служэнне вялікім ідэалам камунізму. Асноўнай формай той вучобы былі лекцыі, якія чыталі партыйныя і савецкія чыноўнікі, навукоўцы, гаспадарнікі. Лекцыі былі, вядома ж, нудныя, маладыя творцы з іх пры кожным зручным выпадку збягалі, балазе — было куды: побач апетае ў легендах возера Свіцязь і навакольныя, вельмі ж маляўнічыя, на той час яшчэ

зусім не знявечаныя лясы. Ладзіліся падчас семінараў і іншыя акцыі — выстаўкі твораў маладых мастакоў, канцэрты маладых кампазітараў і спевакоў, літаратурныя сустрэчы і вечары, ды ўсё гэта — як даважкі, своеасаблівая акраса ўсё тых жа сумных і нецікавых лекцый. Тым не менш, моладзь ехала на семінары заўсёды з ахвотаю — прываблівала сама магчымасць пабыць колькі дзён разам, прытым на прыродным, як кажуць, прыволлі, пагаварыць, паспрачацца, пры нагодзе і чарку ўзяць, пасядзець у сяброўскім застоллі.

На тым памятным для мяне семінары Міша быў больш чым паўнапраўным удзельнікам сустрэчы творчай моладзі рэспублікі, бо ўжо фактычна перарос статус «маладога» творцы. Ён прыехаў на Свіцязь ужо досыць вядомым і вельмі перспектыўным пісьменнікам, якога літаратурныя пачаткоўцы лічылі ўжо сваім паважаным і аўтарытэтным настаўнікам, я ж быў там карэспандэнтам «ЛіМа», хоць, праўда, таксама і «семінарыстам». Памятаюцца з таго нашага быцця на Свіцязі мо такія найперш два моманты.

Аднойчы ўвечары, добра-такі пасядзеўшы на беразе Свіцязі, наша літарацкая кампанія (а былі ў ёй, калі памяць не падводзіць, Рыгор Барадулін, Генадзь Бураўкін, Барыс Сачанка, Анатоль Кудравец, Янка Сіпакоў, Міхась Стральцоў і, здаецца, Вячаслаў Адамчык, мо і яшчэ хто, цяжка ўжо ўзгадаць) наважылася прайсці берагам наўкруг возера. А раз наважыліся, то і пойдзем, зараз жа, неадкладна, нягледзячы на тое, што ўжо і за поўнач далёка. І пайшлі не надта торнай, выбоістай, карэністай сцежкай. Ішлі, вядома, няспешна, як кажуць, нага за нагу, гамонячы, згадваючы хто што ведаў пра гэтую самую Свіцязь, пра Адама Міцкевіча ў звязцы з ім, чытаючы вершы і эпіграмы — адным словам, досыць п’янавата балабонячы аб усім і ні аб чым. Спадзяваліся, што пройдзем-абкружым Свіцязь з ходу, за нейкае паўгадзіны — возера ж во якое маленькае, як спадачак, нездарма ж яго хтосьці вобразна назваў вокам Наваградчыны. Ды на справе аказалася яно не такім і маленькім. Пакуль мы брылі-спатыкаліся той лясной сцяжынаю, дык і кароткая майская ноч скончылася, золак нахапіўся, вось-вось сонца выкаціцца. А мы толькі, як кажуць, на другім беразе, значыць — нам яшчэ да санаторыя, у якім атабарыліся, дыбаць ды дыбаць.

І тут угледзелі на мелкаводдзі паблізу берага напаўзатопленую лодку. Хтосьці выказаў думку пераплысці на той другі бераг на лодцы, калі яна на плыву. Паразуваліся і пашлэпалі да нашага ратоўчага судна. Падышлі. З лодкі шуснула чародка рыбак-верхаводак. Плыўны сродак быў з выгляду і цэлы, але калі паспрабавалі прыпадняць яго, каб спіхнуць на глыбейшае месца, са шматлікіх шчылін у бартах палілася вада. Гэтая акалічнасць нас не запыніла: вырашылі шчыліны пазатыкаць-заканапаціць і ўсё ж пераплысці возера па дыяганалі. Чым канапаціць? Вядома ж, тым, што было пад рукою: травою ды глеем.

Пэўна, добрую гадзіну патрацілі на тую неразумную, пустую работу. Плёну з яе не было аніякага, наша «пакля» не вытрымлівала напору вады. Было відавочна, што занятак гэты марны. Паступова запал наш ападаў. І апошнім здаўся Міша — шпурнуў узятыя было прыгаршчы глею і памыў рукі. А перад тым ён, бадай, сама заўзята шчыраваў ля лодкі, прытым досыць спрытна і ўмела, тым самым выдаючы, што калісь яму неаднойчы надаралася рабіць штосьці падобнае. І на твары ягоным былі вельмі ж відавочныя прыкрасць і засмучэнне.

А другі момант звязаны з Янкам Брылём. Іван Антонавіч прыехаў на Свіцязь для сустрэчы з моладдзю. Гэта было для ўсіх нас вялікай радасцю. Усе мы ад яго проста не адыходзіліся. Слухаць яго было не наслухацца. Іван Антонавіч столькі ведаў і памятаў і гэтак умеў пра ўсё распавядаць, што іначай і быць не магло. Мы хадзілі за Іванам Антонавічам цугам: куды ён, туды і мы. А яму, па ўсім, тое было таксама прыемна: ён любіў моладзь і ўмеў стасункавацца з ёю. Тым разам Іван Антонавіч быў асабліва таварыскі і гаманкі. Свіцязь і навакольныя мясціны для яго амаль родныя, там у яго было шмат знаёмцаў і, пэўна, сяброў з гадоў юнацтва і маладосці, і расчулены ад усяго гэтага ён, як кажуць па-руску, быў «в ударе»

асабліва. Каб жа гэта быў розум занатоўваць тыя яго аповеды і згадкі! Колькі там было самых нечаканых, цікавых, захапляючых звестак па гісторыі нашай літаратуры і яе творцаў, наогул па гісторыі Беларусі, нацыянальна-вызваленчага руху ў колішняй Заходняй Беларусі! І ўсё ўспрымалася з асаблівай цікавасцю яшчэ і таму, што Іван Антонавіч распавядаў з уласцівай яму дасціпнасцю, з аграмадным і непадробным брылёўскім талентам гумарыста і жартаўніка.

Аднойчы ён павёў усю нашу гурму ў госці да свайго добрага знаёмца, а можа, і сябра, мо нават нейкага далёкага сваяка — ляснічага Валеўскага лясніцтва, на тэрыторыі якога знаходзіцца і возера Свіцязь. Нас уразіла сядзіба ляснічага — вялікая, з высокім ганкам і шырокімі вокнамі хата сярод лесу, з такімі ж дыхтоўнымі гаспадарчымі пабудовамі, з мноствам шпакоўняў на дрэвах, прытым адмысловых, шматпавярховых, з зашклёнымі воканкамі і фігурнымі ганачкамі для птушак.

Гаспадар сядзібы пасля непрацяглай гаворкі-экскурсіі па двары павёў нас у пограб і пачаставаў бярозавым квасам. Не проста бярозавым сокам, а менавіта квасам з бярозавіку. Захоўваўся ён у пограбе (глыбокім, уніз збягала, пэўна, больш за дзясятак цэментавых прыступак, і таму халодным, ажно мы сцепануліся, спусціўшыся туды спякотным днём канца мая) у велізарнай дубовай бочцы. Упершыню ці не ўсе мы пачулі, так бы мовіць, тэхналогію прыгатавання бярозавіка-квасу. У запоўненую сокам бочку дадаюцца розныя спецыі (ну там скарыначкі хлеба, сушаныя лісткі смуродніку, вішні і сёе-тое іншае, а да ўсяго засыпаецца досыць добрая порцыя ячменю). Ячмень прарастае, усплывае і густой, шчытнай, бы сплеценай з ягоных карэнняў і сцяблін, накрыўкай закрывае бочку. Настойваецца сок у бочцы месяц-два. Каб урэшце яго пакаштаваць, у шчотцы ячменю праразаюць нажом адтуліну. За чупрыну бляклай, бо вырасла ў цемры, руні дастаюць выразаны кружок. Вось доступ да квасу і адкрыты — чэрпай кружкай ці якой конаўкай на доўгай ручцы і пі.

Гаспадар сядзібы і майстар такога метаду прыгатавання квасу на нашых вачах і зрабіў тую маніпуляцыю з вырэзваннем кружочка ў «жывой» ячменнай накрыўцы, і мы тут жа пачулі густы, церпкі водар, што патыхнуў адтуль, з выразанай у ёй дзіркі. А неўзабаве па чарзе, як гэта спрадвеку і рабілася-робіцца ў вёсцы, пілі прыгатаваны па-валеўску квас-бярозавік. Халодны, аж зубы зводзіць, і надта ж смачны, непараўнаны ні з чым. Прынамсі, я датуль, ды і пасля таксама, нідзе больш так і не піў такога бярозавіку, хоць вясною і сам збіраў яго, і пляменнік, і швагер, і сват, і ўсе пілі яго не толькі свежым, а і квасілі. Смачны быў квас ва ўсіх, ды — не такі, які я каштаваў у Валеўцы паблізу Свіцязі.

Смачны, адмысловы быў той квас: не салодкі і не кіслы, церпка-крамяны, залацісты і амаль празрысты, з прысмакам бадай што лета. Мо аб гэтым нагадваў ледзь улоўны пах лісця смародзіны? А Міша ўлавіў яшчэ, на ўздзіў, і пах, ці прысмак, мёду і не прамінуў сказаць-папытаць аб гэтым у гаспадара: «— І мядок ёсць?» Той у адказ толькі ўсміхнуўся: «— А то як жа! Без мядку няможна. Як песня без падгалоску — не песня, гэтак і квас без мёду — не квас! Крышачку, каб не перасаладзіць, а — для затраўкі. І водар, і смак танчэйшы». Міша на гаспадарову ўсмешку ўсміхнуўся яшчэ шырэй, нязвычна для яго шырока: « — А я то і раз каўтануў, і другі, чую — мёд ёсць. Дзед мой гэтак жа рабіў — дадаваў трошкі мёду. Ён казаў — для акрасу…»

І тут Міша не быў бы Мішам: за слова зачапіўся. Гаспадар «лесніковай пасады» вымавіў — «для затраўкі». Мішава вуха тут жа ўлавіла гэта, і памяць падказала з даўняга: дзед у такіх выпадках казаў «для акрасу». Папраўдзе, слова для Мішы было самім жыццём.

А што да мовы твораў (у розных жанрах) самога Міхася Стральцова, дык яна дакладная, выразная, багатая, класічна чыстая і празрыстая літаратурная (у высокім і лепшым сэнсе гэтага вызначэння) беларуская мова, мова Якуба Коласа, Кузьмы Чорнага, Лукаша Калюгі, Максіма Гарэцкага. Асаблівага магілёўскага акрасу

яна, бадай, не мае. Прынамсі, ён не кідаецца ў вочы, хоць сям-там пракідваюцца (пакаламбурыў?) чыста мясцовыя, «сычынскія» (ад назвы роднай Мішавай вёскі) слоўкі. Міхась зберагаў іх у душы нямала, часам з любоўю і асалодаю качаў іх на языку, але ў сваю паэзію, крытыку і нават прозу ўстаўляў вельмі і вельмі ашчадна. Чаму ж гэтак? А раптам там былі сапраўдныя моўныя жамчужынкі? Не штучныя, вядома, а натуральныя? Міша, пасмейваючыся вачыма і трошачкі куточкамі вуснаў, тлумачыў: «Мы літаратары беларускія, старычок, а не тутэйшыя…» Дарэчы, не ў прыклад многім кволенькім работнічкам пяра і алаўца, ён ніколі не гаварыў пра сябе, што ён пісьменнік, паэт альбо крытык. З той жа трошкі іранічнай і ледзь прыкметнай стральцоўскай усмешкай Міша мог на гэты конт іранічна зазначыць: «Сам Уладзімір Ільіч сціпла называў сябе ўсяго толькі літаратарам. Што ж тады нам караскацца, старычок, як той жабе, на купіну?..»

А, між тым, рознасць між намі, у пераважнай большасці дзецьмі вёскі, Міша заўважаў. І не толькі ў слове, у маўленні, хоць, вядома, найперш, вядома, акурат у гэтым.

Быў ён аднойчы ў мяне ў Слабадзе. На падворку, у дрывотні, у пуньцы, у якой мы начавалі на капе свежага сена, Міша раз-пораз пытаўся пра нашы, мясцовыя назвы прылад, начыння, розных пасудзін, жэрдак у плоце, пралётаў між слупкамі, пазоў і вуглоў зведзеных у вянкі бярвенняў хаты і гаспадарчых будынкаў, тут жа згадваючы свае мясцовыя, сычынскія, прапойскія і наогул магілёўскія назвы. Аднолькава радаваўся і супадзенням, і рознасцям, асабліва, калі тая ці іншая рознасць мела ўсё ж адзіныя ці падобныя зыходныя карані.

Угледзеўшы прыржавелы пасля даўнаватага ўжо вясновага ворыва плуг пад сцяной дрывотні, папытаў, як у нас завуць яго вострую ніжнюю частку, лязо, што рэжа зямлю. «Нарог», — кажу. «А ў нас — лемеш. А яшчэ — бык, старычок! А сэнс адзін і той жа: рогам, валовым, бычыным рогам пароць, успорваць зямлю, раллю. Ах, якія мондрыя былі нашы продкі, старычок! Якія паэты!» — і Міша сцішана смяяўся, нейк загадкава-хораша жмурыў, бы ад цыгарэтнага дыму, вока.

Упадабаў ён маму. Нават пацалаваў ёй руку, калі мама падала на стол сваю каронную, можна сказаць, страву — засмажаны ў печы ў масле сыр, папярэдне добра-такі, да жаўцізны, падсушаны. Мама страшэнна збянтэжылася ад такога Мішавага парыву. А ён пасля сказаў мне задуменна і вельмі расчулена-пранікнёна: «Якія яны аднолькавыя, старычок, нашы мамы!..»

Я ў Мішы ў Сычыне не быў, але маму яго ведаў. Яна прыязджала ў Мінск, і мне надаралася быць у Мішы акурат у такія моманты, надаралася гутарыць і слухаць яго Марыю Міхайлаўну, і я ўслед за Мішам мог бы паўтарыць: «Якія яны аднолькавыя, нашы мамы!»

Ведаў я і сясцёр Мішавых — прынамсі, Валю і Ніну. Яны таксама неаднаразова прыязджалі ў Мінск, гасцявалі ў брата, і Міша часам запрашаў і мяне на тыя гасціны. Абаяльныя, прыгожыя былі дзяўчаты. Валя, калі не блытаю, была больш падобна да Мішы, чым Ніна. Абедзьве вылучаліся, як і іхні брат, нейкай невясковай выхаванасцю, інтэлігентнасцю, а ў дадатак і вабнасцю.

Бацькі ж Мішавага, Лявона Клімавіча, бачыць не давялося. Але чамусьці думаецца, што Міша і знешне, і ўнутрана шмат узяў акурат ад яго, вясковага настаўніка. Магу, вядома, і памыляцца, але нешта ўва мне — цьмянаватая згадка аб скупой і нешматслоўнай любові Мішы да бацькі — гаворыць за тое, што так яно і было.

Дарэчы, Міхась стаў Лявонавічам з цягам часу, можна сказаць, у апошнія гады жыцця. Дый то гэтак звалі яго сябры, калегі-пісьменнікі і добрыя знаёмцы. Афіцыйна ж ён быў Лявонцьевічам, а бацька, адпаведна, Лявонціем Клімавічам. Бацькава імя якраз і гаварыла аб тым, што Міхасёва малая радзіма — на ўсходзе Беларусі, бліжэй да мяжы з Расіяй. Толькі там мог быць Лявонцій ды яшчэ Клімавіч! Многае ўзяў Міша ад бацькі, ды ўсё ж за выняткам ці не галоўнага для яго — мовы, беларускага слова. Тут прэрагатыва была, вядома, за маці і за мат-

чыным бацькам — дзедам Міхалам. Ці не ў гонар дзеда атрымаў Міша сваё імя? Па ўсім, так. Мне чамусьці хочацца іменна гэтак думаць. Ну хоць бы таму, што і сам я таксама атрымаў сваё імя ў гонар дзеда, матчынага бацькі Мікалая Давыдавіча. Дзеда Міхала Міша любіў, часта згадваў яго і ягоную пасеку, сваё жыццё ў маленстве ў дзедавай хаце. І таму зусім невыпадкова, што ці не самы пранізліва-шчымлівы твор Міхася Стральцова, пра што я ўжо казаў вышэй, — пра дзеда Міхалку. Маецца на ўвазе, вядома ж, аповесць «Адзін лапаць, адзін чунь»…

Але ж вярнуся на колькі гадоў назад, балазе, гэтыя нататкі сапраўды пакліканы найперш згадкамі маладосці.

К канцу ўніверсітэта Міша ўжо займеў, як кажуць, літаратурнае імя, і таму, натуральна, без нейкіх асаблівых турбот трапіў на працу ў «ЛіМ». Гэта для яго аблягчалася і той акалічнасцю, што Міша паспеў да тае пары ажаніцца і стаць законным мінчуком, гэта значыць, набыць пастаянную мінскую прапіску. Жонкай ягонай стала Галя Зязюлькіна, мінчанка, студэнтка педінстытута. Хлопцы нашы хадзілі туды, у педінстытуцкі «жаночы манастыр», на танцы. От там Галя і кінулася Мішу ў вока.

Зрэшты, мо і не так было. Зусім не на танцах пазнаёміўся Міша з Галяй. Мішу, як сыну настаўніка, паводле тагачасных законаў так і не далі інтэрната. Нейкі час ён сяк-так перакідваўся, начуючы ў пакоі то аднаго аднакурсніка, то другога: ці ўдвух на вузкім студэнцкім ложку, ці, ссоўваючы два ложкі, кладліся ўтрох. Урэшце вымушаны быў шукаць прыватнае жытло. І знайшоў яго на вуліцы Чыгуначнай, у адной з кватэр двухпавярховага дома барачнага тыпу. Ці не ў сям'і Зязюлькіных? А ў іх была дачушка-студэнтачка Галя. Вось вам і знаёмства, вось вам і завязка з будучаю развязкаю. Выпадковыя, як усё ў жыцці.

Ды, урэшце, якая розніца, дзе і якім чынам яны пазнаёміліся і хто каго знайшоў? Факт застаецца фактам: студэнтам трэцяга курса Міша пабраўся з Галяй, чарнявай і кучаравай мінчаначкай, дачкою вайсковага адстаўніка з мілагучным і надта ж наскім прозвішчам Зязюлькін. І неяк надта ж хутка (ці гэтак толькі здаецца на чужое ўспрыманне) нарадзіліся ў іх дзве дачушкі-красуні (ці не пагодкі?) Віка і Ніка, на поўны лад — Вікторыя і Вераніка, якіх Міша любіў самазабыўна. А з гадамі гэтак жа моцна ганарыўся імі, найперш, як часцей і бывае, малодшай, Веранікай, якая ўзяла ад бацькі не толькі прыгажосць і абаяльнасць, але і талент — стала ўдумлівым, назіральным, з тонкім і глыбокім (акурат стральцоўскім!) адчуваннем спецыфікі мастацтва слова, наогул краснага пісьменства крытыкам-літаратуразнаўцам.

Ды гэта я зноў пабег, як у маладосці, наперад…

А тады, памятаю, пасля другога курса паехалі мы з Мішам на першую журналісцкую практыку — у «вялікі» горад Дзяржынск паблізу Мінска (былое Койданава), у раённую газету. Прызначылі нас ў сельгасаддзел. Не ляжала да тэм і праблем гэтага аддзела душа ні ў Мішы, ні ў мяне: трэба было пісаць пра касьбу (нарыхтоўку кармоў), пра пасьбу кароў і надоі малака, праполку буракоў, падрыхтоўку тэхнікі да жніва… Але ж — пісалі. Каб трошкі разнастаіць гэтую надта ж посную тэматыку, прыдумалі для суботняга нумара рубрыку «Сёе-тое», дзе друкавалі кароценькія аповеды-замалёўкі пра розныя жыццёвыя здарэнні ды выпадкі, не так сумныя і трагічныя, як вясёлыя і смешныя.

Непасрэдным нашым начальнікам быў дужа сур'ёзны і заклапочаны загадчык аддзела, старэйшы за нас на гадоў восем Міхал Майсеевіч Замскі, які бязбожна крэсліў і нават перапісваў нашы «матэрыялы» і быў, па ўсім, зусім не задаволены такімі сваімі памочнікамі-практыкантамі. І дайце веры! Прабеглі-прамільгнулі гады, і Замскі, неўзабаве ўслед за мною аказаўшыся ў «ЛіМе», узначаліўшы там аддзел публіцыстыкі, ужо прыносіў сваю журналісцкую «прадукцыю» мне — як адказнаму сакратару, намесніку галоўнага і ўрэшце як галоўнаму рэдактару.

Жылі мы ў Койданаве — прабачце, Дзяржынску — не ў гасцініцы, хоць і была такая ўстанова ў тагачасным занядбаным райцэнтры. (Дарэчы, у 20-я гады

мінулага савецкага стагоддзя Койданава было нейкі час цэнтрам «нацыянальнага польскага раёна». Праз трыццаць гадоў у койданаўскіх вёсках мы з Мішам не чулі аніякай польскай мовы, з чаго рабілі выснову, што яе там ніколі і не было, а быў польскі касцёл, які змушаў тутэйшых беларусаў сяды-тады «пшэкаць»). Жыць у гасцініцы было дарагавата, таму жылі мы на чыста вясковай пясчанай вуліцы кватарантамі ў хаце, дзе былі гаспадар з гаспадыняю, іх сын-пяцікласнік і бабуля — ці то цешча гаспадара, ці то свякруха гаспадыні. Гаспадара дома амаль не было, ён, здаецца, рабіў на чыгунцы, гаспадыня таксама ад цямна да цямна прападала на працы у КБА (камбінат бытавога абслугоўвання), таму часцей стыкаліся мы з бабуляю і ейным унукам, якія пастаянна сварыліся на… рэлігійнай глебе. Бабуля прымушала ўнука чытаць Біблію, а ён аднекваўся, не паддаваўся і ўпарта даказваў ёй, што ніякага Бога няма і што Біблія ніякая не святая кніга, а зборнік казак і небыліц. Сварка іхняя нас з Мішам пацяшала і весяліла, мы згадвалі гумарыстычную «Біблію» Кандрата Крапівы, часам знарок падтрымлівалі то бабулю, то ўнука. Я нават напісаў нешта кшталту гумарэскі «Бабуля, унук і Біблія» для тае нашай рубрыкі ў раёнцы, але, здаецца, яна не была надрукавана...

Туды, у Дзяржынск, да Мішы прыязджала Галя. Яшчэ не жонкаю, а, паўтару ўслед за слоўнікам, залётніцай. Тым днём, сонечным, спякотным, я быў, як казалі ў рэдакцыі, на раёне. Вяртаўся ў Дзяржынск пешшу (нейкі час ішоў берагам невялікай, але вельмі маляўнічай рэчкі Усы). І, дадыбаўшы ўрэшце ў райцэнтр, спаткаў іх — Мішу і Галю — на вуліцы: ён ужо праводзіў яе на станцыю. Мне падалося, што між імі няйнакш прабегла кошка — Міша, і без таго не весялун, быў нейкі асабліва пануры, нават ці не злосны.

Зрэшты, мо і не згадалася б гэта наогул, калі б не знаццё, што іхні саюз, нягледзячы на тое, што быў змацаваны дзвюма дочкамі, аказаўся ўсё ж недаўгавечным. Ніхто тут ім, Мішу і Галі, не суддзя. Мо не лепшым сямейнікам стаўся Міша — душа ягоная лунала ў іншых вышынях, чыста гаспадарчыя, так званыя побытавыя праблемы займалі яго, па ўсім, мала. Мо і Галі штосьці перашкодзіла стаць сапраўднай «спутницей поэта» — доля гэта нялёгкая, складаная, надзвычай адказная і не кожнаму падуладная. Не бяру грэх на душу казаць тут нешта пэўнае і я, хоць сёе-тое чуў і бачыў, не аднойчы бываючы ў Мішы з Галяй і тады, калі яны яшчэ жылі ў бацькоў на вуліцы Розы Люксембург, і тады, калі Міхась атрымаў двухпакаёвую кватэрку ў блочным доме на вуліцы Чарнышэўскага, і тады, калі іхняя сям’я пераехала ўрэшце ў трохпакаёўку (таксама малалітражку) паблізу так званага «Конскага базару» ў раёне бульвара Шаўчэнкі. Ніякіх трацейскіх суддзяў тут сапраўды быць не можа, і таму загадзя прашу прабачэння ў Галіны Сямёнаўны, а заадно і ў Міхасёвых дачок, калі раптам неўспадзеў пакрыўдзіў іх самою гэтаю згадкаю.

Той паўвекавой даўнасці прыезд Галі ў Дзяржынск, той момант, калі Міша падаўся мне не толькі чымсьці засмучаным, але нават і злосным, прыпомніўся, бадай што, зусім з іншае прычыны. Хацелася яшчэ раз сказаць, падкрэсліць, што Міша ніколі не быў весялуном-рагатуном. Пачуццё гумару меў уга якое, любіў жартаваць і дасціпнічаць, але — не беспрычынна, пустога зубаскальства не прымаў і не цярпеў. Як і гумару, саштукаванага вакол таго, што ніжэй паясніцы і вышэй каленяў. З выстаўленага пальца не смяяўся. Гумар любіў тонкі, які трымаўся на нюансах і выклікаў не рогат, а тую самую згаданую ўжо датычна да Мішы сцішаную, то цалкам шчырую, то злёгку прыхаваную, з акрасам ледзь улоўнай іроніі, усмешку.

Увогуле Міхась быў чалавекам больш мінорнага, чым мажорнага складу. І ці не ўсе творы ягоныя, як у прозе, так і ў паэзіі, маюць адценне ціхай светлай журбы-смутку, аднак жа не роспачнага, а, тым больш, не трагедыйнага гучання. Ён умеў бачыць весялосць, як сам пісаў, «у восеньскай журбе» і светлы спадзеў на лепшае ў цяжкія хвіліны тугі і адчаю. І ў рэшце рэшт з ім, пры ім нам, ягоным сябрам нашай агульнай маладосці, было ўтульна і няскрушліва. Ягоную нешмат-

слоўную і неназойлівую, а тым больш ненавязлівую дабрыню і падтрымку памятаюць многія і ўспамінаюць Міхася добрым словам шчырае ўдзячнасці.

Шчаслівы і я, што ад самага пачатку знаёмства цягам доўгіх гадоў апекаваўся ім. Вельмі ўдзячны я лёсу за тое, што ў свой час трапіў на працу ў «ЛіМ» і зрадніўся з ім на ўсё, фактычна, жыццё, аддаўшы пісьменніцкай газеце амаль чатыры дзясяткі гадоў, прайшоўшы там, як не раз казаў, усе рэдакцыйныя службовыя прыступкі: ад шараговага літраба да галоўнага рэдактара. А з чые падказкі, з чые добрае рукі? Ніколі не забуду кароценькае Мішава пісьмо, што адшукала мяне ў роднай Слабадзе на сконе 1960-га ці на самым пачатку 1961-га, у якім было ўсяго некалькі радкоў, і сярод іх такія: «Дай лёгкага выспятка мясцовай Дульсінеі і джгай у Мінск: у «ЛіМе» вызваляецца месца, і яно лёгка можа перапасці табе».

Я, вядома ж, паджгаў у Мінск, хоць і без асаблівага спадзеву. І што? Апынуўся ў «ЛіМе»! Новы рэдактар газеты Нічыпар Еўдакімавіч Пашкевіч і з дасюль не надта зразумелае ласкі ўзяў мяне на працу, за што я, свінтус, як след яму так і не аддзячыў. (А ён жа, Нічыпар Пашкевіч, разумны, таленавіты і слаўны чалавек, цягам гадоў не толькі пасоўваў мяне ўгору па лімаўскай службовай лесвіцы, але і выбіў для мяне, халасцяка на той час, аднапакаёвую кватэру!)

Дык вось. Браў мяне на працу Нічыпар Пашкевіч. Але, пэўна, прыклаў да гэтага руку і Міша. Гэта ж акурат ён вызваліў у «ЛіМе» месца для мяне, перайшоўшы той парою на працу ў часопіс «Полымя». Ён, па ўсім, замовіў за мяне і слова перад Нічыпарам Еўдакімавічам. Па ўсім, так яно акурат і было.

Апекаваўся Міша мною і пасля. Прынамсі, з яго дапамогай у тым жа «ЛіМе» быў надрукаваны першы мой, практычна чыста інфармацыйны, допіс. З яго благаславення пабачыла свет у часопісе «Маладосць» (Міша тады ўжо працаваў там) падборка з трох першых маіх апавяданняў. Не без яго падказкі, а практычна з ягоным удзелам нарадзілася і першая мая кніжачка «Ранішнія сны».

Шмат гадоў і пасля Міша не абдзяляў мяне сваёй шчырай і зацікаўленай увагай, добрым словам сяброўскае падтрымкі. Дарагія і памятныя пазнакі гэтай увагі і падтрымкі і сёння са мною. Сярод іх, да прыкладу, хоць бы тыя ж дарчыя надпісы на падораных мне ягоных кніжках, пра некаторыя з якіх я ўжо згадваў.

Стаіць у мяне на паліцы яго зборнік літаратурна-крытычных артыкулаў «Жыццё ў слове». Гэтак ён назваў кніжку, маючы на ўвазе тых празаікаў і паэтаў, пра якіх пісаў. Але з яшчэ большым правам гэтак можна (і належыць!) сказаць пра яго самога. Міша сапраўды, паўтару гэта яшчэ раз, жыў у слове і, бадай, словам. Яно было ягонай нязменнай любоўю, яно давала спажыву ягоным думкам, развагам, уяўленням, абуджала пачуцці і мроі, наталяла душу і — часта — цела, бы самая што ні ёсць фізічная ежа. Прынамсі, добрая кніжка, жывое слова майстра гэтак бралі яго ў палон, што Міша сапраўды мог забыцца на тое, што даўно мінуў час абеду ці вячэры.

Адгортваю вокладку кніжкі і чытаю напісаныя круглым, лёгкім, імклівым і вельмі пазнавальным Міхасёвым почыркам радкі: «Мікалаю Сымонавічу Гілю (Гілевічу) — крытыку, празаіку, публіцысту, гаспадару ўласнай кватэры, але, на жаль, халасцяку, — з добрымі пачуццямі. 2.02.67. М. Стральцоў». Прачытаю і сапраўды з добрымі пачуццямі зноў згадаю яго, незабыўнага сябра юнацтва й маладосці, са светлай скрухай пасміхнуся з некрыўдлівай Мішавай іроніі адносна крытыка, празаіка і публіцыста, і спуджана схамянуся ад раптоўна-знянацкага ўсведамлення, што напісана гэта Міхасёвай рукою больш чым сорак гадоў назад і што самога яго няма ўжо больш чым дваццаць.

Яшчэ больш шчымлівыя пачуцці выклікае Міхасёў аўтограф на кніжцы «Загадка Багдановіча». Ён такі: «Дарагому Міколу, думаючы пра тое, што ў жыцці і ў творчасці павінны быць загадкі. Каб іх не было, іх трэба было б выдумаць. Дружба — загадка і таямніца. Яна і жывіцца загадкай. Трэба сябраваць. 12.VI.70. М. Стральцоў». Тут мне сёння ўжо не да ўсмешкі. Агортвае пачуццё сораму і дакору — датычна сябе. Пэўна, не лепшым я быў сябрам. Па маладой легка-

думнасці не ўмеў сябраваць. Гэта толькі з гадамі прыходзіць разуменне і цвёрдае ўсведамленне таго, што сябры — ці не найбольшы, найдарожшы душэўны набытак чалавека, што акурат у сябрах жыве нашая маладосць (бо сябры знаходзяцца толькі ў маладыя гады), што страта кожнага з сяброў — гэта тваё асірочванне, гэта страта часткі сябе.

Ды надпіс гэты скіроўвае думку і пачуццё і ў другім кірунку. «Загадка Багдановіча» — лепшае з напісанага Стральцовым-крытыкам. І не толькі ім самім. Гэтае літаратуразнаўчае эсэ адна з узорных дзялянак нашай крытычнай нівы. З ім поруч можна паставіць хіба толькі эсэ Алеся Адамовіча пра Максіма Гарэцкага — «Браму скарбаў сваіх адчыняю». Ці наадварот: поруч з адамовічаўскім — стральцоўскае. Міша любіў, як брата, Максіма-кніжніка і сам быў, па сутнасці, ім. Найперш, вядома ж, у літаратуры і для літаратуры. Для нашага краснага пісьменства. Яго духоўнага, інтэлектуальнага, ідэйна-эстэтычнага напаўнення і ўзбагачэння. Услед за Купалам Міша маліўся «роднаму загону Беларусі», але ўслед за Багдановічам засмучаўся, калі ў жыце няма васількоў. Не сілячыся і не надта хілячыся падымаць «звышнадзённую тэму» і не пазбываючыся «лірычных трантаў», Стральцоў-паэт (ды і празаік таксама) патаемна-сардэчна жадаў-марыў:

> «Мне б так сказаць: “Я здолеў заручыць
> Сябе з уласнай думкай, і свой голас
> Птушынай песняй здолеў надтачыць,
> Сабраў расу, якою ўмыўся колас”».

Гэтак «плакаўся» Міхась дарма. Ён здолеў, зрабіў, дасягнуў усяго: і заручыў сябе з уласнай думкай (чужых не запазычваў), і надтачыў свой голас птушынай песняй, і сабраў расу, прытым акурат тую, «якою ўмыўся колас» жытнёвым летнім золкам.

Але Міхась і сваім чалавечым лёсам быў блізкі Максіму. Прынамсі, быў гэткі ж, па сутнасці, адзінокі. Нягледзячы на тое, што меў немалое кола сяброў, калег, знаёмцаў, што не быў абдзелены і дзявоча-жаночай увагаю. Душа яго, па ўсім, была асуджана на адзіноту, і таму — прагнула яе, схілялася да яе, не прымаючы людскога гаму, тлуму, мітусні, часцей за ўсё пустых і нікчэмных. Максім сапраўды быў адзінокі, а Міша — адчуваў сябе адзінокім, аднак жа і адно, і другое прыгнятае аднолькава.

А што да другога Максіма — Гарэцкага, дык, мне здаецца, Міхась і пра яго меў намер і жаданне напісаць, разгадаць і ягоную загадку, тайну ягоных «дзвюх душ», і напісаў бы, пэўна (паспеў напісаць толькі сціслае, але надта ж пранізлівае, улюбёна-шчымлівае, шчодрае на думкі і назіранні эсэ «Чалавек з Малой Багацькаўкі»), калі б гэтага не зрабіў згаданы вышэй, на дзесяць гадоў старэйшы і больш вопытны Алесь Адамовіч, чаму Міхась быў, ведаю дакладна, вельмі рады: «Браму…» ён высока цаніў і захапляўся ёю.

А яшчэ такой жа асаблівай любоўю Міша любіў Паўлюка Труса: за чысціню і шчырасць ягонага голасу, за народны склад ягонай маладой песні-споведзі і нават за тое, што ўздзенскі хлопец адкрыта, не хаваючыся, перапяваў, часам надта ж блізка, разанскага «парня» Сяргея Ясеніна.

Валянцін Тарас у сваіх успамінах згадвае, як хадзіў з Мішам на магілу Паўлюка Труса. Я магу сказаць тое ж самае. Міша і мяне вадзіў туды, і мы з горыччу гаварылі пра надта ж непаглядны помнічак на магіле такога юнага і такога слаўнага, прыгожа-кучаравага паэта, улюбёнца ўсяе тагачаснае — другая палова 20-х гадоў XX стагоддзя — беларускае моладзі, і пілі віно з дастаных Мішам аднекуль, бы сапраўды з-пад помніка, шклянак. І з Мішавых слоў тае гаворкі на магіле Паўлюка вынікала нібыта, што ён хацеў бы напісаць кніжачку (так і казаў — кніжачку) і пра Паўлюка Труса з ягонай загадкаю той усеагульнай любові пераважна вясковай тады беларускай моладзі да паэта, жыццё якога гэтак рана раптоўна абарвалася. Штосьці такое памятаецца з тых нашых адведак Паўлюка, нешта такое Міша гаварыў там, ля паэтавай магілы.

Згадаю тут, калі ўжо зайшла гаворка пра двух Максімаў, і тое, што Міхась аднойчы далучыў да іх і трэцяга нашага Максіма — Максіма Танка, і параўнаў, ці супаставіў трох беларускіх Максімаў з адным расійскім. Памятаю тое выразна, бы сёння. Праўда, калі гэта было, у якім канкрэтна годзе — не скажу, а што было, і было ў маім лімаўскім пакоі-кабінеце, дык гэта дакладна.

Забег Міша да мяне надвячоркам. Цвярозы. Але з відочным намерам «прычасціцца», бо ці не з парога папытаў:

— Ёсць, старча, якая пяцёрка ў кішэні? Твая ж, здаецца, не выграбае…

Пяцёрка акурат і была. Міша, атрымаўшы яе, тут жа выйшаў, сказаўшы:

— Я хутка. Адна нага — там, другая — тут.

Вярнуўся ён сапраўды хутка. Зачыніўшы за сабою дзверы, папрасіў-параіў:

— Прымкні, старычок. Спакайней будзе.

Калі я выканаў гэтую просьбу-параду, Міша дастаў з кішэняў дзве пляшкі «чарніла», плаўлены сырок і пяток карамелек. Ставячы і выкладваючы ўсё гэта на стол, трошкі хапатліва, але амаль шчасліва патлумачыў:

— Пасядзім, старычок, пагамонім. Гарэлкі не браў. Гарэлка куляецца, а вінцо — п’ецца. Нават цэдзіцца, старча. Мыслівец сказаў бы — смокчацца. І няхай сабе. От мы з табою, старычок, па старой звычцы і пацэдзім, і пасмокчам, і падымім заадно.

Мы за тымі «бутыленцыямі», як ласкава велічаў Міша бруднавата-карычневыя пляшкі, ажно ацямнелі, і пакінулі мой кабінет пад настойлівыя напаміны прыбіральшчыцы — яна замыкала і адмыкала памяшканне рэдакцыі. Пра што толькі не гаманілі! Пра дзяцей і жонак, пра жыццё-быццё і розныя яго звады-перапады, і пра літаратуру, вядома ж, пра нашу няшчасную, вясковую літаратуру і яе творцаў, у пераважнай большасці таксама лапатнікаў-вяскоўцаў. Лапатнікаў, на жаль, не толькі па паходжанні, але, часта, і па ўзроўні мыслення і, адпаведна, творчасці. Міхась, не перастаючы ні на хвіліну цмыгаць цыгарэтаю, гаварыў-разважаў:

— Інтэлігенцыя — расійская выдумка, старычок. А ў нас была шляхта. От і ацэньвалі каго ці што: шляхетны чалавек, шляхетны ўчынак… У Расіі так званым дваранствам ганарыцца не выпадала, бо дваранін найперш — памешчык-прыгоннік. Помніш, старычок, як наш Кастусь нават пад шыбеніцай абурыўся-запратэставаў: «У нас няма дваран, у нас ўсе роўныя!»? От і прыдумаў гаспадзін Бабарыкін слоўца «інтэлігент». І як жа яно хуценька прыжылося, як упадабалася! І як прыдалося, дружа! Ужо ці трэба, ці не трэба — яно на языку: інтэлігент! І зборнае паняцце — інтэлігенцыя. Дваранства ўжо на другім плане, урэшце яго і зусім як не стала, знікла, прапала, вымерла-вырадзілася. Дарогу інтэлігенту-разначынцу! Гэтак, старычок, у Расіі-матухне. Ці мачысе, браце? Калі Бабарыкін прыдумаў слова? Недзе ў 80-я гады? А ўжо Чэхаў вунь як бэсціў рускую інтэлігенцыю, называючы яе фальшывай, хлуслівай, істэрычнай, нявыхаванай, лянотнай і нават неадукаванай. І не верыў ёй сапраўды інтэлігентны Антон Паўлавіч нават тады, калі яна пакутавала і скардзілася, бо лічыў, што і крыўдзіцелі яе выходзілі з яе ж нетраў, старычок… А ў нас тым больш яна аўняная. Шляхту, а гэта, лічы, палову народа, спольшчылі-вынішчылі і зрусіфікавалі-вынішчылі. А хто застаўся? Лакей, парабак, здольшчык. Здольнікі, старычок! Вось нашы разначынцы. І куды яны імкнуліся, на каго раўняліся, да каго хінуліся? Ужо да польскай шляхты, а пазней — да расейскага каланізатара: чыноўніка, настаўніка, папа. І толькі самыя жыватворныя сягалі да каранёў і змаглі ўсвядоміць сябе прадстаўнікамі свайго народа. Як наш Максім, сын Адамаў, старычок... Тымчасове стварыўся грунт, ён аказаўся здатным на ўзгадаванне цэлай плеяды сапраўдных беларускіх інтэлігентаў, якія падрыхтавалі БНР (нас ніхто не чуе, старычок), поспехі адраджэння Беларушчыны ў першыя гады БССР. Але яны не здолелі абараніць свой край і народ. Спачатку пасеклі край (і народ таксама) папалам, а пасля і ўсю, лічы, пад корань, нашу нешматлікую інтэлігенцыю. Тую, каранёвую, угрунтаваную (узрослую на сотнігадовым грунце ахвяраванняў народных)… А сённяшняя

наша інтэлігенцыя, старычок, у тым ліку і пісацельская? Мелкатраўчатая яна, незакаранёная, з наносным, павярхоўным глянцам. А самае горшае, старычок, не стамлюся тое паўтараць — неадукаваная яна. Нават з расійскай, якую ганіў Чэхаў, не параўнаць…

Міхась змаўкаў, бадай, толькі дзеля таго, каб цыркануць з «бутыленцыі» ў шклянкі ды прыпаліць новую цыгарэту. Ён прыкметна хмялеў, у гаворцы ўжо спатыкаўся, асобныя словы не прагаворваў, быццам праглытваў, але «ніць Арыядны» не губляў:

— Максімы нашы, старычок, акурат з нявыразанай дарэшты, з няспольшчанай да канца шляхты. Узор беларусаў, як этнаіндывідаў. Пераемнікі продкаў. А пасля ланцужок парваўся, Шаноўны. Абарвалі, пераселі. Ушчэнт, на друзачкі пасеклі… А Максім — імя для нашай літаратуры знакавае, старычок! Як для рускай — Аляксандр: Аляксандр Пушкін, Аляксандр Грыбаедаў, Аляксандр Блок, Аляксандр Твардоўскі… Трэці Максім у нас — Танк. Танк, проша пана, дурнота, а вось Максім — от цо да! Таксама шляхетны паэт, як і першыя два. Еўрапейскі. Архіталенавіты, мудры і — лукавы. Так, старычок, не хітры, а менавіта — лукавы. Сабе на ўме. Ведае сабе цану. Адно пальшчызнай празмерна захапляецца. Як і дзядзька Брыль, каторы Ян Антонавіч… Імя шмат значыць, старычок. Аднаму — на славу, другому — на здзек. У нашых трох Максімаў пападанне выключнае! Якое імя, такі й чалавек. Ці наадварот, старча: які чалавек, такое й імя... Кожны з нашых Максімаў мог бы пацягацца з самім Максімам Пешкавым-Горкім. А ўтрох, дык, глядзі, і адолелі б! А мы ўсё прыбядняемся, хнычам, румзаем: бедныя, гаротныя, няздатныя, слабыя… «Го! Я сеў бы на каня і паказаў бы яшчэ, чаго варт стары Талаш!» Во — беларус, старычок. Гэта што, выдуманае? Дзядзька Колас не выдумляў. Ён знаў, ведаў, чуствваў… Слабаватае тут «адчуваў», гэтае «ад» і «чуваў»— бр-р… Хе-хе-хе, старычок… Максім, каторы Горьков… А ў нас — тры Максімы! І якія, старча! Волаты! Адзін — Богам дадзены, другі — горам хрышчаны, гарэсны, гарэцкі… А трэці Максім, дык ажно Танк: усіх давіш! Як мядзведзь у казцы… Не, старычок, гэта ўсё невыпадкова, што такая вось тройца Максімаў… А Кузьма — адзін. Не схацеў быць Мікалаем Раманоўскім — стаў Кузьмой, ды яшчэ й Чорным. А чаму? А ці не меў на ўвазе, старычок, от гэта, народнае: «На свеце, сынку, пажывеш, дык і Кузьму бацькам назавеш»? Жартую, вядома, старча, але ж яно й цікава, браце-коце, як ты любіш казаць…

А пасля, ажно датуль, пакуль нас папраўдзе не папрасіла прыбіральшчыца пайсці ўрэшце дадому, Міхась чытаў-мармытаў вершы сваіх улюбёнцаў — рускіх паэтаў «сярэбранага веку». Кажу — мармытаў, бо так яно насамрэч і было: чытаў ён не гэтак мне, як сам сабе, ціха, без славутых «с чувством, толком, расстановкой», — акурат мармытаў…

З ягоных вуснаў, дарэчы, упершыню пачуў і дасюль памятаю вось гэтыя фетаўскія радкі:

Не жизни жаль
с томительным дыханьем.
Что жизнь и смерть?
Но жаль того огня,
Что просиял
над целым мирозданьем,
И в ночь идет
и плачет, уходя.

Калі пачуў упершыню, асабліва не ўразіўся, як ні сорамна ў тым прызнацца. Што ж, да разумення такіх вершаў трэба, пэўна, дарасці, мо нават проста — пасталець. Міхасёва ж душа была з тых, якім рана ўсё зразумела. Яму была наканавана ранняя сталасць. Гэта, на жаль, я асабіста зразумеў шмат пазней, з гадамі…

Ды, здаецца, гэта ўжо звыш таго, пра што найперш хацелася і меркавалася распавесці, гэта ўжо выходзіць за часавыя межы згадак маладосці. Пра большае ж

распавядаць — не рашаюся, пабойваюся. Пра Мішу — не, пра Міхася, ды ўжо й Лявонавіча — напісана шмат: ад рэцэнзій і водгукаў на яго першую кніжку «Блакітны вецер» да разгорнутых артыкулаў, творчых партрэтаў, эсэ і манаграфій пры ягоным жыцці і пасля гэткае заўчаснае смерці. Пісалі многія. Пісалі хораша, з вялікаю любоўю і пашанаю да яго самога і ягонай творчасці. Ён быў варты таго. Міхась Стральцоў ніколі фактычна не быў літаратарам-пачаткоўцам, ён адразу сягнуў, як мы, ягоныя сябры, жартавалі, у падкласікі. Казаць «у класікі» не дазваляла Міхасёва маладосць. Малады творца мог быць класікам хіба што пасля смерці — як Максім Багдановіч. Жарты жартамі, а ён сапраўды яшчэ пры жыцці годна прадоўжыў шэраг вялікіх: Купала, Колас, Багдановіч, Гарэцкі, Чорны, Куляшоў, Мележ, Танк, Брыль, Быкаў…

Ён быў інтэлігентны і ў жыцці (тонкі і мяккі, датклівы і далікатны, душэўны і спагадлівы, шчыры ў сяброўстве, чулы і да чужое радасці, і да чужога болю, гжэчны і ў апратцы, і ў паводзінах, шляхетна-выкшталцоны з дзецьмі і жанчынамі), і ў літаратуры (талент яго, пры ўсёй сваёй сіле і моцы, быў невыбуховы, нягучны, можа нават крыху сцішана-далікатны, і творцам — празаікам, паэтам — быў ён, як хтосьці трапна заўважыў, акварэльным, з абсалютным слыхам, выключным адчуваннем слова і з бездакорным, бадай што таксама абсалютным густам). Нікому з калег-пісьменнікаў Міхась не зайздросціў, заўсёды шчыра вітаў любы малады талент і гэтак жа шчыра радаваўся поспехам старэйшых таварышаў па літаратурным цэху і, вядома ж, хлопцаў-равеснікаў, якія ці не ўсе вельмі цанілі ягоную думку-меркаванне і ад душы ўсцешваліся ягонай цёплай, хай сабе трошкі і з прымешкам іроніі пахвалою, кшталту: «А ты, старычок, малайцом… Вераб'і лісцем з яблыні пасля першага шэраню… Сам Брыль можа пазайздросціць…»

Верасаеў пісаў пра А. Пушкіна: «Усё жыццё яго і ўсё шчасце былі ў творчасці. У паэтычную творчасць ён сыходзіў ад жыцця, якога не ўмеў тварыць і ў якім не ўмеў жыць. І гэтая творчая праца давала яму такое шчасце, перад якім непатрэбнай, марнай і смешнай выдавала ўсялякая слава». Гэта ж можна сказаць і пра Міхася Стральцова, прытым цот у цот, як ён любіў казаць. Шчасце ягонае таксама было выключна ў творчасці, а жыццё чамусьці яго часцей за ўсё абыходзіла бокам. Прынамсі, пестуном яго ён адназначна не быў.

Міхась паспеў зрабіць нямала, а галоўнае — гэтак майстравіта, гэтак грунтоўна, з такім, да ўсяго, інтэлектуальным напаўненнем, што пакінуў вельмі значны і прыкметны след у нашай роднай літаратуры, наогул культуры. Пераацаніць ягоны ўнёсак у развіццё нашага краснага пісьменства немагчыма. Гэты ўнёсак сапраўды сувымерны з унёскам класікаў, — скажам, таго ж ягонага ўлюбёнца Максіма Багдановіча. І зусім не перабольшваў Рыгор Барадулін, кажучы з уласцівай яму метафарычнасцю і афарыстычнасцю, што Міхась Стральцоў даў інтэлектуальны пачатак сучаснай яму прозе, пачуццёвую глыбіню эсэістыцы, шырыню і гарызонтнасць крытыцы, акварэльнасць і адухоўленасць паэзіі. На ўсё гэта ён быў здатны, вядома, бо шчодра быў надзелены талентам. А талент, як гаварыў лацінаамерыканец Марыо Варгас Льёса, гэта «нейкая цьмянага паходжання схільнасць — яна прымушае чалавека, няхай то будзе жанчына ці мужчына, усё жыццё дарэшты прысвяціць справе, да якой ён аднойчы адчуў прызванне, можна нават сказаць, штосьці вымусіла яго да яе звярнуцца, і ён раптам усвядоміў, што толькі так — напрыклад, сачыняючы гісторыі — яму і дадзена рэалізаваць сябе, выканаць нейкае наканаванне, скарыстаць лепшае, чым ён адораны ад прыроды, набыць упэўненнасць у тым, што жыццё не расстрачваецца марна». І ў дадатак да гэтага Варгас Льёса згадваў словы Г. Флабера: «Літаратура — гэта лад жыцця. Значыць, той, хто абраў гэтае такое цудоўнае і ўсеўладнае прызванне, той не піша, каб жыць, а жыве, каб пісаць». Гэта таксама цалкам стасуецца і да Міхася Стральцова: ён жыў, каб пісаць. А калі не мог пісаць, тады і не жыў: хандрыў, нерваваўся, рабіўся са сцішана-іранічнага злым і нават зусім не па-стральцоўску з'едлівым і грубаватым, прыкладваўся да тае самае «бутыленцыі»…

Памятаю вечарыну з нагоды ягонага 50-годдзя ў Доме літаратара. Гучала там надзвычай шмат цёплых, шчырых, сардэчных і, вядома ж,— як жа без іх? — пафасна-ўзнёслых слоў. Міхась быў на сцэне, прымаў, як кажуць, кветкі і віншаванні. Але на твары ягоным асаблівае радасці не адбівалася. Быў Міша ўжо цяжка хворы…

Апошні раз я пабачыў яго недзе ў канцы чэрвеня (ці ў пачатку ліпеня) 1987 года каля Дома літаратара. Мы з жонкай ішлі туды абедаць. Міхась сядзеў на вялізным валуне паблізу ганка і, як заўжды, курыў. Мы з Марыяй Міхайлаўнай прыпыніліся, прывіталіся. Міхась гжэчна прыклаўся да рукі мае палавіны. Ён, няйначай, некага чакаў, бо пару разоў быццам азіраўся. Твар быў змарнелы, без ранейшае заўсёднае — у такіх выпадках, прынамсі — скупое ўсмешкі. А сустрэчы з намі быў, па ўсім, рады. Папытаў, як мы самі маемся, як вучацца нашы Максім і Міколка-паравоз (усе знаёмцы акурат гэтак звалі майго малодшага), пажартаваў, што Максіма, стрэўшы неяк на палымянска-лімаўскім калідоры, спачатку й не пазнаў: «Перарос, старычок, бацьку…»

На нешта сур'ёзнае гаворка так і не ўзбілася. Кідалася ў вочы, што хвароба яго не адпускае. Найперш гэта выдавалі вочы — ужо быццам не надта і стральцоўскія — жывыя, з хітрынкай, з ледзь прыкметнай добрай усмешкай, а — згаслыя, сумна-паніклыя, трывожна-роспачлівыя. На жончыну заўвагу, што не трэба сядзець на камені нават летам, можна застудзіцца, Міхась усміхнуўся амаль як раней — хораша і светла — і сказаў:

— Дзякую, Марыська, — і зноў у гжэчным паклоне цмокнуў яе ў руку.

На тым, бадай, і разышліся.

А зноў сустрэліся ўжо калі Міхась ляжаў у труне. І здарылася гэтак, што хавалі яго на Чыжоўскіх могілках 25 жніўня, акурат тым днём, калі маёй Марыі Міхайлаўне споўнілася сорак. Ён ужо нічога не мог ёй сказаць, сваёй амаль што хрэсніцы, бо гэта ж ці не ён першым назваў яе не пашпартнай Марыяй, а — Марысяй, кім яна жыла і жыве дасюль, калі пераваліла ўжо за шэсцьдзесят. А яна, гледзячы на яго прыгожы і амаль зусім малады (прынамсі, нязвычна памаладзелы) твар, ціха і несуцешна плакала: яна любіла Мішу…

Быў і ёсць (і будзе, калі будзе Беларусь) у нашай літаратуры адмысловы творца, выдатны майстар лірычнай і адначасова інтэлектуальнай прозы (адно «Смаленне вепрука» чаго вартае, яно «томов премногих тяжелей»), сапраўды акварэльны паэт, тонкі, удумлівы і ўніклівы, з надзвычайным адчуваннем слова і бездакорным мастацкім густам крытык, бадай што класік, што зусім не абвяргае, а толькі ўсё больш выразна і пераканаўча пацвярджае час, прамінулы з дня яго заўчаснага і такога балючага адыходу.

Ува ўсіх у нас быў, ёсць і будзе (паўтару зноў услед за Караткевічам, тым больш, што Уладзімір Сямёнавіч і Міхась Лявонавіч былі вельмі блізкія і па моцы талентаў, і па трагічнасці лёсаў) выдатны пісьменнік Міхась Стральцоў. Мне ж на схіле жыцця ўсцешна яшчэ і ад таго, што лёс падарыў шчаслівую долю спаткацца і пасябраваць з Міхасём Лявонавічам у незабыўныя гады юнацтва і маладосці, калі ён быў проста Мішам — аднакурснікам, сябрам.

Сёлета яму было б семдзесят…

*Верасень—лістапад 2007 года.*

**Васіль МАКАРЭВІЧ**

# З КАГОРТЫ АПАЛЕНЫХ ВАЙНОЙ

Варта крыху прымружыць вочы, засяродзіцца як след і перад вачамі, нібы з туману, выплывае прысадзістая каржакаватая постаць Уладзіслава Нядзведскага, сапраўднага палешука, радаслоўная якога глыбока і трывала караніцца ў палескай глыбінцы. З выгляду быў ён падобны да касалапага і нетаропкага пушчанскага мядзведзя, які валюхаецца сабе па лясной глушы, думаючы пра мёд ці іншае пушчанскае смакоцце, напрыклад, салодкую маліну ці чарніцы. У. Нядзведскі быў няспешны ў гаворцы і высновах, любіў пажартаваць і ў ахвоту пасмяяцца. Але большасць часу заставаўся ўдумлівы, паглыблены ў самога сябе, і нярэдка, нават тады, калі знаходзіўся ў сяброўскім гурце, пачуваў сябе неяк адасоблена, крыху замкнута і аддалена ад усіх. На гэта меліся свае прычыны. Калі будучаму паэту было крыху за дзесяць гадоў і ўся сям'я, як і дзясяткі жыхароў з іх вёскі Рахавічы, хаваліся падчас фашысцкай блакады ў лесе, карнікі натрапілі на іх след. Бацька з маці і малодшы брат з сястрой загінулі, а яму пашчасціла ўцячы, вырвацца з таго вогненнага пекла. Пасля вайны хлопчык выхоўваўся ў Мікашэвіцкім дзіцячым доме.

Адчувалася, што незагойны боль паэт насіў у сэрцы, але ён ніколі не згадваў пра страшэнную сямейную трагедыю ні ў сяброўскай бяседзе, ні ў вершах, хаця на ўсё жыццё вайна ўвайшла ў яго душу, запомніўся і той злавесны дзень, калі ён страціў бацькоў.

Сустрэўшыся дзе-небудзь каля Дома друку ці ў іншым месцы, У. Нядзведскі ўзнімаў угору вочы і, мружачыся ад сонца, пытаўся: «Ну, як разьба па дрэве?» Гэта значыла: «Ну, як творчыя справы?» Мог яшчэ спытаць і так: «Як з прывязкай на мясцовасці?» Толькі дасведчаныя ведалі, што гэта пытанне было, як удакладніў аднойчы паэт, з рэпертуару падпалкоўніка, які вучыў артылерыйскай справе і мудрасці студэнтаў, у тым ліку і У. Нядзедскага, ва ўніверсітэце, дзе мелася ваенная кафедра. У. Нядзведскі не вельмі дружыў з матэматыкай, без якой не магла абысціся артылерыя, і падпалкоўнік кожны раз, пабачыўшы перад сабой студэнта, пытаўся: «Ну як з прывязкай на мясцовасці? Вызубрылі, таварыш студэнт?» Нядзведскі ўскідваў руку і адказваў: «Так точна, таварыш падпалкоўнік!» Выкладчык з ваеннай кафедры заставаўся задаволены і, спытаўшы яшчэ, колькі напісаў вершаў і ці хутка з імі пазнаёміць, пахвальна ляпаў па плячы студэнта.

Пра вершы палкоўнік пытаўся знарок, бо ведаў, што Нядзведскі не вельмі любіў чытаць уголас ні свае, ні чужыя радкі. З паэзіяй яму цікава было заставацца адзін на адзін, без чыёй-небудзь прысутнасці. У такія хвіліны ён аддаваў ёй усю сваю ўвагу, наталяў і праганяў смагу словам, якое любіў і шанаваў, насіў за пазухай, як зімовае птушаня, адаграваючы ўласнай душой.

Невыпадкова з'явіўся на свет і першы верш Нядзведскага. Абставіны, якія папярэднічалі яго з'яўленню, нагадвалі дэтэктыўную гісторыю. Справа ў тым, што верш быў прысвечаны каменю. Канечне, не абстрактнаму, а зусім канкрэтнаму, што ляжаў у райцэнтры пасярод вуліцы. Ён быў па-свойму загадкавы і знакаміты. І перш за ўсё тым, што ляжаў сярод вуліцы гарадка, якраз насупраць раённага аддзялення міліцыі. Камень кідаўся ў вочы кожнаму прахожаму і ўсім

тым, хто праязджаў на калёсах. Справа ў тым, што камень быў падобны на круглы жарнавік. Як ён апынуўся там, ніхто не ведаў і не мог сказаць нічога пэўнага. Многія жыхары райцэнтра марылі завалодаць гэтым каменем. Калі б ён атабарыўся дзе-небудзь на суседняй вуліцы ці ў завулку, яго б толькі і бачылі! Але ж ён ляжаў насупраць будынка, у якім месцілася міліцыя, лічы, пад вокнамі самога начальніка гэтай строгай установы. Таму для ўсіх заставался толькі зайздросна пазіраць у бок каменя ды праходзіць міма. Гарэў зуб і ў гаспадара хаты, дзе кватараваў Уладзіслаў. Аднойчы на падпітку гаспадар не вытрымаў і пашкадаваў уголас: нізашто прападае каля міліцыі камень! А такую карысць мог бы прынесці яму ў гаспадарцы! Гэта не камень, а залаты самародак. Сам просіцца ў жорны. Але як яго выкалупаць ды выхапіць з-пад рук у начальніка міліцыі?

Уладзіслаў паслухаў гаспадара і вырашыў зрабіць для яго сюрпрыз. Апоўначы ўзяў пад паветкай ломік, дайшоў да будынка міліцыі, азірнуўся па баках, — няма нікога! Імгненна падчапіў ломікам прыгажун-камень і лёгка выкуліў на брукаванку-вуліцу. Для таго, каб панесці яго, не хапала сілы. Паставіў камень рубам і пакаціў дахаты, дзе кватараваў. Перад гэтым выпаў сняжок, але падлетак настолькі быў занята сваім клопатам, што сняжка і не заўважыў. І камень, які ён каціў, пакідаў за сабой роўны і выразны след. Назаўтра ён і прывёў участковага на падворак гаспадара, дзе лёгка адшукаў пад паветкай злашчасны, прыкрыты розным хламам, жарнавік.

Уладзіслаў абышоўся лёгкім, як кажуць, спалохам. Гаспадыня, выціраючы слёзы, сказала, што ён круглы сірата, часам не ведае, што робіць. Нарабіў глупства і на гэты раз. Давялося прыкаціць камень на тое самае месца і пакласці так, як ён і ляжаў дагэтуль. Начальнік міліцыі ўсміхнуўся дый ледзь не пахваліў, што так лоўка з-пад носа раённага аддзялення міліцыі выхапіў не іголку, ці нейкую драбязу, а камень. «Далёка пойдзеш!» — ці то паўшчуваў, ці то пахваліў начальнік міліцыі на развітанне.

Цэлы дзень як усё роўна штосьці шчымела ці балела ў душы і грудзях хлопца, не давала спакою. У галаве круціліся нейкія словы, якія клаліся ў радкі, а радкі ў верш. Нарэшце ён узяў аловак і запісаў на паперу тое, што прасілася з душы:

Калі вы ўбачыце тут, ля міліцыі,
Камень-кругляк, што сабой прыгажун,
Вы на яго, вам кажу, не маліцеся,
Каціце да хаты на жорны валун!

Безумоўна, паэт-пачатковец пасаромеўся прачытаць вершык гаспадару. Той хадзіў нейкі бурклівы і не надта хацеў уступаць у гаворку з падлеткам, які ледзь не падвёў яго пад манастыр. А падлетак, у сваю чаргу, баяўся развярэдзіць душу гаспадара і наклікаць на сваю галаву яшчэ большы гнеў. Што да верша, то ён застаўся ў сшытку. Але ў рэшце рэшт усё ж трапіў на вочы гаспадару.

Як гэта адбылося, Уладзіслаў не ведаў. Можа, гаспадар шукаў паперу для самакруткі і ўзяў у рукі сшытак. Спачатку прачытаў радкі моўчкі, пасля дэкламаваў услых і рагатаў так, што хапаўся рукамі за жывот. Пад канец, торкнуў пальцам ў бок верша і сказаў сур'ёзна і павучальна: «Не кідай вось гэта! Можа, і выйдзе што-небудзь людскае!» Уладзіслаў нічога не адказаў. Ён быў разгублены, што яго таямніца выплыла напаверх. Падлетак не хацеў, каб хто-небудзь ведаў, што ён піша вершы.

Але прыйшоў час, калі хавацца і таіцца далей не мела сэнсу, і ён пачаў дасылаць свае вершаваныя спробы ў рэдакцыі розных газет. І як узрадаваўся, калі адзін з іх быў змешчаны на старонках пінскай абласной газеты. Уладзіславу стукнула тады роўна дваццаць гадоў. Адказваючы пасля на пытанне, чаму ён пачаў пісаць вершы, У. Нядзведскі прызнаваўся, што ў душу вельмі запаў твор Пімена Панчанкі «Балада пра Міколу Сасноўскага», які знайшоў у сорак трэцім годзе ў лесе ў нейкай газеце, скінутай з самалёта.

У 1947 годзе яму пашчасціла пабачыць Якуба Коласа, які перад выбарамі ў Вярхоўны Савет рэспублікі наведаў Мікашэвічы. Тады Нядзведскі і наважыўся стаць паэтам. А праз тры гады ён прыехаў у Мінск і паспяхова здаў уступныя экзамены на філалагічны факультэт універсітэта. На першым курсе многа пісаў, але друкаваўся рэдка — бракавалі. У шматтыражнай ці факультэцкай газеце побач з вершамі паэта змяшчаліся карыкатуры і фельетоны на Нядзведскага. Паэт лічыць, што выхоўвалі яго, як і належыць, не толькі друкаваным, але і вусным словам на розных сходах і пасяджэннях.

Пасля заканчэння вучобы Іван Навуменка спрабаваў уладкаваць паэта ў часопіс і вадзіў да галоўнага рэдактара. Той, як прызнаецца Нядзведскі ў аўтабіяграфіі, сустрэў ветліва, гутарыў доўга і падрабязна, але на працу не ўзяў. Паэт быў лёгкі на пад'ём, махнуў на ўсё рукой і паехаў працаваць настаўнікам на Лагойшчыну. Тры гады аддаў Гайненскай сярэдняй школе, там падрыхтаваў да друку зборнік вершаў «Першыя барозны», які выйшаў у свет у 1958 годзе.

Крытыка, прыглядваючыся да творчасці У. Нядзведскага, дыфірамбы не спявала, але ўскладала на яго такія-сякія надзеі. Справа ў тым, што вершы Нядзведскага былі своеасаблівыя. Іх нельга было зблытаць з радкамі іншых аўтараў. У іх мелася свая інтанацыя, гумарыстычна-саркастычны скептыцызм. Але не з тымі шпількамі, пры дапамозе якіх аўтары імкнуцца зачапіць за жывое, выклікаць у чытачоў недавер, а часам, і грэблівасць. Іронія ў першую чаргу тычыліся самаго аўтара, ён часцей за ўсё кпіў з сябе, але рабіў гэта неяк памяркоўна, далікатна і незаўважна, увесь час настройваючы чытачоў на спакойны лад. Гэта якасць творчасці паэта прыцягвала да яго вершаў увагу аматараў паэтычнага слова, прымушала сачыць за з'яўленнем іх на старонках перыядычнага друку.

Характэрны ў гэтых адносінах верш, дзе гаворыцца пра студэнтаў-выпускнікоў, якім трэба ехаць працаваць у вёску. А з'язджаць з горада, да якога за гады вучобы надта яны прывыклі, ой, як не хочацца. Безумоўна, паэт супакойвае аднакурснікаў, запэўнівае, што ў вёсцы ўсё будзе добра. Самы пераканаўчы довад — гэта тое, што, як гаворыць аўтар: «Сумаваць нам, сяброўка, там не знойдзецца часу. Ёсць кіно, пастаноўкі сёння ў клубах калгасаў». Канешне, У. Нядзведскі адчувае, што аргумент гэты хісткі, слабы. Таму працягвае: «Праўда, опера толькі мала там ужылася. Дык не будзь гэткай строгай: да глыбінных раёнаў мы па карце дарогі адшукаем сягоння!»

Калі гаварыць адкрыта, то гэты верш не больш, чым звычайная гумарыстычная агітка, дзе адчуваўся смех скрозь слёзы. Але яна павінна была дапамагаць ехаць у вёску, дзе культура і дабрабыт не маглі зраўняцца з гарадскімі. У такім разе ўзнікае пытанне: ці не крывіў душою паэт, заклікаючы ехаць выпуснікоў у вёску? Калі гаварыць і ацэньваць па вялікім рахунку, то не вельмі. Паступаючы ў інстытут, юнакі, і дзяўчаты ведалі, што месца іх працы будзе ў вёсцы. Значыць, яны загадзя ведалі, якую навуку і прафесію яны абралі і што іх чакае. І, канечне, хоць і не з вялікай ахвотай, але ехалі ў сяло і рабілі тое, што павінны былі рабіць. Вось толькі дзеля гэтага не заўсёды хапала рашучасці. І паэт у сваім гумарыстычным вершы дапамагаў зрабіць рашучы крок. Такая была тагачасная рэчаіснасць.

Найбольш удаваліся У. Нядзедскаму вершы гумарыстычна-іранічнага характару тады, калі ён звяртаўся да студэнцкага жыцця і побыту. І трэба падкрэсліць, часцей у тых выпадках, калі які-небудзь удала знойдзены вобраз ці мастацкі ход рабіўся ў творы скразным і ў ім прысутнічалі біяграфічныя рысы. Адным з іх з'яўляецца твор, у якім аўтар адразу, як кажуць, бярэ быка за рогі і гаворыць: «Гэты верш — справаздача вось такога характару: аб каханні гарачым аднаго літаратара».

Як бачам, радкі вельмі простыя, без прэтэнзіі на нейкае адкрыццё ці іншыя мастацкія знаходкі. Але з пэўнай інтрыгай. Аўтар абяцае зрабіць справаздачу пра каханне не звычайнага лірычнага героя, а «аднаго літаратара». А гэта ўжо, можна сказаць, сенсацыя. Як вядома, літаратары — цікавыя і своеасаблівыя

людзі. А калі гэта так, то і каханне іх, магчыма, не падобнае на тое, якое бывае ў звычайных юнакоў. І сапраўды, як гаворыць паэт, дзіўна паводзіць сябе герой верша: «Не адзін перапынак прахадзіў калідорам ён, прастаяў пад дзвярыма ля яе аўдыторыі».

Аўтар не адступае ад канкрэтных рэалій, узнаўляе іх з такой дакладнасцю, быццам гаворка ідзе пра звычайную з'яву. Можа, па гэтай прычыне мы яшчэ глыбей пранікаемся той інтанацыяй, якая пульсуе ў радках, дапамагаючы нам адчуць душэўную цеплыню аўтара і ўспрымаць некаторыя рэчы і з'явы з гумарыстычнай усмешкай. Не пакідае паэт ўбаку і жаночую палавіну, яе адносіны да юнака, хваляванні і перажыванні: «А яна пра каханне, пра яго запаветнае не спытае, не гляне… Эх, жыццё бессюжэтнае!» Папутна хочацца заўважыць, што ў прыведзенай страфе паўтор «пра», які ў іншым выпадку можна было б палічыць непатрэбным клінком, што ўжыты для захавання рытмікі, у даным выпадку апраўдвае сябе, як эмацыянальнае ўзмацненне падчас гаворкі пра каханне. Вельмі дарэчы і своечасова гучыць і аўтарскае здзіўленне: «Эх, жыццё безсюжэтнае!» Без яго верш страціў бы раскаванасць і нязмушанасць гучання. Карацей справа даходзіць да таго, што студэнты «…і на сход камсамольскі свайго сябра паклікалі». Чаму так адбылося? Сяброў зацікавіла: «Што за справы ў яго там, чаго дома хаваецца? І чаму цэлы год ён так ад мас адрываецца?» Паэт тонка адчувае мяжу, дзе трэба скончыць гумар. Таму ён гаворыць: «Мо прычыну б і ўскрылі, ды сабраліся там яны, шчыра з ім гаварылі пра вясну і экзамены. Гаварыла дзяўчына, паглядаючы з ласкаю. Гэты сход быў, магчыма, іхняй дружбы завязкаю».

Ніводнага лішняга слова, фальшывай ноты, няма інтанацыйнага збою, нацягнутасці. Мастацкія дэталі выверaны да апошняй рыскі, як па ватэрпасе. Нядзведскі ўмее вылучыць, а пасля і падкрэсліць асобныя моманты ў вершы. Калі сход стаў «іхняй дружбы завязкаю», то, працягваючы скразное вобразнае параўнанне, пра вяселле маладажонаў аўтар гаворыць, як пра кульмінацыю. І кропку ставіць у заключнай страфе: «Над развязкай асобна нават думаць не хочацца: не раней — год за сотню іх каханне закончыцца!»

Верш створаны з такім ашчадным стаўленнем да слова і такой упэўненай майстравітай рукой, што да радкоў вяртаешся зноў і зноў, стараючыся адшукаць і разгадаць сакрэты яго вабнай прыцягальнасці. І нарэшце прыходзіш да адкрыцця, што яны ў выдатным веданні асяроддзя, пра якое піша паэт, а таксама душы і характараў сваіх лірычных герояў.

Тая самая аўтарская цеплыня, даверлівасць і схільнасць да гумару прысутнічае і ў вершы, прысвечаным дому. Але не тому прывычнаму жытлу, які меў амаль кожны, у каго былі жывыя бацькі. Для Нядзведскага родным кутком стаў дзіцячы дом, які сустрэў яго ўвагай і ласкай, адзеў, накарміў і абагрэў, а пасля і пасадзіў за школьную парту. Таму гэты дом для лірычнага героя Нядзведскага і для самога паэта не проста будыніна, а нешта куды большае і значнае. Недарэмна аўтар гаворыць, звяртаючыся да чытача: «Ды толькі мяне не крыўдзі, мой сябра, дарэмна: у доме дзіцячым я кожнай сцяне складаць абавязан паэму». Чаму? Ды па той простай прычыне, што ў дзіцячым доме ён выхоўваўся, рыхтаваўся пайсці ў жыццё. А што можа быць для кожнага з нас даражэй і радней за той куток, дзе прайшло дзяцінства, дзе ў першы раз падлёткамі станавіліся на крыло, спрабавалі яго спрыт і сілу.

Як хараша сказана пра гэта ў вершы Нядзведскага: «І лепей нідзе, вам па праўдзе скажу, чым тут не пасплю я з дарогі, хоць коўдрай кароткай накрыты ляжу і з ложка тырчаць мае ногі». Самай лепшай і каштоўнай аздобай радкоў паэта з'яўляюцца яркія і кідкія крупінкі, якія ён лёгка знаходзіць у былым жыцці, і яны надаюць твору праўдзівасць гучання, дапамагаюць запомніць узноўленую карціну ці які-небудзь эпізод. А як рад былы дзетдомавец сустрэчы з тою, што замяніла родную матулю: «Мяне выхавальніца — гордасць мая — сустрэне і шчыра абдыме: — Прыехаў… — і будзе мінуту стаяць, глядзець, як на роднага сына».

Дырэктар дзіцячага дома таксама расчулены. Але ў яго свая просьба да лірычнага героя, як да сталага мужчыны: «Хачу у паход па раёне цябе паслаць з піянерскай дружынай». І ў заключэнне ўрачыста гучаць словы аўтара: «Я крочу ў паход між лясоў і палёў, за мною ж у гальштуках алых пад горн піянерскі дзяцінства маё ідзе і не хоча прывалу».

Гэты верш — жывы дакумент пасляваеннага часу і сведчанне таго, як і чым жылі і займаліся не толькі дзетдомаўцы, але большасць нашых школьнікаў у сельскай мясцовасці. Нас не бянтэжыць і тое, што два апошнія радкі ў гэтай страфе паэт, здаецца, узяў з закліку піянерскага злёту ці канферэнцыі. Пра што гэта гаворыць? Ды пра тое, што ў душы У. Нядзведскага ідэалагічныя нормы паводзін людзей і мыслення таго часу настолькі глыбокія і натуральныя, што сталі для яго пэўнымі ісцінамі і законамі. Не можа не здзівіць колькасць патрыятычных вершаў, прысвечаных піянерам, камсамольцам, партыі, радзіме, думам Ільіча і інш. Нельга, канешне, і думаць, што Нядзведскі крывіў душою, станавіўся хамелеонам, ствараючы такія творы. Іншая справа, што, пішучы іх, ён не мог вырвацца з палону пэўнага шаблону, што прыжыўся ў вершах такога гатунку. Таму і мова ў такіх творах сухая, канцылярская, пазбаўленая той жывінкі, што радуе душу і зрок.

Часам аўтар ішоў супраць жыццёвай праўды, пярэчыў ёй і, безумоўна, цярпеў творчае фіяска.У вершы, дзе гаворка вядзецца пра хлопца, які не здаў прыёмныя экзамены ў інстытут і разгублены вярнуўся дамоў, паэт вуснамі бацькі суцяшае: «Дарэмна, сынок, засмучоны. Ты хлеб навучыся ў калгасе вырошчваць, хутчэй тады станеш вучоным». Зразумела, што сын не мог не паслухацца бацькі і вырашыў пачынаць свой шлях вучонага з поля. У выніку ў паэта атрымаўся не паўнацэнны твор, а лубок: «Віталі хлапчыну шырокія гоні, да плённае клікалі працы. Ляжалі калоссі ў яго на далоні, як герб на яго атэстаце…»

Уражанне такое, што стаўшы радавым хлебаробам, хлопец закончыў не толькі сельскагаспадарчы інстытут, а не менш, як акадэмію. У вершы жыццёвая праўда падменена выдумкай і фальшыўкай, што шырока культываваліся ў свой час і лічыліся нормай. Безумоўна, падобныя творы не вытрымліваюць праверкі часам і сыходзяць у нябыт адразу пасля іх напісання.

Сярод калег і равеснікаў Нядзведскі не вылучаўся асаблівай творчай пладавітасцю, і тым не менш, з твораў буйнога жанру ў яго набытку маецца некалькі паэм. Радуе той факт, што адна з іх «Хай пустуюць падножкі» створана на аўтабіяграфічным матэрыяле. Па ўсім бачна, што ў творы выкарыстаны некаторыя сітуацыі, у якія аўтар трапляў у дзяцінстве. Трэба сказаць, што сюжэт паэмы настолькі ўмела распрацаваны і падзеі «падагнаны» адна да аднае, што можна толькі падзівіцца.

Пачынаецца паэма з таго, што трое сірот-бадзяг сядзяць на разбітым паўстанку і чакаюць эшалон, на якім можна даехаць да фронту. З’яўляецца «бывалы валацуга» Бражок, каб стаць завадатарам гэтай галаштаннай кампаніі. Аўтар характарызуе кожнага сірату. У Жоры са Смаленшчыны ворагі спалілі бацьку, у Янкі з-пад Гомеля карнікі павесілі брата і сям’ю ўтапілі ў Сожы. Што тычыцца галоўнага героя паэмы, ад імя якога вядзецца аповед, то яго маці фашысты жывой закапалі ў магіле. І вось цяпер, калі фронт грыміць пад Берлінам і ідуць чуткі, што хутка зловяць Гітлера, хлапчукам трэба быць там, «каб сказаць на судзе дазволілі слова» пра злачынствы, што ўчынілі фашысты. Безмоўна, яны не трапляюць на фронт. Ноччу іх знаходзіць сакратар райкама камсамола Барэйка і вядзе ў сваю кватэру перад тым, як адправіць у дзіцячы дом. Далей сюжэт развіваецца па ўсіх законах прыгодніцкага твора. Барэйка выпраўляецца ў раён на заданне, дзе разам з іншымі павінен ліквідаваць лясную банду. Тым часам сіроты ідуць на кірмаш і спрабуюць украсці грошы. Іх затрымліваюць і садзяць у кутузку. Тут яны чуюць жалобную музыку, гэта хаваюць сакратара райкама камсамола Барэйку, які геройчна загінуў пры ліквідацыі банды. І аўтар робіць выснову, без якой у той

час не мог абысціся твор: «Дзе нам ведаць было, што за нашыя сэрцы ён (Барэйка. — **В. М.**) уласнае сэрца падствіў пад кулі, хоць падумаць не мог перад самаю смерцю, ці на правільны шлях мы ў жыцці павярнулі».

Такія строфы, шытыя белымі ніткамі, можна сустрэць і ў іншых месцах твора. Чаму? Можа, аўтару не хапала паэтычнага густу і ён збіваўся на фальшывую інтанацыю? Ды не! Рабіў ён гэтак свядома. Уладзіслаў Нядзведскі добра ведаў, што без ідэалагічных «клінкоў», разлічаных загадзя на літаратурных наглядчыкаў, паэма наўрад ці магла пабачыць свет. Таму ён ішоў на ідэалагічны кампраміс, які дазваляў яму выйсці са складанага становішча.

Што тычыцца самой фактуры паэмы, то ў ёй можна сустрэць шмат дабротна скроеных строф і радкоў, нямала падгледжаных дэталей і рэалій, што сведчылі пра талент маладога на той час аўтара. Праўда, адчуваецца некаторы ўплыў «Сцяга брыгады» і «Прыгодаў цымбал» А. Куляшова. Але да гэтага трэба адносіцца, як да творчай вучобы ў майстра паэтычнага слова, а не як да вучнёўскай залежнасці і пераймання.

Самым удалым і спелым у мастацкіх адносінах буйным творам У. Нядзведскага з'яўляецца паэма «Будні салігорскія». Твор гэты пісаўся як рэпартаж з будаўніцтва салігорскага камбіната. На той час у рэдакцыях нашых часопісаў стала завядзёнкай пасылаць паэтаў на новабудоўлі, якія вяліся ў рэспубліцы. У. Нядзведскі пабываў на будаўніцтве Салігорскага камбіната і парадаваў чытачоў паэтычнымі радкамі. Твор быў змешчаны на старонках часопіса «Маладосць», які прыхільна сустрэла і крытыка, і чытачы. Яго ўспрынялі не толькі як новы крок у творчасці самаго аўтара, але і як значны здабытак маладой нашай паэзіі. Чым жа прывабіў увагу новы твор Нядзведскага? Відаць, у першую чаргу тым, што паэт не стаў займацца штукарствам, пошукамі нейкай незвычайнай формы, што часам пераходзіць у танную гульню, а часам і вычварнасць.

Паэт, які вучыўся ў Куляшова і помніў, што паэму «Сцяг брыгады» ён пачынаў вельмі проста і амаль празаічна, калі не лічыць першага радка, узятага ў Лермантава: «Як ад тонкай галінкі дубовы лісток адарваны, родны Мінск я пакінуў нямецкай бамбёжкаю гнаны», таксама пачаў звычайным прызнаннем: «Я шчыра кажу: не першы, не першы і не апошні палез я, сябры, па вершы у пыл і пясок дарожны». Каму не спадабаецца вось такая размоўна-бытавая інтанацыя, якая настройвае чытача на асаблівы лад і давер, як бы запрашае стаць удзельнікам вандроўкі па новыя вершы? І паэт гаворыць пра дарогу, якая вядзе ў той амаль казачны Сезам, дзе можна знайсці паэзію: «Па шэрым старым камені, дзе кожны галыш, як глобус, па белым крывым карэнні трасе мяне зноў аўтобус». Бачыце, паэт едзе не ў той куток, дзе стаіць «дуб зялёны» з залатым ланцугом, па якім ходзіць «кот вучоны, налева песню ён заводзіць, направа казку баіць ён». Можа, суровая праўда і каструбаватыя радкі, з такімі мастацкімі дэталямі, як «ускінула шаблі увысь кукурузнае войска, дзе з чыста геройскай хваткай з-за пояса, як гранаты, вымае яно пачаткі з даўжэзных чахлоў вусатых» прымушаюць засяродзіцца на сказаным.

Сапраўды, каго не ўразяць такія яркія, каларытныя і выпукла-зрокавыя падрабязнасці своеасаблівай экспазіцыі ці ўверцюры да галоўнай карціны: паказу шахцёрскай працы па здабычы калійнай солі. Цікава, жыва і зразумела гаворыць паэт нават пра тэхнічны бок гэтай справы: «Не хоча зямля спакойна з багаццем сваім расстацца, таму з малатком адбойным патрэбна ў яе ўгрызацца. Патрэбна яе марозіць, каб стала, як камень, цвёрдай, патрэбна ўгару вывозіць астаткі пустой пароды. Упарта за пядзяй пядзя тут крышыцца моц граніту, і ўжо чыгуном абкладзен і цэментам ствол абліты».

Але больш за ўсё Нядзведскага, безумоўна, цікавяць людзі: «Уздрыгваюць злёгку рукі, напружаны моцна мышцы, старога Старобіна ўнукі гісторыю новую пішуць». Вельмі дарэчы гучыць у тэксце нешта падобнае на лірычнае адступленне пра калег: «Я ўспомніў між хлопцаў гэтых, на гэтых саляных копях, як

крытык адзін з паэтам нядаўна ламалі коп'і. Спрачаліся, аж хрыпелі, над вывадам найважнейшым: ці ў рыфму пісаць ці белым, ці шматпавярховым вершам». Якую ж выснову робіць сам паэт са сказанага? Даволі глыбокую і пераканаўчую: «З праходчыкам я паэта хачу параўнаць сягоння». Здаецца, сказана не вельмі нова. Гэта адчувае Нядзведскі і працягвае: «І я уздыхнуў бы лёгка, лічыў бы вялікім шчасцем вось гэтакі след глыбокі, як ён, на зямлі пракласці». Кідаецца ў вочы і тое, што паэт не падрабляецца пад праходчыка і не становіцца на катурны, вядзе гаворку, як роўны з роўным, паважаючы яго працу, звязаную з тэхнічнымі складанасцямі і прамой рызыкай для жыцця.

А далей пачынаецца сапраўдны баль мастацкіх вобразаў і метафар, колераў і фарбаў, якія ўпісваюцца ў агульную карціну, не пагражаючы перагружанасцю і стракатасцю. Паэт бачыць, што «шахцёрская шапка ў куце чарнее, нібы чарапаха; да Чыжэвіч уліпла ў зямлю дарога; як цыркулі, ходзяць краны, падставіўшы сонцу рэбры; сюды пад машынны грукат збягаюцца ўсе дарогі». А галоўны інжынер, падобны да Гулівера, так характарызуе сваю працу: «Калі загрыміць у «глаўку» раскацісты гром вясновы, калі затрашчыць у час той запылены стол дубовы, дык ведайце: я з начальствам вяду пра цэмент размову». Удакладнім: пра той цэмент, які патрэбны для будаўніцтва ствалоў новых шахт і дамоў.

Пахвальна, што, гаворачы пра клопат і працу салігорцаў, паэт як бы гаворыць з аднадумцамі і паплечнікамі, якія маюць справу з творчасцю, пошукамі і знаходкамі і валодаюць душой і чуццём першаадкрывальнікаў і першапраходцаў. Заканчваецца твор на даверлівай і шчырай ноце, што падкупляе сваёй задушэўнасцю: «І хоць рэпартаж вось гэты шахцёрам я шлю сягоння. Баюся: мяне да лета у працы яны абгоняць. Баюся, што ўсё спачатку пісаць давядзецца зноўку… Рэдактар! Стаўляй пячатку на новую камандзіроўку!»

Рэпартаж паездкі ў родную вёску Рахавічы нагадвае і паэма «У лясной старане», у якой маецца нямала ўдалых строф, назіранняў, добрага і здаровага гумару і бязлітаснай праўды, пра якую можна было гаварыць у той няпросты і ўжо даволі далекаваты цяпер ад нас час.

Творчасць Уладзіслава Нядзведскага ўяўляе сабой адну з жывых старонак летапісу, што ствараўся паэтычнымі радкамі ў меру сваіх сіл і здольнасцей прадстаўнікамі пакалення, дзяцінства якіх прайшло «У шумным святле парашутнай ракеты», і яны, сіроты і дзетдомаўцы, ішлі ў жыццё, несучы ў сваёй памяці боль і горыч, спавядаючыся па-крынічнаму чыстымі і празрыстымі радкамі паэзіі, адкрывалі перад чытачамі душэўнае і духоўнае багацце, што дасталося ў спадчыну, і тымі падзеямі, сведкамі якіх яны былі.

Цімафей ЛІЯКУМОВІЧ

# БЕЛАРУСКІ АЛЯКСАНДР ПРАКОФ'ЕЎ

У жніўні 1961 года на сустрэчы ў Мінску Аляксандра Пракоф'ева з беларускімі пісьменнікамі Пятро Глебка сказаў госцю: «Калі б у нас не было Купалы, мы ўзялі б цябе, Аляксандр Андрэевіч, за нашага народнага паэта». А. Пракоф'еў нават разгубіўся ад нечаканасці: «Што ты сказаў?! Што ты сказаў?! Паўтары, каб усе пачулі», — вымавіў ён усхвалявана. Глебка паўтарыў свае словы, а прысутныя пры размове аднадушна падтрымалі свайго таварыша. Тады Пракоф'еў апусціўся на калені і пранікліва абвясціў: «Я клянуся ў вернасці гэтай шматпакутнай зямлі, якая б магла прыняць мяне як свайго паэта…»

Імя А. Пракоф'ева нельга аддзяліць ад Беларусі і ад нашай літаратуры. У сваіх прыхільнасцях рускі паэт ставіў на першае месца ладажскую Поўнач, родны горад на Няве і сінявокую Беларусь. Ёй прысвяціў натхнёныя радкі:

Я да цябе кароткім шляхам крочыў.
Ён вёў да сэрца, стаў маім навек,
І мне здалёку ласкай ззяюць вочы
Тваіх азёр, тваіх празрыстых рэк.

*«Беларусі».*
*Пераклад Максіма ТАНКА*

З натхненнем прапагандаваў А. Пракоф'еў беларускую літаратуру. Па ягонай ініцыятыве ў Ленінградзе ў першыя пасляваенныя гады выйшла «Анталогія беларускай паэзіі» на рускай мове (1948). Ён далучыў многіх ленінградскіх пісьменнікаў да перакладчыцкай працы. З пачуццём высокай адказнасці і сам перакладаў беларускіх паэтаў. Сёння нельга ўявіць сабе кніжак Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Танка, Пімена Панчанкі і шэрагу іншых нашых вядомых паэтаў на рускай мове без пракоф'еўскіх перакладаў, якія вабяць мастацкай выразнасцю, пранікненнем у атмасферу арыгінала, перадачай творчай індывідуальнасці аўтара. У перакладах Пракоф'ева беларуская паэзія не губляла сваёй крынічнай свежасці.

У сваю чаргу беларускія паэты па закліку сэрца і з пачуццём удзячнасці перакладалі жыццесцвярджальныя творы ленінградскага сябра. З 30-х гадоў ягоныя вершы змяшчаліся на старонках газет і часопісаў, у шматлікіх паэтычных зборніках і анталогіях рускай паэзіі, а ў 1948-м «Выбраныя вершы», у 1961-м «Прызнанне ў любві» і ў 1976 годзе «Святло над светам» выдаваліся ў Беларусі асобнымі кнігамі.

Паэзія А. Пракоф'ева, салаўінага голасу Расіі, належным чынам прадстаўлена на беларускай мове, нягледзячы на тое, што яго вершы вылучаюцца стылістычнай шматграннасцю. Напоўненыя праменнямі славесных колераў і безліччу разнастайных гукаў, яны патрабуюць да сябе асабліва пільнай увагі і дасканалага майстэрства пераўвасаблення. Іх аўтар валодаў словам віртуозна. Ягоная паэтычная тэхніка багатая, гнуткая і дынамічная. Яго вершы вабяць паліфанічнасцю фарбаў, каларытнай вобразнасцю, непасрэдным успрыманнем свету, экспрэсіўнасцю вы-

казванняў. У творах шмат нечаканых паваротаў і рытмічных рухаў. А. Пракоф'еў не прытрымліваўся аднастайнай канстатацыі фактаў, апісання вонкавых з'яў і прадметаў. У жыццёвай пруткасці яго паэтычных радкоў пульсуюць няўрымслівыя рысы складанага часу. Вершы маюць свае адметныя інтанацыі, настроі, у іх шмат адценняў і нюансаў, якім асабліва складана даць другое жыццё, бо яны застаюцца амаль няўлоўнымі пры пераносе на іншую моўную глебу. Да таго ж, на шляху перакладчыкаў узнімаўся такі сур'ёзны бар'ер, як глыбокая нацыянальная самабытнасць і натуральнасць пракоф'еўскай лірыкі, у якой спецыфічна адлюстраваўся рускі характар.

Дый паэзія Пракоф'ева была добра вядома нашаму чытачу ў арыгінале. Безумоўна, гэта стварала дадатковыя цяжкасці, бо пераклад з блізкіх моў ускладняецца тым, што адразу выяўляюцца самыя нязначныя адхіленні ад зместу і формы, самыя дробныя недалікі, не гаворачы ўжо пра яўныя пралікі. Значыць, у такім выпадку неабходна ўзняцца на вышыню майстэрства стваральніка твора, карыстацца тым жа арсеналам мастацкіх сродкаў, адмовіцца ад розных паракручванняў. Менавіта пры інтэрпрэтацыі на роднасныя мовы перакладчык у першую чаргу павінен быць разумным сапернікам аўтара. Яму неабходна захоўваць пачуццё меры, якое не дазваляла б «апусціцца» ніжэй за першакрыніцу і ў той жа час не прыпісваць ёй надуманай «прыгажосці», каб прадэманстраваць уласныя магчымасці, не сугучныя з аўтарскай самабытнасцю.

Увогуле пераклады на блізкія мовы заўсёды не могуць быць невысокай якасці. У іншым выпадку проста няма сэнсу брацца за пераклад. Ён не апраўдае сябе, нават больш — падарве веру ў патрэбнасць гэтай работы. І наадварот: добры пераклад абавязкова прыадкрые новыя грані ў творы, пашырыць уяўленні аб ім, дапаможа яшчэ больш пазнаць майстэрства пісьменніка.

Перакладчыкам давялося шукаць словы, якія перадавалі агонь самароднай пракоф'еўскай паэзіі, шматколерныя адценні полымя з яго паэтычнага вогнішча, што свеціць і пераліваецца вясёлкавымі фарбамі, каб не замяніць іх блікамі бледных водбліскаў.

Якія ўмовы спрыялі паспяховаму вырашэнню складанай задачы дасканалага пераўвасаблення пракоф'еўскай паэзіі сродкамі роднага слова? Па-першае, належны ўзровень развіцця сучаснай беларускай мовы. Па-другое, значныя набыткі нашай паэзіі, якія пераконваюць, што ёй па плячы рашэнне складаных праблем вершаванай тэхнікі. Па-трэцяе, перакладчыцкая школа назапасіла багаты вопыт асваення рускай паэзіі. Адна з істотных перадумоў, якая таксама дазваляе нацыянальнаму прыгожаму пісьменству паспяхова асвойваць асаблівасці пракоф'еўскага творчага почырку, у тым, што беларуская паэзія абапіраецца на нацыянальна-эстэтычныя традыцыі і на ўзоры класічнай паэзіі, якія жыватворна ўздзейнічалі на лірыку А. Пракоф'ева, тлумачаць асаблівасці яго стылю, напеўнасць радка, размоўную танальнасць.

Былі ў беларускіх паэтаў і суб'ектыўныя стымулы, што дапамагалі самаадданай перакладчыцкай працы і павялічвалі адказнасць за яе вынікі. Іх натхняла ўдзячнае пачуццё Пракоф'еву за яго трывалую любоў да нашай зямлі, за бескарысную прапаганду беларускай літаратуры, за клопаты пра яе развіццё. Перадоленню шматлікіх перакладчыцкіх цяжкасцей, паспяховай рабоце спрыялі асабістае знаёмства, дружба і творчае супрацоўніцтва: сустрэчы, гутаркі, сумесныя паездкі і выступленні раскрылі душэўны склад каларытнай асобы А. Пракоф'ева, вобраз яго мыслення, што дало магчымасць глыбока зазірнуць і ў яго творчую лабараторыю.

Да гонару перакладчыкаў у іх трактоўцы пракоф'еўскія творы, у тым ліку такія вядомыя, як «Таварыш», «Размова па шчырасці», «Тры песні пра Грамабоя», «Маскве», «Памяці загінуўшых», «Запрашэнне ў падарожжа», «Расія стаіць на граніце», паэма «Расія», не згубілі сваёй чароўнасці, непаўторнай адметнасці, якой вылучаецца яго мацярык у акіяне рускай паэзіі. Арыгінальныя

вершы і паэмы атрымалі паўнацэннае жыццё ў перакладах, загучалі свабодна і раскавана, вытрыманы ў адпаведным аўтарскім стылі, не пакідаюць уражання другараднасці.

Пятрусь Броўка, Максім Танк, Аркадзь Куляшоў, Пімен Панчанка неаднаразова звярталіся да пракоф'еўскага слова. Ягоныя вершы спадабаліся С. Грахоўскаму, М. Калачынскаму, К. Кірэенку, Е. Лось, М. Лужаніну, М. Аўрамчыку, Р. Барадуліну і іншым майстрам паэтычнага слова, а таксама У. Шахаўцу і Я. Семяжону.

Натуральна, што асаблівая ўвага звярталася на вершы, прысвечаныя «Беларусі мілай», што «запаланіла» пракоф'еўскае сэрца ( «Шчаслівы я /…/, Што нада мною ззяюць твае вочы, Як і Расіі — маці дарагой»), паслужыла яму адным з жыватворных вытокаў натхнення. Максім Танк, перакладчык вершаў «Беларусі», «Яшчэ пра дружбу», «Ой, ляціце, думы…» падмацаваў трапяткую любоў А. Пракоф'ева да блакітных азёр ляснога краю, залатых соснаў, гнёздаў буслоў, да людзей, чыстых сэрцам і думкамі, да песеннай беларускай мовы.

Перакладчыкі перанеслі на родную мову звонкасць пракоф'еўскага радка, ягоныя адметныя вобразы, светлую мелодыю верша, гнуткасць рытму. Яны ўважліва ставіліся да мастацкай адметнасці арыгінала, знаходзілі пры неабходнасці адэкватную па выразнасці дэталь. Напрыклад, «Шашка острая дымилась» — «Шашка ў бітвах перагрэта», «И не надо участи иной» — «Лёс інакшы адхілю душой», «Как будто выскочил подснежник, и задрожал, затрепетал» — «Як быццам першыя праleскі працёрлі вочы», «Свернулся калачиком месяц, и внял тишине, и заснул» — «Стуліўся, як пернічак, месяц, паслухаў цішу і заснуў». Такіх прыкладаў творчай чуйнасці да аўтарскай вобразнай сістэмы можна прывесці шмат.

Перакладчыкамі пераканаўча ўвасоблена і народная стыхія пракоф'еўскага верша, для якога характэрна трапнае валоданне інструментоўкай і адметнай напеўнасцю песеннага слова, умелае выкарыстанне фальклорных традыцый.

Як хадзіла ды пахаджвала,
Да сябе гасцей прынаджвала.
Ой вы, госцікі, госці
Мае,
Ды няўжо вам чагосьці
Нестае.
І вароты парасчынены для вас —
І хаціна не занятая якраз.

*«Лявоніха».*
*Пераклад М. ЛУЖАНІНА*

Услед за аўтарам перакладчык выкарыстаў не толькі народна-песенныя звароты, але і адпаведны сінтаксіс, які падпарадкоўвае мелодыку верша рытміцы вядомага танца. Такое сугучча слова і руху надае ўсяму твору асаблівую прывабнасць і непаўторнасць. Беларускія перакладчыкі падчас нават знімалі празмерную аўтарскую гульню з фальклорным словам, якая сустракаецца ў асобных творах А. Пракоф'ева, каб пазбегнуць ненатуральнай стылізацыі паэтычнай мовы.

Добра прапісаліся па-беларуску вершы «Запрашэнне ў падарожжа» ў перакладзе П. Броўкі, «Не баюся, што вясенні…», «Тры паштоўкі на поўдзень» — М. Лужаніна, «Ты ведаеш цудоўную трывогу?..» — А. Звонака, «За тое, што мне неспакойна з табою» — Е. Лось, «Яблыня на мінным полі» — А. Бялевіча, «Пагавары са мной, таварыш мой…» — М. Аўрамчыка, «Як быццам неба пашырэла» — Я. Семяжона і шэраг іншых, роўных па сіле выразнасці і майстэрстве.

Высокі ўзровень барадулінскіх перакладаў. Ён знаходзіў словы, ад якіх верш пачынае свяціцца неяк знутры, напаўняецца жывой энергіяй. Перакладчык прымушае падпарадкавацца зместу і радкі, і словы, і гукавую сістэму верша («Любачка», «Пятая песня пра Ладагу» і інш.). Пад пяром Р. Барадуліна пракоф'еўскае слова пераліваецца ўсімі колерамі вясёлкі, звініць, вабіць, чаруе і здзіўляе.

На жаль, сустракаюцца пераклады і з асобнымі выпадковымі вобразамі, якія страцілі сугучнасць з аўтарскай думкай. Так, у вершы «Размова па шчырасці» замест радка поўнага драматызму «Везде по земле железной железная шла страда», не гаворачы ўжо пра страту трапнай сэнсавай і інтанацыйна-гукавай выразнасці алітэрацыі, уводзіцца штучнае параўнанне: «Хісталіся мільёны, *нібы піжона кіёк*» (?!) Не абышлося без асобных шурпатасцей і розных агрэхаў, што засталіся незаўважанамі перакладчыкамі і рэдактарамі, і ў некаторых іншых вершах («Другая песня пра Ладагу», «Разліў», «Мая рэспубліка», «Прызнанне ў любві» і інш.). Выпадковыя прыкрыя пралікі, аднак, не могуць прынізіць тую вялізную працу, якую прарабілі перакладчыкі па прапагандзе пракоф'еўскай паэзіі па-беларуску.

Дарэчы, беларускія пераклады прыйшліся па сэрцу А. Пракоф'еву. У перадачы ленінградскага тэлебачання пра беларускую літаратуру ён уважліва прыслухоўваўся, спачатку здавалася нават з пачуццём нейкай трывогі, а потым з радасна прасветленым тварам, да гучання сваіх вершаў у пераўвасабленні Р. Барадуліна, а потым усхапіўся са свайго месца, кінуўся да малодшага пабраціма, моцна сціснуў яго ў абдымках і тут жа з удзячнасцю надпісаў яму сваю кнігу. А. Бялевіч засведчыў: «Да чаго ж уцешна было бачыць, як ён, шырока вядомы, праслаўлены рускі паэт, беражліва бярэ сваю кніжачку ў нашых перакладах, чытае свае вершы па-беларуску. Ён усёй душой любіў нашу мову і таму выдатна ведаў яе, тонка адчуваў беларускае слова».

Лірыка А. Пракоф'ева набыла сталую прапіску ў Беларусі. Праца нашых перакладчыкаў успрымаецца як даніна ўдзячнасці беларускай літаратуры і беларускага народа аднаму са сваіх лепшых сяброў, які шчыра радаваўся, што і на яго творчасць падала святло «из того Сиянья слов, в котором рос Купала, с которым Колас ведал торжество».

Садружнасць А. Пракоф'ева і беларускіх пісьменнікаў застанецца для нашчадкаў наглядным пацвярджэннем і прыкладам таго, як паэтычнае слова можа верна служыць справе паразумення народаў, пракладваць паміж імі масты ўзаемапавагі, супрацоўніцтва і дружбы.

## Валянціна ЛОКУН

# ПАКЛІКАНАЯ

У гісторыю мастацкай славеснасці Валянціна Коўтун увайшла як паэтка — арыгінальная, самабытная, з адметным афарыстычным мысленнем, складанай вобразнасцю. Яе імя з’явілася ў друку ў сярэдзіне 60-х гадоў — разам з такімі імёнамі, як Я. Янішчыц, А. Разанаў, К. Камейша, Р. Семашкевіч, В. Іпатава, М. Дукса, М. Федзюковіч, Н. Мацяш, Н. Тулупава, Г. Пашкоў, У. Някляеў, В. Гардзей, В. Ярац, Ю. Голуб... Гэта было пакаленне рамантыкаў, з асаблівым бунтоўным светаўспрыманнем, пазначанае рысамі свабодалюбства і дэмакратызму, прагай да мастацкага эксперыментатарства.

Нарадзілася Валянціна Коўтун на Гомельшчыне, у сям’і настаўнікаў. Неўзабаве разам з бацькамі пераехала на Піншчыну, там і вучылася. У 1964 годзе паступіла на філалагічны факультэт Львоўскага дзяржаўнага ўніверсітэта, з чацвёртага курса перавялася ў Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт. Вучылася завочна ў аспірантуры. У 1979 годзе абараніла кандыдацкую дысертацыю на тэму: «Паэтычная структура беларускай пазаабрадавай песні пра каханне». Працавала настаўніцай на Гродзеншчыне, літкансультантам у «Сельской газете», загадчыкам рэдакцыі ў выдавецтве «Юнацтва», працяглы час загадвала аддзелам крытыкі і літаратуразнаўства ў часопісе «Полымя».

Першыя творы В. Коўтун былі надрукаваны ў 1966 годзе ў Львоўскай газеце «Ленінська молодь» у перакладзе на ўкраінскую мову. Адначасова ў ліпені таго ж года «Чырвоная змена» змясціла яе верш «Зязюля недакукавала...», а пазней, у снежні, з’явілася ўжо нізка вершаў маладой паэтэсы ў газеце «Літаратура і мастацтва». У 1971 годзе выйшаў у свет першы зборнік «Каляровыя вёсны», у якім паэтка стварае сваю рамантызаваную мадэль акаляючага свету.

У вершах кнігі змешчана ўсё, што ўласціва маладосці, — юнацкія ўражанні, хваляванні, мроі. Аўтарка нібыта адкрывала сябе свету, адкрывала свабодна і натуральна. Але і адкрывала свет — праз сябе, сваю душу, сэрца, пачуцці. З юначым запалам яна заклікае:

Спяшай, жыццё,
Кідай пад ногі церне,
Няхай ляцяць трывогі з гнёздаў дня.
Шукаю паміж слоў дрыготкіх зерне,
З якога прарастае цішыня.
Кідаю думкі спелыя
ў разводдзе.
Спакой не суцяшае, як заўжды,
З дзвярэй усіх разбуджаных
стагоддзяў
Майго народу выйшлі ў свет гады.

Усіх часоў я восень сёння ўспамінаю,
Гарачую і белую, як скронь.
Нясуць гады лістоту ў далонях
І пакідаюць паміж дрэў агонь.

І так гартуюць звонкае карэнне,
Заземленае
ў роднай старане...
Шапне зямля:
Між слоў шукайце зерне,
Каб вырасціць дабро.
Так трэба мне! [1, с. 5]

У гэтым вершы, які, на думку Р. Семашкевіча, «не пазбаўлены літаратурнай бравады» [2, с. 138], закладзена праграма маладой паэткі: «*Між слоў шукайце зерне, каб вырасціць дабро*». Катэгорыя дабра ў ранняй творчасці В. Коўтун ёсць маральная дамінанта, скіраваная ў будучыню, як самаўдасканаленне чалавека.

Крыніцай паэтычнага натхнення В. Коўтун была матчына песня, якую яна ўвабрала ў сябе з маленства, разам з непаўторным хараством прыроды:

Я чула песню ўжо тады,
Калі малая бегла з хаты,
На квецень саду падаў рой,
Між дрэў мне дыхалася слаўна...
Я чула — неба нада мной
Звініць і трэскае, як яблык. [1, с. 8].

Паэтэса знаходзіць цікавы вобраз, незвычайнае метафарычнае параўнанне: «*Я чула — неба нада мной звініць і трэскае, як яблык*». Тут — навізна, мастацкая нечаканасць. Агульная метафара верша мацуецца адначасова на пачуццёвых і разумовых асацыятыўных паралелях, канкрэтнае, звычайнае, будзённае пераходзіць у абстрактнае. Па такім прынцыпе пабудавана амаль ці не ўся ранняя рамантызаваная лірыка В. Коўтун. Да ўсяго ў беларускай мастацкай традыцыі песня з'яўляецца сімвалічным аналагам творчасці, дзе сінкрэтычна спалучаюцца два пачаткі: музычны і жывапісны, эстэтычны і сацыяльны. Для ранніх тэкстаў В. Коўтун вобраз-архетып «песня» — гэта яшчэ і ўвасабленне гарманічнага ўладкавання свету, выражэнне адзінства чалавека і свету.

Маладой паэтэсе ўсё «баліць», яна на ўсё хоча адрэагаваць, на кожны зрух прыродны, на поўню, якая падаецца ёй «*чыстай, як крыніца*», на туман, які «*ў чаўне маім... сабакам шэрым расу сцерусіў*», на ранак, што «*нібы качар, плыве пад лозы, крыламі б'ючы*», і нават на «*зялёныя ліўні, што, як людзі, усміхаюцца людзям заўжды*».

Пейзажныя вершы, а яны дамінуюць у першай кнізе, найчасцей паядноўваюць перажыванні, адчуванні героя і праявы навакольнага свету. В. Коўтун стварае метафару жыцця як навальніцы, ветру, грому, хвалі, ракі. Лірычны герой імкнецца спалучыцца з прыродай, стаць яе часцінкай, яны адно цэлае ў прыродным макрасвеце.

Яшчэ паэтку вабіла гісторыя, жыццё продкаў, песня продкаў. У далёкай мінуўшчыне яна хацела знайсці сваё духоўнае апірышча. Яе цікавіў найперш чалавек годны, моцны духам, змагар. Такога чалавека яна знаходзіла ў асяроддзі вялікага паляшуцкага народа, сярод якога вырасла сама.

Разам з тым, першы ўжо паэтычны зборнік засведчыў імкненне В. Коўтун да сюжэтнага верша, да эпічных выяўленчых сродкаў, якія патрабавалі і адпаведных жанравых форм, — паэмы ці балады. Эпічнае па задуме адлюстраванне гісторыі свайго краю, канцэпт прыроды як мастацкі эквівалент жыцця народа, — усё гэта раскрываецца шматаблічнай па форме паэзіяй. Таму побач з усхваляваным лірызмам і натхнёнай публіцыстыкай, у яднанні з імі, у паэзіі В. Коўтун плённа развівалася сурова драматычная і велічна гераічная эпіка (паэма «Кавалі» і інш.).

У сваіх паэтычных дыскурсах В. Коўтун шырока выкарыстоўвае выяўленчыя сродкі фальклорнага рамантызму. І гэта невыпадкова. Фальклорныя элементы і

раней дазвалялі асабоваму пачатку больш выявіцца, падкрэслівалі індывідуальнасць творчай манеры паэтэсы. Сувязь з вуснай народнай творчасцю ўзбагачала не толькі стылёвае афармленне гістарычнага матэрыялу, яна змястоўна ўплывала на паэтычнае адлюстраванне сучаснасці. Гэта не была стылізацыя пад фальклор, а ўсвядомлены, мэтанакіраваны адбор тых вобразных сродкаў, якія былі выпрацаваны ў фальклоры.

Крытыка досыць прыхільна сустрэла першую кніжку В. Коўтун. У друку з'явіліся рэцэнзіі С. Алексіевіч, А. Грачанікава, А. Звонака, Р. Семашкевіча, Р. Яўсеева і іншых. Была адзначана свежасць і псіхалагічная выразнасць малюнка, натуральнасць выказвання пачуццяў. Р. Семашкевіч «па-таварысцку... параіў паэтэсе шукаць між слоў сваё паэтычнае зерне» [3, с. 133].

Наступныя зборнікі вершаў і паэм «На ўзлёце дня» (1977), «На зломе маланкі» (1981) засведчылі, як вырасла ўлада паэтэсы над словам, у ім усё часцей замест пафаснасці і ўзнёсласці з'яўлялася сцішаная радасць, спакойная ўсхваляванасць.

Радкоў лясная ўсхваляванасць,
Слоў распагоджаны світанак
Сваю расу траве аддаў.

Хусцінку выспелага лета
На голаў ціха апусці.
Што перадумана — апета,
Не за плячыма —
у жыцці. [4, с. 5]

Да ўсяго слова паэткі, застаючыся ў межах усё той жа натуральнасці, пабытавай някідкай рэчыўнасці, засвяцілася багаццем асацыятыўных пераходаў, нечаканымі метафарычнымі адкрыццямі.

Паэтка зноў і зноў вяртаецца ў дзяцінства куток, які застаецца для яе цэнтрам быційнай прасторы. Шчымлівай замілаванасцю, «*птушыным сумам*» поўніцца яе сэрца да тых мясцін, дзе

Здаецца ўсё такім нязвыклым
У вольным небе, на вадзе.
Пад полымем шпачыных крыкаў
Зялёны дым угору йдзе. [4, с. 12]

Сюды, у край «*зялёнай, гулкай вясны*», у край «*святла, любові, дабраты*» заўсёды імкнецца душа гераіні, каб спатоліцца цішынёю, засцерагчыся ад холаду жыцця.

Радзіма бачылася паэтэсе ў розных выявах: то ў вобразе поўні, то зялёнага саду, то лесу, то чорнага бусла, то таямнічай Ясельды, то мужнай Прыпяці, то ў салаўінай песні, то ў ручніку з вышытымі на ім пеўнямі, то ў песні бабулі. Як адзначыў У. Гніламёдаў, «у ручніку з пеўнямі, у кроснах і ў песні яна (В. Коўтун. — **В. Л.**) адчувала сувязь з пакаленнямі продкаў, з духоўнымі і маральнымі традыцыямі народа» [5, с. 240].

Больш за тое, паэтычная творчасць В. Коўтун нясе на сабе адбітак народнага сінкрэтызму — у гэтым бачыцца сувязь стылявой парадыгмы яе тэкстаў з традыцыямі нацыянальнай літаратуры, метадам Я. Купалы, Я. Коласа, М. Багдановіча.

Асаблівай любасцю да нацыянальнага, найпяшчотнай прыхільнасцю да спакутаванай сваёй старонкі, да сваіх продкаў прасякнуты «Трыпціх». Першая яго частка «Ручнік з пеўнямі» вызначаецца эпічнасцю аўтарскай думкі, баладнай формай адлюстравання. Тут і «свой» тып мастацкага мыслення — павесційна-пластычны. Другая частка «Трыпціха» «Песня» вызначаецца лірыка-экспрэсіўнай формай, пластычна дакладным пісьмом. «Кросны» — трэцяя частка верша. Яна

пазначана рэзкім узмацненнем інтэлектуальнай энергіі і экспрэсіўнасці думкі. Нацыянальна рэчыўная атрыбутыка набывае глыбокі сімвалічны змест:

Рыпяць старэчай скрухай кросны
Што мне саткалі маладосць. [4, с. 54]

«Кросны» — метафарычная «расшыфроўка» дзейнасці самой паэткі, высвятленне вытокаў гэтай дзейнасці і яе скіраванасці:

Узор вяртаю з летуценняў,
Як сарамяжлівасць сваю, —
З гарачых сонцавых праменняў
Палоску ўзору аддаю.

Блакіт кідае непакорна
У другую кнігу сінь сваю...
А трэцяя... хай будзе чорнай,
З палын-травы яе саўю. [4, с. 54]

Паэтка стварае шматвектарны вобраз бацькаўшчыны і адначасова падае жыццё ў яго быційным развіцці. Яна мысліць гісторыяй, праецыруючы на яе сучаснасць. Гэта і яе, паэткі, жыццё, яе бацькаўшчына.

Адна за адной выходзяць паэмы «А Прыпяць не спыніць...» (1973), «Чарацінка чакання» (1976), «Балада чорнага хлеба» (1976). У іх няма паслядоўнага сюжэта. Тут усё наструнена эмоцыямі, аўтарскімі азарэннямі, аўтарскімі «адкрыццямі» падзей — праз тое, што найбольш уразіла, здзівіла, усхвалявала.

Усё больш актуалізуюцца творы В. Коўтун у зборніку «На зломе маланкі». Паэтка імкнецца перадаць дынамізм часу, хаду часу, рэльефны партрэт часу («Тыдзень гадзінніка», «Балада белай лілеі», «Чарэшня»). Пераважваюць вершы сюжэтныя: балады, трыпціх, вершаваныя апавяданні, паэмы.

«Балада палескай песні», «Трыпціх калыханкі», «Цыганская экспрэсія», «Круча» — прыклад сапраўднага майстэрства. Лёгкасць і музыкальнасць слова, інтымныя інтанацыі, унутраная даверлівасць, схільнасць да эмацыянальнага абжывання гістарычнай рэчаіснасці — характэрныя адзнакі гэтых паэтычных радкоў.

У народных песнях, павер’ях, легендах, замовах, якія своеасабліва арганізаваны ў структуры вершаў паэткі, выразна акрэсліваецца ўкаранёнасць мастацкага бачання аўтара ў традыцыі нацыянальнага быцця, сакральнасць народа.

Ядром зборніка з’яўляецца паэма «На зломе маланкі» (1973), якая прысвечана адной з самых яркіх і цікавых постацей беларускага Адраджэння пачатку XX стагоддзя Алаізе Пашкевіч (Цётцы). Цікавасць да Цёткі расцягнулася ў В. Коўтун на доўгія гады, абумовіўшы з’яўленне шэрагу вершаў, паэм, рамана «Крыж міласэрнасці». А пачалося ўсё, як прызналася сама В. Коўтун у лісце да крытыка В. Шынкарэнкі [6, с. 289—290], з часоў яе студэнцтва ў Львоўскім універсітэце імя Франко.

Цётка ў паэме — гераіня глыбока нацыянальная. Як адзначыў У. Гніламёдаў, «у асобе Цёткі арганічна зліліся лёс чалавечы і лёс народны» [5, с. 240]. Нават у далёкай Венецыі яна не можа існаваць без родных краявідаў, яе душа прагне «*поля скібіну з соллю расы, ластаўчыныя гнёзды ў адрыне, на пагорках вякоў верасы*» [7, с. 95], а позірк знакамітай мадонны, Цётцы нагадвае позірк беларускай сялянкі, якая схілілася над калыскай немаўляці. В. Коўтун параўноўвае сваю гераіню са жнейкай.

У талацэ шчыруе жнейка
Над перавяслямі радкоў.
На ніву просіцца жалейка,
Сястра бязродных пастухоў. [7, с. 34]

Вобраз-метафара жнейкі дапаўняецца метафарычным вобразам жалейкі. І жнейка, і жалейка — тыповыя артэфакты беларускай літаратуры, якія ўвасабляюць жыццё народнае і яго спакутаваны лёс. У фінале паэмы з'явіцца яшчэ і паэтычны вобраз скрыпкі, струны якой сімвалізуюць тэматычныя сферы «песень» Цёткі. Сімвалічнай з'яўляецца і назва паэмы «На зломе маланкі». З аднаго боку, яна перадае сутнасць жыцця і дзейнасці Цёткі, з другога — імкненне самой В. Коўтун быць «на зломе» жыцця, ці, як было раней, «На ўзлёце дня».

Паэма «На зломе маланкі» — твор адметны ў мастацкай прасторы паэтэсы. І не столькі праз традыцыі Цёткі, якія сталі традыцыямі самой В. Коўтун, а менавіта праз індывідуальна-непаўторны талент самой паэткі. Бо, ідучы «*ўслед за ёю, за сястрою*», яна ішла ўсё ж «*сваім жытнёвым полем*».

Зборнікам «На зломе маланкі» заканчваўся пэўны этап у творчым развіцці В. Коўтун. Адбывалася змена культурнай парадыгмы. Жыццё сацыяльнае, аб'яўленая ў краіне перабудова патрабавалі новых мастацкіх вырашэнняў. З вершаў паступова будзе знікаць мяккасць, камернасць, яны будуць вызваляцца і ад «уціску» метафарычнасці і фальклору. На змену шматколерным інтанацыям прыйдзе суровае, энергічнае паэтычнае самавыражэнне. Слова В. Коўтун стане па-мужчынску рэзкім, патрабавальным, рацыяналістычным, аб чым сведчыць яе кніга «Метраном» (1985).

Кніга «Метраном» — гэта расстанне з маладосцю, з рамантыкай, з гармоніяй, якую паэтэса шукала і знаходзіла то ў свеце прыроды, то ў духоўным свеце сваіх продкаў. Час падвесці вынікі, «*бо нехта змоўчыць, а хто й запытае: «Дзе тут поле тваё? Дзе ратай?»* [8, с. 5]. Праўда, яна яшчэ водзіць дружбу з «*сялянскім лірнікам сівым»*, бо «*ён з пакалення дрэў і нерваў*», з той «*неперапможнай эры*» [8, с. 15], душа яе працята настальгічным пачуццём, «*па продках настальгія*» [8, с. 16]. Але цяпер яе гераіня поўніцца пачуццём адказнасці за свой народ, сваю Радзіму, за жыццё на зямлі наогул.

Акцэнты болю В. Коўтун сутнасна змяняюцца. Яе цяперашні боль — жыццё сацыяльнае. Адсюль і крытычны пачатак, адсюль і абвостраная публіцыстычнасць, сацыяльнасць вершаў, іх новае рытміка-інтанацыйнае гучанне — больш напружанае, без патэтыкі, без алегарычнасці, без светлых фарбаў, без фальклорнага ўгрунтавання. Лірычны герой прыходзіць да несуцяшальнай высновы, што мінулае жыццё было напоўнена ілюзіямі, «*замешанымі на чужой крыві*» [8, с. 36]. Праўда, цешыла спадзяванне, што век маны мінае, «*але як бясконца*» [8, с. 37]. Узнікае матыў незадаволенасці жыццём.

Сучаснасць уваходзіць у вершы В. Коўтун арганічна. Яе герой, гэта чалавек,

Што ступае, прыгорблены,
па раздарожжы начы.
Гэта я альбо ты.
Мы працяты няверай і скрухай. [8, с. 9]

Паэтэса параўноўвае свой час з блакадным ленінградскім часам, метраном зноў у дзеянні, зноў адлічвае гадзіны, хвіліны, трэба паспець сказаць свету праўду аб сваім часе і людзях гэтага часу. У гэтым бачыць цяпер яна сваю галоўную мастакоўскую задачу.

У 1985 годзе В. Коўтун напіша драматычную паэму «Суд Алаізы», у цэнтры якой зноў будзе вобраз Цёткі.

Публіцыстычная зададзенасць вобраза Цёткі раствараецца ў пластыцы паэтычнага слова, адлюстраванні гісторыі. Праз індывідуальна-канкрэтнае В. Коўтун уздымаецца да агульнанацыянальнага і агульначалавечага, упісваючы самабытную асобу Паэткі ў кантэкст сусветнай гісторыі.

Паэма «Суд Алаізы» — «чысты» вопыт грамадзянскай, публіцыстычнай паэзіі. Тут рацыяналістычнасць часам бярэ верх над мастацкасцю. І гэта зра-

зумела. Паэма з'явілася на высокай адраджэнскай хвалі, на ўздыме перабудовачнага руху, калі патрабавалася найперш слова «абуджальнае», палымянае, гучнае. Такім абуджальным словам была кніжка «Метраном» у цэлым, за што В. Коўтун у 1986 годзе была прысуджана Літаратурная прэмія імя А. Куляшова.

Вершаваная творчасць В. Коўтун як асаблівы мастацкі свет арганічна ўпісалася ў агульнанацыянальны літаратурны кантэкст. Нароўні з паэтычнымі светамі А. Разанава, Я. Янішчыц, Н. Мацяш, Р. Барадуліна і інш. Яны адметна і годна прадстаўлялі беларускую літаратуру ў прасторы славянскіх літаратур. І не толькі славянскіх.

Коўтун-патэсе становіцца «цесна» ў асвоеным ёю вершаваным фармаце. Вабілі іншыя жанравыя прасцягі. У 1982 годзе ў часопісе «Работніца і сялянка» было надрукавана яе першае апавяданне «Калінавая гронка залатая».

Пасля з'явіліся новыя: «Малінавае шчасце», «Чужая», «Лес», «Стары бубен», «Перайсці раку», «Пацеркі для Веры», «Тарба». У 1988 годзе быў выдадзены зборнік апавяданняў «Калінавая гронка залатая».

Вопыт малой прозы паспрыяў В. Коўтун наблізіцца да свайго першага маштабнага твора — дылогіі «Крыж міласэрнасці», якой яна аддала амаль пяць год свайго творчага жыцця. Даследчык У. Конан назваў раман-дылогію В. Коўтун «унікальным у сучаснай літаратуры» [9, с. 7].

З'яўленню дылогіі папярэднічала карпатлівая праца пісьменніцы ў архівах Мінска, Вільні, Львова, Варшавы, Кракава, Пецярбурга. Яна перагледзела дзясяткі дакументаў, тамы судовых спраў, перазнаёмілася з газетамі і часопісамі канца XIX — пачатку XX стагоддзя, прыватнымі дзённікамі, лістамі, сямейнымі альбомамі... Усё гэта, па-майстэрску ўплеценае пісьменніцай у мастацкую тканіну рамана, садзейнічае перадачы агульнай атмасферы сацыякультурнага развіцця канца XIX — пачатку XX стагоддзя, дапамагае В. Коўтун перадаць подых эпохі, у якую жыла і тварыла Алаіза Пашкевіч.

У такой сублімацыі «гістарычна-грамадскага» і індывідуальна-асобаснага праяўляецца асаблівы «дуалізм» твора. Навізна рамана — у імкненні аўтара да сцвярджэння рэфлексіі ў якасці аднаго з галоўных метадаў «гнасеалагічнага вобраза» рэчаіснасці.

Дыскурс паядноўвае дзве плыні свядомасці — аб'ектываваную аўтарскую і суб'ектываваную ад галоўнай гераіні. Аўтарка і яе гераіня нібыта перабіваюць адна адну, дапаўняюць адна адну, дагаворваюць адна за адну. Яны адно духоўнае і маральнае цэлае, але не аморфнае, не застылае, а эмацыянальна рухомае і зменлівае. Яны ў напружаным пошуку, у спрэчцы — з сабою, са сваім «я», з акаляючым светам, але не для таго, каб гэты свет аддаліць ад сябе, а наадварот, каб яго наблізіць, каб зліцца з ім у адно, растварыцца ў ім.

Наватарская па форме жанравая арганізацыя рамана выклікала дыскусію сярод крытыкаў. «Крыж міласэрнасці», — адзначыць У. Конан, — не ёсць белетрызаваная біяграфія Алаізы Пашкевічанкі, як гэта падалося некаторым рэцэнзентам. І не публіцыстычны раман-эсэ... Спадарыня Валянціна задумала... традыцыйны раман у класічным значэнні гэтага жанру, дзе акцэнты перанесены з сацыяльных роляў і прафесійных арыентацый героя (селянін, дваранін, чыноўнік, разначынец, пісьменнік, палітык і т. п.) на яго экзістэнцыю, быццё ў кантэксце сваёй эпохі і нацыянальнай культуры» [9, с. 7]. Традыцыйным па жанры ўспрыняў раман В. Коўтун і літоўскі крытык П. Бражэнас. На яго думку, «для класічнага зместу лепш за ўсё падыходзіць класічная форма». І ўвогуле ён назваў «Крыж міласэрнасці» вельмі беларускім творам» [10, с. 3115]. В. Шынкарэнка, наадварот, была пераканана, што «мы маем справу з прыкладам твора, які выразна прадстаўляе так званую баладную прозу і надзелены яе дамінуючымі прыкметамі» [6, с. 293]. Тым самым В. Шынкарэнка падкрэслівае яшчэ

і перавагу Коўтун-паэтэсы над Коўтун-празаікам. Дарэчы, такую думку раней выказвала і А. Сямёнава. У рамане В. Коўтун яна бачыла «творчую праграму і творчае крэда пісьменніцы, перш-наперш усё ж паэтэсы: на шмат якіх старонках адчуваецца, што кніга напісана чалавекам, які спасцігае свет паводле are poetica, навукі паэзіі, мастацтва паэзіі. Як і гераіня яе рамана» [11, с. 7]. Пісьменніца Х. Лялько ў рамане «Крыж міласэрнасці» ўбачыць прыярытэтнасць гістарычнага адлюстравання: «вобраз трагічнай эпохі пярэдадня дзвюх рускіх рэвалюцый, якая выступае адной з галоўных дзейных асобаў усяго рамана і якая так шмат здолела сказаць уважліваму чытачу пра наш складаны, заблытаны час, я лічу асноўнаю ўдачаю рамана, галоўным і самым важным дасягненнем яго аўтаркі» [12, с. 40].

Філасофскія пошукі В. Коўтун нясуць на сабе адбітак сучаснасці. І гэта натуральна, бо зварот мастака ў мінуўшчыну, як правіла, абумоўлены балючымі пытаннямі сённяшняга дня. А канец стагоддзя, як і яго пачатак, найперш быў узрушаны нацыянальным пытаннем, ідэяй нацыянальнай незалежнасці. Разам з тым трэба прызнаць, што дух сучаснасці, ідэі сучаснасці, уплеценыя ў структуру рамана, не парушаюць мастацкіх прапорцый, не з’яўляюцца празмернымі.

Рэвалюцыя 1905 года, яе змест і маральная сутнасць, ідэя самавызначэння Беларусі — галоўныя «цэнтры» палемікі, у якую ўцягнуты амаль ці не ўсе героі. Гэтыя пытанні абмяркоўваюцца на бясконцых мітынгах і сходах, у асяроддзі рабочых і інтэлігенцыі, але найбольшай актыўнасцю вылучаецца студэнцкая моладзь. І гэта зразумела, бо *«моладзь, як тое люстэрка, у якім добра люструюцца дакладныя праявы духоўнага стану грамадства*» [13, с. 316]. Час быў насычаны разнастайнымі сацыялістычнымі ідэямі, у моду ўваходзілі вучэнні Л. Талстога і К. Маркса, асаблівую папулярнасць набыло басяцтва Максіма Горкага, зноў усплыло масонства... І праз усё гэта — пульсуючая думка аб неабходнасці нацыянальнага адраджэння «*паўночна-заходняга краю*». Толькі які шлях абраць? «*Вы хочаце, панове, каб гэты край — без хамута? Ідэалізм!*» [13, с. 321] — канстатуе Іосіф Вінклер, адзін з кіраўнікоў тэрарыстычнай суполкі «братоў-апосталаў».

У кантэксце агульнай дыскусіі «рэвалюцыя і тэрор» гучыць адметны голас Элізы Ажэшка. Вялікая гродзенская самотніца не верыла ў надыходзячую рэвалюцыю 1905 года, не верыла ў ідэю сацыялізму. Ажэшка пагаджаецца, што народнае жыццё мае патрэбу ў абнаўленні. «*Але ж — не з прымусу! А з волі людской*» [13, с. 362]. Ажэшка належала да пакалення інтэлігенцыі, пакалення рамантыкаў сярэдзіны XIX стагоддзя, пакалення, якое ішло ў рэвалюцыю з высокімі парываннямі, верай у народ. Яны глядзелі «*на родную зямлю, як на мілае аблічча маці*», а ў далёкім небе бачылі «*дзве вялікія зоркі, якія маюць імёны: Справядлівасць і Свабода!*» [13, с. 372]. Яны не перамаглі, «*да велічнага пераможнага пажару нас не дапусціла замкнутая мужыцкая хата!*» [13, с. 92] — з сумам прамовіць Эліза Ажэшка. Але менавіта «*яны былі сарцавінай айчыннага дрэва*», таму «*і згарэлі на ахвярным шчыце. Глорыя Вікціс! Слава пераможаным!*» [13, с. 372-373] І галоўнае — зоркі тыя не згаслі, яны вечныя, любоў ад іх струменіцца таксама вечная, «*сотні змагароў прынялі гэтую любоў разам з крывёю папярэднікаў. І разам са сваёй аддалі і яшчэ будуць аддаваць нашчадкам*» [13, с. 373]. Народ не можа страціць жрацоў тых зорак, бо, страціўшы іх, ён страціць і сябе. Святло ад тых «зорачак» прыняла і Алаіза. Яна — духоўны спадкаемца сваёй настаўніцы Элізы Ажэшкі.

Валянціна Коўтун выбірае найбольш складаны перыяд з жыцця Цёткі: віленска-пецярбургскі. Гэта былі яе ўніверсітэты жыцця і палітычнай барацьбы — праз далучанасць да студэнцкага руху, праз сустрэчы і сяброўства з лепшымі людзьмі свайго часу.

Алаіза добра зведала жыццё, бо сама прайшла праз яго — і тады, калі вучылася на курсах Прозаравай, і калі была курсісткай прафесара Лесгафта, і тады, калі працавала на пошце і ў лячэбніцы, і нават тады, калі наведвала трупярні, лепрызорыі, ратавалася сама і ратавала іншых ад жахлівай паводкі на Няве 1903 года. Жыццём былі і яе школкі, і яе палітычная дзейнасць.

Змалку засвоіла, што «*як ты з людзьмі, так і людзі з табою. Такі закон прыроды*» [13, с. 33]. Яна любіла свой народ, як любіла бацькоў сваіх — няхай яны былі часам і несправядлівымі, часам жорсткімі. Але яна была іх часткаю, іх працягам — фізічным і духоўным. І задуменнасць яе адтуль, ад продкаў. А яшчэ ад характару. В. Коўтун адлюстроўвае працэс «нараджэння» Паэта ад самых «вытокаў». Алаіза ў дзяцінстве любіла забірацца ў гумно, на вышкі, на сена. Ужо тады яна пачула ў сабе нейкую незразумелую музыку, якая гучала ўсё мацней і мацней. Неўзабаве да гэтай музыкі далучыцца «голас» бясконцага Часу. Душа дзяўчынкі і гэты «голас» увабрала ў сябе. Як увабрала раней прыгажосць навакольнага свету. Гэта вельмі сімвалічна, што Алаіза, дзіця прыроды, найчуйная частка яе, менавіта ў лесе, у сваім бярозавым гаі, зусім неспадзявана, але выразна адчула сваё зямное наканаванне: «*Перабіраючы рыфмы, што, здаецца, склаліся яшчэ раней, у думках запульсіравала нечаканае: яна, Алаіза Пашкевіч са Старога Двара, яна — верыць, моцна верыць, што ёй, менавіта ёй, наканавана зрабіць для свайго спакутаванага краю болей, чым іншым кабетам беларускім. І гэта яна — адчула. Гэта дакладна ведае*» [13, с. 285]. Алаіза-дзяўчынка малілася свайму анёлу, каб той дапамог ёй усё наканаванае здзейсніць, збярог яе дзеля справы, не дзеля сябе, а дзеля народа.

Так нараджаўся Паэт. Нараджалася Асоба. В. Коўтун імкнецца перадаць «тэхналогію» творчасці на ўзроўні псіхафізіялагічным — ад першых неўсвядомленых унутраных штуршкоў-імпульсаў: «*Спачатку востры, як шыла, ён* («нясцерпны звон». — **В. Л.**) *працяў наскрозь усю галаву, ажно пацямнела ў вачах і цяжка было вытрымаць, устаяць на ватных нагах. Потым боль пачаў разбухаць і мацнець, павялічвацца, як надзьмуты шар, — зазвінеў усё мацней і мацней, распіраючы ўласную абалонку, і раптам лопнуў на самай высокай ноце.*

*Наступіла цішыня. Як кароценькая перадышка. І тады ў аглушанай галаве, у розных яе куточках пачалі ўзнікаць дзіўныя прывідныя малюнкі... Насланнё... Вадаспад... Бясконцасць...*» [13, с. 13]

Цётка была дзіцём свайго часу — рэвалюцыйнага, шмат у чым супярэчлівага. Адсюль і яе супярэчнасці — у творчасці, у светаўспрыманні. Хвалі рэвалюцыі моцна запаланілі душу Алаізы, запалілі яе чуйнае да любові і спагады сэрца агнём помсты, агнём нянавісці — не да народа, канешне, з якім яна заўсёды размаўляла на яго роднай мове, а да тых, хто гэтым народам пагарджаў. Ва ўступным слове да рамана, у сваім звароце да гераіні, В. Коўтун скажа: «*Ты жыла Рэвалюцыяй, была яе дачкой і сястрой. Твая душа ўздыхнула з палёгкаю: нарэшце будзе народу воля. Ты хадзіла па вуліцах растрывожанай Вільні і гаварыла такія прамовы, якія запальвалі сэрцы работніц агнём веры і барацьбы, і якія пасля Ты ніяк не магла ўспомніць. Усё паглыналася хваляваннем.*

*«Мы дамо! Мы — сіла! Мы — права!*» [14, с. 4]

Так, Алаіза была палымянай рэвалюцыянеркай, бунтаркай, але ў першую чаргу рэвалюцыянеркай па духу, бунтаркай-асветніцай. Праўда, яе гарачкавы максімалізм не мог устаяць і перад моднымі тады барыкадамі, і яна заклікала да іх. Яна, якая ніколі не губляла Бога ў душы, прамаўляла: «*Цара павесіць трэба! Трэба...*» Яна напіша «Хрэст на свабоду», «Мора», «Пад штандарам», «Прысягу над крывавымі разорамі». Яе вершы распаўсюджваліся як рэвалюцыйныя пракламацыі, а пасля сталі хрэстаматыйнымі, яны заклікалі народ да рэвалюцыйнай барацьбы з царызмам. Але ж яна пісала і іншае: «Мужыцкую долю», «Сынок маленькі», «Мужык не змяніўся», «Музыкант беларускі», «Родную вёску»,

«Лучынку» і шмат што іншае. «*У кожнага з нас павінен быць свой шэсцьдзясят трэці год...*» [13, с. 92] — скажа Ажэшка. Год вялікіх надзей і спадзяванняў, і вялікіх узрушэнняў таксама. Для Цёткі такім годам стаў 1905. Год, пасля якога ў яе пачаўся напружаны пошук новых маральных каштоўнасцей, новых духоўных арыенціраў.

Цётка ў рамане В. Коўтун — асоба трагічная. Такі спрадвечны лёс усіх, хто пазначаны талентам, хто нясе на сабе крыж боскага наканавання. Крыж сумленнасці народнай. Крыж месіянства. «*Я зразумела самае важнае*, — скажа Алаіза пані Ажэшкавай. — *Усё, што прыйшло да нас ужо гатовым і правераным, — усё трэба выпрабоўваць сумненнем... Выпрабоўваць сумненнем, значыць імкнуцца паляпшаць*» [13, с. 90]. У імкненні да паляпшэння і немагчымасці палепшыць — галоўная драма Паэта ўсіх часоў.

Працягваючы спрэчку аб ролі і значэнні паэта ў развіцці грамадства, В. Коўтун закранае пытанне аб сутнасці мастацтва наогул. У структуру тэксту ўводзіцца вобраз віленскага багамаза, а пасля цвінтарнага вартаўніка Васіля Гразнова. Гэта выніковая частка дыскусіі. Сапраўдная сіла мастацтва — стваральная. Гэта ад Бога-творцы. «*Я заўсёды баяўся бачыць свет вачамі таго, хто ўмее толькі знішчаць...*» [13, с. 396] — скажа Гразноў, ужо прайшоўшы праз сваю ўнутраную драму. Мікеланджэла, Бах былі геніямі не толькі таму, што стаялі блізка ад Бога, але яшчэ і таму, што задавальняліся нябеснымі ўзнагародамі. Усё здаецца правільным і слушным. І Гразнова хочацца падтрымаць: сапраўды, зямны прагматызм абясцэніў мастацтва, здрабніў яго. Але разам з тым у словах багамаза нешта насцярожвае, і гэтае «нешта» неўзабаве набывае якасці спрэчнай канцэпцыі. «*У мяне, мілая*, — звяртаецца мастак да Алаізы, — *гэтае самае паняцце радзімы мае толькі эмацыянальныя межы. Любоў, нянавісць, вера. Мая радзіма... маё сэрца. Там няма ні Арла, ні Вільні. Няма і цара. І ніякага народа няма... мастацтва павінна ўзвысіцца над страсцямі зямнымі*» [13, с. 408—409].

Мастацтва без сацыяльнага і — галоўнае — нацыянальнага зместу, без канкрэтнага чалавека, без страсцей і эмоцый? Але хіба тады гэта мастацтва? Алаіза бачыць тое, што адмаўляецца бачыць Гразноў. У статуі Медзічы яна бачыць яшчэ і вялікі адчай творцы, а не толькі служэнне мастака, абстрагаванае ад страсцей. Утрыруючы мастацтва вялікага Мікеланджэла, Гразноў перакрэсліваў, адмаўляў і ёй, паэтцы, у праве на яе творчасць, бо яна таксама пісала душою. Сваёй уласнай і свайго народа. Як і жыла. Мастацтва без душы — гэта памерлае мастацтва. Яно не мае водгуку ні ў душы народа, ні ў гістарычнай прасторы. Так, Алаіза «*думае вачамі*», жыве «*толькі адной хвілінай. Якую перажывае». «Але ж гэтая хвіліна — не толькі мая. І не адна я жыву ў тую хвіліну. А — цэлыя народы... у адну хвіліну можа ўмясціцца ўсё. І смерць. І жыццё*» [13, с. 409]. Гэта — філасофія творчасці Цёткі. Такой філасофіяй, дарэчы, кіравалася і пісьменніца В. Коўтун.

Эліза Ажэшка была перакананая, што рэлігія, яе «*чыстая сутнасць*» — гэта «*вера ў бессмяротнасць душы, у яе сапраўдную ўнутраную цягу да Боскай мыслі, да Боскай мэты... Прыйсці да Бога можна толькі па адной дарозе! Праўды і міласэрнасці*» [13, с. 450]. Такой дарогай, цяжкай і пакутнай, ішла Алаіза. Дарогай духоўнага самаўдасканальвання. Каб нарэшце адкрыць новае для сябе разуменне чалавека, спасцігнуць яго самакаштоўнасць. Перад тым, як пайсці з жыцця зямнога, вялікая паэтка зразумела галоўную для сябе ісціну: «*Ніхто з нас не вольны быць суддзёю іншых людзей. Роўна як і суддзёю аднаго чалавека*» [13, с. 485]. Алаіза вініцца перад людзьмі і перад Госпадам за сваё ранейшае «*павесіць...*» Няважна цяпер — каго. Важна, што «*жыццё чалавечае — у руках Боскіх мае быць!*» [13, с. 485]

Па тым часе В. Коўтун напісала арыгінальны раман пра падзеі і жыццё народа на пачатку XX стагоддзя, стварыла сваю Цётку, адлюстраваўшы гэты

вобраз па-новаму, нетрадыцыйна, раскрыўшы трагічную сутнасць паэткі-рэвалюцыянеркі. Гэта быў досыць смелы ўчынак з яе боку. Яе мастацкі дыскурс меў прыкметы фарміравання ўжо новага тыпу літаратурнай творчасці. Набліжалася XXI стагоддзе з яго агульным адчуваннем крызіснасці.

* * *

Як адну з галоўных у працэсе нацыянальнага гісторыка-культурнага фарміравання гуманістычных прыярытэтаў канца 1990-х — пачатку 2000-х гадоў В. Коўтун вылучае ідэю хрысціянскай духоўнасці. Да гэтай ідэі-канцэпту яна прыблізілася ў рамане «Крыж міласэрнасці». Спасціжэнне катэгорыі міласэрнасці ў сакральным яе значэнні як маральнай асновы быцця наблізіла пісьменніцу да хрысціянскага светаразумення. Гэта стала «духоўным прынцыпам» Цёткі напрыканцы яе жыцця — цяжкім пакутным «крыжам».

Ідэя хрысціянскай самасвядомасці як аснова духоўнага абнаўлення грамадства стала ўжо дамінантнай у рамане-жыціі В. Коўтун «Пакліканыя» (1998—2007). Гэты твор — лагічнае завяршэнне духоўных пошукаў пісьменніцы. Упершыню ў беларускай літаратурнай традыцыі пастаўлена праблема святасці — і не толькі як праблема маральна-этычная, але і філасофская.

Працэс хрысціянізацыі славянскіх народаў быў складаным, трагічна-супярэчлівым. В. Коўтун, імкнучыся да адлюстравання рэальнай гісторыі, рэальнай псіхалогіі часу, не абыходзіць моманты жорсткай барацьбы. Канфлікт веравызнанняў адзін з важнейшых у сюжэтным развіцці твора. У вір процістаяння ўцягнены шматлікія дзеючыя асобы — ад епіскапа і Еўфрасінні, якія прадстаўляюць маладое хрысціянства, да прадстаўнікоў паганства: вешчуны Вікула і Валодша. Разам з тым, як адзначыць сама пісьменніца, «*чым больш мацнела хрысціянская вера, тым большы размах набывала крывавая барацьба паміж Полацкам, Ноўгарадам і Кіевам за вярхоўную княжую ўладу…*» [15, с. 17] Дванаццатае стагоддзе пачыналася «*трывожна і неміласэрна*» [15, с. 17].

Мастацкае поле ўключае ў сябе шырокую геаграфічную і часавую прастору. Рэтраспектыўна, праз бясконцыя ўспаміны паломнікаў, пададзены шырокі малюнак жыцця таго гістарычнага часу. Таксама рэтраспектыўна, праз самарэфлексію, адлюстраваны і жыццяпісы галоўных персанажаў: Еўфрасінні Полацкай, Еўпраксіі, менскай князёўны Вольгі. Але суб’ектыўнасці тут няма. З голасам героя зліваецца аўтарскі голас, іх дапаўняе дакументальнае пісьмо, гістарычныя звесткі і г.д.

У «Пакліканых», як было раней у «Крыжы міласэрнасці», пісьменніца паядноўвае ў адным эпічным малюнку рух гісторыі, дзеі вялікіх мас людзей з рухам індывідуальнага лёсу, з працэсам духоўнага развіцця асобнага чалавека. Кожны з элементаў неабходны, каб склаўся маштабны малюнак быцця.

Паводле В. Коўтун, ідэя барацьбы дабра і зла закладзена ў прыродзе, створанай Самім Творцам. Дабро і зло — пачаткі субстанцыяльныя, узаемазвязаныя. На тэзу павінна быць антытэза. Гэта — закон, і ён пакладзены ў аснову Сусвету. Улада, лічыць пісьменніца, — зло абсалютнае. Праблема ўлады — адна з цэнтральных у тэксце. Перагортваючы адна за адной старонкі крывавых бітваў за княжацкі сталец, аўтарка імкнецца высветліць «*тую вялікую таямніцу, якую тоіць у сабе д’ябальская спакуса ўлады і ўсялякая магчымасць быць мацней за іншага чалавека. І мацней настолькі, што можна нават забраць у супраціўніка дар Боскі — жыццё*» [15, с. 127].

Рух айчыннай гісторыі — трагічны рух. Д’яблам спакушаныя, людзі праліваюць кроў за ўладу, забываючы аб тым галоўным, што «*мы здавён — сейбіты. Аратывернікі мы. І прадзеды нашы, ад зямлі, займаліся таржышчам хлеба і запальвалі паходні на свята свяшчэннага плуга. Ворнікі-скалоты мы!..*» [15, с. 158] —

пераканана даводзіць пісьменніца. Людзі адракліся ад сваёй спрадвечнай сутнасці. Яны забыліся пра дух, якім усё наталяцца павінна. Забыліся пра «*меч духоўны, які ёсць Слова Божае*» [15, с. 139]. Гэтая выснова В. Коўтун найбольш актуальная для нашага часу. Для ўсіх часоў ад самага пачатку.

Ідэя любові як ідэя Бога праходзіць лейтматывам праз усю апавядальную прастору твора. «*Бо нічога не ўзрастае на зямлі гэтай без любві*» [15, с. 35]; любоў усюдыісная, «*ці на неба чалавек узыдзе — і там любоў. І ў апраметную рыне — любоў знойдзе. Уладжана любоў і ў чэраве маці тваёй*» [15, с. 66]. Без любові чалавек, «*як хваля... якую вецер гоніць, распырсквае*» [15, с. 66].

Такім чынам, В. Коўтун славіць не Бога абстрактнага, а Бога-Чалавека, экзістэнцыяльнага Бога. Боскі пачатак, або сфера Бога, — не пазачалавекам, а ўнутры чалавека. «*Сказана: прыйдзі да сябе і прыйдзеш да Айца нябеснага*» [15, с. 121]. Катэгорыя Бога ў кантэксце рамана ўспрымаецца ў значнай ступені як катэгорыя маральнага, ці лепш па-руску, нравственного кшталту. Гэта — сфера высокага духу. Духу — абсалюту.

Свет і чалавека ўратуюць толькі безумоўныя хрысціянскія імператывы: ветхазаветнае «не забі» і евангельскае «не супраціўся злу». Любоў, міласэрнасць, усёдаравальнасць — асноўныя складнікі катэгорыі святасці. Яны — аснова этычнай праграмы В. Коўтун. Праграма гэтая «матэрыялізуецца» ў вобразе галоўнай гераіні твора Еўфрасінні Полацкай — адной з «пакліканых». Але адзіна «абранай».

Полацкая ігумення, напрыканцы свайго доўгага манаскага жыцця, апынуўшыся на святой зямлі Галілеі, «*усё ўзіралася ў пачварныя валы і нізкія ўскалочаныя хмары, нібыта намагалася ў смяротнай кудасе разглядзець і разгадаць тое спрадвечнае, да чаго яна гэтак адчайна і доўга, праз усё сваё жыццё, спяшалася*» [15, с. 20]. Яна просіць у таго, каму амаль усё жыццё аддана служыла, дазволу пусціць «*кола памяці праз жыццёвы круг, бо ўжо гатова сэрца маё*» [15, с. 28]. І яна «*ўсё ніжэй апускала голаў у пякучую памяць*» (20). Памяць-успамін, памяць-расстанне. Гэта ёй было край неабходна яшчэ і для свайго ўнутранага падсумавання. Гераіні хацелася, перш чым навечна растварыцца ў вялікім духоўным космасе, яшчэ раз дакрануцца да таго зямнога, «чалавечага», людскага, якое трымала яе ў сваім палоне, хоць здавалася, што ўсё даўно забыта, «*прамінула і адышло ў нябыт*» [15, с. 28]. Яна ўзіралася, усё глыбей і глыбей, — у тыя далёкія часіны, калі яшчэ князёўнай яна, дачка віцебскага князя Святаслава-Георгія і ўнучка Уладзіміра Манамаха, зродніца князёў вялікіх полацкіх Барыса і Рагвалода, лёгка хадзіла па яркай раскошы травы, слухала раку, спевы птушак. Яе, манахіню, нібыта нехта настойліва клікаў, гукаў у далёкую маладосць, калі ўсе яны, вучні Данілавы, пакляліся не пакідаць адзін аднаго «*ні ў агні, ні ў вадзе...*» Або, калі яе, юніцу, збіраліся выдаць замуж за смаляніна Дабраслава... То зноў, у каторы раз, гераіня вярталася ў вузенькія сцены сафійскай галубіцы. Мяккі ветрык бясконцай Іудзейскай пустыні «*лёгка перагортваў манускрыпты яе ўласнага, такога доўгага і няпростага жыцця*» [15, с. 42].

Пісьменніца з самага пачатку адмовілася ад ідэалізацыі вобраза Еўфрасінні (як, дарэчы, і іншых сваіх герояў). Яе гераіня — спрэс процiборства зямнога і духоўнага. Зямное, цялеснае моцна трымалі яе ў сваім палоне, але яна ўпарта адмаўлялася ад усіх радасцей зямных, бо іншае мелася зрабіць. Ды і наогул, «*слава зямная — прах і попел. Знікае, як падманная пара. І горш павуціння аблытвае людзей. Слабасці плоці часам мацней за сілу духу*» [15, с. 208].

Яшчэ юніцай Еўфрасіння (у міры Прадслава) далучалася да кніжных навук, вывучала мовы, у тым ліку і грэцкую ў пісца Данілы. У кнігах шукала яна паратунак для сваёй душы. «*Кніжкі, як сонейка ўдзень. Як месяц уначы... Кніжкі — гэта Гасподзь, які ёсць — Слова*» [15, с. 32].

У 12-гадовым узросце юная княжна пакінула шыкоўны палац бацькі і прыняла манаскі пострыг. З гэтага моманту і пачаўся яе цярністы шлях — шлях бясконцых выпрабаванняў і бесперапыннай малітвы. Шлях самаахвяравання і самаадрачэння. Шлях да горніх вышынь.

Сілы нябесныя зрабілі Еўфрасінню відушчай, а повязь з зямлёю зрабіла яе адчувальнай да болю чужога. Яна чула «*развярэджаны стогн параненай зямлі*» [15, с. 66] і боль людзей — жывых і нават памерлых. Душы памерлых таксама звярталіся да яе, яны крычалі, прасілі яе дапамогі, заступніцтва — перад Ім, Вышэйшым. І Еўфрасіння малілася, ратавала жывых і памерлых ад паганскага агню. Маліла Бога аб літасці да ўсіх, «*нікому не вядомых, прыплылых на ладдзях, і чаўнах*» [15, с. 64], да тых, «*чые целы з баявымі ранамі ці чорнымі дзірамі д'яблавай чумы ляжалі цяпер на колах*» [15, с. 65], да ўсіх, гвалтам загубленых. Нібыта ўвесь боль свету ўліваўся ў яе спакутаваную малітвай душу. І гэты чужы боль станавіўся яе ўласным. Ён паласаваў яе цела з новай і новай сілай. А яна прасіла ўсё новых і новых выпрабаванняў, бо менавіта ў іх бачыла сваё і ўсяго роду чалавечага ратаванне.

Гераіня В. Коўтун — не менш шэкспіраўскага героя: па ўнутраным багацці і разнастайнасці душэўнага стану. Гэта вобраз сакральны ў беларускай літаратуры (калі разумець пад сакральнасцю якасць, якая валодае абавязковым станоўчым маральным зместам). Нароўні з вобразамі Міхала («Новая зямля»), Васіля Дзятліка («Палеская хроніка»), Сцепаніды Багацька («Знак бяды»), В. Коўтун прапануе грамадскасці «мадэль» беларускага хранатопа, які мае сваю парадыгму каштоўнаснага вымярэння, — абсалютную арыентацыю на хрысціянскае светаадчуванне, калі быццё і небыццё ўспрымаюцца як манада ў манадзе.

Еўфрасіння Полацкая — асоба адраджэнскага кшталту. З шэрагу сусветна вядомых: Скарына, Будны, Цётка. Але яна і адрозная ад іх — праз сваю святасць. Яна не толькі «пакліканая», але і «абраная». Яна — пакутніца, якая, падобна свайму Настаўніку, імкнецца ўзяць на сябе грахі чалавечыя. І пры ўсім гэтым яна, як з'ява мастацкая, захоўвае «непадзельную сутнасць».

Валянціна Коўтун стварыла твор, адмысловы па сваёй унутранай структуры. Сон, трызненні, відзежы — адыгрываюць важную ролю ў структуры вобразаў. Як і ўвогуле ў апавядальнай прасторы твора. Але ўсё гэта не зніжае рэальна-жыццёвага напаўнення рамана. Нават наадварот, падкрэслівае яго канкрэтна-гістарычны змест. Рэальнае суадносіцца з містычным, дзе асаблівая роля адводзіцца цудам Еўфрасінні.

Раман «Пакліканыя» заняў пачэснае месца ў шэрагу адметных узораў нацыянальнай прозы і ўвогуле еўрапейскай літаратуры. Сваім дыскурсам В. Коўтун адкрыла новыя магчымасці дакументальна-мастацкай і інтэлектуальнай прозы, — набліжаючы яе да жанру жыція. Раман паядноўвае, сінтэзуе ў адно мастацкае цэлае гісторыю, дакумент, літаратурнае ўяўленне як «волю да звышбыцця» (Г. Башляр), элементы «жыційнай» літаратуры і моманты попкультуры — дэтэктыў. Займальнасць сюжэта, нязвыкласць тэматыкі, стылёвыя эксперыменты — усё гэта паслядоўна і арганічна скіравана на выяўленне жыццёва важных, быційных праблем беларускага народа, беларускага этнасу. Але нават не гэта галоўнае. Пісьменніца ўводзіць ва ўжытак беларускай літаратуры тэму святасці. Раман-жыціе змяшчае ў сабе новыя сэнсы духоўнасці чалавека, сцвярджае веру ў Чалавека светлага, «пакліканага» і «абранага». Кніга гэта ў кантэксце сучаснай нацыянальнай прозы стасуецца не толькі з той літаратурай, якая была, але і з той, якая яшчэ будзе.

У 2009 годзе В. Коўтун выступіла з новым літаратурным праектам — зборнікам вершаў «Малітва да Калымы». Кніга выйшла пад псеўданімам Лесі Беларускі. Гісторыя «народзін» кніжкі мае сваю інтрыгу. Асаблівыя спрэчкі вяліся вакол імя беларускай «калымчанкі» Лесі Беларускай — нібыта рэальнай беларускай

паэткі, пацярпелай ад сталінскага рэжыму. В. Коўтун была пераканана, што канкрэтнай Лесі ніколі не было. Гэта — літаратурная містыфікацыя.

«Малітва да Калымы» была прадвызначана самімі працэсамі жыцця — сацыяльнымі і асабістымі. Духоўнае збліжэнне В. Коўтун з Паэтам трагічнага часу было непазбежным. Як і яе ўскладненае спасціжэнне бунтоўнага, нязломнага духа. «*Я цалкам растварылася ў вобразе Лесі*» [16, с. 5], — прызнаецца пісьменніца.

У зборніку выразна акрэслены два хранатопныя вобразы, вобразы-канцэпты — Паэта і Радзімы. Яны то ўпадабляюцца адзін аднаму: «*Беларусь, мы с табою адзіны: // па дыханні і твары // нас можна пазнаць*» [16, с. 41]. То зліваюцца ў адно цэлае: «*Я — часцінка цывілізацыі // ад Полацка і да Брэста*» [16, с. 41]. То атаясамляюцца: «*Я ж — Беларусь*» [16, с. 42]. В. Коўтун параўноўвае Паэта з Праметэем: «*Дзесяты год я тут, у льдах, закута. // ...Як Праметэй // Ды веру, што мяне Гефест пазбавіць. // Скончыцца пакута*» [16, с. 56]. Радзіма персаніфікуецца ў вобразе матулі, з якой паэтка, як было ў ранейшай паэзіі, зноў паядноўваецца: «*Мяне саграеш // ты, матуленька… ты, Беларуся. // Па шчацэ ў мяне — льюцца слёзы яе. // А слязінкі мае па шчацэ — у яе*» [16, с. 50]. Гэтае прачуленае «*матуленька… Беларуся*» ўносіць у стылёвую парадыгму верша асаблівую шчымлівасць, пэўны сентыментальны настрой. У зусім іншым дыяпазоне вырашаецца тэма Паэт і Радзіма ў вершы «Прысягаю». Тут пануе іншая стылістыка, іншая эмацыянальная стыхія, іншая моўная энергія:

Прысягаю роднаму краю,
годнасці дачкі Яго —
клянуся…
Паміраю.
Ціха паміраю.
Паміраю…
Толькі не здаюся! [16, с. 43]

Трэба сказаць, што яшчэ напрыканцы 80-х — сярэдзіне 90-х гадоў, В. Коўтун канчаткова прыняла ідэю Бога, пранікнулася хрысціянскай рэлігіяй, як выратавальнай маральнай праграмай будучыні. І гэта пэўным чынам паўплывала на пазнейшае вырашэнне вобраза Паэта. Яна ставіць яго ўпоравень з Месіяй:

Цвік забівае хтосьці ў ногі мне…
І ў галаву… І выцягнуць не можа
Мы ўсе ў цвіках наскрозь —
і я, і строфы! [16, с. 12]

Па словах В. Коўтун «Малітва да Калымы», ёсць «помнік тым лагерным пакутніцам, якія з матчынай песняй у вуснах загінулі на вогненным крыжы незабыўных «гулагаўскіх».

*Але — не змоўклі…* [16, с. 67]

А яшчэ «Малітва да Калымы» — гэта малітва да ўсіх нас, да ўсяго свету. Малітва — боль, малітва — перасцярога, малітва — заклінанне. Каб памяталі…

* * *

Апошнія гады Валянціна Міхайлаўна часта наведвалася ў Пінск, у невялікую вёску Жабчыцы, дзе стаяў, на жаль, апусцелы ўжо бацькоўскі дом. Клікала яе сюды зямля продкаў, якую яна вельмі любіла. Гэтак жа, як і шанавала памяць сваіх бацькоў. Вось і на гэты раз Валянціна Міхайлаўна прыехала сюды ў красавіку 2011 года — адразу пасля свайго юбілейнага дня нараджэння. Прыехала творча акрылёная, натхнёная. Ёй хацелася крышачку адпачыць ад тлумнага жыцця сталі-

цы, вырашыць пэўныя пытанні і хутчэй вярнуцца назад у Мінск. Выспела новая творчая тэма і яна жыла ўжо гэтай тэмай, жыла атмасферай той эпохі, у якую ёй карцела акунуцца з галавой. Ды і не дзіва: пісьменніца рашылася даследаваць карані свайго роду — ад самага іх пачатку, ад татара-мангольскага нашэсця. Але... 31 красавіка раптоўна, на зямлі бацькоў сваіх, Валянціны Міхайлаўны не стала. Паклікала зямля яе продкаў да сябе. Назаўсёды.

## Спіс літаратуры:

1. Коўтун, В. М. Каляровыя вёслы: зборнік вершаў / В. М. Коўтун. — Мн., 1971.

2. Семашкевіч, Р. Выпрабаванне любоўю: эсэ, артыкулы / Р. Семашкевіч — Мн., 1982. — 204 с.

3. Семашкевіч, Р. Поспехі і цяжкасці паэтычнага адкрыцця / Р. Семашкевіч // Маладосць. — 1972. — № 3.

4. Коўтун, В. М. На ўзлёце дня: зборнік вершаў / В. М. Коўтун. — Мн., 1977.

5. Гніламёдаў, У. В. Сучасная беларуская паэзія : Творчая індывідуальнасць і літаратурны працэс / У. В. Гніламёдаў. — Мінск : Навука і тэхніка, 1983. — 304 с.

6. Шынкарэнка, В. Скрозь хмары прабіцца маланкаю / В. Шынкарэнка // Полымя. — 1998. — № 3.

7. Коўтун, В. М. На зломе маланкі : зборнік вершаў / В. М. Коўтун. — Мн., 1981.

8. Коўтун, В. М. Метраном : зборнік вершаў / В. М. Коўтун. — Мн.: Мастацкая літаратура, 1985. — 135 с.

9. Конан, У. Вяртанне мастацкага эпасу / У. Конан // Літаратура і мастацтва. — 1998. — 9 кастрычніка.

10. Бражэнас, П. «Крыж міласэрнасці» па-літоўску / П. Бражэнас // Полымя. — 1998. — № 10.

11. Сямёнава, А. «Ёсць надзея і роспач» / А. Сямёнава // ЛіМ. — 1996. — 5 красавіка.

12. Лялько, Х. «Вітаю зноў паэзіі бяссмерце...» / Х. Лялько // Роднае слова. — 1996. — № 4.

13. Коўтун, В. М. Крыж міласэрнасці: раман: у 2 кн. / В. М. Коўтун. — Мінск: Мастацкая літаратура, 1996. — 493 с.

14. Коўтун, В. М. Гэта было жыццё / В. М. Коўтун // Коўтун, В. М. Крыж міласэрнасці : раман: кн. I. / В. М. Коўтун. — Мн., 1988.

15. Коўтун, В. М. Пакліканыя: раман-жыціе / В. М. Коўтун. — Мн., Мастацкая літаратура, 2007. — 247 с.

16. Коўтун, В. М. Малітва Лесі Беларускі / В. М. Коўтун // Звязда. — 2009. — 30 красавіка.

**Васіль ШУР**

# ПАЛЕССЕ — КУТОК НЕПАЎТОРНЫ

На думку вучоных, Палессе з'яўляецца часткай былой славянскай прарадзімы: гэты рэгіён выдзяляецца значнай устойлівасцю і аўтахтоннасцю насельніцтва, спецыфічнымі ландшафтнымі паказчыкамі, яго месцам на сумежжы трох усходнеславянскіх народаў, а таксама блізкасцю да старажытнага дзяржаўнага і культурнага цэнтра ўсходніх славян Кіева. Таму ўвага і цікавасць да гэтага рэгіёна асаблівая. Што ж уяўляе Палессе як тэрыторыя, якая не адно дзесяцігоддзе вывучаецца даволі падрабязна не толькі лінгвістамі, але і гісторыкамі, этнографамі, біёлагамі, археолагамі, геолагамі, прадстаўнікамі самых розных навук?

Слова *палессе* мае два значэнні. Гэтай адзінкай, як піша А. Крывіцкі, абазначаецца прыродна-геаграфічная прастора — тып ландшафту на Усходне-Еўрапейскай раўніне, моцна забалочанага і ўкрытага лесам. Цягнецца перарывістай паласой ад межаў Польшчы да Урала. З гэтым значэннем слова *палессе* з'яўляецца геаграфічным тэрмінам і пішацца, натуральна, з малой літары. Харонім *Палессе* як уласная назва ў працах этнографаў, гісторыкаў, мовазнаўцаў, у друку наогул — гэта «этнаграфічная вобласць у басейне ракі Прыпяць». З такім значэннем — гэта выразнае анамастычнае найменне [1, с. 35]. Ф. Клімчук, які спецыяльна займаўся паходжаннем гэтага тэрміна, адзначаў, што ён паходзіць ад слова *лес*, утвораны пры дапамозе прыстаўкі *па- (-по)* і суфіксальнага афармлення яе асновы тыпу *Парэчча, Памор'е, Падняпроўе, Пабужжа, Панямонне.*

Прыпяцкае Палессе ў наш час — унікальны рэгіён, які акумуляваў у сабе рысы не толькі ўсходніх славян, але і элементы духоўнай і матэрыяльнай спадчыны іншых этнасаў — польскага, яўрэйскага, нямецкага, татарскага і інш. Мазыршчына, Усходняе Палессе «поўнасцю або часткова, разглядаюцца як кампанент славянскай прарадзімы і нават як сама прарадзіма, або як рэгіён, які непасрэдна або блізка да яго прымыкаючы, што робіць этнагенетычны план палескіх даследаванняў вельмі карысным для славістыкі ў цэлым» [2, с. 6]. Акадэмік М. Талстой наогул вызначаў гэты рэгіён як аналаг славянскага этнамоўнага/этнакультурнага прастану. Спецыфіка палескай тэрыторыі ў тым, што яе цэнтральнае месцазнаходжанне на мяжы ўсходнеславянскіх этнасаў і ўсходне-заходнім славянскім памежжы абумовіла асабліва інтэнсіўныя міжэтнічныя ўзаемасувязі і ўзаемаўплывы. Выключная актуальнасць вывучэння і захавання агульнапрызнанай унікальнай культурнай спадчыны Палесся зафіксавана асобнай пастановай Генеральнай Асамблеі ЮНЕСКА ў 2002 годзе.

Вывучэнне Палесся пачалося яшчэ ў XIX — першай палове XX ст. Першымі, хто звярнуў увагу на Палессе з улікам важнасці яго вывучэння ў славянскай супольнасці, былі польскія даследчыкі. Вядомы літаратар, публіцыст, этнограф *Юзаф Ігнацый Крашэўскі* ў 1839 годзе апублікаваў «*Успаміны Валыні, Палесся і Літвы».* *Ян Снядэцкі* ў артыкуле *«Палессе»* (1845 г., часопіс «Biblioteka Warszawska») падрабязна расказаў пра пачатак інтэнсіўнай эксплуатацыі палескіх лясных багаццяў, пра выраб паташу, смалы, дзёгцю, сплаў лесу па рэках Палесся. Пер-

шым звярнуў увагу на традыцыйныя прамысловыя і рамесныя заняткі палешукоў *Казімір Кантрым.* Вынікам яго экспедыцыі на Палессе стала кніга *«Падарожжа Кантрыма, чыноўніка Палескага банка, якое адбылося ў 1839 годзе па Палессі».* Аўтар апісаў галоўным чынам гандаль і яго ўмовы, сістэму камунікацый, прыродныя асаблівасці палескага краю, звесткі пра паляўніцтва: ён паведаміў пра асаблівасці палявання на дзіка, лісу, бабра, згадаў, што ў той час на Палессі яшчэ сустракаўся асяцёр.

Палессе ўжо з XV—XVI стст. вядомае еўрапейскім географам і храністам. Гэта край старажытных славянскіх гарадоў: *Турава, Мазыра, Пінска*. Гэта край княстваў і земляў усходніх славян.

Асноўнай адметнасцю *Палесся* былі балоты. У нарысе Ігната Дуброўскага *«У пошуках залатога дна»* падкрэслівалася, што вада здавён кідалася ў вочы ў палескім пейзажы. «Палессе — назву сваю атрымала ад лесу, — услед за іншымі сцвярджаў гэты пісьменнік і вучоны, — хаця зону яго вызначалі балоты, а не лес. А балоты — гэта гнілая вада, адсюль і *каўтун* — хвароба, якая была выразнаю адметнасцю палешукоў». Здавалася б, каб пазбавіцца балот, варта толькі іх асушыць. Такім было адвечнае жаданне палешукоў. Упершыню за гэта ўзялася ва Усходнім Палессі ў сярэдзіне XIX ст. Заходняя экспедыцыя пад кіраўніцтвам генерала-беларуса Іосіфа Жылінскага. Асушылі ажно чатыры тысячы кіламетраў розных водных магістраляў. Сяляне выкапалі рыдлёўкамі шаснаццаць мільёнаў кубаметраў зямлі.

Аляксандр Крывіцкі ў артыкуле *«Назва Палесся — свая ці чужая?»* піша: «…назва Палесся абазначае не проста пакрытую лесам (суцэльным лесам) прыродна-геаграфічную тэрыторыю, у адрозненне ад адкрытых лесастэпавых абшараў, першапачаткова — гэта месца *палесавання*, занятку, у агульных рысах блізкага да таго, які называюць цяпер словам *паляваць*, а потым і палюддзя *«палявання»* — набыткам мясцовага насельніцтва. А ад такой агульнай назвы да ўласнай назвы краю адзін крок, асабліва з пункту гледжання паўднёвых суседзяў — палякаў, палевікоў, для якіх палескі лес — дубы, хвоі, бераст, граб, ліпа і ўсё іншае — у першую чаргу, зразумела, як будаўнічы і наогул універсальны ў той час у гэтым краі гаспадарчы матэрыял… Палескі лес быў для «палевікоў» таксама найбагацейшай кладоўкай разнастайных натуральных раслінных і жывёльных прадуктаў харчавання, а таксама скураных і іншых матэрыялаў для адзення, абутку, зброі і г. д. Гэта дарункі лясной і балотнай расліннасці — ягады, грыбы, арэхі, жалуды, лекавыя зёлкі інш. Гэта мёд, для асвятлення і іншых патрэб воск. Гэта запечаная, сушаная, вэнджаная і іншая рыба розных відаў. Гэта велізарнае багацце прадуктаў жывёльнага свету Палесся — мяса і тлушч жывёл і птушак у розным прыгатаванні, птушыныя яйкі, скуры і пяро, шэрсць і самае дарагое бабровае і нават сабалінае футра» [1, с. 35—43].

З улікам свайго прыватнага ўяўлення дае вызначэнне Палессю пісьменнік У. Паўлаў у аўтабіяграфіі, змешчанай у кнізе «Вытокі песні»: *«Ляскі, Лясішчы, Лесуны… Назвы засталіся ад даўніны, бо лесу вакол не так многа. Адно наша поле распасціраецца ў стэпавай Случчыне, другое губляецца за першымі пералескамі Любаншчыны. А праз некалькі дзясяткаў кіламетраў за Любанем і Старобінам — і Палессе».* Прыкладна так разважае пра лакалізацыю Палесся, палешукоў і персанаж трылогіі Я. Коласа «На ростанях» падлоўчы *Баранкевіч* — жыхар вёскі *Цельшына*, а ў сапраўднасці *Люсіна* Пінскага раёна, адрозніваючы палешукоў ад ліцвінаў, гэта значыць беларусаў з Гродзеншчыны. Пішучы падрабязна пра асобу *Баранкевіча*, яго паходжанне, Я. Колас адзначаў: *«Пан падлоўчы быў родам дзесь з Гродзеншчыны і паходзіў, як ён казаў сам, са старога дваранскага роду. Тутэйшае жыхарства лічыла яго палякам, сам жа падлоўчы з гэтым не згаджаўся. «Я — ліцвін», — з нейкай гордасцю зазначаў пан падлоўчы, і сваю належнасць да ліцвінаў даводзіў, паміж іншым, і тым, што яго прозвішча —*

*Баранкевіч — мела канчатак на «іч», тады як чыста польскія прозвішчы канчаюцца на «скі»: Жулаўскі, Дамброўскі, Галонскі».* Уносіць адпаведны карэктыў у гэта размежаванне і вядомы гісторык Мікалай Улашчык, наведваючы ў канцы 20-х гадоў XX ст. *Случчыну* і *Палессе: «Дабіраемся ўрэшце да саміх палешукоў, што яны палешукі гэта ўсім цвёрда вядома. Палешукі — асобны народ, а крыху далей на поўнач, у Мяжэвічах,* *ужо жыве Літва… Выцягваю сваю карту трохвёрстку і пробую ўстанавіць межы «Літвы» і Палесся. Мяжа аказваецца недалёка. Палеская толькі вёска Пагібелька, а далей Слуцак вёска Мяжэвічы — ужо Літва»* [7, с. 249]. Дакладна вызначыў мяжу паміж палешукамі і літвінамі (г. зн. беларусамі. — *В. Ш.*) А. Рогалеў: «*Мяжа паміж палешукамі і літвінамі, праходзіла прыкладна ад Белавежскай пушчы праз Пружаны, Бярозу, далей па рэках Шчары і Бобрыку да Лунінца і Прыпяці, і па гэтай рацэ да яе ўпадзення ў Днепр. На поўдзень пераважна жылі палешукі, а на поўнач — літвіны-беларусы*» [4, с. 10].

У *«Тураўскім слоўніку»* А. Крывіцкі таксама прыводзіць адметнае тлумачэнне лакалізацыі *Палесся* — лясной балоцістай мясцовасці, як растлумачаны гэты харонім на падставе мясцовых фактаў. На Тураўшчыне, як пераконвае гэты даследчык, яго звычайна ідэнтыфікуюць на поўдзень ад ракі Сцвігі. Т. Аліферчык, выкарыстаўшы абагульненні пра Палессе з прац Ф. Клімчука, А. Крывіцкага, прасачыла геаграфію гэтага этноніма ў межах Гомельшчыны і Брэстчыны, адзначыўшы, што ўяўленні жыхароў Тураўшчыны пра *полесье* — Палессе вагаюцца ад агульнай назвы да лясной і балоцістай мясцовасці з дакладнай лакалізацыяй (тапоніма). Так, у жыхароў *Столінскага* раёна гэта назва звычайна лакалізуецца ў межах былога *Палескага* ваяводства Польшчы. На іх думку, *«Полесье — таксама там, дзе Тонеж, Букчэ, Слобода, Семонічы* (афіцыйная назва Сіманавічы. — *В. Ш.*), *Млінок»* (вёскі сучаснага Лельчыцкага раёна. — *В. Ш.*). Ф. Клімчук таксама выявіў, што ў межах *Брэста* вызначаюцца два накірункі лакалізацыі *Полісся* — на ўсход за *Кобрын*, за *Драгічын*, а таксама за *Пінск*, і на паўднёвы ўсход — раён *Маларыты* і *Дамачава* [6, с. 37].

Пімен Панчанка ў нарысе *«Сын Палесся»* вельмі высока, узнёсла, з захапленнем напісаў пра гэты край, яго прыроднае багацце, пра яго самага знакамітага пісьменніка Івана Мележа з *Глінішчаў*, што ў Хойніцкім раёне, з якім яго аб’ядноўвалі даўнія сяброўскія адносіны не толькі па сумеснай працы, а і асабістая павага за ўнікальны талент, адметную палескую дабрыню і мудрасць. Пасля паездкі на верталёце напярэдадні залатога юбілею ў 1971 г. на радзіму Івана Мележа (разам з П. Машэравым, Ц. Кісялёвым, М. Танкам, А. Макаёнкам, І. Шамякіным) паэт напісаў наступныя класічныя радкі, назваўшы іх ёмкай перыфразай *«Зямля бацькоў»*, у якіх кожны беларус праз дакладна выверания мастацкія метафары, параўнанні, алюзіі пазнае не толькі мележаўскае Палессе з твораў класіка, а і сваю малую радзіму: «*А на Палессі ўсё ндробна: / Цяжкая спадчына вякоў, / Цяжкія рукі хлебаробаў, / Цяжкія сны палешукоў. / Якую трэба мець адважнасць / І сэрца сынава, каб так / Любіць палескі край туманны / І маці бедны андарак / Пад навальнічны подых рэзкі / Я пад буслянкаю стаю / І ў ціхай вёсачцы палескай / Сябе малога пазнаю. / Зямля бацькоўская, святая, / Так, гэта мы. Увесь народ… / Мне ў сэрца бусел залятае / З трывожных прыпяцкіх балот».* Звярніце ўвагу: зусім не так, як пісалі нядобразычліўцы раней пра палешукоў: *«А за Гомелем людзі ёсць? — Ёсць. Але вельмі дробненькія».*

Сярод значнай плеяды беларускіх пісьменнікаў — ураджэнцаў усходняга Палесся — выразна выдзяляюцца «тры Іваны» — Іван Мележ, Іван Шамякін, Іван Навуменка — народныя пісьменнікі Беларусі, удастоеныя самых высокіх дзяржаўных узнагарод, усенародна прызнаныя класікі беларускай літаратуры, чый шматгранны талент засведчаны ў разнастайных творах, вядомых не толькі ў Беларусі, а і далёка за яе межамі.

У творах мастацкай літаратуры ў розных аўтараў і ў розныя перыяды выяўляецца свая адметная спецыфіка ў апісанні Палесся. Так, у ранніх творах Якуба Коласа і іншых беларускіх, рускіх, польскіх, украінскіх пісьменнікаў гэтая назва ўвасабляла не толькі лакальную фізіка-геаграфічную частку ўсходняй Еўропы паміж Бугам і Дняпром, а і сімвалізавала аддалены, забыты Богам і людзьмі *«край лясоў, край балот», «усё балоты ды балоты!», «хоць бы поле заблішчала, Хоць бы вёска ўжо хутчэй!»* Да Кастрычніцкай рэвалюцыі, як сведчаць мастацкія апісанні, згаданая назва была пераважна сімвалам глухога, закінутага краю, яго эканамічнай і культурнай адсталасці. У Я. Коласа онім *Палессе* ўваходзіў у структуру загалоўкаў наступных твораў: *«Палеская глуш»* — адзін з варыянтаў назвы трылогіі *«На ростанях»*, апавядання «*Палеская вёска»*, вершаў *«Палескія вобразы»*, *«Вечар на Палессі»*, *«Вясна на Палессі»*, аповесцей *«У глыбі Палесся»*, *«У палескай глушы»*, драмы *«У пушчах Палесся»* і інш. Сам онім ці яго варыянты — кампанент у структуры наступных складаных назваў: *Палеская нізіна, Мазырскае Палессе, Пінскае Палессе, Рэчыцкае Палессе, Савецкае Палессе*. Гэтая назва, яе варыянты засведчаны ў 39 мастацкіх творах і пісьмах пісьменніка і ўжываюцца ў ім 212 разоў [8, с. 436].

У савецкі час *Палессе* ў творах Якуба Коласа, Янкі Купалы (40-я гады XX ст.) і іншых пісьменнікаў — гэта ўжо не сумны непраходны край суцэльных лясоў і грузкіх бязмерных балотных абшараў, наадварот. Гэты онім стаў уяўным сімвалам перамогі новага ладу над старым: «*Шуміць і гамоніць Савецкае Палессе, і новыя акорды гучаць у гэтым шуме і ў гэтым гомане»* (Я. Колас «Дрыгва»). У той час як даніна модзе некаторыя традыцыйныя назвы паселішчаў, якія нібыта мелі немілагучныя, абразлівыя ці іншыя негатыўныя асаблівасці, што не адпавядалі тагачасным сацыяльна-эканамічным і ідэалагічным устаноўкам і пераменам, замяняліся на новыя, штучныя, у якіх, на думку іх стваральнікаў, адлюстроўваліся надзеі і спадзяванні на лепшае жыццё, ушаноўвалася памяць пра вядомых дзеячаў, сімвалізаваліся станоўчыя з'явы ў грамадстве і інш. Такой анамастычнай адзінкай у той перыяд з'яўляўся і онім *Палессе*, асабліва з азначэннем *Новае*, *Савецкае*. Ім былі заменены некалькі айконімаў на Гомельшчыне: *Палессе* — паселішчы ў Петрыкаўскім (да 1964 г. *Падканапліша*), Рэчыцкім (да 1938 г. *Папоўкі*), Светлагорскім (да 1939 г. *Кабыльшчына*), *Новае Палессе* (да 1964 г. *Каросцін*) у Лельчыцкім, *Палеск* у Ельскім і іншых раёнах.

Асобныя аўтары апісанню Палесся, духоўнай і матэрыяльнай культуры палешукоў прысвячаюць значныя мастацкія і навуковыя творы, у некаторых Палессе ў разнастайных апісаннях — вынік усёй іх творчасці. Найперш неабходна назваць П. Шпілеўскага, М. Доўнар-Запольскага, Ю. Крашэўскага, М. Улашчыка, В. Дуніна-Марцінкевіча, Ч. Пяткевіча, М. Талстога, У. Краўчанку, І. Мележа, В. Вольскага, У. Дубоўку, Я. Пархуту, В. Казько, А. Крывіцкага, І. Навуменку, У. Верамейчыка, У. Караткевіча, Т. Хадкевіча, Ф. Янкоўскага, У. Лякіна, Г. Марчука, Л. Дранько-Майсюка, А. Федарэнку, А. Наварыча, А. Бароўскага.

Так, амаль уся творчасць Уладзіміра Верамейчыка пераважна пра родны край, сваю малую радзіму, *Мазырскае Палессе.* Яшчэ пры жыцці яго — шчырага патрыёта, узнёсла-вобразна называлі *«лірнік Палесся», «рыцар яе вялікасці Прыпяці», «аддані сын Палесся», «палескі абраннік»* і інш. Уладзімір Дубоўка, хоць і быў ураджэнцам Нарачанскага краю, аднак бязмежна любіў і Палессе, успрыняўшы яго як *«цудоўны казачны кілім»*, *«залатое Палессе»*, *«прыгажосць невыказная»*, паэт лічыў і сцвярджаў творчасцю, што на зямлі няма другой такой цудоўнай старонкі, як *Палессе*: *«Падобнага няма нідзе, падобны нават не прысніцца»*. Пра гэта і яго творы, загалоўкі якіх перадаюць вельмі многае: *«Усход сонца на Прыпяці», «Дождж у Мазыры», «Ноч на Прыпяці», «У Тураўскай пушчы», «Старобінская быль», «Палессе», «Герб Мазыра», «Пінск», «На спеўцы ў тураўскім клубе», «Тураўская Галя», «На замчышчы ў Тураве». «Палеская рап-*

*содыя»* — адна з лепшых кніг паэта. Як пісаў пра яе Ц. Ліякумовіч, у ёй У. Дубоўка «ўславіў адметную матэрыяльную і духоўную культуру палешукоў... героі яго паэтычнай лірыкі — носьбіты лепшых якасцей беларускага народа» [9, с. 4—13]. Пра галоўны горад Палесся Мазыр паэт пісаў пранікнёна: «*Тады Мазыр ва ўсёй красе / раскінуўся перад вачыма. / Тады пазналі мы ўсе: / быць прыгажэйшым — немагчыма!»* Гэта кніга атрымала шырокі розгалас на Беларусі і за яе межамі, а ў 1962 годзе яе аўтар быў адзначаны прэміяй імя Янкі Купалы. Вершы У. Дубоўкі пераклалі на рускую мову Ганна Ахматава, Аляксандр Пракоф’еў, Усевалад Раждзественскі, Мікалай Браўн, Марыя Камісарава і інш. Такім чынам, слава пра *Палессе*, палешукоў сягае далёка за межы нашай радзімы.

Сапраўднай энцыклапедыяй пра духоўную і матэрыяльную культуру *Хойніччыны* і суседніх раёнаў Палесся з’яўляецца фундаментальная манаграфія з дзвюх частак *«Рэчыцкае Палессе»*. Яна ўяўляе ўсебаковае апісанне і паказ жыццёвага ўкладу *«людзей на балоце»*. Гэтае даследаванне напісана палякам *Чаславам Пяткевічам,* ураджэнцам з в. *Бабчын* Хойніцкага раёна. *«Рэчыцкае Палессе»*, названае даследчыкам творчасці *Пяткевіча* Уладзімірам Васілевічам *«Сагай пра Палессе»*, вызначаецца сапраўднай навуковасцю, глыбокім аналізам, надзвычайнай дэталёвасцю. Дарэчы, асобныя рэгіёны Палесся ўнікальныя для навукоўцаў і аматараў-краязнаўцаў па некалькіх прычынах: напрыклад, Лельчыцкі раён аддалены ад значных камунікацый, у мінулыя гады быў недаступным з-за непраходных балот, шматлікіх вадаёмаў — рэчак, азёр, першабытных некранутых лясоў, што ў значнай меры садзейнічала захаванню многіх старажытных адметнасцей, пра што вельмі падрабязна паведамляецца ў арыгінальнай *«Хронікі Убарцкага Палесся»* (аўтар-укладальнік А. І. Антагулаў). Гэта кніга — унікальны збор археалагічных, геаграфічных, тапанімічных, лінгвістычных, этнаграфічных і іншых звестак пра адметны куток Мазырскага Палесся. У храналагічнай паслядоўнасці выкладзены найважнейшыя факты і падзеі гісторыі краю. У дахрысціянскія часы тут сутыкаліся ўладанні *драўлян* і *дрыгавічоў*.

Дрыгавічы, як вядома, сяліліся сярод лясоў і балот, адсюль і назва гэтага славянскага племя, ад слова *дрыгва* — балота. Аднак А. Рогалеў у артыкуле *«Загадка дрыгавічоў»* ставіць пад сумненне правільнасць тлумачэння гэтага этноніма ад слова *дрыгва*. На яго думку, этнонім адзначаецца ў пісьмовых крыніцах і на іншых славянскіх землях, прычым у некалькі змененым гукавым варыянце. Візантыйскія крыніцы XII ст. упамінаюць племя славян-*драгувітаў*, ці *драгавітаў* на Балканскім паўвостраве. Племя *дрыгавічоў* мелася і сярод палабскіх славян. Такім чынам, як лічыць А. Рогалеў, супастаўленне наймення надпрыпяцкіх *дрыгавічоў* са словам *дрыгва* па знешнім падабенстве адбылося ўжо ў новы час, і, як ён перакананы, яно штучнае. Магчыма, тэрыторыя гэтага аб’яднання знаходзілася дзесьці паблізу дунайскай прарадзімы славян, з якой разыходзіліся, як апавядае *«Повесть временных лет»,* розныя славянскія плямёны [4, с. 13].

Ёсць таксама меркаванне, што этнонім *дрыгавічы* паходзіць ад славянскага ўласнага імя *Дрыгавіт,* як *радзімічы* ад *Радзіма*, *вяцічы* ад уласнага імя *Вятка*. У розных старажытных тэкстах гэты этнонім засведчаны ў некалькіх варыянтах: *другувіты, драгувіты, дрогувіты* (М. Ермаловіч). Цэнтрам *дрыгавічоў* быў *Тураў* (980 г.), ад якога да сучасных *Лельчыц* усяго 60 км. На паўднёвы ўсход таксама на адлегласці не болей за 60 км знаходзіўся другі значны цэнтр славян *Оўруч* (у старажытнасці *Уручий (Вручий)*, згадваецца пад 977 г.) як адзін з цэнтраў драўлян, куды ўваходзілі таксама сучасныя гарады ўкраінскага Палесся *Жытомір* (заснаваны ў 884 г.), а таксама *Корасцень* (старажытны *Искоростень*), дзе жыў вялікі князь і старэйшыны ўсіх драўлян. Недалёка быў і *Малін* — рэзідэнцыя драўлянскага князя *Мала.* Мяжа паміж землямі рассялення гэтых плямёнаў, як лічаць даследчыкі, ніколі не была выразнай, таму можна меркаваць, што ў культуры, мове, фальклоры жыхароў сучасных Лельчыцкага, Ельскага, Жыткавіцкага

і іншых суседніх украінскіх раёнаў захавалася шмат асаблівасцей ад гэтых старажытных плямёнаў, пра што ў сваіх працах сцвярджалі Я. Карскі, М. Доўнар-Запольскі і інш.

Той, хто ніколі не быў на *Петрыкаўшчын*е, размешчанай у цэнтры Мазырскага Палесся, найперш будзе мець больш-менш прыблізнае, але, безумоўна, пазітыўна станоўчае ўяўленне, прачытаўшы яшчэ ў школьныя гады знакамітую з 30-х гадоў XX ст. аповесць Якуба Коласа *«Дрыгва»*. Многія з нас на памяць на ўсё жыццё вывучылі і могуць працытаваць класічнае апісанне палескай прыгажуні Прыпяці, дзе гідронім выступае як своеасаблівая метафара-сімвал усяго Палесся, яго чыстароднай прыроды.

На падставе сюжэта «Дрыгвы» Я. Коласам у 1937 годзе была створана драма *«У пушчах Палесся»*, а кампазітарам *А. Багатыровым* — аднайменная опера (лібрэта напісана *А. Рамановічам*). Напярэдадні Вялікай Айчыннай вайны, як успамінаў скульптар *Заір Азгур*, аўтар помнікаў *дзеду Талашу* ў Петрыкаве і Мінску, на экраны выйшаў і фільм паводле ваенных прыгод *дзеда Талаша* з назвай *«Вогненныя гады»*, дзе выканаўца ролі палескага партызана выглядаў як рэальны *Талаш*. Таму заканамерна, што прататып дзеда Талаша — *Васіль Талаш*, лічыў сябе той асобай, якая можа павесці за сабой іншых, хто павінен арганізаваць і процістаяць захопнікам. У 2010 годзе на кінастудыі *«Беларусьфільм»* створаны таксама чатырохсерыйны тэлевізійны фільм *«Талаш»,* праўда, зместам, сюжэтам значна адрозным ад твора Я. Коласа.

*Петрыкаўшчына* — край сівых легенд, багатага казачнага і песеннага фальклору, арыгінальнасць якога прызнана і засведчана ў самых аўтарытэтных навукова-тэарэтычных працах беларускіх, рускіх, польскіх даследчыкаў. Хрэстаматыйнымі сталі казкі беларусаў-палешукоў, запісаныя ў вёсках раёна вядомым фалькларыстам А. Сержпутоўскім. Так, у вёсцы *Лучыцы* жыў знакаміты на ўвесь славянскі свет *Іван Азёмша*, якога праславіў *А. Сержпутоўскі*, запісаўшы і апублікаваўшы яго фальклорныя творы. Казкі *Івана Азёмшы*, на думку *Івана Штэйнера,* па сутнасці можна параўноўваць з італьянскімі навеламі эпохі Адраджэння. Выключную ролю ў станаўленні нацыянальнай літаратуры адыгралі традыцыі нашай вуснай апавядальнасці, яркім узорам якіх з’яўляецца маўленчая творчасць *Азёмшы*.

На Петрыкаўшчыне ў *Камаровічах* жыла *Эма Яленская-Дмухоўская*, якая пісала па-польску п’есы і даследавала палескі фальклор. Запісала песні і народныя звычаі, а потым друкавала іх у Парыжы. Такім чынам, упершыню данесла да еўрапейскага адукаванага чытача паэтыку і прыгажосць беларускай народнай песні. Родам з *Капаткевічаў* і выдатны фалькларыст *Гіпаліт Клімашэўскі.* Ён вучыўся ў Віленскім універсітэце, удзельнічаў у таварыстве філаматаў, з якім быў звязаны і *Адам Міцкевіч*. Выдатным узорам з’яўляецца яго верш на польскай мове пра палескіх (петрыкаўскіх) маладых варожак — там выказана захапленне паляшучкамі, якіх ён лічыў чараўніцамі.

Прыцягвае фальклор і мова жыхароў *Петрыкаўшчыны* і сумежных з ёю палескіх раёнаў Беларусі і Украіны і цяпер. Ужо не адзін год лінгвісты *Мінска, Кіева, Масквы, Санкт-Пецярбурга, Гомеля, Мазыра* праводзяць тут фальклорна-лінгвістычныя экспедыцыі. На думку вучоных, *Мазыршчына-Петрыкаўшчына-Піншчына* — тая вобласць, дзе зарадзілася славянства або рэгіён самай першай міграцыі славян на ўсход, поўдзень і іншыя рэгіёны. Пра гэта сведчаць шматлікія факты анамастыкі, асабліва гідраніміі, звесткі з археалогіі, антрапалогіі і іншых сумежных навук. Апрача старажытнага *Турава*, на Усходнім Палессі старажытнымі гарадамі яшчэ ў дахрысціянскі перыяд былі *Снядзін, Юравічы*, якія паступова згубілі сваю былую веліч — сталі звычайнымі палескімі вёскамі. У гэтых месцах цяпер актыўна працуюць археолагі.

*Петрыкаўшчына* становіцца вызначальным рэгіёнам не толькі на Палессі: у яго межах знаходзіцца Нацыянальны парк *«Прыпяцкі»*, які займае тэрыто-

рыю плошчай 193,7 тыс. га. У яго склад уваходзіць асабліва ахоўваемая прыродная тэрыторыя плошчай 83,7 тыс. га — эксперыментальная паляўнічая гаспадарка *«Ляскавічы»* (104,0 тыс. га), сельскагаспадарчы комплекс *«Ляскавічы»* (108,0 тыс. га). У Нацыянальным парку ўмела спалучаюцца прыродаахоўная, навукова-даследчая, рэкрэацыйна-турыстычная, эколага-асветніцкая дзейнасць, лясная, паляўнічая і сельская гаспадаркі, рыбны промысел і дрэваапрацоўка. Такога ўнікальнага спалучэння самых розных сфер дзейнасці чалавека ў выключна маляўнічым кутку ўздоўж правага берага Прыпяці і міжрэччы рэк *Сцвігі* і *Убарацi*, якi амаль не кранулі цывілізацыя і самыя розныя прыродныя і тэхнічныя катаклізмы XX стагоддзя, відаць, няма ў іншых кутках Беларусі. У Нацыянальным парку *«Прыпяцкі»* зарадзілася і выспела ідэя правядзення фестывалю этнакультурных традыцый *«Покліч Палесся»*. Адна з турыстычных жамчужын нашай краіны — *Прыпяцкае Палессе*: гэта Эльдарада для паляўнічых і рыбаловаў, найбагацейшая глеба для працы эколагаў, археолагаў, этнографаў і іншых навукоўцаў і безліч уражанняў для адпачываючых. У кожную сустрэчу Прыпяць — беларуская Амазонка — нібыта зусім новая, і ў той жа час нязменна чароўная і прывабная. А палешукі — руплівыя, гасцінныя і ветлівыя гаспадары тутэйшых мясцін — робяць усё, каб захаваць гэту прыгажосць, і з такой любоўю расказваюць і паказваюць сваю зямлю, што проста немагчыма ў яе не закахацца…

Разнастайнасць прыроднага багацця *Петрыкаўшчыны* дапаўняюць яе багатыя нетры, дзе, апрача торфу, сапрапеляў, бурага вугалю, мінеральных і тэрмальных вод, выяўлена самае вялікае на Беларусі радовішча калійных соляў, на месцы якога пачынаецца будаўніцтва новага ў Беларусі горна-абагачальнага комплексу магутнасцю не менш як 1,5 млн. тон хларыду калію ў год. Яшчэ ў 70-х гадах XX стагоддзя журналіст М. Шыманскі ў артыкуле *«Нечаканае Палессе»* пісаў: «У гэтым краі адкрыта яшчэ адно буйное радовішча калійных соляў — *Петрыкаўскае.* Соль тут залягае глыбей, чым у Салігорску, але затое якасць яе лепшая. Прыпяцкая ўпадзіна па прагнозе вучоных, захоўвае 80 мільярдаў тон калійных соляў. Вось, аказваецца, што тоіць у сабе гэты лясны балоцісты край. А яшчэ ж тут знайшлі нафту, буры вугаль, граніт».

*Петрыкаўшчына* можа ганарыцца выдатнымі асобамі, якія з’яўляюцца гонарам усёй нашай радзімы. З *Мазыршчынай, Петрыкаўшчынай* цесна звязаны знакаміты шляхецкі род *Кеневічаў* (Кіневічаў), родавыя памесці якіх былі ў *Мазыры* і ў суседнім *Петрыкаўскім* раёне, у *Дарашэвічах*, на беразе маляўнічай *Прыпяці*, дзе як напамін пра велічны маёнтак *Кеневічаў* да нашых дзён захаваўся ўнікальны парк з мноствам экзатычных раслін. А ў *Мазыры* — дом, у якім цяпер знаходзіцца частка былой санаторна-лясной школы, а ў дарэвалюцыйныя часы было дваранскае вучылішча, а потым з 1859 г. знакамітая мужчынская гімназія, у якой вучыліся многія вядомыя далёка за межамі радзімы асобы, што ўнеслі значны ўклад у навуку, асвету, напрыклад *С. Палуян, Э. Пякарскі, М. Доўнар-Запольскі* і інш. Захавалася і невялікая вёсачка на мяжы Мазырскага і Петрыкаўскага раёнаў пад назвай *Гіневічаў (Кеневічаў) Груд*, якую заснаваў адзін з прадстаўнікоў гэтага шляхецкага роду. *Кеневічы* валодалі 35-тысячамі дзесяцін палескай зямлі, велізарнымі ляснымі ўгоддзямі. Іх прадстаўнікі неаднаразова выступалі супроць царскага самадзяржаўя і далучэння ўсходняга Палесся да Расійскай імперыі. Так, *Фелікс Кеневіч* быў адным з кіраўнікоў паўстання 1831 г. Сын яго, *Іеранім Кеневіч,* удзельнічаў у паўстанні 1863—1864 гг. пад кіраўніцтвам *Кастуся Каліноўскага*, быў яго верным саратнікам. *Іеранім Кеневіч* непасрэдна ажыццяўляў сувязь паўстанцаў з расійскай партыяй *«Народная воля»*. Як прасачыў лёс *Фелікса Кеневіча* М. Капач, ён з невялікім атрадам паўстанцаў захапіў паштовыя станцыі на *Валынскім* тракце, у *Міхалках, Караліне* (Ельску), *Кузьмічах*, раззброіў невялікія армейскія падраздзяленні. Паўстанцы памкнуліся завалодаць і Мазыром, але пацярпелі паразу ў ваколіцах былой вёскі *Міхалкі.* Аднак сам *Фелікс Кеневіч* сумеў

пазбегнуць кары, збег за мяжу. Пасля амністыі *Кеневічам*, як і іншым паўстанцам, былі вернуты іх землі і маёнткі.

Яшчэ з часоў грамадзянскай вайны *Петрыкаўшчына* больш за іншыя рэгіёны вядома як партызанскі край, а *дзед Талаш* як змагар за роднае *Палессе* стаў сімвалам народнага мсціўца, які геаічна і самааддана змагаўся з ворагам у грамадзянскую і Вялікую Айчынную войны. З першых дзён вайны з фашыстамі ён, 99-гадовы партызан, якога шаноўна ўсе называлі *дзед Талаш*, заклікаў да рашучых баявых дзеянняў супраць захопнікаў, выступаючы перад насельніцтвам і мясцовымі народнымі мсціўцамі, а таксама ў шматлікіх працоўных калектывах, воінскіх фарміраваннях, калі з *Петрыкаўшчыны* быў дастаўлены ў Маскву. Гэты рэгіён у гады вайны — магутны партызанскі край, дзе барацьба з ворагам насіла масавы характар, пра што сведчаць наступныя факты: на тэрыторыі раёна размяшчаўся амаль пастаянна штаб *Палескага* партызанскага злучэння, актыўна змагаліся чатыры партызанскія брыгады: 130-я *Петрыкаўская,* 120-я і 125-я *Капаткевіцкая,* 150-я імя *Фёдара Языковіча*. Эфектыўна дзейнічала і антыфашысцкае падполле ў *Петрыкаве, Капаткевічах* і многіх вёсках гэтага раёна, выдаваліся падпольныя раённыя газеты, друкавалася абласная падпольная газета *«Бальшавік Палесся»*. На тэрыторыі раёна ў жніўні і восенню 1943 г. была праведзена буйнамаштабная аперацыя «рэйкавая вайна», пад кодавай назвай *«Канцэрт».* Яе рэха пачула нават Масква. Пра гэту аперацыю напісаны шматлікія мемуары, мастацкія творы (Г. Шчарбатаў, І. Колас, К. Мазураў, І. Навуменка, В. Казлоў і інш.). Напрыклад, раман І. Навуменкі *«Вецер у соснах»* пра падрыў чыгуначнага моста на рацэ Пціч. Пра мужнасць і гераізм петрыкаўскіх і капаткевіцкіх партызан хадзілі легенды, асабліва вядомымі былі падрыўнікі *Фёдар Малышаў* і *Рыгор Такуеў*, якім у 1944 годзе прысвоена званне Героя Савецкага Саюза. Пад кіраўніцтвам *Ф. Малышава* было ўзарвана 19 чыгуначных эшалонаў ворага, ён асабіста пусціў пад адхон 18 цягнікоў, Р. Такуеў асабіста і пры яго непасрэдным удзеле падарваў звыш чатырох дзясяткаў варожых эшалонаў.

Самым першым Героем Савецкага Саюза (жнівень 1941 г.) сярод партызан Вялікай Ачыннай вайны стаў *Ціхан Бумажкоў*. Да вайны ён працаваў дырэктарам цагельнага завода № 18 у *Петрыкаве*, потым старшынёй райвыканкама, выбіраўся дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР. У 1939 годзе ён стаў партыйным кіраўніком суседняга Акцябрскага раёна, дзе ў вайну ўзначаліў барацьбу супраць захопнікаў у знакамітай *Рудабельскай рэспубліцы.* Фашысты ніколі не былі гаспадарамі з першага і да апошняга дня акупацыі. Дарэчы, гэта ўнікальны факт, які не мае аналагаў у гісторыі былога СССР.

Рака *Прыпяць* як буйнейшая водная артэрыя *Палесся*, на берагах якой узнік Мазыр, яго незвычайны ландшафт далі пачатак некаторым унутрыгарадскім і прыгарадным аб'ектам, як старажытным, так і сучасным, напрыклад, *Мярлявіца* — стараэчышча, *Пхоў*, мікрараён *Зарэчны* і інш. У час паводак (сакавік—май) *Прыпяць* у межах горада разліваецца ў шырыню да 5, а ў некаторых мясцінах аж да 10 км — да Калінкавіч. Невыпадкова, яе раней з-за рыбных багаццяў называлі «залатой». У 1550 годзе вядомы беларускі шляхціц *Міхалон Літвін* у дыдактычным трактаце *«Аб норавах татараў, ліцвінаў* і *масквіцян»* пісаў: *«У рэках тут (*на Мазыршчыне. — *В. Ш.) мноства асятроў і іншых вялікіх рыб, якія ўзнімаюцца ўверх па рэках, у прэсную ваду. Па гэтай прычыне многія рэкі называюцца залатымі, асабліва Прыпяць, якая ў адным месцы, паблізу Мазыра, пры ўпадзенні ракі Тур, калі ў пачатку сакавіка штогод набіраецца з крыніц свежая вада, напаўняецца такой колькасцю рыбы, што кінутае ў яе кап'ё затрымліваецца і стаіць старчаком, нібы ўторкнутае ў зямлю — так густа збіраецца там рыба. Я не паверыў бы гэтаму, калі б сам часта не бачыў, як адтуль чэрпалі рыбу і за адзін дзень напаўнялі ёю тысячы вазоў, што належалі купцам, якія штогод прыязджаюць на гэты час».*

*Павел Шпілеўскі* ў сваіх запісках пра Мазыршчыну ўпамінае мясцовага краязнаўца *Г. Франкоўскага*, які прачытаў яму паэму *«Прыпеіда»*, дзе ўпершыню даецца мастацкае апісанне Прыпяці. Паэму напісаў, як мяркуецца, таленавіты мясцовы аўтар *І. Неслухоўскі*. У ёй на 50-і старонках паведамляецца пра гераічныя ўчынкі *Сайкера* — татарскага воіна, які пакінуў свой лагер і перайшоў на бок мазырскага апалчэння. У творы шмат экзатычных малюнкаў ракі, мясцовых краявідаў, асабліва каля хутара *Інагора.* Апавядаецца пра бой казакоў на вяршынях мазырскіх гор і каханне *Сайкера* і адной прыгожай мазыранкі. Паэма напоўнена апісаннем нораваў мазыран, іх гасціннасці, а таксама прыводзяцца розныя паданні і павер'і. На жаль, тэкст гэтай паэмы згублены.

Калі вада ў пойме спадае, на левым беразе застаецца мноства азярын самай рознай формы і велічыні, выцягнутых пераважна ў кірунку цячэння ракі і некалькіх яе рукавоў. Найбольш значныя з іх — *Уюнішча* і *Мярлявіца* — старыя рэчышчы ў межах Мазыра. Значнымі з'яўляюцца прыгарадныя азёры *Гусінае*, *Святое*, размешчаныя на левым узбярэжжы. *Зарэчны* — адзін з мікрараёнаў Мазыра (мясцовая неафіцыйная назва *Пхоў*), выдзяляецца на пясчаных выспах. *Кімбараўка* — урочышча, а раней вёска і вуліца на правым беразе Прыпяці на ўсход ад горада, некалі самы старажытны яго рэгіён, дзе паводле меркавання даследчыкаў, знаходзілася першае пасяленне (VIII ст.) людзей, якія заснавалі горад. *Мазырскія яры* (першая назва — *Мазырскія кручы*) — другі самы значны і адметны прыродны аб'ект, які выразна дамінуе на фоне мясцовага палескага ландшафту. Цяпер гэта — натуральны запаведнік плошчай больш за 415 га ў межах *Мазыра* і прыгарадных пасяленняў, створаны з мэтай захавання ўнікальнага ландшафту і аховы рэдкіх і знікаючых відаў флоры.

Вучоныя ўстанавілі, што ў межах запаведніка расце больш за 500 відаў травяністых раслін. Частка равоў у ім і нават у межах усёй *Мазырскай грады* дасягае 30 і болей адзінак на 1 км$^2$. Узвышшы і даліны шчыльна пакрыты самым розным кустоўем і лесам (дубы, бярозы, грабы, ляшчына і інш.). Асобныя вуліцы Мазыра (*Калініна, Талстога, Нагорная* і інш.) губляюцца ў маляўнічых вішнёвых і яблыневых садах, у далінах і на схілах равоў, што прыдае гораду непаўторны каларыт. Адметнасць Мазыру, яго мікрараёнам надаюць таксама тэрасы, капіруючы схілы яроў, на якіх архітэктары, умела кампануючы сучасныя будынкі і не парушаючы агульны, «чорны» ландшафт, ствараюць непаўторнае аблічча горада.

У верасні 2011 года недалёка ад вёскі *Дразды*, што ў кіламетры ад *Мазыра*, выяўлены вялізны *камень-валун* вагою болей за 90 тон. Ён прынесены на Мазыршчыну апошнім ледніком 12—15 тысяч гадоў таму. Каб яго вылушчыць з зямлі, спатрэбіўся спецыяльны кран магутнасцю 500 тон. *Мазырскі камень* атрымаў прызнанне спецыялістаў як самы буйны і цяжкі на Беларусі. Архітэктары перамясцілі гэты ўнікальны помнік прыроды ў новы мікрараён № 4. На камені павінны з'явіцца памятныя дошкі з найбольш вызначальнымі датамі з гісторыі *Мазыра* і *Мазыршчыны.*

Навуковыя даведнікі кваліфікуюць Прыпяць як самы большы па велічыні і воднасці прыток Дняпра, даўжынёю ў 761 км (на тэрыторыі беларускага Палесся яе працягласць больш за 500 км), цячэ з захаду на ўсход па тэрыторыі Украіны і Беларусі, плошча водазабору складае 121 тыс. км$^2$ .

Прыпяць злучана праз р. *Піну — Дняпроўска-Бугскі канал — Мухавец* з р. *Заходні Буг* (Брэсцкая вобласць), праз *Ясельду — Агінскі канал* — возера *Выганашчанскае* — р. *Шчара* з *Нёманам* (не дзейнічае). У сувязі з распрацоўкай гранітаў *Мікашэвіцкага* радовішча (Брэсцкая вобласць) праведзены канал да Прыпяці. Галоўны рачны шлях па Прыпяці (*Мазыр—Петрыкаў—Тураў—Пінск* (р. Піна) — *Брэст* — на захад і *Мазыр—Нароўля—Чарнобыль* — на ўсход і на поўдзень Украіны па Дняпры) меў вялікае значэнне для асваення Беларускага Палесся.

Рака выкарыстоўваецца для перавозкі грузаў і пасажыраў і з’яўлялася да пабудовы чыгунак самым лепшым шляхам у вяснова-асенні перыяд. Рачны порт «Мазыр» — адзін з буйнейшых у Беларусі. Праўда, назва *Прыпяць* раней пашыралася не на ўсю раку. *Прыпяццю* называлася толькі ў сярэдняй яе частцы — ад Пцічы да ўпадзення ў яе *Ясельды,* а ў вярхоўях іншыя назвы — *Пірок, Стаход, Струмень*. Яшчэ ў канцы 70-х гадоў XIX ст., як сведчаць матэрыялы *«Геаграфічнага слоўніка Каралеўства Польскага»* на Мазыршчыне былі 101 рачулка і больш за 30 азёр.

Н. Багамольнікава ў басейне *Прыпяці* выявіла і зрабіла спробу апісаць на лексіка-семантычным і структурна-граматычным узроўнях звыш 5000 гідрааб’ектаў. Гэта не толькі назвы рэк, азёр, а і найменні балот (гелонімы), мікрагідронімы — назвы невялікіх водных аб’ектаў (копанак, сажалак, канаў, каналаў, крыніц, ручаёў, калодзежаў і інш.). На жаль, многія зафіксаваныя водныя аб’екты страчаны. Гэта вынікі татальнай, часам агулам праведзенай і непрадуманай меліярацыі, наступстваў Чарнобыльскай трагедыі, а таксама няўважлівыя, варварскія адносіны да аб’ектаў прыроды некаторых кіраўнікоў і, безумоўна, раўнадушша многіх з нас да праблем экалогіі. Яшчэ адна з прыкмет гэтай паўнаводнай артэрыі ўсходняй Еўропы — вялікая забалочанасць і залесенасць яе басейна. Між іншым, у Еўропе *«Прыпяцкія балоты»* выразна называюць *«лёгкімі Еўропы»*, яны акумулююць шкодныя прымесі ў атмасферы ўсяго кантыненту і выпрацоўваюць кісларод. Захаванне балот Палесся — гэта глабальная еўрапейская праблема, якая з кожным годам ускладняецца і вырашэнне якой залежыць не толькі ад нас.

Адносна паходжання назвы *Прыпяць* існуюць самыя розныя меркаванні, выказаныя знакамітымі вучонымі, пісьменнікамі, аматарамі-краязнаўцамі. Паводле некаторых сцвярджэнняў — гэта абрэвіятура, утвораная ад словазлучэння *прытокаў пяць → пры пяць → Прыпяць*, г. зн. *тройчы па пяць*. Сапраўды, рака мае 15 асноўных прытокаў (9 з левага боку і 6 з правага). В. Жучкевіч гэтую назву вытлумачвае ад тэрміна *припечь* — пясчаны бераг ракі, што не зарастае травой, кустамі, прыкладна тое, што і сучасны *пляж*. А. Рогалеў паходжанне яе звязвае з назвай *Пціч* — прыток Прыпяці. Выдзяляе ў ёй старажытныя кампаненты *пц, пьт* і прыстаўку *пры*. Такім чынам, паводле яго меркавання, *Прыпяць* — тая, што знаходзіцца побач з ракой *Пет,* пры *Пцічы*. Н. Багамольнікава, у цэлым падтрымліваючы думку А. Рогалева, выказвае і пэўнае сумненне адносна гэтай гіпотэзы, улічваючы, відаць, той факт, што *Пціч* аж да XVI ст. мела яшчэ назву *Бчичь*, а назву *Пціч* некаторыя лінгвісты суадносяць са словам *птица* ці з балтыйскім *put-ytis* — птушаня [12, с. 10—11]. Частка даследчыкаў храналагічна ўзводзіць назву да індаеўрап. *pet* — хутка рухацца. Аднак такое тлумачэнне *«супярэчыць асноўным фізічным прыкметам Прыпяці, яе дынаміцы»*. Успомнім хаця б класічныя Коласавы радкі пра палескую раку: *«Спакойна і павольна, як у зачараваным сне, утуліўшыся ў балоты, нясе Прыпяць сухадоламу Дняпру сваю багатую даніну. Не спяшаецца яна выносіць дабро палескіх балот»*. Дарэчы зазначыць, што да злучэння з Прыпяццю *Дняпро*, як піша В. Вольскі ў кнізе «Палессе», не такая ўжо і вялікая рака. Вялікая рака ён дзякуючы *Прыпяці*. Узбагачаны водамі *Прыпяці*, *Дняпро* робіцца ў два разы шырэйшы.

У XVI—XIX стст. Мазыршчына ўяўляла тэрыторыю з надзвычай прымітыўнымі дарожнымі камунікацыямі. Паміж малалікавымі паселішчамі існавалі вузкія пясчаныя або моцна забалочаныя з граззю і вадой *«дарогі»*, па якіх у суправаджэнні цэлых раёў аваднёў, сляпнёў, камароў маглі рухацца толькі ўпрэжкі валоў, коней праз мноства брадоў, грэбляў, пясчаных выспаў. У вадзе, пяску, гразі калёсы хаваліся па самыя восі. Павет перасякалі дзве дзяржаўныя дарогі: адна *Царградская*, або *Кацярынаўскі* шлях, *Кацярынаўскі* гасцінец, абсаджаны бярозамі, пачынаўся ад *Санкт-Пецярбурга* ў напрамку да *Стамбула*. На Мазыршчыне былі яго паштовыя станцыі ў *Мазыры, Міхалках, Ельску, Кузьмічах, Скародным.*

Другі — перасякаў павет з *Усходу* на *Захад* — з *Мазыра* ў бок *Брэста* паралельна рацэ Прыпяць з паштовымі станцыямі ў *Слабадзе, Петрыкаве, Брынёве, Жыткавічах, Тураве, Давыд-Гарадку.*

Развіццю мясцовага воднага і чыгуначнага транспарту садзейнічалі таксама комплексныя работы, што ажыццяўляліся *Заходняй экспедыцыяй* па асушэнні балот *Палесся* ў 1873—1898 гадах пад кіраўніцтвам генерала І. Жылінскага.

З пабудовай чыгункі *Санкт-Пецярбург—Адэса* (1915 г.) Мазыр займаў выгаднае геаграфічнае становішча. Паралельна гэтай новай магістралі адпавядаў *Валынскі (Царградскі) шлях*, пабудаваны па загадзе імператрыцы *Кацярыны І,* палепшаная паштовая ваенна-транспартная дарога з Санкт-Пецярбурга ў Кіеў і Адэсу, пракладзеная праз шматлікія забалочаныя мясціны Палесся, абсаджаная бярозамі, з мноствам мастоў, грэбляў. У народзе яе часцей называлі *Кацярынінскім шляхам*. Гэтай дарогай-гасцінцам у 1828 годзе праз Мазыр на поўдзень праязджаў з сям'ёй і шматлікай світай расійскі імператар *Мікалай І.*

У наш час своеасаблівай гарадской дамінантай Мазыра з'яўляецца аўтамабільны мост праз Прыпяць і *Прымаставая плошча*, ад якой ва ўсе мікрараёны адпраўляюцца рэйсавыя аўтобусы, маршрутныя таксі, а крыху воддаль на бетонным слупе — *буслянка* як сімвал Мазыра і ўсяго Палесся. Пра мазырскі мост паэт У. Верамейчык пісаў: *З Калінкавіч еду ў славуты Мазыр / І прыпяцкі мост не міную. / Націсні, браток, тут на ўсе тармазы — / Я пешшу праз мост пашыбую. / Бетонным Атлантам раскінуўся мост, / Плюскоча над фермамі Прыпяць. / Над Прыпяццю крочу я ў горад наўпрост / Паветра гаючага выпіць. / ... Грыміць крыгалом / ці вызвольвае плынь — / Над Прыпяццю коцяцца годы... / Жыццё! / Забяры ўсё, / а гэта пакінь — / Вось так хваляваццa заўсёды («Прыпяцкі мост»).*

У Мазыры тры масты — адзін чыгуначны праз *Прыпяць* на магістралі *Санкт-Пецярбург—Адэса* і два аўтамабільныя. Неабходнасць пабудовы першага моста была асабліва актуальнай у Айчынную вайну 1812 г., пра што пераканальна напісаў У. Лякін у кнізе «Мозырь в 1812 году» [14]. Вядома, што летам Напалеон намерваўся павярнуць частку сваёй *вялікай арміі* на поўдзень, каб захапіць *Украіну*. Роля Мазыра з'яўлялася выключна важнай, бо горад знаходзіўся ў стратэгічна важным месцы. У ім дыслацыраваўся Другі рэзервовы корпус расійскіх войск пад кіраўніцтвам генерала Ф. Эртэля, які закрываў ключавы напрамак на Украіну.

Да 1918 г. праз *Прыпяць* існавала паромная пераправа, якая знаходзілася каля сучаснага рачнога вакзала, а ў 1915 г. у сувязі з Першай сусветнай вайной былі пабудаваны чыгуначны мост, а побач з сучаснай *Прымаставой плошчай* — развадны драўляны, які рэгуляваўся спачатку ўручную (існаваў цэлы калектыў рабочых, якія забяспечвалі пераправу), а затым ужо ў савецкі час разводзіўся пры выкарыстанні двух катараў, якія перыядычна размыкалі яго, каб прапусціць рачныя судны і ў вялікай колькасці доўгія плыты, якія сплаўлялі пераважна на Украіну, што было характэрна для палескай ракі-працаўніцы амаль да трагічных падзей, звязаных з *Чарнобыльскай катастрофай*. У 1953 годзе ў сувязі з будаўніцтвам у *Мазыры* значных для ўсёй Беларусі прамысловых прадпрыемстваў — *Кабельнага завода* і *Завода меліярацыйных машын* на тэрыторыі прыгараднага *Пхова,* размешчанага на пясчаных дзюнах на левабярэжжы Прыпяці, узнікла неабходнасць паляпшэння дарожных зносін.

Так пачалося доўгае будаўніцтва першага бетоннага аўтамабільнага моста, увод у эксплуатацыю якога супаў з пачаткам работы кабельнага завода (1958 г.) і адкрыццём новай аўтадарогі (бетонкі) у напрамку прыгараднай тады вёскі *Бабры* па сучаснай вуліцы *Рыжкова*. Пра доўгае будаўніцтва мазырскага моста існаваў нават анекдот, які па радыё гучаў з вуснаў вядомых у той час артыстаў-гумарыстаў *Штэпселя* і *Тарапунькі. Штэпсел*ь пытае ў *Тарапунькі*: *«Скажы, якая самая шырокая рака ў Савецкім Саюзе?» Тарапунька: «Мабыць, Амур, можа, Лена, Енісей?» — «Не ведаеш ты геаграфіі! Самая шырокая рака Прыпяць каля Мазыра ў*

*Беларусі, а там і самы доўгі мост. Яго будуюць каля дзесяці гадоў, а канца яшчэ і не відаць».* З уводам у эксплуатацыю гэтага моста мазыране атрымалі магчымасць лёгкага доступу на процілеглы бераг Прыпяці: на пясчаных выспах *Пхова* хутка пачалі ўзводзіцца прадпрыемствы, жылыя дамы, школа, дзіцячыя сады. *Пхоўскі порт* цяпер самы буйны ў Беларусі. Унікальным, даступным для ўсіх гараджан стаў і гарадскі пляж — пясчаны левы бераг Прыпяці і шматлікія прырэчныя старыцы і азярыны для аматараў купацца, загараць, займацца спортам, лавіць рыбу, збіраць ягады і грыбы, проста адпачываць. У 60—90-х гадах XX ст. да Мазыра былі далучаны прыгарадныя пасяленні — вёскі *Бабры, Баравікі*, *Навікі,* яшчэ раней *Целепуны*.

Нельга не сказаць пра будаўніцтва *Канала Агінскага*. З узвядзеннем яго *Міхал Казімір Агінскі* ажыццявіў даўнюю мару пра канал, якой жыў другі вядомы ў гісторыі Беларусі магнат *Багуслаў Радзівіл*. Будаўніцтва канала абышлося *Агінскаму* ў тагачасную астранамічную лічбу — 12 мільёнаў злотых. Канал стаў фактарам эканамічнага пад'ёму ўсяго *Палесся*: у многіх паселішчах з'явіліся партовыя збудаванні, прамысловыя прадпрыемствы. Асабліва пашанцавала мястэчку *Целяханы*, размешчаным на вялізным востраве сярод непраходных балот.

У беларускай літаратуры рака *Прыпяць* была аб'ектам апісання самых розных даследчыкаў і пісьменнікаў. Так, У. Верамейчык адзін са сваіх зборнікаў назваў «*Прыпяць».* У ім 36 паэтычных твораў. У большасці з іх ён звяртаецца да ракі як да жывой істоты: *«Прыплыві, падхапі і нясі мяне, Прыпяць, / Калі зноў я прыйду да тваіх берагоў, / Дай з далоняў гаючай вады тваёй выпіць, / І мне хопіць здароўя на сотні гадоў»* [15, с. 5]. *«І прыходзіла Прыпяць да стомленых ног / І мяне на ўлонні гайдала… Сярод соцень дарог, сярод тысяч трывог / Беларуская мова гучала»* [16, с. 131]. Паэт адчувае, *«як па кропельцы малой / Упадае Прыпяць мне ў сэрца»* [16, с. 26]. Гэтую магутную раку ён, выкарыстоўваючы перыфразы, называе *«каралевай Палесся»*, а сябе — *«часткай Прыпяці»*. *«Я Прыпяці выток і вусце, / Яе пачатак і працяг… / Раўнуюць к Прыпяці нас жонкі, / Мы ж ёю трызнім па начах»* [15, с. 7]. У розных творах галоўную раку Палесся паэт называе *Прыпяць*, *Прыпяць-рака, Прыпяць-краса, Прыпяць уладарная, Прыпяць мая, Прыпяць вольная, Прыпяць шырокая, Прыпяць марозная, Прыпяць залатабруйная, Прыпяць мілая, …да склону любімая Прыпяць, новая Прыпяць, незгасальная Прыпяць, няўрымслівая Прыпяць, Прыпяць як Радзіма, Прыпяць — мая калыска вечная, Прыпятуха, Прыпяцень, шчабятуха, пяюха, каралева Палесся, велічная княгіня Палесся, Палесся каралева, вечна напятая струна, спрацаваная стомленая жанчына, мая рака, вірыстая рака, звышмагутны бяссонны насос, Прыпяць — маладая жанчына* і інш. Усе гэтыя варыянты онімаў і азначэнні-эпітэты, перыфразы на фоне шырокага кантэксту і мастацкіх апісанняў ствараюць разнастайнасць канатацый, у выніку чаго онім успрымаецца семантычна ўзбагачаным, з насычэннем эмацыйных ацэнак і характарыстык.

Антрапамарфічныя метафары да гідроніма *Прыпяць* тыпу *«пяюха», «шчабятуха», «Каралева Палесся», «спрацаваная стомленая жанчына»* — адны з самых старажытных разнавіднасцей персаніфікацыі. Надзяленне чалавечымі рысамі і якасцямі прадметаў жывой і нежывой прыроды мае доўгую гісторыю і сваімі вытокамі ўзыходзіць да старажытных рэлігійных уяўленняў, традыцый тагачасных людзей, іх веры ў магічную сілу слова. Гэты тып метафар шырока выкарыстоўваецца ў розных жанрах фальклору, байках, а таксама паэтычных творах [17, с. 18]. Інфармацыйная насычанасць вершаваных радкоў анамастычнымі адзінкамі знаходзіць сваё мастацкае праяўленне і ў звязнасці, якая выяўляецца на лексіка-семантычным узроўні ў частым паўтарэнні аднародных элементаў.

У вершах У. Верамейчыка, напрыклад, яна характарызуецца частым ужываннем рэальных гідронімаў і айконімаў Палесся, «адны з якіх выражаюць галоўны сэнс, а другія ўзмацняюць і мадыфікуюць іх, выступаючы ў ролі своеасаблі-

вых рэгістраў, … высокая канцэнтрацыя і паўтаральнасць падобных элементаў садзейнічае ўзрастанню іх значымасці, перамяшчае іх у фокус эстэтычнага ўспрыняцця» [18, с. 41]. Берагі *«каралевы Палесся»*, яе *«дочкі-прытокі» — Славечна, Сцвіга, Батыўля, Пціч, Убарць, Случ, Брагінка,* прырэчныя духмяныя лугі, спрадвечныя бары і гаі — гэта *«Парнас паэта»*. У вершы «Мой Парнас» У. Верамейчык, пераўвасобіўшыся ў антычнага аўтара, піша: *«Я Пегаса на прыпяцкіх травах выпасваў... / Ты, Мазыр, — мой Парнас каля Прыпяці мілай, / Тут калісьці я першае слова знайшоў»* [15, с. 13].

Індывідуальна-аўтарскай перыфразай *Мой Парнас* — (пра Мазыр), якая з'яўляецца эстэтычнай дамінантай усяго паэтычнага выказвання і дасканалым сродкам моўнай экспрэсіі, паэт перадае ўласнае адчуванне ўнутранай гармоніі і задавальнення, а таксама звяртае ўвагу на спецыфічную метафарызацыю вядомых паэтонімаў, якія комплексна ўзмацняюць выяўленчыя магчымасці выказвання. Выраз з гэтага верша *«Ты, Мазыр, — мой Парнас»* набыў глыбокі сімвалічны сэнс, стаў крылатым. У 2001 годзе выдадзены паэтычны зборнік (складальнік — мазырскі паэт В. Андрыеўскі), названы гэтай ёмкай фразай, у ім змешчаны творы самых вядомых беларускіх паэтаў (К. Крапівы, У. Дубоўкі, П. Панчанкі, В. Віткі, А. Зарэцкага, А. Лойкі, М. Чарота, Б. Спрынчана і інш.), а таксама мясцовых аматараў мастацкага слова пра старажытны *Мазыр, Мазырскае Палессе, Прыпяць*, гарады і вёскі Палесся — *Барбароў, Міхалкі, Васілевічы, Тураў, Рэчыцу, Нароўлю,* гісторыю гэтага чароўнага кутка Беларусі, яго людзей і прыроду.

У выказванні У. Верамейчыка *«Ты, Мазыр, — мой Парнас»* перадаецца выключна трапная і ёмкая мастацкая алюзія, дзе онім *Парнас* — лексема-актуалізатар, якой падкрэслена выяўляецца канатацыйны прасторава-асацыятыўны аспект айконіма *Мазыр*: на незвычайных для навакольнага Палесся мазырскіх гарах-даляглядах, як на антычным Парнасе, асабліва лёгка пісалася не толькі паэту-рамантыку У. Верамейчыку, а і ўсім творчым асобам, хто быў на Мазыршчыне, натхняўся і далучаўся да багаццяў унікальнага фальклору, гістарычнага мінулага, каго зачароўвалі непаўторныя экзатычныя краявіды Прыпяці з яе шматлікімі прытокамі, старыцамі, заліўнымі бязмежнымі лугамі, акаймаванымі лозамі і дрымучымі лясамі са шматлікімі вуллямі-борцямі на старадрэвінах, выспаміастравамі, паросłымі магутнымі дубамі, хвоямі з буслянкамі сярод лугоў, усіх, каго здзіўляла самабытная непасрэднасць і шчырасць палешукоў.

Мабыць, невыпадкова на мазырскі Парнас, на разнатраўе прыпяцкіх лугоў выводзілі выпасваць сваіх Пегасаў не толькі ўраджэнцы гэтага краю, а і ўсе, хто хоць раз дакрануўся да набыткаў багацейшай і непаўторнейшай матэрыяльнай і духоўнай спадчыны палешукоў.

## Спіс літаратуры:


1. Крывіцкі, А. Назва Палесся — свая ці чужая / А. Крывіцкі // Роднае слова. — 1997. — № 8. — С. 35—43.
2. Толстой, Н. И. Полесье и его значение для славянской ареалогии / Н. И. Толстой // Полесье н этногенез славян. — М.: Наука, 1983. — 166 с.
3. Жучкевич, В. А. Краткий топонимический словарь Белоруссии / В. А. Жучкевич. — Минск: БГУ, 1974. — 448 с.
4. Рогалеў, А. Ф. Сцежкі ў даўніну: Геаграфічныя назвы Беларускага Палесся / А. Ф. Рогалеў. — Мінск: Полымя, 1992. — 159 с.
5. Лакотка, А. Палессе — унікальны культурна-ландшафтны край Беларусі / А. Лакотка // Роднае слова. — 2006. — № 8. — С. 106—109.
6. Аліферчык, Т. М. Тапонім Поліссе на тэрыторыі Берасцейшчыны Т. М. Аліферчык // Актуальныя праблемы мовазнаўства і лінгвадыдактыкі :

зб. матэрыялаў навук. канф. да 75-годдзя з дня нараджэння праф. Г. М. Малажай. — Брэст: Альтернатива, 2013. — 186 с.

7. Улашчык, М. Выбранае / М. Улашчык; навук. рэд. Г. Кісялёў і В. Скалабан. — Мінск: «Бел. кнігазбор», 2001. — 608 с.

8. Анамастычны слоўнік твораў Якуба Коласа / склад. Г. А. Арашонкава [і інш.]; пад рэд. М. В. Бірылы. — Мінск: Навука і тэхніка, 1990. — 630 с.

9. Ліякумовіч, Ц. Пясняр Палесся / Ц. Ліякумовіч // Роднае слова. — 1995. — № 9. — С. 14—13.

10. Полесский этнолингвистический сборник: материалы и исследования / Под ред. Н. И. Толстого. — М.: «Наука», 1983. — 286 с.

11. Шур, В. В. Уласнае імя ў мастацкім тэксце : манаграфія / В. В. Шур. — Мазыр: УА МДПУ імя І. П. Шамякіна, 2010. — 206 с.

12. Багамольнікава, Н. А. Гідронімы басейна ракі Прыпяць: структурна-семантычныя тыпы матывацыі / Н. А. Багамольнікава. — Гомель: ГДУ, 2004. — С. 10—11.

13. Вольскі, В. Палессе / В. Вольскі. — Мінск: Мастацкая літаратура, 1974. — 322 с.

14. Лякин, В. Мозырь в 1812 году: историческая хроника / В. Лякин. — Минск: Бел СоЭС «Чернобыль», 2005. — 210 с.

15. Верамейчык, У. Прыпяць / У. Верамейчык. — Мінск: Маст літ., 1973. — 48 с.

16. Верамейчык, У. Клянуся Прыпяццю / У. Верамейчык. — Мінск: Маст. літ., 1988. — 191 с.

17. Старычонак, В. І птушкі, і хмары, і дрэвы, як людзі / В. Старычонак // Роднае слова. — 2007. — № 9. — С. 18—21.

18 Ревуцкий, О. И. Филологический анализ художественного текста / О. И. Ревуцкий. — Минск: РИВШ, 2006. — 319 с.




## Казімір КАМЕЙША

# ПОВЯЗЗЮ РОДНАСЦІ

*Фёдар ГУРЫНОВІЧ*
**РОДНАСЦЬ**
**Паэма**
*Мінск, «Кнігазбор», 2015*

Ці бачыў хто з вас каляндар, у якім умясцілася б усё чалавечае жыццё, з усімі яго праявамі, выпрабаваннямі, складаным і простым, радасным і сумным, усім тым, чым можа быць яно напоўнена? «Не бачылі, не існуе такога календара», — скажаце вы. Але ж ён ёсць, нядаўна з'явіўся на паліцах нашых кнігарняў. Мне пашанцавала не толькі пагартаць яго, але прачытаць і зачытацца ім. Маю на ўвазе разгорнутую паэму Фёдара Гурыновіча «Роднасць». Зусім нескладаная кампазіцыйная выбудова паэмы, дзе кожны каляндарны месяц года ўяўляе сабой асобны раздзел, ужо з першых старонак перарастае ў шырокую, з мноствам адступленняў, згадак і абагульненняў лірычную споведзь героя, рамкі захапляльных вобразных малюнкаў прыроды адразу пашыраюцца ў часе, далучаюць да імклівага дзейства ўсё новых і новых герояў. Мост памяці з адной падзеі надзвычай натуральна перакідваецца на іншую. Ідзе своеасаблівы перагук мінулага з сучасным. Узнаўляецца і далёкае, трагічнае і зусім вясёлае, цэлыя запамінальныя і каларытныя сцэнкі і абразкі з вясковага жыцця, дзе галоўны герой найчасцей сам аўтар, які запрашае нас у сваё дзяцінства. А мы адразу згадваем і сваё, асабістае, якое заўсёды чымсьці пераклікаецца з маленствам нашых папярэднікаў.

Вельмі апраўданы і сам уступ твора. Усё ў ім пачынаецца з Навагоддзя. Як правіла, Новы год — гэта не толькі час вясёлага і бестурботнага пераходу са снежня ў студзень, але і падсумаванне таго, што пройдзена, пражыта і пражыта, а таксама здзейснена за дванаццацімесяцовы адрэзак часу, а ў нашым выпадку — гэта яшчэ пераход не толькі ў чарговы год, але і ў новае тысячагоддзе.

Вясковае жыццё, якое аўтар ведае вельмі дасканала, бо змалку быў далучаны і да сялянскай нялёгкай працы, да звычаяў, свят і будняў вяскоўца, паўстае на фоне хай не вельмі першабытнай, але мала кранутай бурамі часу і ўмяшаннем чалавека прыроды. Мне здаецца, што наша сённяшняя паэзія занадта зурбанізавалася, набыла рысы і акрэсленасць гарадской суровасці,

а вось мяккага, пяшчотнага, падсвечанага і самой душой, і прыродай, ёй бракуе. І гэты істотны прабел як бы імкнецца запоўніць Ф. Гурыновіч. Ён не баіцца зачапіцца за «рыфы прыгажосці і прапісных ісцін» (М. Танк). Душа яго заўсёды настроена на лірычны лад, пад рукамі ў яго багатая палітра свежых фарбаў, а ў запасах памяці і шмат меладычнага, гукавога. І ён ведае, як усім гэтым распарадзіцца. Ну вось вам, калі хочаце, яскравы снежны малюнак:

І можа пахваліцца тым не ўсякі,
Што назіраў, як дыбіцца рака
І панцыр рве.
Як цягне норка рака.
Як шэрая варона зайчука
Цікуе ў снежным полі.
Як расянка
Пялёсткам клейкім ловіць матылька.

Ці як ліса паўзе да птушкі спрытна…
Чакай, чакай, во — палюбуйся сам,
Ды асцярожней, каб шарпак не скрыпнуў!
Ну, бачыш?
Грацыёзная, як скрыпка,
Мышкуе ў полі з досвітку ліса.

Каляндрная кампазіцыйная задума паэмы вымагала, вядома, і свайго стылю, запаволена-разважлівай, як у сялянскай гутарцы, інтанацыі, рытму, але найперш — добрага ведання самой прыроды, з яе дзікаватымі дзівацтвамі, а яшчэ і ведання самых розных прыкмет і павер'яў, якія заўсёды зыходзілі з народнай мудрасці.

Кожная пара года, як вядома, у сялянскім жыцці мае сваю прывязку. Гультайскіх, без ніякіх клопатаў дзён у селяніна не бывае. Няма іх і ў зімовым часе, на самым пачатку каляндарнага года. Кожны дзень прыдумляе чалавеку свой клопат. У сялянскай хаце ніколі ніхто не робіць нейкай скідкі і на ўзрост. Змалку, з дзіцячых гадоў, чалавека прывучаюць да працы. А праца чакае ўсюды: і ў двары, і ў хаце, і ў полі, і ў тым жа лесе. Зімой яна вымагае асаблівых высілкаў і старання. І першы дзіцячы працоўны мазоль, ён не толькі балючы і дакучлівы, а яшчэ памятны. Зімой у селяніна заўсёды з'яўляецца клопат пра нарыхтоўку дроў, а то і будаўнічага дрэва. Лепш адно дрэва ў двары, чым дзесяць у лесе.

Так кажа народная мудрасць. Можна смела сказаць: хто не ведае зімовага лесу, той зусім яго не ведае. А зімовая праца ў лесе дае падлетку асаблівае адчуванне яго першароднасці і характва. А калі ты пры гэтым маеш назіральнае вока ды ўражлівую душу, ніколі не пакарае цябе час ніякім забыццём, а і праз многа гадоў верне табе светлае першаснае адчуванне ўсіх зваб роднай прыроды.

Лес — гэта тая стыхія, дзе Фёдар Гурыновіч адчувае сябе надта па-свойску, па-дамашняму. Тыя ж сцэны лесанарыхтоўкі ў паэта свежыя і запамінальныя. Воку яго хапае не толькі замілаванння, але і мудрай сялянскай засяроджанасці. Вось ён перад намі, яго вялікасць зімовы лес. Стаіць у цішыні пад снежным цяжарам, а дужыя дзядзькі, пазвоньваючы піламі, валяць сасну за сасной. Паэт знаходзіць дакладныя, кідкія дэталі і тады, калі апісвае саму навуку авалодання пілой. Праз бацькава павучанне яшчэ выразнейшым выглядае малюнак лесапавалу:

Астыўшы трохі, павучаў ён:
— Роўна,
Трымай, свабодна, гэта ж не каза,
Што выбежыць і пабяжыць за роў, ну!
Вось так, вось так!
Спакойна.
Без разгону

Крыху вышэй…
І пырснулі апілкі.
Піла аж заспявала: ж-жы, ж-жы, ж-жу!
І палатно свабодна, без замінкі
Пайшло!
— Так, так, цяпер упрыся спінкай
У вольху, што пад бокам.
Я гляджу,
Цяпер і мы з табой дзве палавінкі!..

Малюнак кладзецца на малюнак. Зусім няма адчування нейкай даўнасці, адлегласці ў часе. Усё, як зараз, у гэтую вось хвіліну, усё свежае, як упершыню пабачанае і засведчанае. Відаць, так яно і трэба: у сапраўдным мастацтве, у паэзіі асабліва, не павінна быць міну-

лага і цяперашняга часу, а мусіць быць, як зазначаў Станіслаўскі, рух з «учора» ў «заўтра».

І яшчэ, што тычыцца малюнкаў зімовага лесу. Напэўна, трэба яго і душу ягоную ведаць так, каб суровай зімой праз сцятае марознае паветра адчуць «гаркавы, хмельны водар багуну, які не вынішчаецца й марозам».

Уражвае і сцэна тралёўкі бярвенняў, складвання іх у штабель. Спачувальна, нават дзесьці балюча чытаюцца радкі пра змучанага, стомленага каня на цяжкой лясной рабоце:

Ён спатыкаўся ўжо ў каторы раз.
Напружваўся ён з неймавернай сілай
І галавой матляў, нібы ўсіх нас
Пашкадаваць, пусціць яго прасіў ён.
Прыстаў ён.
Змогся.
Выдыхся.
Нарэшце
Заўпарціўся і стаў: цяпер хоць рэжце!

Не толькі той цягавіты конь, што знемагаючы, цягнуў цяжкі воз сялянскай долі вярнуў мяне ў далекаваты пасляваенны час, калі і будавацца патрэбна было, дбаць пра ўласную сям'ю і гаспадарку ды яшчэ калгаснаму працадню аддаваць усе свае сілы. Здаецца, нідзе ў творы нават самае нязначнае клопатнае не прайшло па-за ўвагай аўтара. Нейкім добрым рэхам перагукваючыся з «Новай зямлёй» Якуба Коласа, паэма Ф. Гурыновіча «Роднасць» дае нам магчымасць зазірнуць ва ўсе мудраванні і сакрэты сялянскага гаспадарання, зазірнуць ва ўсе куточкі хаты і двара, а праз гэта і ў саму душу селяніна. І ўсё гэта нагадвае мне своеасаблівыя агледзіны нашай сялянскай спрадвечнасці, добрую спробу паэтычнага бытапісання беларускай вёскі.

У гэтым паэтычным календары Ф. Гурыновіча мы якраз не знойдзем нейкіх чырвоных фарбаў, якімі заўсёды пазначаюцца святы. Але сапраўдных святочных момантаў і хвілін у кнізе дастаткова. З добрым слоўным смакаваннем, і змястоўна, і густоўна апісвае аўтар святкаванне Вялікадня, Сёмухі, Масленіцы, іншых свят, да якіх хоць памяццю, а хочацца далучыцца.

Свята для самога паэта тады, калі ён ужо ў даўно знаёмым робіць для сябе зусім нечаканае адкрыццё. У адной асобе творцы несупярэчліва ўжываюцца і паэт, і паляўнічы.

Сярод усяго паляўнічага начыння, якое часта сустракаецца ў паэме, згадваецца і бінокль. Думаю, для самога аўтара рэч гэта надзвычай сімвалічная. Трэба ўмець глядзець у маленькае шкельца рэчаіснасці так, каб у ім усё нязначнае, непрыкметнае, бачылася вялікім, адчувальным і прыцягальным. Гэта Ф. Гурыновічу ўдаецца. Не памятаю, каб у каго з нашых паэтаў, яго равеснікаў, было столькі россыпу самых кідкіх фарбаў, цэлых вясёлкавых перапляценняў, гукавога меладычнага пераліву, як гэта ёсць у Ф. Гурыновіча. Гэта не толькі падгледжана, а і душой, слыхам і зрокам назапашана за многія гады блуканняў сярод маляўнічых краявідаў на ўскрайках Палесся, па берагах прыкметных і непрыкметных рэк і рачулак і ў лесавых глыбінях. Тут недастаткова толькі свайго ўласнага захаплення ўсім пабачаным і сустрэтым багаццем роднай прыроды, вельмі важна яшчэ даць магчымасць спасцігнуць яго і ўсім нам, чытачам. Дакладнае жывапісанне дазваляе нам адчуць ва ўсёй красе, скажам, той жа салаўіны спеў:

І дудак мудрагелістых мастак,
То паласкаў ён горлачка вадзіцай,
То салаўём-разбойнікам свістаў
І, баючыся нотай памыліцца,
Зноў дробненька і тонка стукатаў,
Бы каблучкамі ў танцы маладзіца.

«Цві-це, цві-це ля-сок-цок-цок, віць-віць!» —
Як быццам віў ён срэбраную ніць.
«Цьёх-цёх, цьюррр, цьюррр!» —
і крышачку картавіў.
«Ціёк-ціёк!» і доўгае «фью-і-іць!» —
Ён па-майстэрску браў і верх і ніз
Любое частаты ў любой актаве.

Не кожны адпаведна свайму слыху змог бы паўтарыць тыя птушыныя мілагуччы. Далей аўтар пазнаёміць нас

і з бакасам, і з рабіннікам-драздом. А потым будуць кветкі, зёлкі. Анюткі, чабор, дражнік, сардэчнік, трыпутнік… Не, гэта не нейкі прыродазнаўчы даведнік, а хутчэй за ўсё цікавае і захапляючае вандраванне па яшчэ не страчаных жывых астраўках роднай прыроды. І яно не стамляе нас, бо амаль усе старонкі гэтага захаплення аднолькава ўражлівыя і не паўтараюць адна адну, а толькі самадапаўняюць.

Паэтычны вобраз Ф. Гурыновіча часам будуецца шляхам параўнання адной з'явы з іншай, а яшчэ з дапамогай нейкіх асацыятыўных і ўнутраных паваротаў, судакрананняў. Ёсць у паэме і шмат лірычных адступленняў, разваг і высноў, што тычацца і роднай мовы, і ўласна самой творчасці. І ёсць ужо заўважаныя намі раней так званыя перакідныя мосцікі ў дзяцінства. Размовы пра роднасць, пра яе повязі нельга весці, не вяртаючыся памяццю сваёй у дзяцінства.

Часта адна тэма высвечвае іншую, не менш важную для самога паэта. Радкі пра Радзіму, бацьку, маці, родны дом увесь час прарываюцца праз усю дынамічную тканіну твора, каб яшчэ раз нагадаць нам, які вялікі сэнс укладвае аўтар у само слова «Роднасць». Ну а вобраз маці ў паэта асветлены незвычайнай пяшчотай і любоўю. Вельмі кранальна, надзвычай уражліва апісвае аўтар развітанне маці са сваёй карміцелькай-каровай. Немагчыма ўстрымацца, каб не працытаваць гэтыя радкі:

Сягоння найцяжэйшы ў мамы дзень,
Была і ноч удушлівай, бяссоннай.
Яна сялом карміцельку вядзе.
Цярушыць снег сыпучы, быццам сода.
Усе ў матулі лепшыя з надзей
Былі з каровай звязаны заўсёды.

Матуля з жалю ўся і з нематы,
Такі ж няўцямны погляд і каровін.
Асфальт нязвыкла топчуць капыты,
Здаецца, што вось-вось яго праломяць.
А на баках дагледжаных крутых —
Застыглае цяпло сухіх саломін.

Чаго яна ўздыхае — ці мурог
Успомніла, ці раннія туманы?
Пытальнікам сагнуты вострый рог,
Другі, як гуз, — кароткі, паламаны.
Рагуля разумее ўсё, дальбог,
Але ідзе за маткай паслухмяна.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Грыміць насустрач воз, нібы тартак,
Яго суправаджае брэх сабачы.
І цыгарэтай пыхкае вазак,
І маме спачувае:
— Ах, бядача,
Ну, як жа гэта так, ну як жа так?!
Карова плача.
І матуля плача.

І яшчэ адзін боль трывожыць чуйнае сэрца паэта. Старая патрыярхальная вёска са сваімі звычаямі і адвечным укладам жыцця не толькі сталася бескароўнай, але і пступова адмірае. Вясковая моладзь усё часцей заглядае ў чарку. На вясковых могілках безліч крыжоў і помнікаў з маладымі імёнамі. Аўтар з горыччу зазначае:

Такіх у вёсцы і завуць — бічы.
Яны ні аб сям'і, ні аб рабоце
Не дбаюць; ім адно б — гарэлка ў роце.
Вунь, чуеце, з пахмелкі як мычыць?
Яму каб толькі горла прамачыць,
А горла тое, што халява ў боце.

Як бачым, лірычная мелодыка ранейшай спавядальнасці пступова перарастае ў гнеўны публіцыстычны маналог. Гэты маналог працягваецца пасля на вясковых могілках, дзе пералік трагічнага нагадвае ўжо даўно вядомую ўсім трагічную і крымінальную хроніку. «Куды ж ты, вёска, свой дзявала гонар?» — з горыччу пытаецца паэт і не знаходзіць адказу. Адказ застаецца хутчэй за намі, чытачамі.

Далей у тэксце будзе нечаканая згадка, а хутчэй гэта своеасаблівы аўтарскі прыём. Вясковыя хлапчукі вяртаюцца з грыбоў і між імі нечакана завязваецца шчырая гаворка, кожны расказвае аб сваім самым запаветным. Кожны кажа, што б ён зрабіў, калі б стаўся раптам Богам. Адзін прызнаецца, што наслаў бы даджу, там дзе яго чакаюць. Другі жадаў бы, каб ніколі не разлучаліся ў жыцці каханыя. Трэці хоча, каб людзі не старэлі, а чацвёрты — каб не памі-

ралі дзеці. Самы ж ціхмяны прамовіў такое: «Склаў бы я ў мяшок // І ў рэчцы б утапіў усю гарэлку». Кожны разважае даволі слушна, як і належыць чалавеку, зямляніну. Ды адзін у гэтай дзіцячай гаманлівай гурме маўчыць. На ім і засяроджвае нашу ўвагу аўтар:

> Маўчаў адзін хлапчук глуханямы,
> І ён чамусьці нам здаваўся Богам.

Мы ўжо добра ведаем, здагадваемся, што адказ належыць менавіта гэтаму хлапчуку. Пакуль што гэты адказ называецца маўчаннем. І аддзяляе нас ад яго яшчэ доўгая і вялікая дарога. У вобразе хлапчука, як здагадваемся мы, маўчыць сам Час.

Гартаеш новую кнігу Ф. Гурыновіча, і ўвесь час ловіш сябе на думцы, што чытаеш менавіта кнігу свайго жыцця, свайго лёсу, бо так часам думалася і табе і ўсё гэта ніколі не перастане цябе хваляваць. Я ні разу не бачыў Ф. Гурыновіча за яго рабочым сталом, не ведаю ніякіх яго творчых сакрэтаў. Можа, і не варта ўнікаць у гэтую, сваю для кожнага таямніцу з таямніц. Хай яна і застаецца толькі ягоным творчым сакрэтам. А вось на паляванні паэта мне даводзілася бачыць. Памятаецца, седзячы вясёлым гуртам пры начным вогнішчы, сярод лесу, пры сагане з густой і духмянай юшкай, якую ўмеюць варыць толькі паляўнічыя, падкідваючы ў агонь сушняк, хтосьці з нас раіў Фёдару:

— Ты б мог напісаць цікавейшую кнігу пра паляўнічыя прыгоды, і ёй бы зачытваліся.

Фёдар толькі загадкава маўчаў ды пасміхаўся. Ён і там заставаўся паэтам, уважлівым, вечна здзіўлёным і захопленым. Паэт павінен умець слухаць цішыню. Але, прызнаюся, я неаднойчы думаў і вось яшчэ пра што, толькі не адважваўся запытацца пра тое ў яго самога. А як жа ён, паэт, абаронца ўсяго жывога, пачувае сябе, цэлячыся ў тую ж птушку, якую нядаўна і апяваў у сваіх радках? Не зусім гэта, відаць, простае адчуванне. Як паяднаць у сабе паэта і паляўнічага? Як нават апраўдаць сябе ў пэўнай паляўнічай сітуацыі? Пэўна ж, думае паэт, і чалавек, і паляўнічы і пра гэту жыццёвую несуадпаведнасць. Знайшоў я пра тое радкі і ў паэме. Прызнаючыся чытачу, што сын ягоны «бацькоўскай не пранікся страсцю», ён прызнаецца і вось яшчэ ў чым:

> Бо часам і сябе не разумею:
> Два чалавекі розныя ўва мне
> Жывуць: адзін і муху не кране,
> Дыханнем пчолку адагрэе ў жмені…
> Другі з двухстволкай ходзіць
> тым не меней,
> Страляе па дзічыне й не міргне.

Не хочацца згаджацца з аўтарам, калі ён кажа, што «другі пакуль што ўсё ж перамагае». Не, з самой паэмы вынікае, што перамагае ўсё ж першы. Сам я, які ў дадзеным выпадку выступае ў ролі крытыка, ці маю права задаваць аўтару падобныя пытанні? Магчыма, і не маю, бо не сумняваюся ў яго моцных роднасных повязях з Айчынай і родным кутком.

Кажуць, што вершы пра вайну трэба пісаць толькі вайной. Згаджаючыся з гэтым, скажу, што і вершы аб прыродзе трэба пісаць толькі прыродай, і не інакш. Чаго і прытрымліваецца Ф. Гурыновіч. І ў мяне няма адчування нейкай няёмкасці і нязручнасці ад таго, што аўтар паляўнічы. А з твора вынікае, што не толькі аўтар наш чалавек са стрэльбай, ён яшчэ і рыбалоў, і грыбнік, і, вядома ж, жыццялюб. І яшчэ… Я не пытаюся ў паэта, колькі пісалася гэта кніга. У канцы паэмы стаіць дата «снежань 2014 — ліпень 2015». Толькі мне здаецца, што пісалася яна ўсё жыццё і будзе яшчэ дапісвацца, бо жыццё працягваецца.

У кнізе «Роднасць» усё асветлена добрым жаданнем міру, спагады і святла.

Вельмі чыста і вольна цякуць нашы рэкі, свежа і непаўторна спяваюць птушкі, а ў самога чалавека нідзе няма злосці і трывожлівай няўпэўненасці. Гэта, калі ён звяртаецца да свайго дзяцінства. Калі ж стрэлкі памяці пераводзяцца на дзень сённяшні, адразу з’яўляецца і сённяшняя трывога, боль за тое, што шмат чаго ў

прыродзе бяздумна знішчана, страчана, скалечана.

Цяжка прамаўляюцца гэтыя словы, але экалагічная трывога не дае спакою паэту. Ён улюбёны ў прыроду і адчувае яе скаргу, магчыма, як ніхто іншы, востра і занепакоена. Бо чалавек, які жыве на роднай зямлі, мусіць быць у адказе за ўсё тое, што падараваў яму сам Бог.

Мінаюць дні, гады, цэлыя дзесяцігоддзі. Чалавецтва ўступіла ў новае тысячагоддзе. Узнікаюць і знікаюць цікавыя падзеі, памятныя сустрэчы і развітанні, з’яўлюцца на свет і адыходзяць з яго людзі. І ўсё гэта, як здаецца, заўважае і ўлічвае незвычайны паэтычны каляндар Ф. Гурыновіча. Ліссткі календара перагорнуты, а застаецца адчуванне трывалай знітаванасці паэта з роднай зямлёй ды цэлы калейдаскоп паэтычных вобразаў і адкрыццяў.

Ёсць, вядома, у кнізе старонкі і больш, і менш удалыя. Як быццам дзесьці штосьці траціць сам каларыт твора, калі аўтар спрабуе асучасніць яго новымі нязвыклымі рэаліямі ці дэталямі. Новае заўсёды цяжка ўжываецца з мінулым, даўно звыклым. Але гэта ўжо праблемы самога часу. Напрыканцы яшчэ раз зазначу, што повязь з усім родным у Фёдара Гурыновіча моцная і трывалая, і новая яго кніга вартая самага ўдумлівага прачытання.




*Іван КАПЫЛОВІЧ.*

**ПРАВІНЦЫЯЛКА.**

**Аповесці, апавяданні.**

*Мінск, Харвест, 2015.*

Юрась ВЯРСОЦКІ

# ГОЛАС ДУШЫ І СЭРЦА

Іван Капыловіч — пісьменнік знаны. Ён аўтар некалькіх кніг аповесцей і апавяданняў, сярод якіх «Сонца садзіцца ў травы», «Два дні ў лютым», «Сны не вяртаюцца» іншыя. Паспяхова выступае і ў жанры рамана, пра што засведчылі такія яго творы, як «Пасынак», «Крумкач», «Калі трэба жыць». Зборнік жа апавяданняў І. Капыловіча «Над Прыпяццю-ракой» у перакладзе на рускую мову пабачыў свет у Маскве. Асобныя яго творы перакладаліся і на ўкраінскую мову. Да ўсяго, апошнім часам выступае як паэт. Аднак паранейшаму не развітваецца і з прозай. Сведчанне таму — рэгулярныя публікацыі ў перыёдыцы. Нядаўна ж новая кніга І. Капыловіча «Правінцыялка», дзякуючы выдавецтву «Харвест», пабачыла свет у «Бібліятэцы Саюза пісьменнікаў Беларусі».

Гэтая серыя хутка набыла сваю папулярнасць. Безумоўна, дзякуючы таму, што ў ёй, як правіла, выдаюцца лепшыя творы нацыянальнай прозы і паэзіі. Годна ў «Бібліятэцы…» заяўлены і І. Капыловіч, які прадстаўляе чытачу тры свае аповесці і чатыры апавяданні. Яны пабудаваны на сучасным матэрыяле, хоць у якасці рэтраспекцый у асобных з іх прысутнічаюць і падзеі Вялікай Айчыннай вайны. Яны адгукаюцца ў лёсах як саміх персанажаў, так і блізкіх ім людзей. Адметна і тое, што І. Капыловіч, як і ў ранейшых сваіх творах, выпісвае цікавыя характары вяскоўцаў. Гэта і не дзіўна, бо сам пісьменнік родам з вёскі, а калі канкрэтней, то нарадзіўся ён у Забалацці Мазырскага раёна. Вёска і не адпускае яго ад сябе. Больш за тое, часам і падказвае, пра што пісаць і як пісаць. Асабліва, калі матэрыял унутрана вынашаны, шмат у чым перажыты.

Гэта найлепш відаць па аповесці, якой кніга адкрываецца і якая дала ёй назву. Аўтар не хавае прывязанасці да пэўных рэалій, пазначаючы ў пачатку твора: «Прысвячаю маці сваёй». Блізкі яму чалавек праходзіць у аповесці «Правінцыялка» як настаўніца пачатковых классаў Надзея Кравец. Яна ў самым канцы вайны страціла мужа, які памёр у палявым медсанбаце ад цяжкага ранення. Засталася з сынам, які так і не паспеў пабачыць бацьку. Балазе знайшоўся чалавек, які пакахаў яе, стаў

у сям'і дый у жыцці ўвогуле надзейнай апорай, падтрымкай.

Гэта калі ўспрымаць змест аповесці схематычна. Ды, як вядома, кожнаму мастацкаму твору, напісанаму па-сапраўднаму, з глыбокім псіхалагізмам пранікнення ў характары персанажаў, цесна ў падобнай схеме. Аповесць «Правінцыялка» акурат і належыць да такіх твораў, у якіх усё дакладна выверана, бо напісана яна пяром таленавітага пісьменніка, набыты творчы вопыт якога не дазваляе яму працаваць на паўсілы, даючы сабе палёгку. Гэта асабліва добра відаць на прыкладзе галоўнай гераіні.

Надзея Кравец, калі адштурхоўвацца ад месца яе пражывання, канешне ж, правінцыялка. Толькі не будзем забываць, што кожны чалавек вызначаецца зусім не тым, дзе ён жыве — у вёсцы ці горадзе. У дадзеным выпадку для характарыстыкі яго ёсць куды больш вызначальны момант. Важна, наколькі пэўны індывідуум духоўна багаты як асоба. Бліжэй пазнаёміўшыся з Надзеяй Кравец, пераконваешся, што яна ніякая і не правінцыялка, бо жыве так паўнакроўна, сумленна, як далёка і не кожнаму гараджаніну ўдаецца жыць. Нягледзячы на тое, што жыццё ніколі не песціла яе, а нечакана прынесла яшчэ адно выпрабаванне: ад самай цяжкай хваробы памерла дачка, не расчароўваецца ў людзях, робіць усё дзеля выхавання ўнукаў.

Гэтаксама можна лічыць мастакоўскай удачай І. Капыловіча і вобраз галоўнага героя аповесці «Рубеж». Журналіст Антон Мурашка — з шэрагу тых, пра каго звычайна кажуць: так хораша жыве, нібы пеню спявае. Хоць, зразумела, каб вытрымаць гэтую песню на адной ноце, нямала неабходна прыкласці высілкаў. Ды нішто не можа выбіць Мурашку з жыццёвай каляіны. Як бы цяжка яму ні даводзілася, ён не здраджвае сваім прынцыпам. Не церпіць несправядлівасці, годна выконвае свае прафесійныя і грамадзянскія абавязкі. Не хібіць ні перад сваім сумленнем, ні перад людзьмі. У тым, што яму ўсё ўдаецца, усё ў яго ладзіцца, сказваецца і трываласць сям'і. Антон, які закахаўся ў сваю жонку яшчэ ў студэнцкія гады, праз гады пранёс свае пачуцці чыстымі, не запляміў іх.

Каму-небудзь, магчыма, і падасца, што Антон Мурашка — ледзь не ідэальны персанаж, з шэрагу тых станоўчых літаратурных герояў, якія раней вандравалі з твора ў твор. Падобнае меркаванне памылковае. Проста ў Антона правілам стала жыць не так, як набяжыць, а так, як трэба жыць. А як неабходна жыць, падказаў яму айцец Ігар: «Трэба слухаць сваю душу і сэрца. Праз іх ідзе шлях наш да ісціны».

Між іншым, так жыве і Зубрыцкі, а ён галоўны персанаж аповесці «Чорная паласа». Ды, як відаць ужо з назвы твора, ніхто не застрахаваны ад таго, што ў тваім жыцці можа настаць такі перыяд, калі ад таго, што было для цябе звыклым, трывалым, і следу не застанецца. А менавіта так і здарылася з Зубрыцкім. Вядомы пісьменнік, аўтар некалькіх кніг, ён раптоўна аказаўся каля разбітага карыта. Ды не таму, што стаў пісаць горш, чым раней: у краіне пачалася так званая перабудова. Выдавецтвы раптоўна ператварыліся ў банкрутаў. Цяжка прайсці праз гэтую чорную паласу, каб не зламацца, не здрадзіць сваім прынцыпам, ідэалам. Гэта ўдаецца толькі моцным духам, а такім і з'яўляецца Зубрыцкі.

Апавяданні, што ўвайшлі ў кнігу «Правінцыялка», таксама з твораў, што не пакідаюць чытача абыякавым. Якое з іх ні возьмеш — «Святы абавязак», «Інакш нельга», «Удачлівы бізнесмен», «Сусед па ложку» — наадварот, яны выклікаюць на роздум. Роздум гэты часам няпросты, пакутлівы, але без яго нельга, бо тое, пра што расказвае пісьменнік, закранае чуллівыя струны чытацкай душы. І. Капыловіч не згладжвае ў творах вострыя вуглы паўсядзённасці. Тым больш, часам заўважаеш, што і як у аповесцях, сёетое бярэ і з уласнага жыцця. Гэта сведчыць на карысць таго, што яго проза — па-сапраўднаму жыццёвая. У ёй чуцен голас душы і сэрца нашага сучасніка, які заклапочаны тым, што і як ёсць.

# ГАЮЧАЕ АСЯРОДДЗЕ КАЗКІ

*Інтэрв'ю ля кніжнай паліцы*



**ЧИТАЕМ ДЕТЯМ**
**ХРЕСТОМАТИЯ.**
**Пособие для педагогов учреждений дошкольного образования.**
В трёх томах.
*Составители*
*А. И. Саченко, Л. А. Смаль.*
*Минск. «Экоперспектива». 2015.*

*Без чаго нельга ўявіць сучаснае выхаванне? Без камп'ютара, інтэрактыўнай дошкі, мультымедыйнай устаноўкі? Спецыялісты сцвярджаюць, што першааснова выхавання — сям'я, натуральны кантакт з бацькамі, дзядулямі-бабулямі, дзецьмі-аднагодкамі, інтэрактыўныя, не віртуальныя, а жывыя гульні і добрыя кнігі. Так дзіця лягчэй пераймае неабходны жыццёвы вопыт, развівае дадзеныя прыродай розум і творчыя здольнасці, выпрацоўвае характар, сацыялагізуецца. Пры тым, што кніг для дзяцей сёння выдаецца даволі шмат, на жаль, не ўсе яны, нават багата ілюстраваныя, дабратворна ўплываюць на псіхіку падрастаючага пакалення. І таму выданне новай хрэстаматыі, дзе сабраныя лепшыя творы, стала сапраўднай падзеяй і для выхавацеляў дзіцячых садкоў, і для настаўнікаў, і для бацькоў, і для саміх беларускіх пісьменнікаў, якія маюць магчымасць убачыць свае творы ў кантэксце сусветнай літаратуры. Кожны том прызначаны для пэўнага ўзросту, ёсць і фальклор, і творы беларускіх, рускіх, замежных аўтараў. Усе яны правераныя часам, уключаны ў праграму, якую складалі лепшыя педагогі. Дваццаць гадоў адзін са складальнікаў, вядомы беларускі літаратар, арганізатар і з дня стварэння галоўны рэдактар часопіса «Пралеска», які сёння ведаюць усе, хто працуе з дашкольнікамі і малодшымі школьнікамі,* ***Алесь Сачанка*** *рыхтаваў гэты трохтомнік, выдадзены ў чатырох кнігах — па сутнасці, мінібібліятэку, якая на аснове лепшых беларускіх народных і сусветных традыцый дапаможа выхаваць разумных, вясёлых, таленавітых дзетак. Варта дадаць, што сам ён вырас у вялікай сялянскай сям'і, якая падарыла Беларусі сумленных, працавітых людзей, журналістаў, філолагаў, пісьменнікаў,*

*выкладчыкаў. А цяпер і ягоныя дзеці, унукі рэалізуюць сябе ў творчасці... Выданне доўгачаканай хрэстаматыі стала нагодаю пагаварыць і пра кнігі, і пра сакрэты выхавання...*

**— Ці згодныя вы з тым, што Чалавек пачынаецца з казкі?**

— Чалавек, на мой погляд, пачынаецца з кахання. І калі яно сапраўднае, — дык гэта цуд-казка! У такім шчаслівым атачэнні з'яўляюцца дзеці, якія самі па сабе ўжо казка чалавечага лёсу да ўсяго радаводу. А казка, фальклорная або літаратурная, насамрэч выдатная мачымасць выхаваць Чалавека Чалавекам. Невыпадкова ж казкі перадаваліся з пакалення ў пакаленне стагоддзямі, адточваліся, шліфаваліся. Узбагачаліся, станавіліся дасканалымі настолькі, што там нічога не дадасі і нічога не выкінеш. Яны, як трапна сказаў Пушкін, «ёсць паэма». Дык чаму ж не скарыстацца гэткай магчымасцю, каб пасяліць малога ў гаючае асяроддзе казкі, дзе суседнічаюць Дабро і Зло, і Дабро, высакародныя памкненні і ўчынкі заўсёды перамагаюць. Ці не з гэтага пачынаецца Чалавек?! І як важна, каб дзіцянё далучалася менавіта да таямніц, духоўных і жыццёвых, магутнага ўнутранага патэнцыялу казкі. А не інтэрнэтнага сурагату. Мне здаецца, што сучасныя тэрарысты, крывапіўцы выраслі па-за казкай, яе ім не давялося ні пачуць, ні пачытаць. Іхнія душы вынішчаныя яшчэ ў дзяцінстве...

**— Вы нарадзіліся і гадаваліся ў вёсцы Вялікі Бор, у вялікай слыннай сям'і Сачанкаў. З якіх пацешак, казак пачалося вашае дзяцінства?**

— Так, маё дзяцінства, безтэлевізійнае, пасляваеннае, праходзіла ў глыбіні Палесся, у вялікай вёсцы, сярод стогадовых дубоў, бароў і гаёў. Было там усяго багата, а гора найбольш. Вёска была цалкам спалена фашыстамі ў сорак трэцім, а адраджацца пачала толькі ў канцы сорак пятага, пасля вяртання яе жыхароў з Нямеччыны. Іх руплівымі рукамі, цярплівасцю і самаахвярнасцю яна ўваскрэсла, стала зноўку вялікай, адпавядаючай сваёй назве. Здавалася, дарослым палешукам было не да казак і паданняў. Аднак, не! Да прынесеных здавён, далучаліся новыя, прывезеныя з Германіі, ды ўспаміны пра вайну. І слухалі мы, малыя, іх познім вечарам, лежачы на печы, калі збіраліся ў нашай хаце суседзі, каб пагаманіць за нейкім, між іншым, заняткам — вышываннем, прадзеннем, ткацтвам, вязаннем... Былі і адмысловыя казкі, аповеды, замовы, песні, пацешкі, загадкі. Толькі расказваліся яны на нейкай асаблівай ноце, калі дакладней — інтанацыі, іх нібы напявалі, баілі. Яны нязмушана і пужалі нас, і лашчылі, і сагравалі, і ўкладвалі спаць, і гаілі хваробы. Так, лекавалі! Успамінаю, як спадабаўся мне, падлетку, маленькі жарэбчык суседскай гнядой кабылы. Аднойчы, калі я наблізіўся да коніка, які ссаў малако, кабыла штосілы ўдарыла мяне заднімі капытамі пад самы дых. Каб я не паспеў падкласці руку, з мяне б і дух прэч выйшаў. Як я адляцеў убок, як прынеслі мяне дадому — не памятаю. А вось тутэйшую знахарку Сахвею, нахіленую нада мной, і яе замову-песню памятаю і зараз:

> ...Ідзі боль у густы лясочак,
> Ідзі на сухі шасточак,
> Нясіце боль куркі ў цёмныя вулкі,
> Нясіце боль птушкі за Алесевы вушкі,
> Нясіце боль зверы за сасновыя дзверы,
> Як Алесь ачуняе, ён вас прывітае...

Неўзабаве і ачуняў, каб пачуць новыя казкі з паляшуцкага куфэрка фальклору. Асабліва шмат іх ведала маці, у якой была выключная памяць і мілагучны голас. Яна ведала мноства сапраўды народных песень, якія хораша спявала за кроснамі, жнучы сярпом...

**— Ці ўвайшлі якія-небудзь пацешкі, казкі вашага дзяцінства ў гэтую ўнікальную хрэстаматыю?**

— У тым варыянце, які бытаваў у нас, зразумела, не. І таму ёсць тлумачэнні. Па-першае, гутарковы аповед заўсёды адрозніваецца ад літаратурнага запісу і рэдактарскай апрацоўкі. Па-другое, мова паляшуцкая мае свае арфаграфічныя і лінгвістычныя асаблівасці, прычым, у кожнай мясцовасці. Таму структурныя ды сюжэтныя адпаведнасці ў хрэстаматыі твораў фальклору — казак, показак, калыханак,

загадак — мы знойдзем шмат, а вось іх падача рабілася паводле афіцыйных крыніц, пералік якіх прыведзены цалкам у канцы выдання. Гэтая праца доўгая, складаная і напружаная. Вымагае шмат высілкаў і цярпення.

**— Складаючы хрэстаматыю, вы кіраваліся найперш уласным вопытам (узгадвалі ж творчых сына з дачкою, гадуеце ўнукаў), ці выкарыстоўвалі і праграмы, якія сёння распрацаваныя ў Беларусі?**

— Безумоўна, найпершую дзеючую афіцыйную праграму. Інакш хрэстаматыя не атрымала б статусу дапаможніка. Аднак, раздзел «Мастацкая літаратура» ў праграме я ў свой час і распрацоўваў. Пры гэтым кіраваўся не толькі сваім уласным досведам, але і тым, што мне раілі супрацоўнікі дашкольных устаноў падчас шматлікіх сустрэч і абмеркаванняў папярэдніх шасці выданняў хрэстаматыі. Акрамя таго, мой суаўтар Людміла Аляксандраўна Смаль на працягу васьмі гадоў працавала выхавальнікам, пасля педагогам-псіхолагам у дзіцячых садках, ды і цяпер мае да іх непасрэдныя адносіны. Зразумела, спатрэбіўся і мой бацькоўскі досвед. Таму хрэстаматыя атрымалася такой грунтоўнай і цікавай, ёй няма аналагаў. Хрэстаматыя змяшчае абсалютна ўсе творы, рэкамендаваныя дзеючай праграмай. Але ёсць жа шмат твораў, вартых выкарыстання, так бы мовіць, для «пазакласнага» чытання. А таксама для выкарыстання ў рознай дзейнасці з дзецьмі — гульнях, тэатралізацыі, фізкультурных момантах, святах і гэтак далей. Таму колькасць літаратуры значна пашырана — удвая, недзе ўтрая, што пазначана зорачкай. Ну і, безумоўна, сюды ўвайшлі творы, якія спадабаліся маім дзецям і ўнукам, што называецца, выпрабавана на сабе.

**— Вы доўгі час працавалі ў «Настаўніцкай газеце», потым па сутнасці арганізавалі, узначальвалі ўнікальны, вельмі папулярны часопіс «Пралеска», шмат ездзілі па Беларусі, сустракаліся з тымі, хто выхоўвае дзяцей, як вы думаеце, якія творы здольныя дапамагчы ў выхаванні?**

— Выхоўвае асобу маленькага чалавека ўсё — рэчы, з'явы, творы мастацтва, кнігі. А найперш, бацькі, іх учынкі, словы, дзеянні. Выхаванне можа быць і вербальным, але яно заўсёды канкрэтнае, абавязкова даступнае, зразумелае малому. Вось такой дасціпнасцю і напоўнены казкі, апавяданні, прыказкі, пацешкі, загадкі, што ўтрымліваюць скарбы народнай мудрасці, дабрыні і ненавязлівага багацця маралі. У гэтым сэнсе, здараецца, кароценькае, у некалькі радкоў апавяданне або вершык з просценькім сюжэтам становіцца сапраўдным бурштынам у руках дбайнага дарослага.

Узгадаем Льва Талстога, які раіў не нахіляцца над дзіцем, а станавіца з ім упоравень, гэта значыць, на ўзровень яго фізічнага і псіхалагічнага развіцця. Ён, нагадаю, напісаў эпічныя раманы «Вайна і мір», «Ганна Карэніна» і зусім кароценькія рэчы — «Пажарныя сабакі», «Маша і мядзведзь», «Хацела галка піць», «Надышла вясна» і шматлікія іншыя для вучняў Яснапалянскай школы. Гэта талент — талент сапраўднага пісьменніка, яго творчае шчасце і асалода: напісаць штосьці вартае ўвагі… дзяцей. Так, так — менавіта іх. Як самых адмысловых слухачоў і чытачоў! Гэты пісьменнік застаецца любімым на ўсё жыццё. І кожны з нас, дарослых, узгадвае такога творцу з удзячнасцю і пачцівасцю да ягоных персанажаў.

**— Сёння дзеткі вельмі рана пачынаюць пераходзіць на «ты» не толькі з тэлевізарам, камп'ютарам, з так званымі гаджэтамі, лягчэй успрымаюць не вербальную, а візуальную інфармацыю, а ў зносінах з жывымі людзьмі, і з аднагодкамі, і з бацькамі… з'яўляюцца праблемы. Як я заўважыла, у хрэстаматыі шмат твораў, у аснове якіх гульневы пачатак. Ці можа гэта дапамагчы дзеткам адарвацца ад экранаў і манітораў, сацыялізавацца?**

— У гэтым пытанні — завостраная і самая актуальная праблема нашага часу! Так, камп'ютары, гаджэты самі па сабе ўжо цікавая забаўлянка ў руках дзіцяці. І цягам часу яны

ўсё больш і больш замяняюць нават саміх бацькоў у выхаванні. Знешняя прывабнасць, інфармацыйная насычанасць, гульневыя моманты ў карыстанні… Сапраўдны цуд! І …ўсё большая аддаленасць ад рэчаіснасці, ад тых рэчаў і з’яў, сяброў-аднагодкаў… А тады кажам, што мова дзіцяці бедная, маўленне не развіта, фантазія пасуе перад прагматызмам і жорсткасцю, што запоўнілі экраны і маніторы. Але ж жыць, вучыцца, працаваць давядзецца кожнаму сярод людзей. А таму разгубленасць перад рэаліямі часу, непрадказальнасць учынкаў, здзейсненых паводле падказкі або ўчынкаў камп’ютарных герояў, наступ цынізму… Якая процівага гэтаму? Гульня! Яна — жыццё і дзейнасць дзіцяці, цэлая акадэмія выхавання. Успомнім, здаецца, элементарныя гульні-імправізацыі «Ладкіладкі» або «Кую-кую ножку». Але ж там адразу ў комплексе развіваецца дзіцячая ўвага, мова, маторыка, памяць і г. д. Малое такія дзеянні здзяйсняе разам з дарослымі, а пасля гуляе самастойна. З якім замілаваннем я назіраю, як робіць усё гэта мой паўтарагадавалы ўнук! У больш складаных, калектыўных гульнях набіраецца, акрамя ўсяго згаданага, яшчэ і сацыяльны вопыт. Што тады казаць пра гульні-тэатралізацыі! Адсутнасць гульняў у сучасных дзяцей, па сведчанні навукоўцаў, прыкмета абкрадзенага, «несаспелага» дзяцінства, якое, на жаль, дае горкія вынікі. Яны ўжо відаць у зносінах, учынках, разважаннях моладзі. Мы пастараліся нейкім чынам кампенсаваць гэта праз творы, што варта і неабходна выкарыстаць дарослым, каб разнастаіць занятак малога, узбагаціць ягоны свет, абудзіць здольнасці і схільнасці. Зрэшты, на гэта мы спадзяваліся і да гэтага заклікаем сваіх чытачоў.

**— У хрэстаматыі сабраныя лепшыя і беларускія, і рускія, і замежныя творы для дзяцей, на якіх выхавалася не адно пакаленне, як вам здаецца, сённяшнія дзеці ўспрымаюць іх іначай, чым іх дзяды і бацькі?**

— Дзеці ёсць дзеці, у гэтым яны нібыта аднолькавыя. Толькі змяняюцца абставіны, умовы, ды і дарослыя, якія поруч. Аднак сутнасць, сэнс казкі, выпеставанай праз пакаленні, не змяніліся. У гэтым яна вечная, бо вучыць дабрыні, спагадзе, вучыць дапамагаць тым, хто мае ў гэтым патрэбу. Колькі такіх зараз! А ўспрымаюць дзеці — гэта даказана навукова — усё-ўсё напраўду, як ёсць насамрэч. І ў такім кантэксце яны рэалісты, што надзвычай важна, каб дарослыя не аднекваліся — «падрасце, само зразумее», а займаліся сваімі нашчадкамі. Літаратура якраз дае такую магчымасць — і беларуская, і руская, і замежная. Яе неабходна чытаць дзецям, апавядаць пра пачутае, адказваць на пытанні, разам з дзіцем спасцігаць куды большыя мачымасці для яго развіцця. А яшчэ пераказваць пачутае, маляваць, ляпіць, спяваць… Дадам: мае дзеці выхоўваліся на тых гушках-пацягушках, калыханках, што і я. Цяпер чую, як яны забаўляюць імі ўжо сваіх дзяцей — маіх унукаў. Успрыняцце якое? Гэткае ж, што і некалі. Лічу, так павінна і быць у кожнай сям’і.

**— Якія раздзелы хрэстаматыі найбольш перапрацаваныя або абноўлены ў параўнанні з ранейшымі падобнымі выданнямі і чаму?**

— «Беларуская літаратура». І вось чаму. У папярэдніх праграмах гэтыя раздзелы для дзяцей розных узростаў былі найбольш слабенькія або адсутнічалі наогул. Уражанне такім чынам закладвалася адпаведнае — такой літаратуры ў нас мала. Але ж гэта не так! Беларуская дзіцячая літаратура — ёмісты пласт у літаратуры сусветнай. Цяжкасць доказу гэтага была ў тым, колькі твораў, якіх і каго прапанаваць. Давялося шмат што перачытаць, адшукаць, адабраць у творчасці сучасных аўтараў. Ці ж даравальна, што не было ў раней выдадзеных хрэстаматыях твораў Івана Мележа, Івана Шамякіна, Уладзіміра Караткевіча, Аляксея Дударава, Васіля Зуёнка, Уладзіміра Паўлава, Міколы Мятліцкага, многіх іншых вядомых пісьменнікаў. Аднак, справа нават не ў асобах, а ў якасці твораў. Таму што сітуацыя выпраўлена — спісы рэкамендаванай і дадатковай беларускай літаратуры папоўніліся не толькі коль-

касна, але і якасна. Яны выглядаюць поўна і годна. Спадзяюся, што гэта заўважаць чытачы. Што яшчэ адметна, многія творы рускіх, украінскіх, польскіх аўтараў, пісьменнікаў з іншых краін пададзены ў перакладзе на беларускую мову. Прычым, пераклады былі зроблены К. Кірэенкам, А. Вялюгіным, Р. Барадуліным. У. Маруком, В. Віткам, іншымі літаратарамі. Яны гучаць хараша, густоўна! Нам хочацца, каб дзеці палюбілі родную мову, праз казкі, вершы, апавяданні, адчулі іх дасціпнасць і захапляльнасць.

**— Хрэстаматыя атрымалася вялікая — ажно тры тамы, чатыры кнігі, больш як 1200 старонак…**

— Рэч не ў аб'ёме, а ў змесце. Твораў для дзяцей напісана нямала, выдадзена таксама. Але ж у сённяшніх бацькоў іх нестае, бо на кніжных паліцах пераважна найбольш вядомыя. Выхавальніку дашкольнай установы гэтага мала. А набыць нешта дарагавата. У бібліятэках і метадычных кабінетах — таксама не густа. У нашай хрэстаматыі больш за дзве з паловай тысячы твораў — сабрана. Лічыце, цэлая бібліятэка лепшых твораў для дзяцей, як кажуць, па даступным кошце. Спатрэбілася шмат часу, але не шкадую яго. Бо пра вось такую хрэстаматыю даўно марыў. Яна, як бібліятэка, збіралася спакваля, з усяго лепшага, вартага, што хочацца падараваць дзіцяці, і што яно мусіць ведаць у сваім узросце. Нас зразумеў кіраўнік выдавецтва «Экаперспектыва» Аляксандр Васільевіч Галуза і з ягонае ласкі атрымалася неблагое выданне, набліжанае да лепшых узораў такога кшталту. Асаблівая ўдзячнасць рэдактару кнігі У. Гарэлік.

**— Цяпер, ведаю, вы склалі зборнік казак усіх народаў, якія жывуць на Беларусі. У чым унікальнасць новага выдання?**

— Беларусь — шматканфесійная, шматнацыянальная краіна. Усе народы і нацыянальнасці жывуць тут у міры і згодзе — у гэтым нашая ўнікальнасць. А карані ўсяго — у гісторыі, у летапісе, у традыцыях, у тых жа казках і паданнях насельнікаў тэрыторыі Беларусі. Дык чаму ж пра гэта не расказаць, чаму б не паказаць вытокі міралюбства, талерантнасці, дабрыні, багацце душаў і талентаў, закладзеных прашчурамі!

***Гутарыла Галіна БАГДАНАВА.***

# Якуб Колас: пастаянная прапіска ў Інтэрнэце

**http://sozvuchie.zviazda.by/news/2016-01-24-2** — такім адрасам пазначана адна з новых публікацый у Інтэрнэт-прасторы на тэму «Якуб Колас». Гэта — дыялог пісьменніка, вядомага публіцыста Зіновія Прыгодзіча з малодшым сынам народнага песняра — доктарам тэхнічных навук Міхасём Міцкевічам, які адзначыў сваё 90-годдзе. Міхась Канстанцінавіч — дбайны прапагандыст жыцця і творчасці Якуба Коласа. Робіць неймаверна шмат для таго, каб распавесці пра перыпетыі жыцця бацькі, пра тую атмасферу, тыя акалічнасці, у якіх ствараліся, нараджаліся геніяльныя творы легендарнага класіка беларускай літаратуры.

А Інтэрнэт-пляцоўка «Созвучие: литература и публицистика стран СНГ» на сайце Выдавецкага дома «Звязда» размясціла гэтую гутарку на адмысловай старонцы «Якуб Колас».

Класік тут не ў адзіноце. Структура, дрэва Інтэрнэт-рэсурсу выбудаваны такім чынам, што поруч з матэрыяламі, якія выкладзены ў старонках «Литературный Азербайджан», «Литературная Армения», «Литературная Беларусь», «Литературный Казахстан» (і тымі, што прысвечаны астатнім краінам СНД), ёсць яшчэ раздзелы, прысвечаныя асобным постацям нацыянальных літаратур. Арменію прадстаўляюць паэты Авецік Ісаакян, Аванес Туманян, Егіш Чарэнц. Казахстан — Мухтар Ауэзаў, Абай. Расію, у прыватнасці, Калмыкію, — Міхаіл Хонінаў (між іншым, легендарны беларускі партызан, вядомы пад імем Міша Чорны), Беларусь, акрамя Якуба Коласа, — Францыск Скарына… Задача «Созвучия…», мадэратарамі якога выступаюць не толькі «звяздоўцы», але і літаратуразнаўцы, даследчыкі, самі пісьменнікі розных краін СНД, — расказаць пра тое, які багаты мастацкі свет на былой постсавецкай прасторы, падкрэсліць важнасць сяброўскіх стасункаў паміж творчымі асобамі ў гэтым сапраўдным бязмежжы, дапамагчы перакладчыкам, гісторыкам літаратуры адсочваць сучасны літаратурны працэс у СНД, спрыяць умацаванню і пашырэнню ранейшых літаратурных сувязей.

Што ж уяўляе сабой старонка «Якуб Колас»? За некалькі месяцаў знаходжання яе ў Інтэрнэт-фармаце «Созвучия…» былі змешчаны дзясяткі матэрыялаў, якія ў асноўным раней змяшчаліся ў літаратурна-мастацкіх перыядычных выданнях Беларусі. Такім чынам, функцыянальна старонка ўяўляе сабой і Інтэрнэт-архіў коласазнаўчай тэматыкі. Партнёрамі Інтэрнэт-старонкі выступілі рэдакцыі газет «Звязда» і «Літаратура і мастацтва», часопісы «Полымя», «Нёман», «Маладосць», «Вожык», «Бярозка». Зараз кожны карыстальнік Інтэрнэта мае магчымасць пазнаёміцца з успамінамі пра Якуба Коласа, напісанымі Данілам Міцкевічам, Міхасём Міцкевічам, Іванам Шамякіным і іншымі. І не заўсёды гэтыя тэксты вызначаліся тыражнасцю, не заўсёды былі пасля публікацый у перыядычных выданнях надрукаваны ў зборніках ці асобных кнігах.

Шмат змешчана і артыкулаў, нарысаў літаратуразнаўчага, гісторыка-літаратурнага характару. Аўтарамі гэтых Інтэрнэт-публікацый з'яўляюцца дасведчаныя коласазнаўцы Васіль Жураўлёў, Міхась Мушынскі, Міхась Тычына, Уладзімір Гніламёдаў,

Мікола Мікуліч, Мікола Трус, Мікола Мішчанчук і іншыя вучоныя, музейшчыкі, архівісты, пісьменнікі.

Асобнае месца займаюць мастацкія творы — у асноўным вершы паэтаў розных пакаленняў, прысвечаныя Якубу Коласу. Поруч з добра вядомымі творамі Петруся Броўкі, Пятра Глебкі, Рыгора Барадуліна, паэтаў іншых краін змешчаны і вершы маладых паэтаў Беларусі.

Безумоўна, значная ўвага нададзена і інфармацыйнаму складніку. Усе падзеі, якія звязаны з Літаратурным мемарыяльным музеем Якуба Коласа, усе ініцыятывы музейшчыкаў-коласазнаўцаў знаходзяць адлюстраванне на Інтэрнэт-старонцы «Якуб Колас». Як прыклад — публікацыя пра стасункі Коласаўскага музея з музеямі Санкт-Пецярбурга: hhtp://sozvuchie.zviazda.by/news/2015-11-09-3

Расказваючы пра ўнікальны міжнародны праект «Созвучие: литература и публицистика стран СНГ», вылучаючы ў ім Інтэрнэт-пляцоўку «Якуб Колас», мы спадзяёмся і на пашырэнне грамадскай ініцыятывы ў гэтай справе. Асабліва — з боку школьнага настаўніцтва, краязнаўцаў з розных рэгіёнаў краіны. Відавочна, што такі грунтоўны электронны рэсурс найперш патрэбны дзеля захавання інфармацыі, якая не заўсёды знаходзіць сабе месца ў друку. Як важная тэма для Інтэрнэт-пляцоўкі «Якуб Колас» — работа мясцовых музеяў па збіранні звестак пра жыццё народнага песняра ў розных мясцінах Беларусі, стасункі паэта з жыхарамі Стаўбцоўшчыны ці Пухавіччыны, Палескага краю, дзе ён настаўнічаў. Магчыма, варта размясціць і электроннае выкладанне экскурсій па мясцінах, звязаных з жыццём і творчасцю Якуба Коласа.

А яшчэ — добра было б болей рэльефна, прадстаўніча выкласці шматаблічную інфармацыю, звесткі пра тое, як у ранейшыя часы, як сёння праяўляецца ўвага да творчасці Якуба Коласа ў постсавецкай прасторы, ці з'яўляюцца новыя пераклады яго вершаў, ці прысвячаюцца яму артыкулы, нарысы замежных літаратуразнаўцаў. Гэтыя ўсе задачы і памкненні і складаюць дзейнасць Інтэрнэт-партала «Созвучие: литература и публицистика стран СНГ» у цэлым і Інтэрнэт-старонкі «Якуб Колас», у прыватнасці.

***Сяргей ШЫЧКО,***
***Васіліна МІЦКЕВІЧ.***

# ЛЕПШЫЯ ЎЗОРЫ СЕРБСКАЙ САТЫРЫЧНАЙ АФАРЫСТЫКІ

## Ёван Ёванавіч ЗМАЙ (1833—1903)

❍ У свеце ідэй хапае і мёртванароджаных, і жывымі закапаных.

❍ Лепшае пахаванне — калі ідэалы хаваюць чалавека, а не калі чалавек хавае свае ідэалы.

❍ З вялікай любові не можа нарадзіцца малая нянавісць.

❍ Мудры дыпламат, уцякаючы, бяжыць так, што ўсім здаецца, нібы ён кагосьці даганяе. А праследуючы, робіць так, быццам бы сам ад некага ўцякае.

❍ Больш упэўнена ідзе сляпы сам, а не тады, калі яго другі сляпы вядзе.

❍ «Двухаблічны тып» — эўфемізм. Бо каму недастаткова аднаго аблічча, тады мала і двух, набываецца гэтулькі, што ён і сам іх не злічыць.

❍ Грузчыкі і астатнія людзі фізічнай працы рэдка льюць слёзы — усё ў іх пóтам выліваецца.

❍ У вялікіх людзей недахопаў гэтулькі, колькі трэба, каб яны не сталі анёламі.

❍ Многія справы не давершаны таму, што і не распачаты.

❍ Быць ці не быць — гэта ў рэшце рэшт усё роўна; толькі — у рэшце рэшт.

## Станіслаў ВІНАВЕР (1891—1955)

❍ Колькі ліха ўчынілі мы людзям безабаронным! Напрыклад, сабе будучым.

❍ Чалавек — такое слабое стварэнне, што мусіць усё перажыць. Таму я не веру ў смерць.

❍ Маса толькі тады мае права, калі прызнае, што не мае правоў.

❍ Няма межаў абмежаванасці.

❍ Наша мастацтва — не мастацтва. Гэта наша мастацтва.

❍ Паэзія стала зборам прыгод слоў. Словы здзяйсняюць подзвігі, на якія іх аўтары не маюць магчымасцей.

❍ Твор выклікаў рэвалюцыю ў ладзе мыслення. А пасля рэвалюцыі, якую ён сам выклікаў, зусім інакш прачытваецца.

❍ Ёсць нешта такое, чаго не ведае ніхто, апроч мяне. І гэта такая таямніца, што нават я сам, глыбока схаваўшы, яе не згадваю.

❍ Правілы — гэта выключэнні выключэнняў.

❍ Дасціпнасць: малую ісціну выдаюць за вялікую.

## Петар ЛАЗІЧ (1960 г.н.)

❍ Магутны — як леў, мудры — як сава, непахісны — як дуб. А ці ёсць у Вас хоць што-небудзь чалавечае?

❍ Мы змагаліся за лепшае жыццё сваіх дзяцей, а цяпер і чужыя дзеці хочуць жыць лепей.

❍ Мне падабаецца Ваш «Мысліцель», пане Радэн. Толькі галаву яму трэба было б зняць, бо ўздзейнічае надта змрочна.

❍ Трэба, каб і далей нас вялі тыя, што блукалі. Яны ж найлепш ведаюць мясцовасць.

❍ І непрыяцелі пачалі нам дапамагаць, калі зразумелі, штó мы будуем.

❍ У адрозненне ад Сізіфа мы не спадзяёмся на выпадковасці. І ўгару, і ўніз цягаем усё самі.

❍ Шмат зрабілі мы для паняволеных народаў свету. Як паглядзяць на нас, адразу лягчэй ім робіцца.

❍ А сёмага дня Бог схапіўся за галаву.

❍ Мяркуючы па Каіну і Авелю, людзі ўсё ж такі браты.

❍ Важна, што мы забяспечылі няздольных. Здольныя самастойна выкараскаюцца.

❍ Наш шлях сапраўды непаўторны. Нікому не ўзбрыло б у галаву ісці ім.

❍ Адысей хоць сам блукаў. Ітаку не вадзіў за сабою.

❍ Шукаем новага чалавека! Жывога ці мёртвага!

❍ Тым, хто слаба разбіраецца ў кнігах, прыдуманы кніжачкі-пасведчанні.

❍ Дагэтуль філосафы па-рознаму вытлумачвалі свет, а цяпер стаіць задача, каб іхнія тлумачэнні прывесці да аднолькавасці.

❍ Моладзь — наша будучыня, бо ў сучаснасці ёй няма чаго рабіць.

❍ Падмуркі хісткія, але астатняе збудаванне ажно трашчыць ад моцы.

❍ Чым меней чытаю, тым болей у мяне застаецца часу крытыкаваць прачытанае.

❍ Тэорыя дала «Капітал». Практыка — «Міф пра Сізіфа».

***Укладанне і пераклад з сербскай Івана ЧАРОТЫ.***

АДРАС РЭДАКЦЫІ
Юрыдычны адрас:
220013, Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10а.
info@zvyazda.minsk.by

Паштовы адрас: 220034, Мінск, Захарава, 19.
Тэл.: галоўнага рэдактара — 284-84-61,
намесніка галоўнага рэдактара — 284-80-12,
аддзелаў прозы, навукі,
крытыкі і літаратуразнаўства — 284-66-74,
аддзела паэзіі — 284-80-12.
polymya@bk.ru

*Падпісныя індэксы:*

*00471 — індывідуальны льготны
для настаўнікаў*

*74985 — індывідуальны*

*749852 — ведамасны*

*00727 — ведамасны льготны
для ўстаноў Міністэрства культуры
і Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь*

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі
№ 9 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь

Выдавец
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»
Дырэктар – галоўны рэдактар Аляксандр Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ

Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка
*С. І. СТАРАВЕРАВА*

Стыльрэдактар
*М. М. ГІЛЕВІЧ*

Падпісана да друку 16.02.2016 г. Фармат 70×108 $^{1}/_{16}$. Папера газетная.
Друк афсетны. Умоўн. друк. арк. 16,8. Ул.-выд. арк. 16,97. Тыраж 1865 экз. Заказ
Кошт нумара ў розніцу 24 500 руб.

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «БудМедыяПраект».
ЛП № 02330/71 ад 23.01.2014,
вул. В. Харужай, 13/61, 220123, Мінск